УДК 94(476)(082)

Укладальнік – *Аляксандр Фядута*

Пад навуковай рэдакцыяй
доктара філалагічных навук прафесара *Т. Я. Аўтуховіч*
і доктара гістарычных навук прафесара *З. В. Шыбекі*

Да падрыхтоўкі выдання мелі непасрэднае дачыненне
МГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў» і *І. А. Карпюк*

«Асоба і час» — альманах пра людзей, чые жыццё было звязанае з Беларуссю. У першы выпуск альманаха ўвайшлі матэрыялы, прысвечаныя як добра вядомым асобам (Васіль Быкаў, Пётр Машэраў, Зоська Верас, Фёдар Фёдараў), так і тым, хто пакуль не стаў часткай свядомасці нашага народа, але заслугоўвае.

# АД РЭДАКЦЫІ

Ідэя стварэння беларускага біяграфічнага альманаха ўзнікла ў 1999 г. як адзін з магчымых праектаў тагачаснага грамадскага навукова-аналітычнага цэнтра «Беларуская перспектыва». Грамадская значнасць такога праекта здавалася відавочнай: у адрозненне ад найбліжэйшых суседзяў наша краіна не мела ўсталяванай традыцыі біяграфістыкі як самастойнай галіны гуманітарных ведаў. Яшчэ ў XIX стагоддзі з ініцыятывы статс-сакратара А. А. Полаўцава быў выдадзены (хоць і з лакунамі) Рускі біяграфічны слоўнік (РБС). Працягваецца выданне распачатага ў міжваеннае дваццацігоддзе XX стагоддзя Польскага біяграфічнага слоўніка (PSB). Ужо ў наш час ва Украіне створаны спецыяльны Біяграфічны цэнтр, у чые абавязкі ўваходзіць збор, абагульненне і публікацыя матэрыялаў, звязаных з этнічнымі ўкраінцамі і людзьмі, чые лёсы непасрэдна злучаныя з Украінай.

Біяграфістыка як галіна ведаў мае на ўвазе прызнанне каштоўнасці кожнага чалавечага жыцця, кожнай асобы. У ідэале яна не павінна кіравацца эмацыйнымі і палітычнымі ацэнкамі, бо ёсць апірышчам іншай, яшчэ больш важнай навукі — гісторыі. З гэтай прычыны развіццё біяграфістыкі немагчымае там, дзе адсутнічае дэмакратыя.

Невыпадкова РБС стаў заканамерным працягам непаслядоўных і супярэчлівых, аднак дастаткова радыкальных рэформаў Аляксандра II, а PSB з'явіўся толькі пасля таго, як Польшча стала незалежнай дзяржавай.

У Беларусі фактарам, які на працягу доўгіх гадоў стрымліваў развіццё біяграфістыкі, сталася яе знаходжанне ў складзе сталінскага Савецкага Саюза. Ва ўмовах, калі ніхто — ні дзеячы навукі і культуры, ні высокапастаўленыя кіраўнікі, ні супрацоўнікі карных органаў — не былі застрахаваныя ад бясследнага фізічнага знікнення, заканамерным рабілася і іх наступнае знікненне з памяці нашчадкаў. Існавалі імёны, якія дзесяцігоддзямі забаранялася нават згадваць, не кажучы ўжо пра публікацыю прысвечаных ім ці іх уласных тэкстаў.

Наступным этапам, які сур'ёзна перашкодзіў станаўленню біяграфістыкі ў Беларусі, як гэта ні парадаксальна, стала хрушчоўская «адліга». Канцэпцыя, згодна з якою наступнае пакаленне савецкіх людзей павінна было жыць пры камунізме, мела на ўвазе сціранне нацыянальнай памяці і стварэнне нейкай новай супольнасці — савецкага народа.

Барацьба з культам асобы не азначала адмены культу безаблічнасці, наадварот — быццам мела яго на ўвазе. Адзінае, у чым заахвочвалася адрозненне, — гэта праца на карысць савецкага грамадства, праца, якая выроўнівала ўсіх, але, на думку ідэолагаў, і ўзвышала. Воля масаў падмяняла сабою ў гістарычнай навуцы магчымасць індывідуума самастойна абіраць уласны шлях і тым самым уплываць на ход Гісторыі. Так, калісьці рускі гісторык М. Карамзін лічыў, што гісторыя народа

належыць цару, а ідэолагі камунізму лічылі, што гісторыя народа належыць безаблічнай масе, якую яны чамусьці атаясамлівалі з народам.

Сапраўдным прарывам стаў першы буйны біяграфічны праект, прысвечаны людзям, чыё жыццё было звязанае з Беларуссю. Гэта пяты (дадатковы) том кароткай энцыклапедыі «Беларуская ССР», які выйшаў на рускай і беларускай мовах (1981 г.). У ім былі ўпершыню апублікаваныя кароткія даведкі пра выдатных беларусаў — выдатных у тым разуменні, якое было ўласцівае той эпосе. Туды ўвайшлі біяграфіі многіх партыйных дзеячаў, кіраўнікоў савецкіх прадпрыемстваў, а таксама і навукоўцаў, дзеячаў культуры, вайскоўцаў вышэйшых рангаў, якія жылі ў Беларусі на працягу многіх стагоддзяў. Зразумела, выданне было ідэалагізаванае. Аднак дасюль яно застаецца ці не найбольш надзейным даведнікам для любога даследчыка, які вымушаны расшукваць персанальныя звесткі пра тых ці іншых герояў. Ідэалагізаваны адбор гэтага тома пазней быў своеасабліва кампенсаваны Архівам найноўшай гісторыі, які выдаў біяграфічныя даведнікі, прысвечаныя нонканфармізму ў Беларусі і дэмакратычнай апазіцыі.

Этапнай падзеяй на шляху развіцця біяграфістыкі ў Беларусі, без сумнення, належыць лічыць падрыхтаваную і выдадзеную Генадзем Кісялёвым у 1977 г. (першае выданне) кнігу «Пачынальнікі». Упершыню за многія гады шырокая чытацкая аўдыторыя мела магчымасць пазнаёміцца з масавай публікацыяй дакументальных сведчанняў пра жыццё беларусаў мінулага стагоддзя. Неабходна адзначыць таксама падрыхтаваныя навуковымі бібліятэкамі (найперш — Рэспубліканскай бібліятэкай БССР імя У. І. Леніна) біябібліяграфічныя паказнікі, выдадзеныя даследчымі інстытутамі АН БССР зборнікі ўспамінаў пра выдатных дзеячаў беларускай навукі і культуры. Вялікае значэнне мела з’яўленне дзвюх «персанальных» энцыклапедый, прысвечаных Янку Купалу і Францішку Скарыну.

Вяршыняй савецкага этапу развіцця беларускай біяграфістыкі стаў унікальны шасцітомавы біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі», у які ўвайшлі таксама артыкулы, прысвечаныя пісьменнікам эміграцыі (да таго часу ў Беларусі эмігранцкіх дзеячаў альбо замоўчвалі, альбо ацэньвалі іх з пазіцый ідэалагічнай барацьбы).

Менавіта набыццё Беларуссю суверэнітэту стала штуршком для збору, вывучэння і публікацыі матэрыялаў, звязаных як з беларускімі дзеячамі, так і з іншымі гістарычнымі асобамі, якія ўплывалі на гісторыю нашай краіны. З’явілася папулярная серыя «Нашы славутыя землякі»; выйшлі два тамы біяграфічных нарысаў «Славутыя імёны Бацькаўшчыны», падрыхтаваныя Беларускім фондам культуры; пачаў рэгулярна выдавацца «Археаграфічны штогоднік». З 1999 г. выходзіць падрыхтаваны супрацоўнікамі «Беларускай перспектывы» даведнік «Хто ёсць хто ў Беларусі», які вытрымаў пяць выданняў (у тым ліку на польскай і рускай мовах). Прычым варта зазначыць, што аналагічныя даведнікі выдаваліся і іншымі творчымі калектывамі. Пляцоўкай для навуковай публікацыі дакументаў, звязаных з жыццём і творчасцю беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў культуры і гісторыі, стаў зборнік «Шляхам гадоў», што выходзіў на працягу некалькіх гадоў.

Велізарнае значэнне па-ранейшаму мае дзейнасць выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», якое выпусціла за гады суверэнітэту 18-то-

мавую «Беларускую Энцыклапедыю», 6-томавую «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі», 2-томавыя энцыклапедыі — «Беларускі фальклор», «Беларуская тэатральная энцыклапедыя», «Вялікае Княства Літоўскае» і шэраг іншых фундаментальных даведачных выданняў, у якіх значнае месца адведзенае персаналіям.

Вялікую ўвагу біяграфістыцы пачала аддаваць Нацыянальная акадэмія навук Беларусі і іншыя навуковыя цэнтры. Толькі за апошні час выйшлі даведнікі, прысвечаныя беларускім навукоўцам — лаўрэатам Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій, беларускім гісторыкам. Пачалі выдавацца даведнікі, прысвечаныя супрацоўнікам арганізацый і навуковых устаноў (біяграфічныя даведнікі прафесарска-выкладчыцкага складу БДУ, ГрДУ імя Янкі Купалы і інш.). Пабачыў свет падрыхтаваны прафесарам Аляксеем Пяткевічам даведнік «Людзі культуры Гродзеншчыны».

Агромністым крокам наперад стала публікацыя каментаваных персанальных эпісталярыяў — у першую чаргу Святога Язафата Кунцэвіча і Ларысы Геніюш. Выдадзены Поўны збор твораў Янкі Купалы (уключна з 9-м томам у 2-х кнігах — томам дакументаў), выйшлі два тамы Поўнага збору твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Сістэматычна публікуюцца біяграфічныя матэрыялы ў кнігах серыі «Беларускі кнігазбор», сярод якіх асабліва вылучаюцца тамы, прысвечаныя Кастусю Каліноўскаму, Яну Баршчэўскаму, Мікалаю Улашчыку, Уладзіміру Жылку, Вацлаву Ластоўскаму. Выдадзеныя два тамы «Архіваў БНР». Актыўна публікуюцца мемуары дзеячаў найноўшай гісторыі Беларусі, у тым ліку часоў яе суверэнітэту. Шмат каштоўных матэрыялаў друкуе ў сваіх выданнях Беларускі інстытут навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША).

Біяграфічны альманах «Асоба і час», выхад якога з аб’ектыўных прычынаў стаў магчымым толькі цяпер, плануецца яго стваральнікамі як незалежнае навуковае выданне, у якім без адхіленняў у ідэалагічныя бакі, незалежна ад спавяданых навуковых канцэпцый спецыялісты маглі б публікаваць вынікі сваіх росшукаў у галіне беларускай біяграфістыкі. Улічваючы, што матэрыялы, звязаныя з беларускімі дзеячамі і выхадцамі з Беларусі захоўваюцца сёння ў архівах і бібліятэках многіх краін, мы спадзяемся на нашых замежных калегаў, у якіх з’явіцца магчымасць публікавацца ў нашым альманаху.

Мы разлічваем, што альманах «Асоба і час» будзе выходзіць у выдавецтве «Лімарыус» не радзей як адзін раз у год. У альманаху маюць публікавацца дзённікі, лісты, успаміны гістарычных дзеячаў, а таксама біяграфічныя нарысы, партрэты і іншыя матэрыялы да біяграфій людзей, чые лёсы звязаныя з Беларуссю. Альманах будзе друкаваць матэрыялы на беларускай і рускай мовах — у залежнасці ад таго, як яны прададзеныя аўтарам. Гістарычныя тэксты публікавацьмуцца ў сучаснай арфаграфіі; тэксты, што захаваліся альбо створаныя на замежных мовах, — у перакладзе.

Неабходна асабліва адзначыць, каго мы лічым гістарычнай асобай. Ёю становіцца любы чалавек, чыё жыццё дакументаванае і дзякуючы гэтаму паддаецца рэканструкцыі. Выдаўцы і аўтары альманаха не даюць сабе права абвяшчаць прысуды сваім героям. Належнае ім аддасць Гісторыя і — чытачы. Таму хай нікога не здзіўляе, калі на старонках альманаха з’явяцца матэрыялы, прысвечаныя не толькі Кастусю Каліноўскаму, але і Міхаілу Мураўёву, не толькі Адаму Міцкевічу, але

і Мікалаю Навасільцаву, не толькі паэтам, але і тым, хто дапытваў іх — і дзякуючы таму застаўся ў Гісторыі.

Гэтаксама выдаўцы не бяруцца вызначаць маштаб асобаў, якія стануць героямі альманаха. Часам тыя, каго прынята лічыць маленькімі людзьмі, простым народам, бываюць больш цікавыя за прызнаных герояў. Правадыры прыходзяць і сыходзяць, а народ працягвае існаваць. Мы лічым сваёй задачай удзел у стварэнні агульнай гісторыі Беларусі як гісторыі беларускага народа, гісторыі людзей, злучаных з Беларуссю, якія заслужылі ўдзячнай памяці.

Мы таксама будзем друкаваць матэрыялы, неабходныя ў працы даследчыка. Гэта бібліяграфіі, рэцэнзіі на выданні і артыкулы, агляды і вопісы архіўных фондаў, матэрыялы па гісторыі беларускай біяграфістыкі. Пачынаючы з другога выпуска публікаваныя тэксты будуць папярэдне рэцэнзавацца ў адпаведнасці з міжнароднай практыкай.

Рэдакцыя хацела б супрацоўнічаць з усімі, хто зацікаўлены ў нашым праекце. Урэшце, гісторыя любога народа бясконцая, і працы для яе даследавання хопіць на ўсіх. Адзіныя крытэры, якімі рэдакцыя мае намер кіравацца пры адборы матэрыялаў, — навуковасць, аб’ектыўнасць і праўдзівасць. Чытачам жа мы пажадаем захапляльнага чытання і новых ведаў.

Вашы пытанні, прапановы і водгукі мы чакаем на электронны адрас выдавецтва **limarius@yandex.ru**.

# ЗАХАВАННЕ АСАБІСТЫХ АРХІВАЎ БЕЛАРУСКІХ НАВУКОЎЦАЎ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫХ ДЗЕЯЧАЎ

*Немцы да такой ступені апекуюцца спадчынай сваіх песняроў, што нават дакладна запісалі колькасць бялізны, што засталася пасля вялікага Шылера ці знакамітага Гётэ; ці ж не павінны і мы на раздарожжах лёсу вельмі паважна ставіцца да духоўнай спадчыны і памятак нашых вялікіх вешчуноў.*

Аляксандр Ельскі[1]

*Трэба пра кожнага, хто зрабіў хаця б дробязь, ведаць, захаваць аб ім памяць… напісаць нашу гісторыю не толькі як пабудову заводаў і фабрык… але гісторыю ў асобах.*

Мікалай Улашчык[2]

Асоба заўсёды пакідае пасля сябе след у выглядзе дакументаў асабістых архіваў. Па тым следзе ацэньваецца яе жыццё, дзейнасць, значэнне ўнёску ў развіццё навукі ці культуры, рэканструюецца мінулае. Асабісты архіў уключае ў сябе комплекс разнародных крыніц, якія адлюстроўваюць асноўныя кірункі дзейнасці і інтарэсаў асобы, ахопліваюць храналагічны перыяд значна шырэйшы за жыццё архіваўтваральніка і маюць самастойную навуковую каштоўнасць для правядзення гістарычных даследаванняў. Стварэнне асабістага архіва — працэс натуральна-гістарычны, які рэгулюецца толькі логікай жыцця асобы. На ступень яго захаванасці істотна ўздзейнічае архіваўтваральнік, які зыходзіць з суб’ектыўнага ўяўлення пра каштоўнасць дакументаў і неабходнасць іх захавання, а значыць, уплывае на меркаванне, якое будзе існаваць пра яго асобу ў грамадстве. Лёсавызначальным для захавання можа стаць стаўленне нашчадкаў да архіўнай спадчыны творцы, гістарычныя падзеі (войны, рэвалюцыі і г. д.), падчас якіх знішчаюцца крыніцы гістарычнай памяці, у выніку чаго адбываецца своеасаблівы натуральны адбор, не заўсёды забяспечваючы аб’ектыўнасць сведчанняў і паўнату складу.

Асабісты архіў як комплекс крыніц мае неаднародны характар. Да ўласна пісьмовых крыніц у складзе асабістага архіва належаць друкаваныя, выяўленчыя, рэчавыя, аўдыя і відэа (на магнітнай плёнцы), электронныя, прасторавыя, якія ўтвараюць своеасаблівую інфармацыйную сістэму, з’яўляюцца асяродкам, вынікам і крыніцай звестак пра дзейнасць асобы. Пісьмовыя ў залежнасці ад ступені адлюстравання таго ці іншага боку жыццядзейнасці падзяляюцца на некалькі груп, кожная з якіх мае асобную функцыю і ўяўляе з сябе пласт інфармацыі ў генетычна цэласным комплексе асабістага архіва. Крыніцы да біяграфіі фіксуюць сацыяльны статус асобы, крыніцы пра дзейнасць

[1] Jelski, A. Wiadomości o niektorych pamiątkach po Adamie Mickiewiczu / A. Jelski // Księga pamiąkowa na uczenie setnej rocznicy urodzin Adama Mickiewicza 1798–1898. T. 1–2. Warszawa — Peterburg — Kraków, 1899. T. 2. S. 59.

[2] З ліста М. Улашчыка да А. Ліса // Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (АРКР ЦНБ НАНБ). Ф. 44. Воп. 1. Спр. 657. Арк. 37.

вызначаюць яе месца ў культуры і гісторыі краіны, крыніцы асабістага паходжання (мемуарныя, эпісталярныя) найбольш яскрава адлюстроўваюць асобу, яе пазіцыянаванне сябе ў рэчаіснасці, узаемадзеянне з асяроддзем, крыніцы маёмасна-гаспадарчага характару — эканамічны аспект жыццядзейнасці, калекцыі — кола інтарэсаў. Выяўленчыя (фотаздымкі, малюнкі), рэчавыя (прадметы, якімі карыстаўся дзеяч), друкаваныя (кнігі, газеты, брашуры з нататкамі і дарчымі надпісамі) крыніцы, што арганічна ўваходзяць у комплекс асабістага архіва, садзейнічаюць рэканструкцыі асяроддзя асобы і эпохі. Асабісты архіў сучаснага творцы — гэта, як правіла, архіў электронны, які ўтрымлівае творчыя, мемуарныя, эпісталярныя, выяўленчыя дакументы, калекцыі, мультымедыйныя, структураваныя рэсурсы (базы дадзеных), а таксама асабістыя інтэрнэт-сайты. На традыцыйных папяровых носьбітах захоўваюцца толькі біяграфічныя і маёмасна-гаспадарчыя крыніцы.

Асабістыя архівы прадстаўнікоў беларускай эліты — як асобная з'ява, вынік і адлюстраванне іх дзейнасці — з'явіліся ў канцы XVIII ст., у час панавання ідэй Асветніцтва, станаўлення беларускай навукі, калі адбылося ўсведамленне каштоўнасці дзейнасці асобнага чалавека. У XIX — пачатку XX ст. на беларускіх землях адсутнічалі сховішчы, якія апекаваліся б захаваннем асабістых архіваў, што прыводзіла да іх канцэнтрацыі ў руках польскіх і расійскіх калекцыянераў і навуковых устаноў. Асноўнымі формамі захавання былі прыватныя (фамільныя, сядзібныя) архівы[3], калекцыі і зборы. Найбольш каштоўныя асабістыя архівы гэтага перыяду — гэта архівы навукоўцаў-гісторыкаў, у склад якіх уваходзілі вялікія зборы гістарычных дакументаў. У 1920–1940-я гг. пачалося стварэнне адзінай цэнтралізаванай сістэмы захоўвання архіваў асабістага паходжання ў межах дзяржаўных архіваў, музеяў і бібліятэк. Яны збіраліся прыватнымі ўстановамі і асобамі, аднак складаныя гістарычныя ўмовы прыводзілі да драблення, вывазу, поўнага ці частковага знішчэння. Захаванне асабістых архіваў адбывалася ў Беларускім музеі імя Луцкевіча ў Вільні, у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР, пры Інбелкульце, у Беларускім замежным архіве, у фондах дзяржаўных устаноў і прыватных калекцыях.

Другая палова XX ст. стала найбольш значным этапам у справе захавання асабістых архіваў нацыянальнай эліты, найвышэйшай кропкай усведамлення грамадствам каштоўнасці дакументальнай спадчыны выдатных дзеячаў навукі і культуры. У сярэдзіне 1950-х гг. было пастаўленае пытанне пра неабходнасць цэнтралізаванага захоўвання архіваў літаратуры і мастацтва, упершыню была дадзеная ацэнка стану захавання архіваў асабістага паходжання ў Беларусі. Галоўнай падзеяй лічыцца стварэнне ў 1960 г. Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва БССР, які дзякуючы намаганням архівістаў стаў своеасаблівым культурніцкім цэнтрам, што аб'яднаў высілкі архівістаў, дзеячаў навукі, літаратуры, мастацтва і іншых галінаў дзейнасці ў справе збірання і захавання асабістых архіваў. Да гэтай працы далучыліся аддзелы рукапісаў навуковай бібліятэкі, пазней рэспубліканскія, абласныя і занальныя архівы, працягвалі камплектаванне дакументамі асабістага паходжання дзяржаўныя

[3] Прыватны (прыватнаўласніцкі) архіў — архіў, які ўтварыўся ў выніку дзейнасці прыватнай установы, асобы або групы асобаў і знаходзіцца ў прыватнай уласнасці; фамільны архіў — архіў, які ўтварыўся ў выніку палітычнай, грамадскай, гаспадарчай, культурнай, творчай і іншай дзейнасці прадстаўнікоў аднаго ці некалькіх родаў; сядзібны архіў — архіў, які ўтварыўся ў выніку дзейнасці асобы альбо сям'і і ўтрымлівае прававыя дакументы сям'і, дакументы аб кіраванні маёнткамі, а таксама асабістыя дакументы. С. а. існавалі ў XIX — пачатку XX ст., па колькасці і складзе дакументаў былі менш значныя за фамільныя. Адносяцца да шэрагу архіваў асабістага паходжання.

музеі і Дзяржаўная бібліятэка. Праз вялікія страты беларускія архівісты, гісторыкі, працаўнікі музеяў і бібліятэк на працягу ўсяго перыяду вырашалі задачу пошуку і ўліку асабістых архіваў дзеячаў беларускай навукі і культуры ў Беларусі, саюзных рэспубліках і за мяжой.

У адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь асабістыя архівы адносяцца да недзяржаўнай часткі Нацыянальнага архіўнага фонду, уключаюцца ў спісы камплектавання архіваў, захоўваюцца бібліятэкамі і музеямі. Кожная з устаноў мае свае крытэры, спосабы і мэты захоўвання. На сёння колькасць фондаў асабістага паходжання[4], якія захоўваюцца ў дзяржаўных і ведамасных архівах (вядучая ўстанова — Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ), больш за 400 фондаў) і аддзелах рукапісаў бібліятэк перавышае 600, у складзе 70 калекцый аб’яднаны малаколькасныя архівы 440 асобаў, да гэтай лічбы дадаецца 50 выяўленых у музеях цэласных комплексаў дакументаў, 12 літаратурных і мемарыяльных музеяў, што захоўваюць дакументы адной асобы, і вялікая колькасць частак асабістых архіваў і асобных дакументаў асабістага паходжання. Прадстаўленыя дадзеныя можна параўнаць з колькасцю захаваных архіваў асабістага паходжання ва Украіне: нацыянальны рэестр асабістых архіваў «Эліта Украіны в XVIII–XX стст.» уключае ў сябе анатацыі больш як 2000 асабістых архіўных фондаў, што захоўваюцца ў цэнтральных, галіновых і абласных архівах Украіны, больш за 1000 фондаў ва ўстановах сістэмы Акадэміі навук Украіны, каля 600 фондаў дзяржаўных музеяў[5].

У залежнасці ад маштабу дзейнасці архіваўтваральніка на захоўванне ў рэспубліканскія архівы, музеі, аддзелы рукапісаў бібліятэк Беларусі прымаюцца асабістыя архівы выдатных прадстаўнікоў культуры, вядомых палітычных дзеячаў, праз прызму светаўспрымання якіх можна разгледзець жыццё цэлай краіны. Пытанне пра мэтазгоднасць захавання архіваў шараговых членаў грамадства перманентна ўзнікала ў савецкім архівазнаўстве пачынаючы з 1943 г., калі ўпершыню было пастаўленае пытанне пра неабходнасць захавання дакументальнай спадчыны ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, актуалізавалася падчас агульнасаюзных канферэнцый сярэдзіны 1960-х гг., дыскусій на старонках «Литературной газеты» ў 1976–1977 гг. Ідэя рэалізацыі права кожнага чалавека пакінуць па сабе памяць увасобілася пры стварэнні ў Маскве цэнтра дакументацыі «Народны архіў» (1988–2006), адным з асноўных кірункаў працы якога быў збор асабістых архіваў шараговых грамадзянаў СССР, груп дакументаў асабістага паходжання (ліставання, мемуараў, асабістых дакументаў і г. д.) — комплексаў тых дакументаў, якія не ўваходзілі ў сферу камплектавання дзяржаўных архіваў і апынуліся за межамі захаваных сведчанняў па гісторыі развіцця савецкага грамадства. Аналагічныя задачы рэалізоўваюцца польскім навукова-культурным цэнтрам KARTA і Радай грамадскіх архіваў пры Галоўнай дырэкцыі дзяржаўных архіваў Польшчы, праблема абмяркоўваецца падчас сустрэчаў беларускіх архівістаў[6].

---

[4] Фонд асабістага паходжання — комплекс архіўных дакументаў, які ўтварыўся ў выніку жыцця і дзейнасці асобы або групы асобаў, прыняты на дзяржаўнае захоўванне. Да іх шэрагу адносяцца асабістыя, сямейныя, фамільныя фонды, якія ўтварыліся ў выніку жыцця і дзейнасці адной асобы, сям’і, роду ці некалькіх родаў.

[5] Еліта України XVIII—XX стст.: Національний реєстр особових архівів. Анотований довідник і база даних [Электронны рэсурс] // Архіви України. Рэжым доступу: http://www.archives.gov.ua/BranchProgs/ELITA.php — Дата доступу: 10.10.2007.

[6] Гл.: Шумейко, М. Ф. Ещё раз о личных архивных фондах / М. Ф. Шумейко // Архіўныя чытанні I–III: матэрыялы навуковых канферэнцый, Мінск, 2003–2005 гг. / укл.: Г. В. Запартыка [і інш.]; навук. рэд. А. В. Мальдзіс. Мінск: РІВШ, 2006. С. 69–72.

Асабістыя архівы маленькіх людзей (працаўнікоў гаспадаркі, сведкаў ці ўдзельнікаў гістарычных падзей), якія павінны ўзнаўляць паўсядзённую гісторыю, тыповае ці унікальна-асабістае ўспрыманне гістарычнай падзеі, сёння прымаюцца на захоўванне абласнымі і занальнымі архівамі, краязнаўчымі музеямі Беларусі і ўтрымліваюць вызначаныя віды дакументаў з дакладна акрэсленай тэматыкай (Кастрычніцкая рэвалюцыя, Грамадзянская вайна ў Расіі, Вялікая Айчынная вайна, вайна ў Афганістане, палітыка савецкага кіраўніцтва, краязнаўства). Такія тэмы, як рэпрэсіі, рэабілітацыя рэпрэсаваных, жыццё ў Заходняй Беларусі, антысавецкі рух, гісторыя царквы, дысідэнства, дзейнасць нацыянальных арганізацый канца 1980-х гг., у дакументах асабістых фондаў не адлюстраваныя. На захоўванні знаходзяцца пераважна дакументы да біяграфіі, сведчанні пра дзейнасць. Колькасць дакументаў асабістага паходжання — асабістае ліставанне, фотаздымкі, успаміны — нязначная. Пры адсутнасці дакументаў такога кшталту ахарактарызаваць асобу амаль немагчыма, архіў набывае форму «асабіста-афіцыйнага», адлюстроўваючы толькі службовую дзейнасць архіваўтваральніка.

Пры камплектаванні сховішчаў дакументамі асабістага паходжання архівісты паўсюдна сустракаюцца з праблемай адсутнасці ашчаднага стаўлення да асабістых архіваў, іх занядбанасцю і расцярушаннем, што звязана са стратай традыцыі фармавання і захоўвання асабістых архіваў прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі. Музеі, якія маюць прыярытэт у зборы і захаванні дакументальных сведчанняў у абласных і раённых цэнтрах, у адпаведнасці са сваімі функцыямі не ставяць задачай цэласнае захаванне, улік і выкарыстанне комплексаў дакументаў асабістага паходжання, прымаюць толькі асобныя, найбольш атрактыўныя дакументы. У савецкі перыяд музей быў ідэалагічнай установай, у задачы якой уваходзіла адлюстраванне і прапагандаванне афіцыйнай гісторыі і рэчаіснасці. Зыходзячы з гэтага збіраліся асобныя дакументы ўдзельнікаў рэвалюцый, войнаў, працаўнікоў гаспадаркі, спартсменаў і інш. У асноўным гэта пасведчанні, ганаровыя граматы, узнагароды. Комплексы дакументаў асабістага паходжання ў музеі вызначаюцца разнароднасцю фіксацыі інфармацыі, фрагментарнасцю, ідэалагічнай зададзенасцю, скіраванасцю на прыцягненне ўвагі гледача і невысокай інфармацыйнай каштоўнасцю.

Тэматыка асабістага архіва, асаблівасці складу, інфармацыйных узаемасувязяў паміж структурнымі часткамі варыюцца ў залежнасці ад кірунку дзейнасці архіваўтваральніка ў грамадска-палітычнай сферы, сферы навукі, літаратуры, мастацтва, тэатра, музыкі, культуры, спорту, калекцыянавання, тэхнікі, гаспадаркі. Найбольш істотнымі групамі дакументаў у складзе асабістых архіваў навукоўцаў, грамадска-палітычных дзеячаў, працаўнікоў гаспадаркі дзяржаўнага маштабу з’яўляюцца: біяграфічныя дакументы (выносяцца на першы план), якія адлюстроўваюць жыццёвы шлях архіваўтваральніка, ацэнку яго дзейнасці, ступень уплыву на жыццё краіны, развіццё навукі і тэхнікі; вынікі навуковай, грамадскай ці службовай дзейнасці фіксуюцца ў манаграфіях, артыкулах, тэкстах дысертацый выступленняў, а таксама ў афіцыйных дакументах і ліставанні. Неад’емная частка архіва — выяўленчыя матэрыялы (фотаздымкі). Дакументы асабістага паходжання (мемуары, дзённікі, ліставанне) адлюстроўваюць унутраны свет дзеяча, яго асабістыя думкі, матывацыю, надаюць архіву характар «асабістасці». Для архіваў дзеячаў літаратуры і мастацтва асноўнай ёсць група дакументаў творчай дзейнасці, якая стала асновай для ацэнкі каштоўнасці асабістага архіва.

На сёння кожнае дзяржаўнае сховішча Беларусі мае вызначаны кірунак камплектавання: дакументы грамадска-палітычных дзеячаў і навукоўцаў рэспублікі прымаюцца Нацыянальным архівам Рэспублікі Беларусь (НАРБ); дзеячаў літаратуры і мастацтва — БДАМЛМ, Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры (ДМГБЛ), Дзяржаўным музеем гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (ДМГТМК), мемарыяльнымі музеямі; навукоўцаў і дзеячаў літаратуры — Аддзелам рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (АРКР ЦНБ НАНБ), навукі і тэхнікі — Беларускім дзяржаўным архівам навукова-тэхнічнай дакументацыі (БДАНТД), дзеячаў рэгіянальнага маштабу, удзельнікаў і сведкаў гістарычных падзей — абласнымі і занальнымі архівамі, краязнаўчымі музеямі, Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (БДМГВАВ). Найбольшая колькасць захаваных архіваў — гэта архівы дзеячаў літаратуры (25,6 %), сведкаў і ўдзельнікаў гістарычных падзей, якія вызначаюцца малаколькаснасцю складу (14,6 %), навукоўцаў (13,2 %), дзеячаў тэатра (11,3 %), грамадска-палітычных дзеячаў (9,3 %), сферы музыкі, мастацтва, культуры — у сярэднім па 5,5 %.

Усведамленне каштоўнасці асабістага архіва як асобнага комплексу дакументаў адбылося найперш у дачыненні да дакументаў гісторыкаў А. Нарушэвіча, І. Грыгаровіча, М. Баброўскага, І. Анацэвіча, І. Лабойкі, І. Даніловіча і іншых, чые архівы ўтрымлівалі вялікія калекцыі гістарычных дакументаў, неслі ў сабе адбітак некалькіх эпох, што і прадвызначыла іх крыніцазнаўчую каштоўнасць і сталую цікавасць з боку калекцыянераў і даследчыкаў. Так, калекцыя І. Анацэвіча пасля смерці збіральніка больш чым на стагоддзе выпала з навуковага звароту, толькі ў 1935 г. была ажыццёўленая спроба рэканструкцыі яе складу на падставе захаваных вопісаў, у яе ўваходзілі ліставанне Станіслава Аўгуста Панятоўскага, папскія булы, дыпломы, граматы, лісты і аўтографы каранаваных асобаў, мапы, дакументы сям'і Любамірскіх і інш. Захаваная частка калекцыі знаходзіцца ў Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскім доме)[7]. Дакументы навукоўцаў XIX ст. звычайна траплялі ў рукі калекцыянераў. Частка калекцыі І. Анацэвіча была перададзеная К. Свіндзіцкаму яшчэ пры жыцці, частка — гродзенскаму калекцыянеру Слізню і ў зборы Э. Рачынскага і Р. Падбярэзскага[8]. Частка рукапіснай спадчыны М. Баброўскага трапіла да бібліяфіла У. Транбіцкага[9]. Неапублікаваныя рукапісы І. Даніловіча былі набытыя Е. Тышкевічам у Віленскі музей старажытнасцяў у 50-я гг. XIX ст.[10]. Дакументы заснавальніка навуковай археалогіі, этнографа і славіста З. Даленгі-Хадакоўскага (1784–1825) пасля яго смерці перайшлі да гісторыка і журналіста М. Палявога, а потым да М. Пагодзіна і да іншых польскіх, украінскіх, расійскіх калекцыянераў[11]. Асабісты

[7] Гл.: Николаев, С. И. О коллекции Игнатия Онацевича / С. И. Николаев // Духовная культура славянских народов. Литература. Фольклор. История: сб. статей к IX международному съезду славистов / АН СССР, Ин-т русской литературы (Пушкинский дом). Ленинград, 1983. С. 197–208.

[8] Гл.: Габрусевіч, С. А. Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына: гіст. нарыс / С. А. Габрусевіч, С. В. Марозава. Гродна: ГрДУ, 2005. С. 112–113.

[9] Гл.: Бобровский, П. О. М. К. Бобровский: історико-биографический очерк / П. О. Бобровский // Русская старина. 1888. Июль. С. 89–117.

[10] Карев, Д. В. Белорусская и украинская историография конца XVIII — начала 1920-х гг. XX в. в процессе генезиса и развития национального исторического сознания белорусов и украинцев / Д. В. Карев. Вильнюс: ЕГУ, 2007. С. 94–95.

[11] Maślanka, J. Zorian Dołenga-Chodakowski jego mejsce w kulturze Polskiej i wpływ na polskie piśmennictwo romantyczne / J. Maślanka. Wrocław — Warszawa — Kraków, 1965. S. 143–145; Далэнга-

архіў члена Румянцаўскага гуртка ў Гомелі І. Грыгаровіча характарызуецца наяўнасцю вялікай колькасці капійных дакументаў з архіваў Полацка, Магілёва, Віцебска, Оршы, якія рыхтаваліся для публікацыі. Пасля яго смерці дакументы захоўваліся ў сына Мікалая Грыгаровіча, на іх падставе апошні напісаў біяграфію бацькі і апублікаваў яго ліставанне з графам М. П. Румянцавым, а ў 1872 г. яны былі перададзеныя ў Румянцаўскі музей (цяпер НДАК РДБ). Вялікая частка асабістага архіва трапіла ў прыватныя зборы краснаярскага бібліяфіла Г. В. Юдзіна[12].

Большасць асабістых архіваў дзеячаў беларускай навукі і культуры XIX ст. захоўваецца сёння ў сховішчах Літвы, Польшчы, Расіі. У аддзеле рукапісаў Бібліятэкі Віленскага універсітэта — асабістыя фонды Я. Лялевеля, М. Баброўскага, Я. Снядэцкага, І. Спрогіса, Е. Раманава, М. Маліноўскага. У аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы — фонды гісторыкаў Т. Нарбута, С. Пташыцкага, Е. Тышкевіча, пісьменніка У. Сыракомлі, у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы — фонды Т. Зана, І. Лабойкі, А. Кіркора, Э. Ажэшкі, А. Пшчолкі. У аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве — дакументы калекцыянераў А. Ельскага, З. Глогера, В. Шукевіча, навукоўцаў М. Баброўскага, І. Лялевеля, І. Анацэвіча, дзеячаў літаратуры В. Каратынскага, Ю. Крашэўскага, Ч. Янкоўскага і інш. У Архіве ПАН — дакументы архівіста М. Маліноўскага, калекцыянера М. Федароўскага, у аддзеле рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта — А. Ельскага, З. Даленгі-Хадакоўскага, Я. Булгака, М. Федароўскага. У Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскім доме) у Санкт-Пецярбургу — дакументы І. Анацэвіча, І. Лабойкі, у Навукова-даследчым аддзеле рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі — І. Грыгаровіча, З. Даленгі-Хадакоўскага, у аддзеле пісьмовых крыніц Дзяржаўнага гістарычнага музея — дакументы Грыгаровічаў, І. Х. Каладзеева, у аддзеле рукапісаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі — П. Баброўскага, І. Лабойкі, П. Гільтэбрандта, у Архіве Расійскай акадэмі навук у Санкт-Пецярбургу — І. Сямашкі. Асабістыя архівы навукоўцаў, якія працавалі ў першай палове XX ст. і зрабілі істотны ўнёсак у развіццё беларускай навукі, — У. Пічэты, Я. Карскага, М. Нікольскага, А. Шахматава — цяпер захоўваюцца ў сховішчах Масквы і Пецярбурга, М. В. Доўнар-Запольскага — у Кіеве і Львове.

Сучасны НАРБ, які аб’ядноўвае фонды былога Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі (ЦДАКР) БССР і Цэнтральнага партыйнага архіва КПБ, пачаў камплектавацца ў другой палове 1940-х гг., калі на сакрэтнае захоўванне ЦДАКР паступілі дакументы беларускіх грамадска-палітычных дзеячаў эміграцыі К. Езавітава, В. Русака, І. Ермачэнкі. Гэта былі першыя архівы грамадска-палітычных дзеячаў, прынятыя на захоўванне ў дзяржаўныя сховішчы Беларусі. У 1968 г. у партыйным архіве былі створаныя зборы дакументаў В. Харужай і С. Прытыцкага. Сістэматычнае камплектаванне ЦДАКР дакументамі асабістага паходжання пачалося ў 1975 г., першым фондам, прынятым на захоўванне, стаў фонд удзельніка Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў М. Зецюкова (1977). На студзень 2008 г. у архіве налічвалася 55 фондаў і калекцый асабістага паходжання — гэта фонды партыйных, дзяржаўных, грамадскіх дзеячаў

---

Хадакоўскі, З. Выбранае / Зарыян Далэнга-Хадакоўскі; уклад., прадм., камент. Л. Малаш. Мінск: Кнігазбор, 2007. С. 5–36.

[12] Гл.: Иванова, О. С. «Находка» третьего тома «Белорусского архива» И. Григоровича в БГАМЛИ / О. С. Иванова // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 5 / рэд. кал. У. І. Адамушка [і інш.]. Мінск: БелНДІДАС, 2004. С. 29–34; Іванова, В. Дакументальная спадчына протаіерэя Іаана Грыгаровіча / В. Іванова // Праваслаўе. 2004. № 12–13. С. 78–85.

А. Аксёнава, М. Аўхімовіча, І. Ветрава, Ц. Кісялёва, К. Кісялёва, І. Клімава, П. Машэрава, К. Мазурава, І. Палякова, М. Слюнькова, Ф. Сурганава, А. Тоўсціка, Я. Якубоўскага, гісторыкаў М. Арэхвы, І. Ігнаценкі, З. Капыскага, М. Капіча, А. Карпачова, В. Чапко, У. і В. Скалабанаў, А. Трусава, Г. Штыхава, А. Філімонава, краязнаўцы У. Кісялёва, навукоўцаў розных галінаў — анколага М. Аляксандрава, філосафа У. Сікорскага, фізіка Ф. Фёдарава, педагогаў С. і Я. Кавальчук, філолага А. Міхневіча, навукоўца ў галіне тэхнічных навук Г. Карпенкі, архівістаў А. Азарава, А. Кузняева, В. Жыгалава, Т. Лявонцьевай, М. Камінскага, калекцыі, якія аб'ядноўваюць малакалькасныя архівы навукоўцаў, грамадска-палітычных дзеячаў і г. д. Права абмежавання доступу да дакументаў было выкарыстанае ў дачыненні да асабістага фонду грамадска-палітычнага дзеяча, старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1992–1994) С. Шушкевіча, гісторыка Р. Платонава. Малакалькасныя архівы навукоўцаў, грамадска-палітычных дзеячаў, архівістаў, удзельнікаў Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, аб'яднаныя ў калекцыі[13]. Часткі асабістых архіваў грамадска-палітычных дзеячаў першай паловы XX ст. захоўваюцца ў фондах Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, партыйнага архіва Інстытута гісторыі партыі, Рады народных міністраў БНР і інш. Напрыклад, службовыя дакументы (лісты, даклады і інш.) М. Гікалы, К. Гея, У. Ігнатоўскага, А. Мяснікова, А. Чарвякова знаходзяцца ў фондах Інстытута гісторыі партыі, архіва КП(б)Б. Сярод асабістых дакументаў асаблівую цікавасць маюць дзённік Ф. Каржа за 1941–1942 гг. і яго ўспаміны[14], дзённік і рукапісы С. Рак-Міхайлоўскага[15], рукапісы нарысаў і нататкі Б. Тарашкевіча[16] і інш.

БДАМЛМ, які спецыялізуецца на захоўванні ў першую чаргу архіваў дзеячаў літаратуры і мастацтва, утрымлівае таксама збор дакументаў грамадска-палітычнага дзеяча Ц. Гартнага, асабістыя фонды грамадскіх дзеячаў і пісьменнікаў Я. Дылы, К. Каганца, гісторыка І. Грыгаровіча, гісторыка і літаратуразнаўцы А. Каўкі, дзеячаў культуры П. Мядзёлкі, А. Белага (неапрацаваны), С. Яновіча і інш. Калекцыя дакументаў дзеячаў культуры — часткі архіваў Ю. Туронка, Ф. Турука, М. Нікольскага, калекцыя рукапісаў Музея імя І. Луцкевіча ў Вільні — грамадска-палітычных і культурных дзеячаў А. Пашкевіч (Цёткі), В. Ластоўскага, Б. Тарашкевіча, А. Цвікевіча, К. Душ-Душэўскага, Л. Дубейкоўскага, П. Жаўрыда, братоў І. і А. Луцкевічаў, А. Смоліча і іншых[17].

Буйным сховішчам фондаў асабістага паходжання стаў БДАНТД, які пачаў камплектавацца фондамі асабістага паходжання ў 1982 г. Тут захоўваецца 35 фондаў

---

13 Гл.: Сверчков, В. А. Комплектование Национального архива Республики Беларусь документами участников Великой Отечественной войны / В. А. Сверчков // Пра вайну апошняе слова не сказана: па матэрыялах пасяджэнняў «круглых сталоў», прысвечаных распрац. гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (май 2004 г., май 1990 г.) / БелНДІДАС; адк. рэд.: Ю. У. Несцяровіч, У. В. Фядосаў. Мінск, 2005. С. 102–105. Сврчкоў, В. А. Камплектаванне Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь дакументамі асабістага паходжання: вынікі / В. А. Свярчкоў // Архівы і справаводства. 2000. № 1. С. 22–25; Запартыко, А. М. Ценности личных фондов / А. М. Запартыко // Наша история: Национальный архив Республики Беларусь, 1927–2007 гг. / В. Д. Селеменев и др. Минск: НАРБ, 2007. С. 93–96.

14 Дзённік і ўспаміны Ф. Каржа 1941–1966 гг. // НАРБ. Ф. 4683. Воп. 3. Спр. 711–712.

15 Дзённік і рукапісы С. Рак-Міхайлоўскага 1926–1931 гг. // НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 108.

16 Рукапісы, лісты, артыкулы і кароткая біяграфія Б. Тарашкевіча. 1930 // НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 371.

17 Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Паступленні 1960–1992 гг.: даведнік. Вып. 1 / рэд. кал. В. Я. Данекіна і інш.; склад. І. Л. Асецкая [і інш.]. Мінск: БелНДІДАС, 1997. 471 с.

архітэктараў У. Караля, В. Волчака, В. Гусева, Г. Лаўрова, канструктараў Б. Шапашніка, М. Пігулеўскага, фізікаў Б. Кіта, Л. Барысаглебскага, калекцыя дакументаў І. Лангбарда і інш. Дакументы з'яўляюцца крыніцай для даследчыкаў — гісторыкаў архітэктуры і мастацтва, супрацоўнікаў рэстаўрацыйна-праектнага інстытута[18].

У АРКР ЦНБ НАНБ сабрана больш за 60 асабістых архіваў і 1 калекцыя дакументаў асабістага паходжання, з іх 45 фондаў даступны для выкарыстання і каля 15 неапрацаваных (П. Панчанкі, І. Чыгрынава, В. Сербенты і інш.). У склад «Калекцыі матэрыялаў па гісторыі, навуцы і культуры»[19] ўваходзяць часткі асабістых архіваў больш як 20 асобаў (К. Душ-Душэўскага, Б. Тарашкевіча, К. Сваяка, З. Верас, Л. Дубейкоўскага, А. Станкевіча, А. Смоліча, У. Талочкі, У. Перцава, В. Шутовіча і інш.). У аддзеле захоўваюцца асабістыя фонды былога прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі акадэміка У. Купрэвіча (неапрацаваны), акадэмікаў-навукоўцаў А. Вечара, М. Томіна, Г. Гарэцкага, хіміка М. Безбародава, беларускіх навукоўцаў — гісторыкаў, археолагаў і этнографаў М. Грынблата, А. Грыневіча, І. Краўчанкі, С. Сахарава, М. Улашчыка, К. Шабуні, грамадскіх дзеячаў І. Краскоўскага, Я. Драздовіча, Я. Дылы, А. Клімовіча, У. Пігулеўскага, А. Станкевіча, Я. Шутовіча, юрыста С. Маргунскага, мовазнаўцы А. Багдановіча, механізатара сельскай гаспадаркі М. Мацэпуры. Кожны з фондаў уяўляе з сябе цэласны, грунтоўны комплекс дакументаў, які ўсебакова адлюстроўвае дзейнасць асобы. Фонд паэта і навукоўца-біяхіміка А. Вечара (1905–1975) — самы вялікі па колькасці асабісты фонд, з шэрагу тых, што захоўваюцца ў дзяржаўных сховішчах Рэспублікі Беларусь[20]. Фонды служаць найкаштоўнейшай крыніцай па гісторыі беларускага нацыянальна-культурнага жыцця ў Заходняй Беларусі, Літве, Латвіі, беларускай гістарычнай навукі і іншых галінаў ведаў[21].

У Навукова-даследчым аддзеле кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (НДАК НББ) канцэнтрацыя асабістых архіваў адбываецца ў форме фондаў і калекцый, якія траплялі на захоўванне разам з прыватнымі бібліятэкамі ці асобна. Часам яны не маюць унутранай сістэматызацыі, дакладнага навуковага апісання, якое ўтрымлівала б гісторыю фонду, а таксама апрацоўкі, характэрнай для асабістых архіўных фондаў, асноўнай адзінкай уліку тут ёсць дакумент. У аддзеле захоўваецца два даступныя для

---

[18] Архитектура во имя жизни: сб. биогр. очерков и док. известных деятелей белорус. архитектуры / Белорус. гос. архив научно-технической документации; сост. Г. И. Шостак. Минск: Изд. центр БГУ, 2007; Шостак, Г. Личные фонды в Белорусском государственном архиве научно-технической документации / Г. Шостак, Е. Горшкова // Архівы і справаводства. 2001. № 5. С. 100–101.

[19] Калекцыя матэрыялаў па гісторыі, навуцы і культуры. 1506–1983 // АРКР ЦНБ НАНБ. Ф. 23. Воп. 1. Спр. 1–1190.

[20] Асабісты фонд А. С. Вечара. 1910–1985 // АРРК ЦНБ НАНБ. Ф. 48. Воп. 1. Спр. 1–3535.

[21] Гл.: Лис, М. М. Рукописный фонд отдела редких книг и рукописей ЦНБ НАН Беларуси: к вопросу формирования и развития / М. М. Лис // Информационное обеспечение науки Беларуси: от рукописей к электронным информационным ресурсам: сб. науч. ст. Минск: Красико-Принт, 2006. С. 127–130; Свякла, В. В. Дакументы эпісталярнага характару з рукапіснага архіва Г. І. Гарэцкага ў фондзе аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі / В. В. Свякла // Библиотеки в информационном пространстве: синтез традиций и инноваций: материалы Международной научно-практической конференции молодых ученых и специалистов, Минск, 12 сентября 2007 г. / редкол. Н. Ю. Березкина [и др.]. Минск, 2007. С. 244–250; Жук, Т. І. Жыццё, аддадзенае Беларусі (Рукапісны архіў М. М. Улашчыка ў фондзе аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі) // Здабыткі: Дакументальныя помнікі на Беларусі / склад. Л. Г. Кітурка, Т. І. Рошчына. Мінск, 2002. Вып. 5. С. 109–113.

карыстальнікаў асабістыя фонды бібліятэказнаўцы Я. Хлябцэвіча і грамадскага дзеяча і пісьменніка К. Каганца, Збор матэрыялаў дзеячаў навукі і культуры, куды ўвайшлі дакументы 14 асобаў (Ю. Бібілы, Н. Ватацы, Ц. Гартнага, У. Пічэты, Е. Раманава і інш.), неапрацаваныя архівы першага дырэктара бібліятэкі І. Сіманоўскага, бібліёграфа Н. Ватацы[22], бібліятэкара і мастацтвазнаўцы В. Дышыневіч, гісторыка М. Нікольскага.

Найбольш каштоўным і цэласным комплексам дакументаў асобы, што захаваўся ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі, сталі матэрыялы гісторыка, археографа, краязнаўцы А. Сапунова, а таксама каштоўныя зборы дакументаў пра дзейнасць мастакоў Ю. Пэна і М. Шагала, калекцыянера В. Федаровіча[23]; у Гродзенскім абласным краязнаўчым музеі — гісторыка П. Кнышава, філосафа А. Макавельскага, настаўніка і фатографа Р. Салаўя[24]; у Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі — гісторыка і краязнаўцы І. Філіповіча, арганізатара партызанскага руху на Магілёўшчыне падчас Вялікай Айчыннай вайны І. Станкевіча[25], пісьменніка і перакладчыка П. Кабзарэўскага[26]. У Гомельскім абласным краязнаўчым музеі захавалася папка з асабістага архіва расійскага дзяржаўнага дзеяча і гісторыка Ю. В. Талстога (1824–1878), перададзеная ў 1920 г. у музей настаўнікам С. Бабарыкіным[27].

Шэраг асабістых архіваў, якія знаходзяцца ў прыватнай уласнасці, магчыма ахарактарызаваць толькі ў выпадку, калі ўладальнікі заяўляюць пра іх існаванне і робяць захады па папулярызацыі і выкарыстанні. На сучасным этапе выкарыстанне асабістых архіваў

[22] Гл.: Белы, А. В. Агляд фонду асабістага паходжання Ватацы Н. Б. / А. В. Белы // Здабыткі: Дакумент. помнікі на Беларусі / Нац. бібл. Беларусі; склад. Л. Г. Кірухіна, Т. І. Рошчына. Мінск, 2007. Вып. 9. С. 172–175; Станкевіч, Л. І. Архіўныя матэрыялы І. Б. Сіманоўскага — заснавальніка і першага дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ў яе фондах / Л. І. Станкевіч // Бібліятэка і грамадства: матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 70-годдзю Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі / склад.: Р. С. Матульскі і інш. Мінск, 1993; Агляд фондаў НДАК НББ // Асабістыя архівы. [Электронны рэсурс] / В. Іванова. Мінск, 2007. Рэжым доступу: www. personalarchives. narod. ru/library. nlb. htm. Дата доступу: 17.05.2008

[23] Гл.: Хмяльніцкая, Л. Гісторык з Віцебска (жыццяпіс Аляксея Сапунова) / Л. Хмяльніцкая // Віцебскі сшытак. 2000. № 4. С. 3–64; Абрамова, И. А. Переписка А. П. Сапунова из личного архива в фондах Витебского краеведческого музея / И. А. Абрамова // Архіўная спадчына Віцебшчыны як крыніца вывучэння гісторыі краю: матэрыялы арх. чытанняў, прысвеч. 150-годдзю з дня нараджэння А. П. Сапунова, 6–7 чэрвеня 2001 г., Віцебск / склад В. У. Скалабан [і інш.]. Мінск: БелНДІДАС, Віцебск, 2002. С. 104–106; Абрамава, И. А. Судьба коллекции В. П. Федоровича // 90 гадоў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі: матэрыялы навук. канф. 24 лістап. 1999 г., Віцебск / склад. В. У. Скалабан [і інш.]. Мінск: БелНДІДАС, 1999. С. 56–57; Кучеренко, В. Н. Обзор документов архива А. П. Сапунова в Витебском областном краеведческом музее // 90 гадоў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі: матэрыялы навук. канф. 24 лістап. 1999 г., Віцебск / склад. В. У. Скалабан [і інш.]. Мінск, 1999. С. 45–47.

[24] Дакументы грамадска-палітычнага дзеяча, гісторыка П. І. Кушнера (Кнышава) (1889–1968), 1892–1966; Дакументы настаўніка, фатографа Р. Я. Салаўя, 1915–1942; Дакументы філосафа А. В. Макавельскага (1884–1969) // Гродзенскі абласны гісторыка-краязнаўчы музей-запаведнік. КП 29030 (62–112); КП 80905 (1–84); КП 27483 (1–13).

[25] Дакументы ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны І. П. Станкевіча, 1943–1965 // Магілёўскі абласны краязнаўчы музей. КП 23273, 23227–23243.

[26] Документы Национального архивного фонда Республики Беларусь в Национальной библиотеке и музеях системы Министерства культуры и печати Республики Беларусь: справочник / Гос. ком. по архивам и делопроизводству РБ. БелНИИДАД; сост. О. А. Добычина, В. И. Пташникова; под ред. А. Н. Михальченко. Минск: БелНИИДАД, 1995.

[27] Гомельскі абласны краязнаўчы музей. Папка № 14. Біяграфічныя дакументы грамадскага дзеяча Расійскай імперыі, гісторыка Ю. В. Талстога (1824–1878), 1822–1872.

адбываецца толькі пасля перадачы іх на дзяржаўнае захоўванне. Створаны па прыватнай ініцыятыве Архіў найноўшай гісторыі, захоўваючы дакументы асабістага паходжання, не ставіць на мэце захаванне цэласных комплексаў, якія адлюстроўваюць жыццё і дзейнасць пэўнай асобы і выступаюць як своеасаблівая інфармацыйная сістэма. Апошнім часам сталай практыкай зрабілася віртуальная рэканструкцыя складу асабістых архіваў, прэзентацыя дзейнасці асобы праз стварэнне электронных рэсурсаў. Даступныя звесткі пра лёс і стан захавання асабістых архіваў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, В. Дуніна-Марцінкевіча[28], Н. Ватацы[29], І. Грыгаровіча, М. Улашчыка[30] даюць шырокія магчымасці для іх выкарыстання.

*Вольга ІВАНОВА*

[28] Архівы Беларусі [Электронны рэсурс] / БелНДЦЭД. Мінск, 2006. Рэжым доступу: http://archives. gov. by/index. htm Дата доступу: 23.10.2007.

[29] Нацыянальная бібліятэка Беларусі [Электронны рэсурс] / НББ. Мінск, 2006. Рэжым доступу: http:// portal.nlb.by/portal/page/portal/index.htm Дата доступу: 17.05.2007.

[30] Асабістыя архівы [Электронны рэсурс] / В. Іванова. Мінск, 2007. Рэжым доступу: http://personal-archives. narod. ru/personal. htm Дата доступу: 17.05.2007.

# ЭПОХА ЖЫГІМОНТА І СТАРОГА Ў БЕЛАРУСКІХ ХРОНІКАХ

Найбольш яркі твор беларускай прозы першай паловы XVI ст. — «Хроніка княжання Жыгімонта I Старога», якая ахоплівае гістарычны перыяд ад 1506 да 1548 г. Арыгінал твора не захаваўся, ён чытаецца паводле дзвюх крыніц — Летапісу Рачынскага і Еўраінаўскага летапісу.

Аўтарам «Хронікі…», верагодна, з'яўляўся нехта з пісараў вялікакняжацкай канцылярыі, які асабіста назіраў грамадскія і палітычныя падзеі, пратакаляваў найбольш значныя з іх, зрэдку выказваў уласныя эмоцыі і стаўленне да іх, часам даваў суб'ектыўныя ацэнкі. У якасці дадатковых крыніц аўтар выкарыстоўваў дакументы дзяржаўнага архіва, а таксама папярэднія хронікі і запісы, пра што ёсць наўпроставыя ўказанні ў тэксце твора.

«Хроніка княжання Жыгімонта І Старога» адрозніваецца высокім літаратурна-мастацкім узроўнем і анталагізмам ахопу гістарычнага матэрыялу. На старонках твора аўтар падаў шмат запамінальных сцэнаў і надзвычай каларытных эпізодаў.

Вельмі яркая сцэна — забойства ў Гародні князем Міхаілам Глінскім вялікага маршалка Яна Забярэзінскага. У «Хроніцы…» распавядаецца пра тое, як Глінскі ўначы паланіў Забярэзінскага ў яго доме, загадаў слузе адсекчы вялікаму маршалку галаву, начапіць яе на кол, пранесці праз усю Гародню, а потым закінуць у возера. Пісьменнік, як відаць на гэтым прыкладзе, яскрава перадае жорсткасць часу, паказвае крайнія формы ўзаемнай нянавісці паміж магнатамі, бязмежную помслівасць, якая нярэдка мела крывавы фінал.

Гістарычнай інфармацыйнасцю вылучаецца ў «Хроніцы…» апісанне пасяджэння Рады, якое адбылося ў Вільні ў 1529 г. і на якім прысутнічаў манарх. Аўтар з пратакольнай дакладнасцю называе галоўных удзельнікаў гістарычнага пасяджэння і ўказвае іх месцы ў Радзе, што сведчылі пра іх палітычную вагу.

«Хроніка княжання Жыгімонта І Старога» ўтрымлівае надзвычай шмат эпічных батальных сцэнаў, сярод якіх — сутычка з татарамі пад Слуцкам у 1508 г., разгром татарскіх войскаў на Лопушне ў 1512 г., аблога і штурм Смаленска маскоўскімі войскамі ў 1512 г., бітва пад Оршай у 1514 г., рэйд 1517 г. пад Апочку, разгром 20-тысячнага татарскага войска на Альшаніцы ў 1527 г. Аўтар падрабязна занатоўвае вайсковыя кампаніі і асобныя рэйды, называе колькасць ваяроў, указвае, хто з'яўляўся гетманам, характарызуе іх вынікі — набыткі і страты.

У «Хроніцы…» вельмі панарамна адлюстраваны канфлікт паміж Міхаілам Глінскім і Жыгімонтам I Старым, што ў 1508 г. выліўся ў сапраўдныя шырокамаштабныя вайсковыя дзеяннні, набыў міжнароднае значэнне, бо Глінскі прыцягнуў на свой бок частку маскоўскіх войскаў.

Надзвычай яркая ў «Хроніцы…» сцэна штурму і захопу горада Старадуба ў 1535 г. войскамі ВКЛ пад кіраўніцтвам пана Тарноўскага. Аўтар апісвае тактыку аблогі і наступнага авалодання горадам. Паводле яго словаў, пад гарадскую сцяну атрад пана Гарабурды зрабіў падкоп. Туды былі закладзеныя бочкі з порахам. З дапамогай працягнутага кнота порах выбухнулі. У выніку ўтварыўся пралом, праз які распачаўся штурм,

і горад быў ўзяты. Пісьменнік таксама паказаў жорсткую расправу над палоннымі, якія мужна баранілі горад.

Галоўны герой твора — Жыгімонт І Стары. Ён малюецца як вельмі энергічны манарх, актыўны ўдзельнік асноўных палітычных падзей. Сярод яго заслуг, гістарычных учынкаў і слынных дзяржаўных спраў аўтар называе ўдзел у вайсковым паходзе пад Смаленск у 1514 г. з мэтай дапамогі гораду, акружанаму маскоўскім войскам, падпарадкаванне Прусіі, падпісанне Статута 1529 г. ВКЛ, жорсткае пакаранне ў 1526 г. гданьскіх паўстанцаў.

Узнаўленне і пераклад «Хронікі княжання Жыгімонта І Старога» выкананы паводле Летапісу Рачынскага (ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 167–171) і Еўраінаўскага летапісу (ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 234–238).

*Іван САВЕРЧАНКА,*
*доктар філалагічных навук*

ранее обещанные замечания господина Востокова о *Судебнике*. Если Вы ему напишете, будете иметь в его лице аккуратного корреспондента. В субботу я выезжаю с Малевским, который едет навестить родителей[332]. Я так растерян, что не могу собрать мысли, а я должен был много написать Вам. Простите, в дальнейшем я буду более аккуратным. Вверяю себя милостивой памяти

Миколай Малиновский

---

332 Судя по всему, с семьей Малевских Малиновский сохранил теплые отношения. Во всяком случае спустя много лет после его отъезда из Петербурга супруга Ф. Малевского Хелена Малевская передает ему привет от себя и мужа в письме к поэту А. Э. Одынцу (07.04.1854): «Господина Миколая Малиновского обнимаем сердечно, нетерпеливо ожидая обещанного письма» (Biblioteka Narodowa, mf 561, k. 42). Сам Малевский, заказывая в письме К. Брохоцкому (30.11 / 12.12.1855) панихиду по умершему А. Мицкевичу, называет Малиновского в качестве одного из немногочисленных друзей, кому следует об этом сообщить (см.: Archiwum filomatów. Listy z zesłania. T. III. Warszawa, 1999. S. 251–252). Это показательно, поскольку со своим бывшим квартирным хозяином, Булгариным, Малиновский практически прервал отношения. Во всяком случае сам Булгарин жаловался на это в письме от 12.07.1852 г. к другому виленцу, А. Г. Киркору: «Жил у меня в Петербурге и даже под моей опекой Миколай Малиновский, но когда он выехал из Петербурга и сделался <большим> Господином — забыл обо мне и даже ни разу не написал!!! Это сильно меня сразило, и я прекратил всякую корреспонденцию с Вильно» (LVIA, f. 1135, ap. 2, b. 1, p. 324–325). Впрочем, впечатлительность Фаддея Венедиктовича, судя по всему, была не столь уж и сильной, поскольку в другом письме тому же Киркору (27.06.1854) он просит с присущей ему экспрессивностью: «Прошу Вас, ради мук Христовых, узнать, где теперь Миколай Малиновский, который управлял делами Витгенштейна, прошу надписать адрес на письме и сразу же отослать ему, так как это письмо деловое. Вы меня этим сильно обяжете!» (LVIA, f. 1135, ap. 2, b. 1, p. 326), то есть редактор «Северной пчелы» пытался восстановить отношения со своим бывшим квартирантом. Но удалось ли ему это, мы не знаем.

# ГАННА ГЕРЫЧ І ЯЕ ЎСПАМІНЫ

Імя Ганны Герыч сёння досыць рэдка сустракаецца ў даследчай літаратуры. І справа зусім не ў адсутнасці літаратурных здольнасцяў у гэтай мемуарысткі і каштоўнай вартасці прадстаўленага ніжэй яе твора, а ў тым традыцыйным падыходзе, які склаўся ў XIX ст. У сярэдзіне XIX ст. пэўныя ўспаміны ўспрымаліся як адзін са шматлікіх мемуарных твораў, на якія было такое багатае XIX ст. У выпадку з нататкамі Герыч рабілася параўнанне з «Успамінамі Сапліцы» Генрыха Жавускага, але ў адрозненне ад апошняга твора ім не ставала маштабнасці і закончанасці, бо ў свет выйшла толькі частка з успамінаў, а большасць так і засталася ў рукапісным выглядзе.

Пра жыццё пісьменніцы захавалася няшмат звестак. Дакладная дата і месца яе нараджэння не вядомыя. Пазначаецца толькі, што адбылося гэта каля 1789 г., сама ж Ганна Герыч піша, што нарадзілася яна ў Слуцкім павеце, а ахрышчаная была ў Капыльскай парафіі[1]. Паходзіла мемуарыстка з вядомага роду Рэйтанаў герба Рэйтан, чым заўсёды ганарылася і пры нагодзе імкнулася падкрэсліць. У Беларусі гэты род вядзе сваю гісторыю дзесьці з 1600 г.[2]. Бацькам Ганны быў Міхал Рэйтан, сын навагрудскага падкаморага Дамініка Рэйтана, які, акрамя Міхала, меў яшчэ чатырох сыноў — Тадэвуша, стаўшага знакамітым дзеячам XVIII ст. і праславіўшым свой род, Юзафа, Антонія і Станіслава, а таксама трох дачок — Канстанцыю, Марыяну і Ганну.

Міхал Рэйтан на працягу жыцця займаў пасады навагрудскага земскага пісара, слуцкага харунжага і нясвіжскага павятовага маршалка[3]. З маладога ўзросту ён уваходзіў у блізкае асяроддзе Караля Радзівіла, а ў 70-я гг. XVIII ст. разам са сваімі братамі далучыўся да Антонія Тызенгаўза, стаўшы адным з найактыўнейшых прыхільнікаў апошняга ў Навагрудскім павеце, што ў пэўнай ступені паўплывала на выбар яго ў 1777 г. на пасаду земскага пісара.

Каля 1780 г. Міхал Рэйтан ажаніўся з Ганаратай Багдановіч. Ад гэтага шлюбу ён меў сыноў — Казіміра (н. 1778 —?), слуцкага маршалка, Тадэвуша (1780–1860), слуцкага харунжага, Станіслава Карла (н. 1781 —?), пасля 1832 г. маршалка Слуцкага павета, Дамініка (1783–1851), падпалкоўніка, узнагароджанага двума крыжамі[4], а таксама дачку Ганну.

Ганна мела не болей за дзесяць гадоў, калі памерла яе маці. Каля 1800 г. бацька ажаніўся другім разам. Другой жонкай Міхала Рэйтана пасля смерці Ганараты Багдановіч стала ўдава брата Юзафа Людвіка з роду Касінскіх. Пасля смерці маці Ганна выхоўвалася ў маёнтку Грушаўка разам са сваімі дваюраднымі сёстрамі (гэты перыяд яе жыцця апісваецца ва ўспамінах).

Дасягнуўшы пэўнага ўзросту, Ганна Рэйтан узяла шлюб з Каралем Герычам, але неўзабаве пасля нараджэння ў 1811 г. сына Эдварда стала ўдавой. Застаўшыся адна, жанчына, якая раней увогуле не мела ніякага ўяўлення пра гаспадарчыя пытанні, не разгубілася. Яна заказала ўсю неабходную для гэтага літаратуру і пачала займацца са-

[1] Muzeum Adama Mickiewicza w Paryżu (далей — MAM), rkps 1031. Anna z Rejtenów Geritzowa «Urywki z pamiętników» (справа не пагінавана); Bielecki R. [et al.]. Polacy pochowani na cmentarzu Montmartre oraz Saint-Vincent i Batignolies w Paryżu. Warszawa, 1999. S. 205.

[2] Гл.: Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Przeczypospolitej. T. 2. Województwa nowogródzkie, brzesko-litewskie. Wrocław, 1993. S. 219.

[3] Гл.: Mycielski M. Reytan Michał // PSB. T. 31. S. 230.

[4] Гл.: Федорук А. Т. Старинные усадьбы Берестейщчины. Минск, 2004. С. 20–23.

маадукацыяй. Ганна Герыч кіравала маёнткам Ішкалдзь на працягу васемнаццаці гадоў і рабіла гэта, як яна пазначала, досыць паспяхова[5].

Істотныя перамены ў жыцці гаспадыні з Ішкалдзі пачаліся з паўстаннем 1830–1831 гг. Выхаваная на патрыятычных узорах XVIII ст., яна сама давала прытулак паўстанцам, а яе сын Эдвард далучыўся да паўстанцаў і дзейнічаў у чыне падпаручніка ў складзе корпуса генерала Юзафа Дзвярніцкага. У выніку паразы паўстанцаў ён апынуўся ў Галіцыі, адкуль эміграваў у Францыю[6]. Удзел сына ў паўстанні прывёў да канфіскацыі маёнтка Ішкалдзь, які перайшоў на карысць князя Вітгенштэйна, а таксама грошай, якімі Герычы валодалі ў Каралеўстве Польскім[7].

У канцы 1831 г. Ганна Герыч дамаглася ад расійскага ўрада дазволу на часовы выезд у Францыю. Падставай да гэтага стала імкненне вярнуць ад французскага ўрада тую суму грошаў, якую ён быў павінен бацьку яе мужа за пастаўкі для французскай арміі ў час напалеонаўскіх войнаў. Праз шэсць месяцаў яна вярнулася на радзіму і жыла ці на Беларусі, ці ў Варшаве. У 1837 г. яна аформіла пашпарт і ў кастрычніку 1837 г. перабралася назаўсёды да сына ў Парыж. Як ні дзіўна, але ёй гэта ўдалося, а да таго ж яна вярнула і грошы, пазычаныя ў яе сваякоў за пастаўкі для французскай арміі[8].

Прыбыўшы ў Парыж, Ганна Герыч адразу апынулася ў цэнтры эміграцкага жыцця. Першыя месяцы яна толькі тым і займалася, што сустракалася з землякамі і пераказвала навіны з радзімы. Яе пераезд да сына ў Францыю ўспрымаўся сярод эмігрантаў як самаахвяра, бо жанчын, якія добраахвотна выбралі б такі лёс, было няшмат і пераважна гэта былі жонкі эмігрантаў ці іх нарачоныя[9]. За Ганнай Герыч замацавалася слава ўзорнай маці-полькі. Яна завязала шырокія кантакты сярод эмігрантаў. Сярод яе знаёмых былі Адам Міцкевіч, Антоній Гарэцкі, Севярын Гашчынскі, Андрэй Тавянскі, Леанард Ходзька, Аляксандр Бергель і іншыя, што адлюстравалася ў яе мемуарах і эпісталярнай спадчыне.

Памерла Ганна Герыч у Парыжы 21 лютага 1857 г.[10]. 23 лютага 1857 г. пасля набажэнства ў касцёле Ste-Trinité, размешчанага на вуліцы Клішы, яна была пахаваная на могілках Манмартра. Сын перажыў маці толькі на тры з паловай гады. У красавіку 1860 г. Эдвард Герыч быў дазахаваны ў магілу сваёй маці[11].

Успаміны, прысвечаныя апісанню побыту і звычаяў беларускай шляхты перыяду ВКЛ, дзе асаблівая ўвага аддаецца старонкам жыцця знакамітага дзядзькі Тадэвуша Рэйтана, Ганна Герыч, як зафіксавана ў яе мемуарах, распачала пісаць на французскай мове яшчэ ў 30-я гг. XIX ст.[12]. Пасля выезду на эміграцыю яна працягнула гэтую справу і, як мажліва меркаваць, дадала фрагменты, прысвечаныя перыяду яе жыцця ў Ішкалдзі, а таксама апісанне дзейнасці Андрэя Тавянскага і іншых асобаў. У многім

---

[5] MAM, rkps 1031. Anna z Rejtenów Geritzowa «Urywki z pamiętników». Cz. 3. Dalszy ciąg wspomnień litewskich. O majątku Iszkoldzi i jak ja tam gospodarowałam.

[6] Гл.: Гарбачова В. В. Удзельнікі паўстання 1830–1831 гадоў на Беларусі: біябібліяграфічны слоўнік. 2-е выд. Мінск, 2006. С. 107.

[7] Гл.: Bielecki R. [et al.]. Polacy pochowani… S. 205.

[8] MAM, rkps 1031. Anna z Rejtenów Geritzowa «Urywki z pamiętników». Cz. 1. Kontynuacja wspomnień Litewskich.

[9] Гл.: Stawiak-Ososińska M. Kobiety w Wielkiej Emigracji Polistopadowej (w świetle aktualnych badań) // Kobiety i mlodzież w migracjach. Migracje i spoleczenstwo 10 / Pod red. Jana E. Zamojskiego. Warszawa, 2005. S. 97.

[10] Гл.: Potrykowski J. Tułactwo Polaków we Francji. Dziennik emigranta / Wyd. A. Owsińska. T. 2. Kraków, 1974. S. 383.

[11] Гл.: Bielecki R. [et al.]. Polacy pochowani… S. 203–205.

[12] MAM, rkps 1031. Anna z Rejtenów Geritzowa «Urywki z pamiętników». Cz. 1. Kontynuacja wspomnień Litewskich.

гэты інтарэс быў выкліканы прыналежнасцю да «тавянчыкаў» яе сына Эдварда, які не толькі адыгрываў у гэтым асяроддзі значную арганізоўчую ролю, але і выступаў у ролі мецэната. Каля 1850 г. Ганна Герыч прыступіла да сістэматызацыі сваіх нататкаў. Яна пераклала іх на польскую мову і часткова перапісала начыста.

Адначасова з гэтым мемуарыстка распачала захады па выданні сваіх матэрыялаў. У пошуках рэкамендацый і выдаўца яна разаслала іх розным асобам. Адным з тых, да каго звярнулася Ганна Герыч па дапамогу, быў паэт Севярын Гашчынскі. Аднак асаблівай падтрымкі пісьменніца ад яго не мела. У лісце, адрасаваным Г. Герыч ад 3 жніўня 1851 г., Гашчынскі напісаў: «Вяртаю шаноўнай пані яе рукапіс. Шкада мне, што не магу асабіста гэтага здзейсніць, бо вымушаны выехаць на лячэнне на воды, а таксама праз мноства розных спраў. Шкада мне таксама, што не здолеў знайсці да гэтай пары ніякай мажлівасці абвясціць пра гэта пані: ніводны выдавец у краіне не жадае ці не можа гэтага здзейсніць. Мне вельмі шкада, што ўсё складваецца такім чынам, бо твор заслугоўвае выдання. Спадзяюся, што гэтая навіна не адштурхне пані ад далейшай працы над яе творам, і тады можа прыйсці хвіліна, калі гэтыя намаганні будуць не дарэмныя»[13].

Звярталася Ганна Герыч па выдаўнічай справе таксама і да свайго земляка Аляксандра Бергеля. Пацверджаннем гэтаму факту былі дзве акалічнасці. Па-першае, гэта зафіксавана ў саміх успамінах. Вось як Ганна Герыч апісвае адказ Бергеля на яе просьбу: «Каханы пан Бергель, магу ўзгадаць яшчэ некаторыя падрабязнасці пра Каролека, бо як ты кажаш, што гэтыя мае ўспаміны цябе захапілі і, як запэўніваеш мяне, нават спадабаліся Адаму Міцкевічу. Мяне гэта вельмі падбадзёрыла, што я нават маю намер апісаць розныя прыгоды, якія адбываліся ў нашай каханай Літве»[14]. Аднак на самай справе ўсё адбывалася значна складаней. На матэрыялах Г. Герыч, якія захоўваюцца ў сховішчах Музея Адама Міцкевіча, засталася прыпіска, зробленая, як занатавана Уладзіславам Міцкевічам пры апрацоўцы збораў, рукой Аляксандра Бергеля, зусім іншага зместу. У ёй, наадварот, пазначаецца, што Адам Міцкевіч не раіць друкаваць гэтых успамінаў. Цяпер складана адказаць, ці сапраўды трымаў у руках Адам Міцкевіч матэрыялы Герыч, ці толькі ведаў пра іх са слоў іншых рэцэнзентаў.

Адсутнасць дапамогі з боку згаданых асобаў не спыніла Герыч. Мемуарыстка працягнула свае нататкі ў 1856 г. Яна апісала сваё жыццё з мужам Каралем Герычам, а таксама абставіны атрымання замежнага пашпарта і выезду на эміграцыю[15]. Адначасова шукала выдаўца. На гэты раз Герыч звярнулася да Браніслава Залескага. З яе ліста[16] да апошняга мы даведваемся, што яна даслала яму пяць сшыткаў «Wspomnień Litewskich» і прасіла дапамагчы як мага хутчэй[17]. Аднак дачакацца выдання ўспамінаў пры жыцці ёй не ўдалося. Упершыню частка рукапіснай спадчыны Ганны Герыч была надрукаваная праз восем месяцаў пасля яе смерці. Гэта адбылося ў лістападзе 1857 г. у пяці нумарах львоўскага «Літаратурнага дзённіка»[18]. А ў 1858 г. у Львове тая самая частка была перавыдадзеная ў выглядзе асобнага зборніка[19].

[13] MAM, rkps 1031. List Seweryna Goszczyńskiego. Згаданы ліст С. Гашчынскага надрукаваны. Гл.: Listy Seweryna Goszczyńskiego (1823–1875) / Zebrał i do druku przygotował St. Pigoń. Kraków, 1937. S. 324–325.

[14] Z pamiętników Anny z Rejtenów Geryczowej, zmarłej w Paryżu roku 1857 // Dziennik Literacki. № 135. Lwów, 1857. S. 1211.

[15] MAM, rkps 1031. Cz. 1. Kontynuacja Wspomnień Litewskich.

[16] На лісце пазначаны толькі дзень і месяц напісання — 8 ліпеня.

[17] Biblioteka Polska w Paryżu (далей — BPP), rkps 466. Papiery emigrantów. Geritz (Gierycz) Anna i Edward. List do [Bronisława] Zaleskiego, bd. S. 481.

[18] Z pamiętników Anny z Rejtenów Geryczowej, zmarłej w Paryżu roku 1857 // Dziennik Literacki. № 133–137. Lwów, 1857.

[19] Z pamiętników Anny z Rejtenów (!) Gieryczowej zmarłej w Paryżu roku 1857. Lwów, 1858.

Сёння рукапісныя мемуары Ганны Герыч захоўваюцца ў фондах Музея Адама Міцкевіча і Польскай бібліятэкі ў Парыжы. У каталогу Музея Адама Міцкевіча матэрыялы Ганны Герыч пазначаныя пад сігнатурай 1031. Адам Левак, складальнік каталога, зафіксаваў, што дадзены збор падзяляецца на тры часткі: 1) «Частка дзённіка з 1844 г.»; 2) «Далейшы працяг Літоўскіх успамінаў»; 3) «Працяг Літоўскіх успамінаў»[20]. Насамрэч справа, апрацаваная яшчэ Уладзіславам Міцкевічам, утрымлівае чатыры асобныя сшыткі, прадстаўленыя ў іншай паслядоўнасці. Першы сшытак пад назвай «Kontynuacja wspomnień Litewskich (Працяг Літоўскіх успамінаў)» складаецца з 14 лістоў, запісаных з двух бакоў. Другім ідзе сшытак пад назвай «Urywek z dziennika z 1844 r. (Урывак з дзённіка 1844 г.)», памерам 73 старонкі, дзе ў выглядзе дзённіка зафіксаваныя падзеі, звязаныя з дзейнасцю Андрэя Тавянскага і яго прыхільнікаў. Трэці сшытак ёсць копіяй і носіць назву «Dalszy ciąg wspomnień Litewskich. O majątku Iszkołdzi i jak ja tam gospodorowałam (Далейшы працяг Літоўскіх успамінаў. Пра маёнтак Ішкалдзь і як я там гаспадарыла)», памерам 24 старонкі. Чацвёрты, апошні, сшытак гэтага збору, памерам чатыры лісты, занатаваны У. Міцкевічам пад назвай «Urywki z pamiętników (Урыўкі з успамінаў)»[21]. Прадстаўленыя часткі датуюцца рознымі гадамі: першая — 1856 г., другая — 1844 г., трэцяя — 1850 г.[22]. Апісаны збор уключае ў сябе чарнавыя фрагменты, якія практычна не трапілі ў друкаваны варыянт.

Што тычыцца тых успамінаў Ганны Герыч, якія захоўваюцца ў зборах Польскай бібліятэкі ў Парыжы, то яны складаюцца з дзвюх частак і ўяўляюць з сябе матэрыялы, падрыхтаваныя мемуарысткай да друку[23]. Першая — пад назвай «Dalszy ciąg wspomnień Litewskich. O Iszkoldzi i jak ja tam gospodarowałam» — ёсць чыставым варыянтам трэцяга сшытка са справы пад № 1031 з Музея Адама Міцкевіча ў Парыжы. А другая — гэта варыянт, які быў надрукаваны.

Апрацоўка і навуковае даследаванне ўспамінаў Ганны Герыч распачаліся з канца 20-х гг. XX ст. Адным з першых да гэтага спрычыніўся Эдвард Малішэўскі. Прычым ён зафіксаваў не толькі друкаваны варыянт ў «Літаратурным дзённіку» і асобнае выданне, але і рукапісны, што захоўваецца ў Польскай бібліятэцы ў Парыжы пад сігнатурай 571[24]. Потым апрацоўку рукапіснай спадчыны, якая патрапіла ў Музей Адама Міцкевіча, працягнуў Адам Левак[25]. З беларускіх даследчыкаў да друкаваных успамінаў Г. Герыч упершыню звярнуўся Адам Мальдзіс, даследуючы побыт і звычаі беларускай шляхты ў XVIII ст.[26]. Але для большасці ўспаміны Ганны Герыч былі недаступныя, што, спадзяемся, зменіцца пасля гэтай публікацыі.

*Вольга ГАРБАЧОВА*

---

[20] Гл.: Katalog rękopisów Muzeum Adama Mickiewicza w Paryżu / Oprac. A. Lewak. Kraków, 1931. S. 186–187.

[21] MAM, rkps 1031. Anna z Rejtenów Geritzowa «Urywki z pamiętników».

[22] Чацвёрты сшытак не датаваны.

[23] BPP, rkps 571. Gieryczowa Anna z Rejtenów. «Wspomnienia Litewskie. D. 10 novembra r-ku 1850 pisane przy ulicy Rivoli № 23 do druku…».

[24] Гл.: Maliszewski E. Bibliografia pamiętników polskich i Polski dotyczących. Druki i rękopisy. Warszawa, 1928. S. 78, 352.

[25] Гл.: Katalog rękopisów Muzeum Adama Mickiewicza w Paryżu. S. 186–187.

[26] Гл.: Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст.: Нарысы быту і звычаяў. Мінск, 1982.

# З УСПАМІНАЎ ГАННЫ ГЕРЫЧ З РЭЙТАНАЎ, ЯКАЯ ПАМЕРЛА Ў ПАРЫЖЫ Ў 1857 ГОДЗЕ[1]

## I

…Тадэвуш Рэйтан, мой дзядзька, нарадзіўся ў Літве ў маёнтку, які называўся Грушаўка[2], Наваградскага павета. Пасля смерці маці я некалькі гадоў правяла ў гэтай Грушаўцы[3] і выхоўвалася там разам з маімі малодшымі дваюраднымі сёстрамі. Дом у Грушаўцы быў двухпавярховы, вялікі; на ганку стаялі чатыры вялізныя драўляныя калоны, на версе якіх выводзілася мноства ластавак; з тылу дома па абодвух баках пад вокнамі знаходзіліся галерэі[4]. Дзядзінец быў прасторны з раскідзістай ліпай пасяродку. За домам сярод шпалераў[5] размяшчалася капліца. Фруктовы сад вылучаўся сваёй садавінай, дзе раслі нават фігавыя дрэвы. Пакоі, як памятаю, былі вялікія і халодныя, дзверы добра не зачыняліся і снег часта набіваўся ў сенцы. Вокны былі з маленькімі шыбамі, апраўленымі ў свінец. У гасцінных пакоях віселі партрэты прадзеда і дзеда ў даспехах, а Тадэвуша Рэйтана — у жупане[6] і кунтушы[7]. Вісеў таксама партрэт Касцюшкі і архідыякана Вадзінскага, бо Людвіка Касінская[8], з роду Вадзінскіх, прыгожая брунетка,

[1] Пераклад з польскай мовы выкананы В. Гарбачовай паводле выдання: Z pamiętników Anny z Rejtenów Geryczowej, zmarłej w Paryżu roku 1857 // Dziennik Literacki. № 133–137. Lwów, 1857.

[2] Маёнтак вядомы з XVI ст., спачатку з'яўляўся ўласнасцю Радзівілаў. У XVII ст. каралём Янам III Сабескім маёнтак быў падараваны кракаўскаму рыцару Рэйтану, які вылучыўся ў бітве з туркамі і татарамі пад Венай. Першым уласнікам Грушаўкі быў Міхал Казімір Рэйтан. У 1705 г. маёнтак адпаведна тэстаменту апошняга адыходзіць яго сыну Даменіку, адным з пяці сыноў якога быў Тадэвуш Рэйтан. У 1778 г. Грушаўка пераходзіць ва ўласнасць Станіслава і Антонія Рэйтанаў, братоў Тадэвуша. У гэтым пытанні сярод даследчыкаў існуюць разыходжанні. Мацей Мыцельскі пазначае, што падзел маёнткаў паміж сынамі Даменіка Рэйтана адбыўся ў 1769 г. У 1788 г. пасля смерці Антонія яго спадчынная частка пераходзіць да брата Міхала (бацькі Ганны Герыч). Станіслаў і Антоній не мелі нашчадкаў, і ў 1845 г. Грушаўка перайшла ва ўладанне Даменіка (1783–1851), сына іх брата Міхала. Далей Грушаўка стала ўласнасцю сына Даменіка Стэфана, пасля якога маёнтак перайшоў Юзафу Рэйтану (1857–1910). Апошні не пакінуў нашчадкаў, і маёнтак пасля яго смерці перайшоў дзецям сясцёр Юзафа. Гл.: Федорук А. Т. Старинные усадьбы Берестейщчины. Минск, 2004. С. 20–23, 424–425; Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Przeczypospolitej. T. 2. Województwa nowogródzkie, brzesko-litewskie. Wrocław, 1993. S. 219–220; Mycielski M. Reytan Michał // PSB. T. 31. S. 230–231.

[3] На гэты момант Грушаўка знаходзілася ва ўласнасці Станіслава і Антонія Рэйтанаў.

[4] Сядзіба ў стылі класіцызму была пабудаваная за часам Тадэвуша Рэйтана (1746–1780). Яе выгляд захаваўся на малюнках Напалеона Орды. Гл.: Беларусь у малюнках Напалеона Орды. Другая палова XIX стагоддзя / уклад. А. М. Кулагін, У. А. Герасімовіч. Мінск, 2001. С. 53.

[5] *Шпалеры* — шэраг густа пасаджаных дрэваў ці кустоў, якія ўтвараюць суцэльную сцяну.

[6] *Жупан* — від верхняга мужчынскага шляхецкага аддзення з рукавамі, якое апраналі пад кунтуш. Жупаны шылі даўжэйшымі за кунтуш з каштоўнай тканіны яркіх колераў. Спераду жупан зашпільваўся на шэраг дробных гузікаў.

[7] *Кунтуш* — від верхняга мужчынскага шляхецкага аддзення, якое апраналі на жупан. На Беларусі кунтушы пачынаюць насіць з XVI ст., куды яны трапляюць праз Польшчу з Венгрыі. Кунтушы шылі доўгімі, ніжэй калена, з разрэзанымі рукавамі. Спераду кунтуш зашпільваўся на гаплікі ці гузікі.

[8] *Людвіка Касінская*, у першым шлюбе жонка Юзафа Рэйтана. Пасля яго смерці каля 1800 г. узяла шлюб з ягоным братам Міхалам Рэйтанам, бацькам Ганны Герыч. Гл.: Mycielski M. Reytan Michał // PSB. T. 31. S. 231.

была жонкай Юзафа Рэйтана[9]. Акрамя гэтага, вісела вялікае, у залатой раме, філіграннай работы, вельмі прыгожае люстэрка, і сёння б яшчэ было добрым такое. Яго набылі на аўкцыёне, калі распрадавалася дабро святой памяці князя Караля Радзівіла. На каміне стаялі розныя парцалянавыя вырабы ў адпаведнасці з густам стагоддзя. Тут быў кошык для крыжыка, упрыгожаны вялікімі незабудкамі нябеснага колеру, які выклікаў у мяне захапленне, можа, ад таго, што ніколі не магла да яго дакрануцца, бо камін быў вельмі высокі. А яшчэ там стаялі дзве фігуркі пад шклом, кавалер і паненка, і ўся іх вопратка стракацела ракавінкамі, як сёння гэта часам можна бачыць у крамах старасвеччыны. У другім пакоі віселі карціны, маляваныя алейнымі фарбамі, на міфалагічныя сюжэты: Ікар, які падае ў мора, і г. д. Але самым забаўным быў драўляны абраз, падзелены на некалькі частак, пад кожнай з якіх быў напісаны пэўны сказ. У першай частцы карціны паўставаў чалавек сталага ўзросту з сынам, які вёў асла, і пад гэтым у вершаванай форме было напісана: «Навошта гэты чалавек вядзе асла — і сам на ім не едзе, і сына не пасадзіць».

У другой частцы карціны яны ўжо абодва сядзелі на асле, але зноў было абурэнне: «Што гэта за людзі! Хочуць замучыць беднага асла, ажно ўдваіх на яго, бязлітасныя, уселіся».

У трэцяй частцы яны бяруць асла на плечы. І зноў смех: «Што гэта за дурні, каб несці асла на плячах!»

У чацвёртай частцы паказана, што бацька сядзіць на асле, а сын яго вядзе. Але і гэта не падабаецца людзям, і яны кажуць: «Бацька яшчэ не стары, а сын малалетні, лепей бы сына свайго пасадзіў».

У пятай частцы карціны бацька садзіць сына на асла, а сам ідзе побач, але і гэта дарэмна, бо пачынаецца людское абурэнне, што малодшы павінен пераносіць цяжкасці і саступіць бацьку месца. А пад ўсім гэтым вялікімі літарамі змяшчаўся надпіс:

«Яшчэ не нарадзіўся той,  
хто здольны дагадзіць усім».

Акрамя братоў і сёстраў, якія жылі ў Грушаўцы, былі там яшчэ іншыя асобы, так званыя рэзідэнты[10]. Пераважна гэта былі афіцэры касцюшкаўскага паўстання. Узялі іх з дамоў на парукі. Памятаю паміж іншымі паручніка Яцыну і капітана Нерчынша, быў таксама сярод іх і Грабінскі, той самы, які ў далейшым уступіў у легіён і стаў вядомы дзякуючы свайму прадстаўленню Банапарту з наступнымі словамі: «Vous en Egypte, moi en Egypte. Vous Consul, moi soldat. Vous argent, moi rien»[11].

Пятнаццаць, а часта і дваццаць чалавек сядала за стол. Знаходзіўся сярод рэзідэнтаў таксама доктар-англічанін О'Конар, які зрабіў паслугу нашаму краю адкрыццём у нас торфу, прыдатнага ў якасці паліва. Знаходзіўся тут на ўтрыманні таксама шляхціц Антоній Зарэмба. Ён займаўся інтарэсамі нашай сям'і, бо, як памятаю, быў у гэтым вялікі непарадак. Можна было б шмат распавесці пра гэтага Зарэмбу, але шмат ужо пра яго распушчана чутак не вельмі для яго прыемных, таму не хачу варушыць яго парэшткаў. Міласэрны Бог так адказаў апосталам на іх пытанне: «Хто ж тады атрымае збаўленне, калі так шмат грахоў у людзей?» — «Грахоў шмат, але Божай міласэрнасці яшчэ болей».

---

[9] *Юзаф Рэйтан*, сын Даменіка Рэйтана і Тэрэзы Валадковіч, першы муж Людвікі Касінскай. Падчас падзелу Дамінікам Рэйтанам у 1778 (1769?) г. маёнткаў паміж сынамі, Юзафу яго частка была выплачаная грашыма ў памеры 80 тыс. злотых. Гл.: Федорук А. Т. Старинные усадьбы Берестейщины. С. 23.

[10] *Рэзідэнт* — адпаведнік гэтага слова — «нахлебнік».

[11] *«Vous en Egypte, moi en Egypte. Vous Consul, moi soldat. Vous argent, moi rien»* (франц.) — «Вы ў Егіпце, і я ў Егіпце. Вы — консул, я — салдат. У Вас грошы, а ў мяне — нічога».

На мой погляд, акрамя розных недахопаў, меў ён адну значную станоўчую рысу — заўсёды з вялікай любоўю ўзгадваў пра дзядзьку Тадэвуша. І тым істотна паўплываў на ўмацаванне ў маім сэрцы глыбокай, ніколі незгасальнай пашаны да гэтага вялікага чалавека. Бо вядома, што тое, што нараджаецца ў дзіцячым сэрцы, застаецца ў ім назаўсёды. Ён распавядаў мне, што ў так званай мураванцы[12], значыць у малым дамку ці ў флігелі, захоўваецца Дыярыуш пра пасольскую дзейнасць Тадэвуша Рэйтана і што там запісана дакладна, слова ў слова пра ўсе тагачасныя справы і пра ўсё, што адбывалася на тым сойме[13], а таксама астатнія словы Рэйтана, астатнія, якія нібыта ў тэстаменце запісаныя для будучых нашчадкаў.

Пасля гэтых размоваў з Зарэмбам прайшло некалькі дзесяткаў гадоў, адбылося шмат зменаў, надзей і расчараванняў. Аднойчы звярнуўся да нас Нямцэвіч[14] з просьбай пазнаёміцца з Дыярыушам Тадэвуша, а таксама для азнаямлення з падрабязнасцямі жыцця Рэйтана, што было звязанае з праектам выдання жыццяпісаў знакамітых палякаў. Але існавала ў гэтай справе вялікая перашкода, і была яна ў наступным. На гэты час быў жывы яшчэ малодшы брат Тадэвуша, Станіслаў Рэйтан[15], і як спадчынніку яму належалі ўсе паперы, якія былі складзеныя ў згаданай мураванцы і знаходзіліся выключна пад яго даглядам. Ён там спаў, праводзіў шмат часу, паліў тытунь, штодзень праглядаў і вывучаў сямейны архіў[16]. Наколькі я памятаю, не было там аніякага парадку, усе паперы ляжалі ў кучы ў беспарадку, але барані божа было дакрануцца да іх! І хоць быў ён па характары ветлівым і вясёлым чалавекам, на жаданне, каб штосьці з тых папераў дастаць, прачытаць, паглядзець, адразу бег па дзядзьку[17] і не даваў мажлівасці паўтарыць просьбу. Не найлепшым чынам быў успрыняты таксама і зварот Нямцэвіча. Марна было распавядаць дзядзьку пра гэта, бо на ўсе аргументы ён адказваў, што ўсе падзеі, звязаныя з пасольскай справай, павінны быць апісаныя ў тагачасных варшаўскіх газетах.

Нарэшце, пасля працяглых нашых настойванняў і просьбаў, ён пагадзіўся перадаць Дыярыуш, але на ўмовах, што гэта будзе копія, а арыгінал вернецца назад у архіў у Грушаўку. Дыярыуш быў давераны ўнуку Тадэвуша, сыну майго старэйшага брата Казіміра[18]. Як памятаю сёння, я пачала паспешліва чытаць (Дыярыуш. — *В. Г.*), і, наколькі цяпер магу прыгадаць, там было апісана, што калі на сойме[19] было прапанава-

---

[12] Гэта самы стары будынак маёнтка. Існуюць меркаванні, што пабудаваны ён быў яшчэ ў XVII ст. У ім Тадэвуш Рэйтан правёў свае апошнія сем гадоў жыцця. Тут размяшчаліся бібліятэка, архіў, захоўваліся асабістыя рэчы апошняга. Гл.: Федорук А. Т. Старинные усадьбы Берестейщчины. С. 426.

[13] На ўвазе маецца ўдзел Тадэвуша Рэйтана ў гістарычным сойме 1773–1775 гг.

[14] *Юльян Урсын Нямцэвіч* (16.02.1758–21.05.1841), з Брэсцкага павета Гродзенскай губерні, пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч. На падставе матэрыялаў сямейнага архіва Рэйтанаў ён напісаў даследаванне «Жыццё Тадэвуша Рэйтана», якое ўпершыню выйшла ў 1818 г. Гл.: Niemcewicz J. Żywot Tadeusza Reytana // Portrety Wsławionych Polaków. Warszawa, 1818.

[15] *Станіслаў Рэйтан*, малодшы сын Дамініка Рэйтана і Тэрэзы Валадковіч, які ў 1778 (1769?) г. стаў суўладальнікам разам з братам Антоніем маёнтка Грушаўка. Акрамя гэтага, Станіславу дасталіся яшчэ два маёнткі ў Наваградскім павеце, адным з якіх былі Мазуркі. Гл.: Федорук А. Т. Старинные усадьбы Берестейщчины. С. 23.

[16] Архіў загінуў ад разарванага побач снарада ў 1914 г. Гл.: Федорук А. Т. Старинные усадьбы Берестейщчины. С. 427.

[17] За сваім родным братам Антоніем Рэйтанам.

[18] *Казімір Рэйтан* (н. 1778), старэйшы сын Міхала Рэйтана і Ганараты Багдановіч, брат Ганны Герыч. Меў шлюб з Фёклай, у 1802 г. быў маршалкам Слуцкага павета. Гл.: Федорук А. Т. Старинные усадьбы Берестейщчины. С. 23.

[19] Надзвычайны сойм 1773–1775 гг., які адбыўся ў Варшаве 19.04.1773–11.04.1775 і ўзаконіў першы падзел Рэчы Паспалітай.

на падтрымаць вядомы трактат, Тадэвуш Рэйтан, вырываючы маршальскую булаву з рук Адама Панінскага[20], пачаў энергічна даказваць, наколькі ганебным і шкодным будзе гэты ўчынак і што як пасол вольнага народа ніколі гэтага не дазволіць. Такая апазіцыя выклікала вялікі разлад. На працягу трох дзён Пасольская ізба збіралася і разыходзілася безвынікова. Нарэшце кароль Станіслаў Панятоўскі разам з міністрамі і пасламі вырашылі, што, нягледзячы на супраціў, сойм прызнаць як канфедэрацыю, а значыць, скінуць усякую апазіцыю[21].

Выкарыстоўваліся сілы і пагрозы, зала для паседжанняў была акружаная замежнымі войскамі, апанентам пагражалі арыштам і зняволеннем, ператварэннем горада ў папялішча. Усё гэта не спалохала Рэйтана, ён кінуўся на парог, звяртаючыся да паслоў, якія жадалі сысці: «Ніхто з вас не выйдзе, нават калі грудзі мае растопчаце. Звяртаюся да вас голасам паміраючага. Заклінаю вас імем Езуса Хрыста, яго ранамі, яго найсвяцейшай крывёю, пралітаю за нас! Смуткам Маці яго, каралевы нашай! Бараніце Айчыну, нам даверануюю, не дазваляйце яе знішчыць».

Не буду распавядаць пра астатнія хвіліны жыцця Тадэвуша, бо гэта вельмі балюча і перавышае мае сілы, дадам толькі, што гэтая рэйтанаўская апазіцыя была падтрыманая толькі двума літоўскімі пасламі — Корсакам[22] і Багушэвічам[23], якія тры дні без перапынку разам з Рэйтанам сцераглі парог Пасольскай ізбы і да канца трымаліся сваёй веры. Па распараджэнні расійскага пасла Штакельберга[24] Панінскі прыслаў Рэйтану загад, каб той пакінуў Варшаву з сумай у 2000 дукатаў, патлумачанай як узнагарода за панесеныя выдаткі за падарожжа і побыт у сталіцы. Тадэвуш, з пагардай адмовіўшыся ад прысланай сумы, вымавіў: «Я ўзяў з сабой з дому 5000 дукатаў, вазьмі іх усе, але перастань быць здраднікам! У вашай сіле зрабіць са мной усё, што вам спадабаецца, але паведамі свайму пану, што няма на свеце ні такога багацця, дзеля якога мяне магчыма было б перакупіць, ні такога моцнага ўладара, які мог бы прыстрашыць Рэйтана».

Калі вяртаюся да Дыярыуша, у мяне ўзнікае досыць смутны ўспамін. Як узгадвала, перапісаць Дыярыуш павінен быў унук па імі Генрык[25], а пасля гэтага выслаць копію Нямцэвічу, а арыгінал вярнуць дзядзьку. Праз некалькі дзён звяртаюся да Генрыка, бо маёнтак яшчэ не быў падзелены і мы жылі там разам:

— Ці перапісаў ты ўжо?

— Так.

---

[20] *Адам Панінскі*, кухмістр каронны, адзін з двух маршалкаў, якія кіравалі на сойме 1773–1775 гг.

[21] Пасля абвяшчэння сойма канфедэрацыяй 14.05.1773 была абраная дэлегацыя, якая 21.08.1773 падпісала дамову з Аўстрыяй, 1.09.1773 — з Расіяй, 18.09.1773 — з Прусіяй, адпаведна з якімі Рэч Паспалітая добраахвотна адмаўлялася ад анексаваных тэрыторый і ўсіх прэтэнзій на іх. Гл.: Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя: У 2 т. Т. 2. Мінск, 2006. С. 614.

[22] *Самуэль Корсак* (каля 1745 — пасля 1795), пасол ад Навагародскага павета на сойм 1773–1775 гг., дзе быў зацверджаны першы падзел Рэчы Паспалітай. Напачатку разам з Т. Рэйтанам супрацьстаяў гэтым рашэнням. Пасля таго як Варшаўскі гродскі суд адмовіў ім з Рэйтанам у разглядзе пададзенага туды супраць А. Панінскага маніфеста, пакінуў сойм. Пазней належаў да пракаралеўскай партыі, кіраванай А. Тызенгаўзам. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1794 г., член Найвышэйшай літоўскай рады. Гл.: Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. С. 137.

[23] *Станіслаў Багушэвіч* (1751–1819), пасол ад Менскага ваяводства на сойм 1773–1775 гг., дзе разам з Т. Рэйтанам і С. Корсакам выступаў супраць легалізацыі ўмоваў першага падзелу Рэчы Паспалітай. Гл.: Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. С. 277.

[24] *Ота Магнус фон Штакельберг*, граф, расійскі пасол пры польскім двары ў 1736–1800 гг. У 1772 г. разам з прускім пасол прадставіў Станіславу Аўгусту Панятоўскаму рашэнне аб падзеле Рэчы Паспалітай; кіраваў ходам перамоў па падзеле і дапамагаў каралю ў барацьбе супраць соймавай апазіцыі. У 1790 г. Штакельберг быў адазваны з Польшчы.

[25] *Генрык Рэйтан*, пляменнік Ганны Герыч, сын яе старэйшага брата Казіміра.

— Пакажы мне.
— Глядзі.
Пачала чытаць, а там усе тыя словы, якія з такой моцнай каталіцкай верай былі выказаныя Тадэвушам, гэтае закляцце імем і ранамі Збаўцы і Маці Беззаганнай, усё гэта ён выпусціў, не перапісаў! А я, хоць яшчэ на той момант і не была так моцна прасякнутая гэтай верай, якая сёння, дзякуючы Богу, ёсць усёй маёй сілай і суцяшэннем, абурылася праявай непавагі да сумленнасці і кажу яму:
— Навошта гэтыя словы выпусціў? Калі пан Нямцэвіч прасіў Дыярыуш, то для таго, каб дакладна паўтарыць і праўдзіва аднавіць былыя падзеі.
Бедны Генрык адказаў мне на гэта па-французку, пазней распавяду, з якой нагоды я назвала яго бедным:
— Mais voyez, ma tante, c’est si singulier de mêler dans une action patriotique, politique, Jésus Christ et la Sainte Viérge[26]. — О мой Божа! Ці чуеце вы, маладыя палякі, вы, выгнанцы! Чуеце! І што можна на гэта адказаць?.. Не ведаю, але ў глыбіні сваёй душы ўпэўнена, што толькі той можа плённа працаваць для народа, толькі той, хто разумее і можа здзейсніць найсвяцейшую ахвяру Збаўцы!..
Пасля вядомага трактата адбылося і абмежаванне дзейнасці касцёла. Былі высланыя езуіты з Полацка, быў адабраны калегіум у піяраў і унія, тая унія, якая ўжо самой сваёй назвай расчульвае нашыя сэрцы, сёння гвалтоўна зруйнаваная…
Успамінаючы дзядзьку Станіслава, трэба адзначыць, што быў ён вясёлы і мяккі па характары, гасцінны і вельмі любімы суседзямі. Калі не замыкалі дзвярэй, ён казаў жартаўліва:
— Што праўда, то праўда, дом Рэйтанаў заўсёды адчынены, ніколі дзверы не замыкаюцца.
Пісаў ён прыгожыя і мілыя вершы, але ніколі іх не друкаваў. Можа, яны яшчэ ляжаць дзесьці ў Грушаўцы. Меў ён чулае сэрца, доўгі час кахаў адну жанчыну, з якой ніколі не мог ажаніцца, бо была яна ўжо звязаная з іншым. Некалькі яго вершаў, перакладзеных з французскай мовы, назаўсёды засталіся ў мяне ў памяці:

Ручай дарагі! Упрыгожанне нашай вёскі,
Ёсць шмат падобнага ў нас з табой:
А калі лепей прыгледзецца, нават ва ўсім, на жаль,
Ты шчаслівейшы за нас — ляціш да сваёй мэты…

Хоць быў ён вельмі чуллівы і няшчасны ў сваіх першых пачуццях, захавалася ў яго ў характары гэтая ціхамірная вясёласць, якая робіць прыязным кожнага, нават у састарэлым узросце.
Успамінаю, што заўсёды ў нас жылі некалькі асобаў, якія не належалі да нашай сям’і, якіх называюць рэзідэнтамі. Сярод іх часам знаходзілася Ядвіга Валкоўна, жонка стольніка, кальвіністка. Яна была добрая, шчырая, адкрытая, крыху гультайка, нічога для сябе не магла зрабіць, нават пашыць, але мела прыемныя манеры, яе любілі і дапамагалі ва ўсім, у чым толькі было мажліва, бо той пасаг, які ў яе меўся, яна ўжо праела. Аднойчы папрасіла яна ключ ад асобнага пакоя ў адной старэйшай пані па прозвішчы Бургелюўна і сказала, што хоча пасля абеду там трохі адпачыць. Тая дала ключ і сказала, каб не забылася яго аддаць назад, бо там знаходзіцца аптэчка з сочывамі. Добра, пайшла яна сабе адпачыць, а побач з гэтым пакоем праз сцяну быў пакой дзядзькі. Праз нейкі час я забягаю да Валкоўны і кажу:
— Калі пані адпачыла, то трэба ўжо ўставаць і ісці на каву (звычайна мы пілі каву а чацвёртай гадзіне папаўдні).

[26] *Mais voyez, ma tante, c’est si singulier de mêler dans une action patriotique, politique, Jésus Christ et la Sainte Viérge* (франц.) — Ведаеце, цётухна, гэта так дзіўна змешваць у патрыятычнай, палітычнай справе Езуса Хрыста і Святую Панну.

Яна паволі сабе ўстала, а тым часам я заўважаю, што ў аптэчцы шафа з сочывамі замкнёна не на ключ, а толькі відэльцам клямка закладзена. Ага! Кажу я ёй, давай пагледзім, што там ёсць. Яна ж нічога ў гэтым не западозрыла. Паспрабаваўшы ўсяго, што там было, зноў зачынілі мы відэльцам шафу і пайшлі на каву, падрыхтоўка якой лічылася абавязкам той самай Бургелюўны. Прыходзіць туды і дзядзька Станіслаў. Садзіцца, бярэ люльку, а была яна вялікая, зробленая з лазы, паліць, а потым пачынае напаўголасу напяваць:

Паслухайце, што зрабіла
Злосных адшчапенцаў сіла (NB. Валкоўна была кальвіністкай)
У чацвер па абедзе
З'елі сочыва ў медзі
То лыжкамі, то пальцамі,
То нажамі, відэльцамі.

Паглядаем мы адна на другую, а дзядзька, скончыўшы, пачынае спяваць тое самае з пачатку, бо праз сцяну ён усё пачуў. І тут толькі паволі ўсё нарэшце пачынае разумець Бургелюўна і гнеўна крычыць:

— Ці гэта так, пані стольнікаўна? Іншы раз не дам ключа.

Тут усе пачынаюць смяяцца, а Валкоўна звяртаецца да дзядзькі:

— Шчыра, шчыра, пан падкаморы, не годна так выдаваць!

Мела яна шмат прывабных якасцяў, гэтая шчырая Валкоўна!

## II

…Быў у маіх паважаных бацькоў карлік па імені餐餐Каролек, аповед пра яго будзе наступны.

На Белай Русі быў і ёсць яшчэ і сёння маёнтак пад назвай Беразова[27]. Межаваў ён з уладаннямі пані Салагубавай, якую называлі княжной на падставе таго, што была ўласніцай значных уладанняў. Расказваў Каролек, як быццам сёння яшчэ яго чую, пра Салагубаў. Шмат было асобаў з такім прозвішчам, нават з падобнымі імёнамі, але не з адной лініі. Гэтыя былі з меншай. Аднак вернемся да餐Каролека.

У вёсцы Беразова ў селяніна нарадзіўся карлік, незвычайна малога росту, якому далі імя Каролек (быў вельмі падобны да Тома Пуса, якога паказвалі ў Парыжы і Лондане некалькі гадоў таму). Але быў ён такі прапарцыйны і прыгожы, што пра гэта паведамілі княжне Салагубавай. А яна ці купіла карліка ў селяніна, ці аддалі яго добраахвотна пад апеку княжны, гэтага не ведаю, бо пра тое размова ніколі не заходзіла. Стаў ён жыць пры двары гэтай пані, якая неўзабаве з усім сваім дваром перабралася ў Варшаву. Там карліка пачалі вучыць, навучыўся ён чытаць, пісаць, лічыць. Адукавалі яго і ў рэлігійным кірунку, бо навучыўся прыслужваць на імшы і г. д. Акрамя гэтага, пані Салагубава загадала навучыць іграць яго на арфе і спяваць. Зрабілі для яго маленькую арфачку, якая падыходзіла яму па росце, і стаў ён надзвычай добра на ёй іграць. Каролек спяваў пад акампанемент танюткім прыгожым галаском, такім танюткім, як ў пяцігадовага дзіцяці.

Але калі ўсё гэта адбывалася на вечарынах княжны Салагубавай у Варшаве, дзе Каролек быў прадметам зацікаўленасці дам і запрошаных гасцей, землі Беразова адышлі

[27] Адпаведна з каралеўскім прывілеем караля Яна ІІ Казіміра ад 22 красавіка 1659 г. Марцін Рэйтан атрымаў у асабістае карыстанне Беразова, размешчанае ў Полацкім ваяводстве, у спадчыну з правам перадачы яго нашчадкам па мужчынскай лініі. Надалей гэты маёнтак перайшоў да яго сына Міхала Казіміра. В 1705 г. па тэстаменце апошняга Беразова адыходзіць да яго сына Дамініка. Па прывілеі караля Аўгуста ІІІ ад 1736 г. яму было дазволена закласці ў вотчынным маёнтку Беразова мястэчка. Змены адбываюцца ў 1778 г. Яшчэ пры жыцці Дамінік праводзіць падзел маёнткаў. Частка Беразова адыходзіць да яго сына Міхала, у 1779 г. ён прадае яе генерал-маёру І. І. Міхельсону. Гл.: Федорук А. Т. Старинные усадьбы Берестейщчины. С. 20–23.

да майго бацькі. Ледзь атрымаў ён гэты маёнтак, як рапартуе яму камісар, што пані Салагубава незаконна забрала падданага з ягоных уладанняў, што зрабіла гэта насуперак існым законам і без ведама ўласніка, а таксама што Каролек, сын беразоўскага селяніна, ёсць аб’ектам бязмежнай любові ўсяго варшаўскага свету.

Бацька, які вучыўся ў піяраў, скончыўшы навукі, атрымаўшы Беразова, накіраваўся ў Варшаву. Даказаўшы, што Каролек належыць яму ў адпаведнасці з інвентаром, забірае яго ў пані Салагубавай. Не ведаю, якім чынам гэта адбылося — ці добраахвотна, ці ў выніку працэсу. Купіўшы ў Варшаве завушніцы з дыяментамі, дужы пярсцёнак, ангельскую карэту і пасадзіўшы ў яе Каролека, прэзентаваў усё гэта разам ён у дзень шлюбу сваёй жонцы. Каролека я памятаю з самага маленства. Ён меў абавязак утрымліваць аптэчку, значыць, пад яго наглядам знаходзіліся розныя салодкія і запраўленыя водкі, канфіцюры, марынады; акрамя гэтага, адказваў за сталовую і касцёльную бялізну, захоўваючы ўсё ў парадку. Адказваў ён таксама за мёд і жоўты воск. З воску рабіў свечкі, а калі чакалі ў госці знакамітых асобаў, тады выступаў Каролек з дзвюма зробленымі ім самім свечкамі, якія ставіў на столік перад канапай. Канапа была такой самай формы, як гэта модна сёння і якая называецца moyen age[28], але дубовая, і непакрытая лакам, і абцягнутая не адамашкай[29], а палатнянай тканінай.

Увечары, калі з’язджаліся госці, гулялі яны за сталамі ў карты, стаўкі былі вельмі высокія. Каролек падаваў новыя, запакаваныя карты і меў з гэтага прыбытак, бо за гэтыя карты дзякуючы яго прыгажосці яму давалі грошы.

Потым, калі гасцям хацелася ўпрыгожыць свой вечар, прыносіў Каролек сваю маленькую арфачку і пачынаў іграць, спяваючы розныя песні. Адна з іх засталася ў мяне ў памяці праз сваю сумную мелодыю.

Спяваў ён пра дзяўчыну, якая прала лён, была закаханая і не магла выканаць матчынага задання. Памятаю, што песня пачыналася наступным чынам:

Дрэнна ідзе праца,
Знікае ахвота,
Рвецца ніць у верацяне…

Праз нейкі час бацька мусіў прадаць Беразова расійскаму генералу пану Міхельсону[30]. І тут паўстае ў памяці годны ўчынак беларускіх сялянаў.

Бацька, на той час яшчэ малады, любіў гуляць у карты, але заўсёды нешчасліва, бо іграў сумленна, з думкамі не пра выйгрыш, а дзеля забавы.

Аднойчы ўвечары бавячыся ў карты з панам Міхельсонам, паведаміў беразоўскім сялянам, што яны маюць ужо іншага гаспадара. Сяляне былі вельмі багатыя, бо іх не прыгняталі. На гэтае паведамленне выбралі яны дэпутатаў і прапанавалі, што збяруць прайграную суму і заплацяць генералу Міхельсону, толькі каб не змянялі гаспадара… Не магу далей працягваць, бо слёзы падаюць на паперу…. Аднак вяртаюся да Каролека.

Калі паўстала пытанне пра продаж Беразова, Каролеку далі права выбару і ён застаўся ў маіх бацькоў. Маці загадала пабудаваць для яго маленькі домік, які называўся хаткай.

[28] *Moyen Age* (франц.) — Сярэднявечча.

[29] *Адамашка* — старажытная назва тканіны, якая выраблялася ў Дамаску; нізкасортная камка, шаўковая тканіна з малюнкам.

[30] *Міхельсон Іван Іванавіч* (1755, Ліфляндыя — 05.08.1807, Бухарэст) — генерал ад кавалерыі (1790), удзельнік Сямігадовай вайны 1756–1763 гг. У 1770–1772 гг. ваяваў у Рэчы Паспалітай супраць канфедэратаў. Вядомы сваімі дзеяннямі супраць паўстання Я. Пугачова, за што атрымаў 1000 душаў у Віцебскай губерні, чын палкоўніка (1774), ордэн Св. Георгія 3-й ступені, залатую шпагу, упрыгожаную дыяментамі. З 1803 г. ваенны губернатар. Гл.: Залесский К. А. Наполеоновские войны 1799–1815: биографический энциклопедический словарь. М., 2003.

Каля дзядзінца над ставам знаходзіўся садочак з кветкамі, які цягнуўся паверх аж да вады, а другі, фруктовы, сад размяшчаўся пад крыніцай і быў пад наглядам Каролека. Любіў ён птушак, але памятаю, што больш любіў лавіць рыбу, малую платву, часам і акунькоў, і казаў мне, што акунькі — разумная рыба, бо не дае сябе лёгка злавіць. Потым гэтую рыбу ён вэндзіў і ў сянях угары падвешваў на кансервы аж да Вялікага посту, бо старанна трымаўся пастоў і іншых касцёльных парадкаў. Лавіў ён таксама даскanaла птушак. Увосень ён збіраў рабіну, якой было шмат у Дактаровічах[31], і гэтую рабіну кансерваваў на зіму разам з галінкамі.

Калі толькі выпадаў першы снег і прыгожым белым палатном высцілаў сад, Каролек закладаў па дрэвах пасткі, і бедныя птушкі траплялі ў іх. А потым прыносіліся і ставіліся на стол перад маці на талерках смажаныя ў масле амялушкі, дразды і г. д.

— Гэта, напэўна, Каролека дзічына? — пыталася маці. А Каролек, седзячы за сваім сталом у буфетным пакоі пры сталовай зале, адказваў:

— Так, пані.

І за гэта атрымоўваў ён прыгожыя падарункі. Улетку і ўвосень збіраў ён грыбы — баравікі, рыжыкі, потым высушваў іх і казаў:

— На Вялікі пост гэта разам з вяндлёнай рыбай будзе цудоўнымі поснымі прысмакамі.

Быў у яго і пярэсты сабака па мянушцы Ламорэк, які цудоўна ператвараўся ў памерлага. Для забавы, калі Каролек быў у добрым настроі, ён выклікаў Ламорка на сярэдзіну пакоя і звяртаўся да яго:

— Здох сабака!

Пасля гэтага сабака выцягваў лапы і ляжаў, як нежывы. А Каролек працягваў каментар:

— Здох сабака! Шкада сабаку! Што гэта быў за сабака!.. Падлятала аса да носа, вуха сабакі. Нічога не адбываецца, здох сабака! Прыляцеў крумкач, пачаў сабаку кляваць — стук, стук. Нічога. Памёр сабака. Нарэшце прыехаў хтосьці і паведаміў штосьці, ужо нават не ведаю менавіта пра што, але раптоўна саскоквае сабака, а ўсе з вялікай радасцю і смехам ускрыкваюць:

— Жывы сабака!

Трэба было мець пачуццё гумару і такога добрага сабаку, каб паказваць такія нумары, бо Ламорэк нікога не слухаў, акрамя свайго пана, і калі хто чужы таксама загадваў яму, каб той здох, ён пачынаў рычаць і паказваў зубы. Усе, пачынаючы ад мяне, яго баяліся і, як памятаю, казалі:

— Які злы гэты Ламорэк.

Мажліва, гэта адбывалася таму, што быў цывілізаваны, а ад таго ганарысты і фанабэрлівы.

Гэтым гісторыя пра Каролека яшчэ не заканчваецца. Быў жывы яшчэ на гэты час Караль Радзівіл, віленскі ваявода, вядомы ўсім дзякуючы свайму выслоўю «пане каханку». Жыў ён у Нясвіжы, жыў раскошна, гучна, як паноўны князь, бо за свой кошт утрымліваў 8000 тысяч вайскоўцаў, а над Нясвіжскай брамай было напісана: «Donus Carolus Radziwiłł»[32]. Брама гэтая і цяпер існаваць павінна. Ёсць там маленькая каплічка, прысвечаная Божай Маці. Быў у князя Караля ў Нясвіжы італьянскі тэатр, балет і розныя іншыя выдумкі. Аднойчы мой бацька сказаў, што італьянскі тэатр каштуе князю Каралю 40 000 злотых штомесяц. І калі аднойчы ўвечары гэтыя акцёры, выступаючы ў нейкай оперы пачалі спяваць у арыі: драбяза, драбяза датычна той сцэны, якую яны

[31] *Дактаровічы* — маёнтак Слуцкага пав.

[32] *Donus Carolus Radziwiłł* (лац.) — пан Караль Радзівіл.

прадстаўлялі, князь Караль у паўдрымоце запытаўся ў майго бацькі: «Пане каханку, а што яны там спяваюць?» «Міласцівы князь, — адказвае бацька, — яны спяваюць драбязу». — «Што? Для іх драбяза, што я плачу ім 40 000 кожны месяц? Выгнаць іх заўтра!» І нараніцу італьянцаў выгналі. Але была ў яго і добрая якасць, кожны, нават найбяднейшы шляхціц, мог падысці да яго. Стол яго быў накрыты для ўсіх. Меў ён таксама і іншыя асаблівасці, якія трэба пакінуць для разгляду гісторыкаў, якія пішуць ці будуць пісаць пра літоўскія падзеі (пазней узгадаю пра пісьменніка Нарбута). Сама ж я паведаю толькі пра тое, што добра ведаю.

Князь Караль быў вялікім польскім патрыётам і не жадаў пагаджацца з умовамі першага трактата. Ён быў згодны страціць некалькі мільёнаў са сваёй уласнасці, чым прысягнуць на адданасць Расіі. Прычым ён валодаў значнай уласнасцю. Вельмі добры, але не прадпрымальны, забяспечваў значную колькасць афіцыялістаў[33] і бедных. Раздаваў фальваркі пад вельмі малы залог ці аддаваў у пажыццёвае карыстанне. Але чым сапраўды ён мог ганарыцца, дык гэта тым, што ва ўсіх сваіх уладаннях ён зменшыў сялянам напалову паншчыну. І да сёння ў іншых уласнікаў сяляне адбываюць паншчыну па шэсць дзён на тыдзень, тады як на радзівілаўскіх землях яна складала толькі тры дні.

Сумна мне было чытаць, што калі пісалі пра князя Караля, то ўзгадвалі толькі яго выслоўе «пане каханку», дый тое неяк насмешліва. А, на мой погляд, яно адлюстроўвае яго добразычлівасць. Жыў ён у сваім павеце нібы сярод сваякоў, кожнаму ён быў патрэбны, і нікому ў гэтым не адмаўляў. І чым болей я апісваю яго ва ўспамінах, тым болей не магу дараваць тым, хто пісаў пра князя Караля і не ўзгадваў пра яго цудоўныя якасці. Да таго ж быў ён сапраўдным рэспубліканцам, нягледзячы на тое што быў князем з князёў. Быў ён нашчадкам чатырох правячых каралёў, знаходзіўся ў сваяцкіх стасунках з нямецкімі ўдзельнымі князямі, а акрамя гэтага, і з царскім домам, аднак, незважаючы на гэта, быў вельмі папулярным. Не трымаўся ён ніякага этыкету, не меў ніякіх прэтэнзій. Хто хацеў, той і падыходзіў да яго стала, еў і піў тое самае, што і ён. Не было ў яго асобнага стала.

Няхай мне цяпер пакажуць чалавека, асабліва нашага ўзросту, каб быў ён больш братэрскім. Была ў яго сястра, княжна Тэафіля[34], якая выбраўшы беднага польскага шляхціца па прозвішчы Мараўскі[35], узяла з ім шлюб. Але, баючыся братняга гневу, зрабіла яна гэта тайна, адмовіўшыся ад выгадных прапаноў, сярод якіх быў і кароль Станіслаў Панятоўскі.

Пасля шлюбу напісала яна да брата з Белай і папрасіла прабачэння за тое, што выйшла за беднага афіцэра, здзейсніўшы гэта насуперак волі брата і апекуна. Князь Караль, атрымаўшы ліст, адразу паслаў за сястрой, дараваў ёй усё, прызначыў вялікі пасаг, падарыў значную суму грошай, забяспечаных на маёнткі Завушша[36], Зарэчча і графства Ішкалдзь з мястэчкам[37].

---

[33] Афіцыяліст — чыноўнік, які займаўся выкананнем у магнацкім двары платнай службы (падскарбій, сакратар, канюшы, гардэробны, падчашы, камердынер і інш.)

[34] Тэафіля Канстанцыя Радзівіл мела два шлюбы. Другім яе мужам быў Ян Развадоўскі, ротмістр кавалерыі літоўскіх войскаў.

[35] На самай справе Ігнацы Мараўскі (1744–1790) быў генералам літоўскіх войскаў.

[36] У XVIII ст. Завушша належала да Нясвіжскай ардынацыі. Княжна Т. К. Радзівіл атрымала гэты маёнтак ад брата Караля Радзівіла ў пажыццёвае карыстанне на шлюб. У 1785 г. Завушша наведаў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, а каля 1818 г. — Аляксандр І. Пры Мараўскіх тут існавала найкаштоўнейшая мастацкая калекцыя, 35 карцінаў з якой было набыта ў Асалінэум. Гл.: Aftanazy R. Dzieje rezydencji… T. 2. S. 412.

[37] *Ішкалдзь* — мястэчка Навагрcraдскага павета.

Гэтую Ішкалдзь трымала я правам заставы васемнаццаць гадоў. Калі мне час і абставіны дазволяць, апішу гэтыя падзеі[38]. Застаўны ліст і інвентар маёнтка, гэтыя два дакументы, знаходзяцца ў мяне на руках у Парыжы[39], а маёнтак тым часам у руках пасэсара, якога нават прозвішча не ведаю. Чаго гвалт не дакажа! Але пра гэта пазней.

Вяртаюся зноў да Каролека. Калі князь Караль быў у Варшаве падчас нейкага сойма, падарожнічала тады княжна Кінгстан, англічанка, удава багатага лорда. Пазнаёміўся з ёй князь Караль і запрасіў у Нясвіж. Калі яна прыбыла, прымалі яе з пашанай, каб ёй найлепей усё спадабалася, запрашалі шмат гасцей. Прыслаў князь Караль запрашэнне і маім бацькам. Маці дрэнна адчувала сябе і засталася дома, а бацька паехаў.

Каб развесяліць княжну прыслалі і за Каролекам, каб прыбыў ён са сваёй арфай. Вечарам ён іграў, спяваў і так спадабаўся княжне Кінгстан, што яна прапанавала бацьку прадаць ёй карліка, паабяцаўшы 1000 дукатаў золатам і 1000 дукатаў у дыяментах, бо, як кажуць, валодала яна непамернай колькасцю гэтых каштоўных камянёў. На гэтую прапанову бацька адказаў, што карлік яму не належыць, а што падараваў яго сваёй жонцы ў дзень шлюбу. Аднак адпаведную прапанову скіравалі і да маёй маці. Маці жаласліва пачала плакаць:

— Як гэта я магу Каролека прадаць?

І не пагадзілася яна. Княжна Кінгстан паехала сабе да Пецярбурга, а Каролек шчасліва вярнуўся ў Дактаровічы, дзе жылі мае бацькі.

Не было мяне ў доме, калі памёр Каролек. Жыла я тады ў маёй цёткі ў Мінску. Аднойчы прыехаў пажылы шляхціц па прозвішчы Бянкоўскі, рэзідэнт, і, ўбачыўшы мяне, сказаў:

— Быў у Дактаровічах, бабулька пані здарова, гуляў з ёй у мар'яж[40].

— А Каролек, — запыталася я, — ці здаровы?

— Каролек памёр ужо некалькі тыдняў таму.

Слёзы навярнуліся ў мяне на вачах. Убачыў гэта стары Бянкоўскі і пашкадаваў ён, што мяне так засмуціў. І сказаў ён, што за некалькі дзён да смерці Каролек паведаміў Бянкоўскаму:

— Праз некалькі дзён я памру, бо снілася мне пані Галабурдзіна нябожчыца (сястра майго бацькі) і запрашала мяне да сябе.

На тое і выйшла, памёр ён праз некалькі дзён пасля гэтага сну.

***

… Але, але! Каханы пан Бергель[41], магу ўзгадаць яшчэ некаторыя падрабязнасці пра Каролека, бо, як ты кажаш, гэтыя мае ўспаміны цябе захапілі і, як упэўніваеш мяне, нават спадабаліся Адаму Міцкевічу. Мяне гэта вельмі падбадзёрыла, што я нават маю намер апісаць розныя прыгоды, якія адбываліся ў нашай каханай Літве.

---

[38] Апісанне гэтых падзей мажліва знайсці ў матэрыялах Польскай бібліятэкі і Музея Адама Міцкевіча ў Парыжы. Другі з пазначаных рукапісаў з'яўляецца варыянтам, падрыхтаваным аўтаркай да друку, што спраўдзіць ёй так і не ўдалося. Гл.: MAM, rkps 1031. Anna z Rejtenów Geritzowa «Urywki z pamiętników». Cz. 3. «Dalszy ciąg wspomnień litewskich. O majątku Iszkoldzi i jak ja tam gospodarowałam»; BPP, rkps 571. Gieryczowa Anna z Rejtenów. «Wspomnienia litewskie. D. 10 novembra r-ku 1850 pisane przy ulicy Rivoli № 23 do druku…». Cz. 1. «Dalszy ciąg wspomnień Litewskich. O Iszkoldzi i jak ja tam gospodarowałam».

[39] Гэтыя дакументы да сёння захоўваюцца ў Парыжы ў архіўных сховішчах. Гл.: BPP, rkps 466. Papiery emigrantów. Geritz (Gierycz) Anna i Edward, s. 487–504.

[40] *Мар'яж* — від картачнай гульні.

[41] Ганна Герыч згадвае Аляксандра Бергеля (21 (11).10.1805–12.07.1891) з Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні, які быў сябрам Адама Міцкевіча і меў дачыненне да абмеркавання яе ўспамінаў па справе іх друкавання. Гл.: MAM, rkps 1031. List Seweryna Goszczyńskiego.

Яшчэ не распавядала я, як апранаўся Каролек. Калі падыходзілі імяніны маёй бабці, якія прыпадалі на 26 чэрвеня, дзень святой Ганны, за некалькі дзён да гэтага Каролек быў заняты справамі, звязанымі з падрыхтоўкай да стала. Раскладваў ён пірагі, але галоўным яго абавязкам лічылася прыгатаванне дэсерту з садавіны. Заўсёды былі яблыкі белыя, цукровыя, якія важылі не меней за паўфунта, а яшчэ былі яблыкі колеру алівак, кісла-салодкія на смак, а таксама яблыкі Рэйтанаўны (так іх называлі), празрыстыя, як бурштын, а салодкія, як цукар. Гэтае дрэва яшчэ павінна існаваць у Дактаровічах, а было яно пасаджанае яшчэ дзедам. Што тычыцца грушаў, то іх не было, раслі яны толькі ў Грушаўцы.

Пасля таго як з'язджаліся госці, а збіралася іх шмат і прыбывалі яны часам на працягу двух-трох дзён, у святочны дзень выходзіў Каролек перад самым абедам з акруглым сярэбраным падносам і, прапануючы гасцям розныя запраўленыя водкі, казаў:

— Гэта настойка з палыні, альбо можа пан жадае з памаранча? А гэта — проста жоўтая, а гэта — белая чыстая цукроўка…

Сам ён быў убраны наступным чынам: меў кунтуш светла-папялістага колеру (бо, калі адбываліся ў доме ўрачыстасці, хадзіў па-польску), жупан быў на ім жоўтага колеру, а падпаясаны быў шаўковым рознакаляровым пасам з залатой ніткай, купленым у Слуцку, бо князь Караль Радзівіл заснаваў мануфактуру па вырабе пярсідскіх паясоў у Слуцку. Гэтыя паясы славіліся на ўсю Літву. Штодзень Каролек хадзіў у сурдуціку[42] цёмнасіняга колеру, у чырвонай, з залатымі гузікамі камізэльцы[43], а дакладней, пазалочанымі, бо гэтыя гузікі дасталіся яму ад амазонкі маёй маці ці атрымаў ён іх у якасці падарунка за свае такія смачныя амялушкі.

Калі святы заканчваліся, а маглі яны цягнуцца і тыдзень, а госці раз'язджаліся, надыходзіла восень, потым надыходзіла зіма з доўгімі вечарамі. Каролек часам прыходзіў у пакой, які называўся паненскі, дзіцячы альбо кавярня, дзе распавядаў байкі, а байкі яго былі вельмі папулярныя, бо сабраў іх, калі жыў пры двары пані Салагубавай. Гэта былі гісторыі пра чарнакніжнікаў, пра чараўніц, пра заклятых каралеўнаў, пра трох сыноў — двух разумных, а трэцяга дурня і г. д. Вось адна з іх, якая запомнілася мне.

Зімняй парой выязджае пан са сваім селянінам у дарогу. Быў гэты пан багатым, падобна, адным у сям'і, але разбэшчаным. Меў ён маці, якая з малых гадоў прыставіла пры ім селяніна для прыслугі. Сама вучыла яго малітве і ўсяму іншаму, што ведала, была не вельмі адукаваная, школу не наведвала, матэматыкі не вучыла, але сэрца яе верай было ахоплена… А гэты сялянскі хлопчык меў добрыя здольнасці і разумеў лепей тыя навукі, якім навучала маці свайго сына, чым той сам, дзеля адукацыі якога рабілі вялікія намаганні. Збіралі тады гэтага паніча ў дарогу, ужо не ведаю — куды. Можа, гэта быў Парыж, а можа, у Пецярбург.

Едуць яны дарогай праз лес, праз вялікае поле. А пачынае ўжо змяркацца. Ідзе дробны снег, засыпае дарогу, цямнее, пачынаецца віхор, воюць агаладалыя ваўкі. Паніч праклінае д'яблаў, а хлопец моліцца…

Пасля доўгай такой язды, калі нават не ведалі, дзе яны знаходзяцца, бо падавалася, што круціліся па крузе, коні стаміліся і адмовіліся ісці далей. У гэты момант убачылі яны святло пасярэдзіне вялікага поля. А потым на гэтым месцы ўбачылі вялікі палац, які ўвесь быў ахоплены святлом. У ім знаходзілася мноства гасцей, экіпажаў, якія расцягнуліся да дзядзінца. Выходзіць з дому гаспадар і незвычайна ветліва пачынае запрашаць паніча ў вялікую прыгожую залу, а хлопца накіроўвае да прыслугі на кухню. У доме паніча сустракае мноства прыгожых паненак, цудоўна ўбраных, з выбеленымі

[42] *Сурдуцік* — кароткае, па фігуры паліто, якое насілі ў XVII—XIX стст.

[43] *Камізэлька* — кароткі жакет без рукавоў і каўнера.

і нарумяненымі тварамі, падобнымі да тых жанчын, якія шпацыруюць па парыжскіх бульварах. У пакоях стаіць дарагая мэбля, сцены абцягнутыя аксамітам і атласам залатога і срэбнага колеру, драпіраваныя карункамі і г. д. Гучна іграе музыка, госці п'юць, шампанскае ліецца ракой, пачынаюцца танцы. Танец гэты быў нейкім асаблівым, можа, канкан, які з'явіўся з гэтых часоў, а потым шырока распаўсюдзіўся на бале Mabile ў Парыжы, а падобна, і ва ўсім свеце… Далей пачалася сытная вячэра. Побач стаялі столікі з ігральнымі картамі, ляжалі кучы золата перад гульцамі, можна было падумаць, што залатыя глыбы прывезены з манетнага двара з Каліфорніі, і ўсё гэта пайшло ў гульню, каб заахвоціць да яе беднага паніча.

Ашчасліўлены паніч нават не ведае, чым захапіцца! Бегае ад адной пані да другой, ад аднаго келішка да другога, ад стала да стала, усё выбірае і каштуе.

Калі ўсё гэта адбывалася, яго хлопец прысеў у закутку вялікай кухні, дзе гатаваліся рознае печыва, пірагі, соусы, прыправы і г. д. Сядзіць і думае. Трэба прачытаць малітву, бо казала пані, што калі паніч не прачытае сам у нейкі дзень малітвы, то трэба за яго памаліцца. Малітва ж за іншых яшчэ больш прыемная Богу, як быццам хтосьці за цябе моліцца. І не звяртаючы ўвагі на тое, што робіцца на кухні, узносіцца хлопец сваімі думкамі да Бога… А ў гэты час уздымаюцца ўсе каструлі, пачынае свісцець вецер у коміне і засыпае попелам усе гэтыя тлустыя каплоны, індыкоў, пірагі.

Усе кухары і кухаркі паварочваюць свае вочы на хлопца, які, скрыжаваўшы рукі, задумліва моліцца. Прыбягае на кухню галоўны повар, потым галоўны наглядальнік, каб убачыць, што робіцца на кухні, а ўслед бяжыць і дакладвае свайму пану. Той, выслухаўшы ўсё, ідзе да паніча і кажа, што ніколі не спадзяваўся, каб за такі цёплы прыём яго слуга мог зрабіць такую буру на кухні і столькі ўсяго сапсаваць.

Паніч, здзівіўшыся на гэтае абурэнне гаспадара і ведаючы, наколькі яго хлопец быў пакорлівы і сціплы па характары, ідзе і пытаецца ў яго, навошта яго абвінавачваюць у шуме і сварцы з прыслугай. У гэты момант хлопец ужо не маліўся, але сядзеў у кутку і думаў, што гэта магло б значыць. Нагадаў паніч свайму хлопцу, каб той супакоіўся, а сам вярнуўся ў залу да забаваў.

Павары зноў вяртаюцца на кухню і зноў пачынаюць займацца вячэрай, ліквідуюць нанесеныя шкоды, гатуюць соусы, прыпраўляюць розныя прысмакі. І хлопец, якога хіліла на сон, таксама супакоіўся і падыходзіць да аднаго кухара і просіць кавалак свечкі. Ставіць яе перад сабой, дастае з кішэні залаты алтарык, каб памаліцца Маці Божай і папрасіць яе дапамагчы шчасліва вярнуцца да дому. Толькі ён паспеў дастаць кніжачку і пацалаваць абразок Святой Божай Маці, як зноў распачалося ўсё ўзрывацца ў кухні і не толькі ў ёй, але шум пачаўся і ў сталовай зале, шампанскае пачало само выліваццa з келішкаў, паны, спалохаўшыся, паўскоквалі на крэслы, хочуць уцячы, але не ведаюць куды. І ўсе накідваюцца гнеўна на паніча:

— Гэта так паніч дзякуе за нашу гасціннасць і свайму слузе дазваляе так шкодзіць нам. Просім, каб вы з'ехалі ад нас!

Узлаваны паніч рушыць на кухню і злосна кідаецца на свайго хлопца, крычыць на яго найгоршымі словамі і дае поўху. Бедны хлопец палохаецца, але адчуваючы сябе невінаватым, ускрыквае:

— У імя Айца і Сына і Духа Святога! Што гэта азначае? Усякі дух Пана Бога хваліць! Я ні ў чым не вінаваты!

І ў гэты момант знікае палац і ўсё астатняе. Сціхае віхор і паказваецца ўзыходнае сонца. А хлопец звяртаецца да пабялелага ад страху паніча:

— Ах, паніч! Давайце лепей вернемся дадому, бо там маці паніча, відаць, за нас вельмі непакоіцца.

## III

*Шчаслівы той, хто не быў смутным сведкам падзей замежнай краіны, а толькі сядзеў за сталом вясёлых і добразычлівых сваякоў у доме сваіх бацькоў і прадзедаў.*

Што гэта была за бабуля ў Дактаровічах?

… Бабуля ад нараджэння была Камаровай, а шлюб узяла з Тадэвушам Багдановічам, старастам кавальскім, кавалерам ордэна Святога Станіслава, пра які ўзгадаю пазней. Не ведаю, што гэта быў за тытул — стараста кавальскі, дастаткова таго, што бабулю заўсёды называлі старасціхай ці маладой гаспадыняй, а для нас, унукаў, яна была бабулькай ці бабуляй, што ёсць больш цывільнай назвай. Бабуля, ад нараджэння Ганна Камар, мела пасаг не меншы за шэсць тысяч тынфаў[44], што ведаю з яе ўласных слоў. Здаецца, што тынф быў такой самай вартасці, як і польскі злоты, але, мажліва, быў трохі меншы. Тым не менш, выходзіла яна за пана са значным пасагам. Пры гэтым амаль столькі ж каштавалі рэчы. Штофы[45], рубранты[46], дываны, футра, капы, ядвабнымі залатымі ніткамі тканыя, былі схаваныя ў вялікім гардэробе паміж дарагімі спадчыннымі рэчамі хатняга ўжытку. Летам гэтыя рэчы вывешваліся на дзядзінцы для прасушкі і дзеля засцерагання ад молі. Традыцыя захавання спадчынных рэчаў існуе і да сёння. І як згадвалася, у доме князёў Л. у Шчоціне захоўваецца ўжо шмат гадоў адна жаночая сукенка, якая была модная ў свой час. Памятаю, што нам вельмі падабалася, калі гэтыя рэчы вывешвалі на сонейка.

Яшчэ ў бабулі на памяць захоўваўся вялікі кітайскі парцалянавы пазалочаны чайнік. На ім былі намаляваныя пагады і хлопцы з зачасанамі валасамі і завязаным пасярод галавы пучком. Калі прыязджалі госці з далёкіх мясцінаў, то паказвала яна гэты чайнік як нешта незвычайнае, і замыкаўся ён служанкай на ключ. Убачыць яго ўдавалася вельмі рэдка, бо не падабалася бабулі, каб ператваралася гэта ў штодзённую з’яву. Ніколі не памятаю, каб у гэтым чайніку заварвалі каву ці гарбату. Яшчэ ў пасагу мела яна тры чырвоныя злотыя (дукаты) з выявай Божай Маці, якія былі загорнутыя ў паперку і захоўваліся ў самым далёкім закутку шуфлядкі ў канторцы. Але гэта не дапамагло, і былі яны скрадзеныя казакамі падчас рабунку 1812 года, пра што распавяду пазней.

Калі я кажу, што бабуля паходзіла з дому Камароў, то гэта значыць, што не тых, якія былі з Валыні, і не тых, якія былі такімі заможнымі і вядомымі ў Парыжы. Гэта былі Камары [47] з Літвы, з Ашмянскага павета Віленскай губерні.

Гэтыя Камары мелі незвычайную генеалогію і паходзілі з правячых князёў… Магу сцвярджаць, што ад японскіх князёў! Смейцеся сабе, колькі пажадаеце. Для падмацавання

[44] *Тынф* — назва срэбнай манеты ў Рэчы Паспалітай, якая ў канцы XVII — XVIII ст. ужывалася ў дачыненні да манет большых за шасціграшовік і меншых за чвэрць талера незалежна ад тыпу выявы. Асобныя катэгорыі тынфа мелі курс адпаведна ўтрыманню металу. Паводле універсала 1761 г. тынф Рэчы Паспалітай 1663–1666 гг. ацэньваўся ў 38 грошай меддзю, а тынф Рэчы Паспалітай 1752–1756 гг., прускі 1755–1756 гг. — у 35 грошай, прускі тынф 1752 г. і пазнейшыя — у 30 грошай. Тынф быў выведзены з абарачэння паводле універсала 1766 г. Гл.: Сінчук І. Тынф // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя: У 2 т. Т. 2. Мінск, 2006. С. 679–680.

[45] Размова можа ісці як пра шкляны посуд, што выкарыстоўваўся для захавання моцных спіртных напояў, і як пра меру вымярэння ёмкасці. Таксама штофам называлі цяжкую шаўковую ці шарсцяную тканіну з тканым малюнкам.

[46] Мажліва, перакручаны выраз Рэмбранта, выкарыстаны аўтаркай успамінаў у значэнні «каштоўныя палотны, мастацкія творы».

[47] *Комары (Камары)* — шляхецкі род уласнага герба Камар. Род вядомы з канца XV ст. У XVI—XVII стст. валодалі маёнткам Жодзішкі Ашмянскага павета.

маёй інфармацыі, што не прыдумала гэтага сама, зацытую цябе, каханая Людвіка К.[48], якая з самым шчырым сумленнем казала мне пра гэта і мела ў сябе ў малой акруглай шкатулцы копію дакумента, выпісанага з архіва Камароў. Было там запісана наступнае: «у выніку войн з татарамі адзін з японскіх князёў дзякуючы пратэкцыі Вялікага княства Літоўскага прыбыў у Польшчу і атрымаў грамадзянства. А паколькі ён называўся *Рамок*, таму, чытаючы наадварот, набыў мянушку *Комар*, і было дадзенае яму шляхецтва з гербам японскіх князёў…» Магчыма, што і гэты чайнік, які так шанавала бабуля, паходзіў ад тых японскіх князёў.

Каханая Людвіка, бяру цябе сведкай, што не прыдумляю гэтага. Калі пачуеш некалі пра тое, а можа, сустрэнемся калісь з табой, то пацвердзіш, што напісала я праўду. Але што тычыцца тваіх вершаў да Апалінарыя, гэта застанецца паміж намі… Хіба сама іх мне накіруеш, у такім выпадку я іх патлумачу і ўстаўлю ў свае ўспаміны. Але выканаю гэта толькі з твайго дазволу.

* * *

Якім быў дзядуся, калі ажаніўся, не ведаю, прыгадваю сабе толькі тое, што меў значны маёнтак Дактаровічы з мястэчкам Раманава[49] і некалькімі вёскамі, а таксама два фальваркі — Боркі і Садземічы.

Пасля смерці дзядулі на застаўную суму гэтых двух маёнткаў купіў мой брат Тадэвуш маёнтак на Палессі Слаўкавічы з вялікай пушчай, але пра тое пазней. Дзядулю вельмі паважалі суседзі і родныя. Быў ён добрым гаспадаром, абора[50] ў яго была адна з найлепшых. Завёз ён галандскіх кароў і займаўся іх размнажэннем і гадоўляй. Ад гэтых кароў выходзілі вельмі прыгожыя цяляты. Таксама для тых кароў былі вельмі добрыя пашы. Але пашы і ў Дактаровічах утрымоўваліся намаганнямі дзядулі.

Як толькі атрымаў (дзядуля. — *В. Г.*) гэты маёнтак, заплаціўшы ўдаве пані Гарайм, якая нават і пяці тысяч з тых земляў сабраць не магла, адразу купіў дваццаць пар валоў, наняў дзвесце парабкаў, пачаў высякаць лес, чарот вырэзваць, балоты асушваць. Такім чынам за нядоўгі час вялікае і ўрадлівае поле засеяў жытам, пшаніцай і ячменем. Высокія лугі прыстасаваў для нарыхтоўкі сена на зіму, а нізкія — пад пашу для кароў і маладняка, бо цялятаў першага года не выпускалі ў поле, толькі паілі іх сыроваткай і прызначалі на кожнага па кварце аўсянай мукі, запраўленай соллю, і па вязанцы сена.

Такі спосаб утрымання жывёлы, верагодна, быў найлепшы і найздаравейшы.

Сабранае жыта перарабляў на водку, ячмень — на піва, бо пабудаваў два вялікія бровары. Не складана гэта было ўсё зрабіць, бо пры бровары дзейнічалі водныя млыны. А пры тым меў доступ у Радзівілаўскую пушчу ў вялікія будынкі. Пшаніцу адпраўляў у Крулявец[51], адкуль прывозілі каву, цукар, віно і спецыі.

Пабудаваў дом з чатырма калонамі, дахоўкай, а не саломай крыты, і было там шаснаццаць пакояў. Заклаў сад фруктовы. Пры гэтым з аднаго боку ад дому былі нібы лясныя нетры, а з другога боку — вялікі стаў, на шмат большы, чым у Англіі. Для таго параўноўваю з Англіяй, бо мне трошкі нагадваў яе стаў Дактаровіцкі.

Улетку падчас спякоты ў нядзелю хадзілі туды на прагулку, каб нацешыцца відам возера, дакладней, става. Але як былі падобныя ангельскія ставы да става ў Дактаровічах! Жылі там бабры і на гэтым ставе мелі свае, падзеленыя на тры паверхі кватэры, зробленыя з дрэва, з вялікіх бярвенняў, спіленых зубамі і так добра пакладзеных, што ва

---

48 Аўтарка згадвае пра Людвіку Касінскую.

49 *Раманава* — мястэчка Слуцкага павета.

50 *Абора* — памяшканне для ўтрымання кароў; кароўнік.

51 *Крулявец* — Кёнігсберг.

ўсіх тое выклікала здзіўленне. Да гэтага месца мажліва было падплыць толькі чоўнам, і толькі рыбакі ведалі, якім чынам можна ўбачыць іх калонію.

Смешна мне стала, калі нядаўна я прыйшла ў аптэку і папрасіла бабровых кропель. З паўгадзіны аптэкар шукаў па даведніках гэтую назву, недакладна разумеючы, чаго я хачу. Нарэшце я запыталася:

— Est ce que vous ne savez pas ce que c'est que le Castor?[52]

— Oui Madame, le castor c'est un amphibie. Cela nous vient de Calcutta. Nous en retirons l'essence c'est trés cher, cela nous vient de trés loin[53].

Не хацела болей займацца тлумачэннем, што не трэба Калькуты, бо і на Літве яны добрыя. Нарэшце, пасля доўгіх пошукаў, знайшоў этыкетку «Teinture de Castor» і даў некалькі дзесяткаў кропляў за некалькі су. Памятаю, што гэтая эсэнцыя, запраўленая спіртам, у аптэчцы Каролека заўсёды была ў вялікай бутэльцы. Але вяртаюся яшчэ да гэтага става.

Як прыгожа выглядала наваколле, калі першыя маразы схоплівалі воды става, а пазней выпадаў снег і ўтвараў, як гаварылася, мураваную дарогу, што па лёдзе мажліва было правозіць нават арматы. Спачатку сяляне выязджалі на яго з санкамі то па дрэвы, то па іншыя рэчы, бо гэтая дарога была значна карацейшая і рабіла значна лягчэйшым транспарт. Цягнулася яна вакол двара і можна было чуць спевы сялянаў. Пачуўшы гэтыя спевы, першымі выбягалі пакаёвыя дзяўчаты і з радасным смехам крычалі:

— Гэта фурманкі едуць з Раманава, напэўна, на кірмаш да Копыля альбо ў лес па дрэвы. О! Ужо зіма сапраўдная, на ставе лёд трывалы.

Потым выбегалі хлопцы і рабілі са снегу дужых снегавікоў, якіх пазней мароз так схопліваў, што стаялі яны, як мармуровыя калоны; а ў другім месцы рабілі каток, затым ігралі ў снежкі, кідаючыся адзін у аднаго кулямі са снегу. Колькі было там смеху, колькі крыку, бо часам снежныя камкі нечакана траплялі за каўнер, а пасля гэтага ўцякалі, каб не дасталося вока за вока. Польскія хлопцы не баяліся зімы, былі трывалыя.

Выкарыстоўвалі першы лёд і для лоўлі рыбы. Прасякалі ў ім палонкі, закідвалі туды невад і даставалі мноства шчупакоў, акунёў і лінёў.

А як добра было выехаць на гэты стаў малымі санкамі, таму што ісці пехатой было складана, хоць і блізка, бо ногі пачыналі хутка мерзнуць і трэба было бегчы дадому. А санкі былі добра засцеленыя, з добрым мехам пад нагамі, было гэта зручна і санкамі карысталіся з вялікай радасцю.

Ды скажу яшчэ, што калі кінуць вокам на дрэвы, засыпаныя снегам, калі пасля маразоў іней ляжыць на галінках, падаецца, што сонца іскрыцца (бо ў нас пасля Божага Нараджэння сонца добра свеціць амаль па некалькі гадзінаў кожны дзень). Вербы, абсыпаныя снегам, адбіваюцца ад сонечных прамянёў мільёнамі прыгожых зорачак. Ніводны мастак-пейзажыст не адлюстраваў яшчэ гэтага краявіду.

Штогод на Парыжскай выставе малююць зіму, але яна нібы парцалянавая. Нават і Орас Вернэ[54], які некалькі гадоў пражыў у Пецярбургу, намаляваў сябе ў санках з трыма коньмі, кіраванымі фурманам, з вялікай барадой, які хутка ехаў па возеры Ладага, але сам Вернэ, заматаны ў каптур, у нацыянальнай рускай шапцы, нічога не бачыць, толькі перадаў (мастак. — *В. Г.*), як адчувае ён суровы мароз Пецярбурга. Распавядаюць, што калі цар Мікалай выпраўляў Вернэ ў Пецярбург, каб ён намаляваў перамогу пад Варшавай,

---

52 *Est ce que vous ne savez pas ce que c'est que le Castor?* (франц.) — Ці вы не ведаеце, хто такі бабёр?

53 *Oui Madame, le castor c'est un amphibie. Cela nous vient de Calcutta. Nous en retirons l'essence c'est trés cher, cela nous vient de trés loin* (франц.) — Ведаю, мадам, бабёр — гэта земнаводнае. Іх прывозяць да нас з Калькуты. Мы здабываем з іх эсэнцыю, а з прычыны таго, што дастаўляюць нам іх здалёк, гэта вельмі дорага каштуе.

54 *Орас Вернэ* (1789–1863) — французскі мастак, які маляваў у парадным гістарычным жанры.

запытаўся ў Вернэ, ці жадае той выканаць гэты заказ: «Ведаю, што вы француз і паходзіце з ліберальнай краіны, можа, не маеце ахвоты маляваць гэтую перамогу?» Вернэ нібыта адказаў яму: «Дык не першы раз давядзецца мне маляваць Хрыста ўкрыжаванага».

Бліжэй да вясны, калі лёд раставаў, змяняўся выгляд става. Пачыналі выплываць выспачкі, сфармаваныя з высокага трысця з белымі пушыстымі хвастамі, а паміж імі досыць дужыя альшыны. Гэтыя альшыны былі ўлюбёным месцам салаўёў, там рабілі яны свае гнёзды, а ў маі цэлымі харамі распачыналі свае такія мілыя і прыемныя спевы. Ад сёмай гадзіны ўвечары і ўсю ноч, спаборнічаючы адзін з другім, і аж да адзінаццатай гадзіны раніцы ліліся іх галасы. Ужо не буду ніколі чуць гэтых спеваў! Але, каханыя мае салаўі, як удзячна я вам за тое, што ў маім дзяцінстве рабілі вы больш прыемнымі першыя хвіліны майго жыцця, і ў якасці ўдзячнасці прыміце гэтыя мае ўспаміны!.. І хто ведае, ці ўбачымся мы яшчэ? О! Якое таямнічае наша жыццё, і на зямлі, і ў далейшым! Не! Не тут наш канец… Не! Тут мне прыходзіць на памяць фрагмент з успамінаў Шатабрыяна[55], які пісаў наступным чынам: «Тут заўважаю я напрыканцы дарогі крыж. Пад гэтым крыжам, які ўзнёсся паміж дрэвамі, ляжала некалі апалых ліісткоў, якія зваліліся пад ногі Збаўцы распятага. А быў гэта дзень святога Францішка Асізскага[56], таго святога, які заклікаў паганскія народы да хрысціянскай веры. Сам, апрануўшыся ў простае адзенне, прымушаў ён людзей з багатага свету быць міласэрнымі да ўбогіх. Ставіў жабрака перад вачыма багача і такім чынам схіляў да братняй любові, Хрыстом нам наканаванай.

Гэты святы меў асаблівую братнюю любоў да ўсяго, што было створанае, над чым, здавалася, праз сваё нявіннае і набожнае жыццё меў дадзеную яму ўладу. Вось як звяртаўся ён да паствы: «Сёстры і браты родныя! Ухваляйце Бога і любіце яго, бо Ён вам даў прыгожыя крылы і гэтую вольнасць палёту ў паветры». Птушкі, а нават і рыбы слухаліся яго, хадзілі за ім. А калі спаткаў ён статкі авец і бараноў, загадаў ім: «Падыдзіце да мяне, браты і сёстры!» І часам выкупаў іх з-пад нажа мясніка, прыгадваючы свайго нявіннага баранка, забітага, замучанага і раскрыжаванага дзеля збаўлення людзей. Конік палявы, празваны Cigale, які меў сваё месца каля фігавага дрэва пры дзвярах св. Францішка ў Порцыне[57], куляй прылятаў да яго на заклік: «Падыдзі, сюды, конік, брат мой улюбёны, узнясі хвалу Богу голасам сваім». Такім самым спосабам прыручыў салаўя, пестуючы яго ў руках, а пасля малітвы бласлаўляў яго і выпускаў у неба. Калі жадаў памаліцца ў лесе ці ў полі, звяртаўся маўклíва да ластавак і іншых птушак, і яны яго голас чулі, як у першыя часы стварэння чулі галасы нявіннага чалавека.

Гэты аповед адхіліў мяне ад далейшых успамінаў пра ўлюбёнага і добрага майго дзядулю. Быў ён увесь заняты гаспадаркай, заклаў борці, якія былі асобна агароджаныя. Налічвалася ў яго болей за сто вулляў. Забылася яшчэ пазначыць, што распачаў ён з таго, што ўсім гаспадарам, якія гэтага патрабавалі, параздаваў вупраж.

Ніколі я не чула, каб сяляне не мелі там хлеба. Праўда, сачылі пільна, каб кожны засеяў сваё поле. І таксама не памятаю, каб скардзіліся яны, што не маюць сродкаў, каб заплаціць падаткі.

Прывезлі і авечак, але падаецца, што палі былі нізкія і вільготныя, таму не доўга іх трымалі. Але трымалі яшчэ прыгожых коней ці статак. Быў, як памятаю, на стайне прыгожы, брудна-сіваваты жарабец, які зваўся Асірыйчык, і другі — увесь белы — Арабчык. Бацька кожны вечар выязджаў на шпацыр на гэтым кані, а пра Арабчыка распавяду

[55] *Франсуа Рэнэ Шатабрыян* (1768–1848) — французскі пісьменнік і палітычны дзеяч, аўтар успамінаў «Замагільныя запіскі», якія выйшлі ў 1848–1850 гг.

[56] *Францішак Асізскі* (1182–1226) — святы, заснавальнік жабрацкага ордэна, назва якога паходзіць ад яго імя.

[57] Ганна Герыч, відавочна, мае на ўвазе капліцу Св. Панны пад назвай Порцыункуле, якую Францішак Асізскі адрамантаваў і каля якой пасяліўся.

пазней, як выйшла ў яго пазбегнуць рабунку казакаў у 1812 годзе. Але вяртаюся зараз да ордэна.

Калі краіна польская ўжо пала, бедны кароль Панятоўскі (на мой погляд, ён бедны і ўвогуле не здраднік) не ведаў, што рабіць сярод нязгоды ў краіне і агрэсіі, пагрозных суседзяў.

Сіла знаходзілася не ў адных толькі руках караля, бо кіравалі Польшчай кароль і Рэч Паспалітая. Панятоўскі жадаў схіліць на свой бок знакамітых шляхціцаў. І на апошнім сойме ў Гародні сярод іншых грамадзянаў узнагародзіў ордэнам (Св. Станіслава. — *В. Г.*) майго бацьку. Але на той час гэты ордэн быў недастаткова вядомы, трапіў ён з Маскоўшчыны (хоць калі Напалеон прыбыў у 1806 годзе ў Варшаву, то вельмі паважаў тых, хто меў гэты ордэн — Станіслава Патоцкага, і г. д.). Бацька падзякаваў каралю і сказаў, што не заслугоўвае гэтага ордэна, але мае старога цесця, вельмі паважанага ў павеце, прычым дасканалага земляроба, які здолеў дзякуючы сваім намаганням зямлю, якая ляжала аблогай, ператварыць ва ўрадлівую. І вось такім чынам добраму дзядулю прыбыў на старасць гэты ордэн.

<Сыпаліся> удары супрацьлеглага боку, які таксама адплочваў у сваіх лістах вока за вока. Паводзіны караля і яго двара выстаўляліся ў найчарнейшым свеце. Так паступова да найвышэйшай ступені павялічвалася напружанне, пакуль сойм не сабраўся ў Варшаве.

Акружэнне, якое было супраць двара, магутна выступала на сойме, і складана было цешыць сябе надзеяй, што мажліва іх чым-небудзь змякчыць.

Шмат паслоў прыбыла ў Варшаву з непараўна большай, чым звычайна, узброенай світай, і маршалак вялікі каронны, абавязкам якога было прызначэнне сенатарам і паслам месца для размяшчэння, быў заклапочаны тым, як іх усіх размясціць. З'явілася шмат нараканняў, што ён толькі асобам з рэгаліямі вызначыў зручныя памяшканні, а астатніх размясціў, як атрымалася.

Ужо перад пачаткам паседжанняў можна было ўбачыць, што для двара сітуацыя будзе складаная, калі ён вырашыць застацца пры сваім. Рэгалісты[58], уражаныя распаўсюджанай народнай нязгодай, прыціхлі, каб не справакаваць большага абурэння і не выступілі нават у сенаце з належнай актыўнасцю, хоць пазнанскі ваявода Астрог смела выступіў супраць нелегальных з'ездаў. Няма сумневу, жадалі яны перачакаць, каб астудзіўся першы запал праціўніка, і дзеля гэтага яны палічылі бессэнсоўным дэманстраваць адкрыты адпор са свайго боку. Калі б хтосьці назіраў за гэтым збоку, мог бы, напэўна, палічыць, што двор і яго прадстаўнікі ўсумніліся ў сваёй перамозе і вырашылі прызнаць больш слушным пажаданне народа; аднак яны памыліліся б — нягледзячы ні на што, было вырашана заставацца пры сваім, нават калі б давялося выкарыстоўваць зброю. А тым часам правалочкамі і іншымі намаганнямі (двор. — *В. Г.*) імкнуўся паслабіць праціўніка.

Пасольская ізба, пільна трымаючыся інструкцый, выдадзеных паслам на сойміках, нягледзячы на намаганні каралеўскага боку, паведаміла, што не можа прыступіць да справаў, пакуль кароль не ліквідуе ўсе грамадскія супярэчнасці, не выправіць праўных памылак і не дапоўніць умоваў, па якіх дакладна прысягаў.

* * *

Дзядуня, на вялікі жаль сваёй жонкі, дачкі, хатніх і ўсіх, хто яго ведаў, памёр, паехаўшы на кантракты ў Мінск. Памятаю, што жалобу па ім насіў увесь двор. Бабка, маці, тры служанкі, пакаёвыя і г. д. У пакаёвых збоку на грудзі былі прычэпленыя банты са стужак рознага колеру з доўгімі канцамі. Не ведаю, што гэта азначала, але добра памятаю, што было гэта менавіта такім чынам.

[58] *Рэгаліст* — асоба высокага стану.

Пакінуў дзядуня сваёй жонцы ў пажыццёвае карыстанне цэлы маёнтак, а таксама капіталы на Язерскім і грошы, што засталіся пасля падзелу Грэкавічаў[59], і не пакінуў па сабе ніякіх пазыкаў.

Штогод бабуля магла мець даход з гэтага маёнтка не меншы чым 60 000 польскіх злотых. Але сама яна, як я памятаю, нічым не кіравала, не нагадвала ні пра што, ні чаплялася ні да чаго; толькі за кароўе малако кожную суботу прыносілі ёй мяшэчак з грошыкамі, якіх не бывала больш за сто. Гэтыя грошыкі яна раздавала: дзесяць кожную суботу давала бабцы з ружанцам, кожны дзень па тры грошыкі вартаўнікам, якія прыносілі ёй дровы для каміна, раз на тыдзень па шэсць грошыкаў камінарам; рэшту раздавала жабракам, якія прыходзілі пад яе вокны, а тое, што заставалася, прайгравала штовечар з ксяндзом пробашчам ці пані рэзідэнткай у мар'яж.

Было штосьці іншае, патрэбнае ёй для жыцця. Між тым мела яна для сваіх патрэбаў экіпаж і шэсць коней, лёкая, хатнюю прыслугу і трох дзяўчынак, якія абавязаны былі кожны дзень чытаць малітвы на ружанцы, хадзіць за ёй, бо часам магла яна ўпасці і трэба было яе пільнаваць, а таксама штодзень ездзіць з ёй на дрожках на шпацыр. Пры гэтым ездзіла яна кожны *аўторак да Борак* — такі сама прыдумала вершык, бо мела пачуццё гумару.

Боркі — гэта фальварак, дзе сям'я эканома чакала яе на абед. Кожную нядзелю ездзіла яна ў Раманава на святую імшу, бо дзядуля памятаў пра касцёл і пабудаваў там драўляны уніяцкі касцёлік. Было дзве рускія царквы, і таму мелася найбольш прычынаў. Для яе адной да самай смерці там служыў капелан.

Служыць імшу ездзіў餐Каролек ці Рубіс, рызнічы, мешчанін з Раманава. Калі пачынаўся Вялікі пост, то яна ўголас кожны дзень чытала Евангелле, напісанае па-славянску.

Засталіся ў мяне ў памяці назаўсёды яе словы, якія пачула, прабягаючы праз яе пакой, калі яна, прасякнутая гарачай верай, выразна чытала:

«Аднойчы ішоў Kleofas[60] з другім вучнем і падышоў да іх падарожнік, які сказаў ім:

— Чаму Вы такія сумныя?..

А сам падарожнік быў падобны да Хрыста ўваскрослага».

О, дарагая памяць!

І такім чынам пражыла яна шмат гадоў, не ведаючы, што робіцца ў свеце. Яе палітыкай былі малітва і міласць, а штодзённай газетай — Евангелле.

Акрамя ўсялякіх пераменаў у краіне яна бараніла (маёмасць. — *В. Г.*) сваім правам пажыццёвага карыстання ад секвестраў, ад канфіскацый, калі браты знаходзіліся за мяжой ці служылі ў войску. З'яўлялася яна найвышэйшай святой сілай нашага дому. Найбольшыя праблемы ў полі, свеце, нязгода паміж сваякамі; там увечары можна было знайсці бабулю, якая сядзела на канапцы каля століка і вязала панчохі з шэрых грубых нітак, а потым раздавала іх паляўнічым, якія прыносілі ёй дзічыну. Дужы агонь з каміна свяціў далёка з акенцаў яе пакоя. Які б не прыязджаў госць, багаты ці бедны, частавалі яго цудоўнай кавай са смачнымі вяршкамі, а ўвечары яны мелі начлег, а коні — корм. Казалі пра яе, што была яна своеасаблівай. Чаму? Таму, што часам спявала сваю любімую песню. У гэтай песні апяваліся цуды Божай Маці, якія славіліся на ўсю Літву, як і Маці Божай Чанстахоўскай, вядомыя і да сёння. Песня пачыналася наступным чынам:

---

59 Верагодна, Ганна Герыч памылілася ў назве і размова ідзе пра Грыцэвічы, вёску, якая належала Рэйтанам. Aftanazy R. Dzieje rezydencji… T. 2. S. 220–221.

60 Ганна Герыч перайначвае на польскі манер грэцкую форму напісання імя Клеопа. Kleopas (грэц.) (Лук. XXIV, 18) — адзін з двух вучняў, якім з'явіўся Госпад пасля свайго ўваскрашэння на шляху ў Емаус.

Жыровіцы,
Ласкі крыніца!
І далей:
І Чарнецы, і Кардэцы,
І смелыя Хадкевічы,
То прызнаюць, што адчуюць,
Божай Маці ахову!..

Калі была яна ў добрым настроі, то спявала, пляскаючы радасна ў далоні, а другія глядзелі на гэта і смяяліся. Сёння я ўжо інакш гляжу на гэта, чым раней. Прыгадваю аднаго з найлепшых псалмістаў, які, праходзячы праз святую арку, пляскаў у далоні, выяўляючы такім чынам радасць збаўлення ад будучага; і разумею, што лепшым будзе радавацца, калі маем ўпэўненасць у дарозе да неба, чым млосна і ненатуральна выводзіць трэлі прыдуманых пачуццяў знясіленага хваробаю сэрца, якое не ведае дзе і чаго жадаць. І нават гэтае пачуццё, выказанае польскімі героямі, якія разам з любоўю да Бацькаўшчыны мелі такую незвычайную веру, што нават у народных песнях адбіваліся рэхам іх надзеі, надаючы чароўнасць гэтай простай паэзіі.

Між тым вяртаюся да таго, што калі (бабуля. — *В. Г.*) увогуле не ведала, што робіцца ў свеце, хто кіруе краінай, якія адбываюцца змены, у гэтай яе невядомасці надышоў 1812 год.

Паспешна праходзіла (па нашай зямлі. — *В. Г.*) расійская армія пад камандай Баграціёна, якую пераследавалі французскія, польскія і іншыя войскі. Адступаючы ці, дакладней, уцякаючы, маскалі разбуралі і спустошвалі ўсё, што маглі. Казакі, адхіляючыся ад галоўнага атрада, нападалі на маёнткі і рабавалі іх, чаго не маглі забраць з сабой — палілі, водкі ў бочках разбівалі і г. д.

Уварвалася аднойчы ў Дактаровічы вялікая зграя гэтых казакаў, а бабуля сядзела на сваёй канапцы; у адной руцэ трымала яна ружанец, а ў другой — кніжку для набажэнства. І такім чынам сустрэла рабаўнікоў казакаў у сваім пакоі. Была яна здзіўленая іх з'яўленнем, але не спалохалася, толькі была шакаваная, што простыя салдаты так фамільярна сябе паводзяць, пачала топаць на іх нагамі і грозна закрычала:

— Што гэта азначае? А ці дазволена вам хадзіць па маіх пакоях? Што скажаце?!

Казакі на гэта адказваюць ёй:

— Ну, матушка! Ты святая! Дай нам хоць што-небудзь на лапікі.

— Нічога не дам! Ідзіце прэч адсюль, вам не дазволена тут хадзіць…

І казакі, кланяючыся, выйшлі. Але не так шчасліва адбылося пры другім спатканні. Пасярэдзіне дзядзінца знаходзіўся компас; бабуля мела звычай падыходзіць да гэтага компаса па некалькі разоў на дзень і прыстасоўвала да гадзінаў, якія ён паказваў, малітвы на ружанцы, так яна рабіла асабліва пасля таго, як быў скрадзены гадзіннік.

Пасля таго як выправіла яна першых казакаў з пакоя, падышла да вакна і ўбачыла, што казацкія коні прывязаныя да яе ўлюбёнага компаса. Бярэ яна свой кій, з якім хадзіла на шпацыр, і кіруе проста на дзядзінец. Падыходзіць да натоўпу казакаў і пачынае дакараць іх за тое, што яны пасмелі прывязаць сваіх коней да компаса. Адныя нават не звярталі ўвагі на тое, што яна казала, а другія глядзелі на яе і не адказвалі нічога. Але потым адзін з казакоў узяўся за слуп і, вывярнуўшы яго, бо быў ён і так ужо трохі пашкоджаны, запытаўся ў яе, з якой нагоды яна так злуецца, няўжо праз кавалак спарахнелага дрэва? Пачуўшы гэта, замахнулася яна на казака сваім кіем і хацела яго ўдарыць. Разгневаныя казакі ледзь не забілі яе. І калі б не хатняя прыслуга і ўнук, які быў тады ў доме, не ведаю, чым бы ўсё гэта скончылася.

Пасля гэтага здарэння хатнія спужаліся і вырашылі, што не трэба бабулю далей пакідаць дома і выправілі яе ў Слуцк. Там жыла пані Рымша, наша блізкая сваячка, якая выйшла замуж ад маіх бацькоў.

Ужо тры дні жыла бабуля ў Слуцку, калі цэлая расійская армія хутка адыходзіла. Але, як толькі бабуля выехала, дом стаў пустым, бо ўсе афіцыялісты паўцякалі ад казакаў у лес, якія пачалі спустошаць пакоі. Тады дасталося і беднай канторцы, у якой парабілі дзідамі дзіры, тады зніклі і тры галандскія дукаты, і кітайскі чайнік, які дастаўся ад японскіх князёў… і балдахін над ложкам бабулі быў увесь разадраны на кавалкі! З чаго змаглі, зрабілі яны для сябе лапікі, усё астатняе, па сваім звычаі, знішчалі і псавалі, як маглі, можа, нават ад злосці, што так мала ім дасталося, бо срэбра, якое было тут раней, вывезлі ў Грушаўку і закапалі ў зямлю. А дзядзька, які яшчэ жыў там, дзедзіч Грушаўкі, папрасіў толькі, каб яму не казалі, у якім месцы хаваюць (рэчы. — *В. Г.*). Там армія не праходзіла і ўсё захавалася.

Зараз распавяду пра Арабчыка. Калі спустошалі ўсё па розных закутках, кінуліся казакі ў стайню, аднак нічога не знайшлі там, акрамя прыгожага белага араба, які праз старасць еў толькі мяккі хлеб. Убачыўшы каня, прыбег адзін з казакаў, асядлаў яго і паспрабаваў з гэтым здабыткам хутчэй далучыцца да сваіх. Паслухаў яго Арабчык, пабег галопам праз досыць вялікі дзядзінец, мінуў гаць, стаў, млын, але калі спатрэбілася выехаць за браму, якая аддзяляла двор ад гасцінца, Арабчык прыпыніўся як ўкапаны і так моцна прымацаваў свае ногі да роднай зямлі, што ніводнага кроку не зрабіў уперад.

Нічым не дапамаглі батагі, бізуны і свіст, мусіў казак ні з чым злезці з каня і даганяць сваю каманду, а Арабчык, пазбавіўшыся свайго непраўдзівага ездака, павярнуў з гасцінца да сваёй улюбёнай стайні і там спакойна праз нейкі час скончыў сваё жыццё ў родным загоне.

Праз тры дні хатняя прыслуга дала знаць, што можна ўжо было вяртацца, бо ўся расійская армія адышла. Вяртаецца бабуля дадому і нічога не можа зразумець, што адбываецца. Пад’язджае яна і зноў бачыць дзядзінец, запоўнены салдатамі, але ўжо не казакамі, а польскімі.

Напярэдадні меў тут начлег князь Юзаф Панятоўскі[61] з усім сваім штабам, і ў тую хвіліну, калі бабуля ўязджала на дзядзінец, выбіраўся ён са сваім штабам у далейшую дарогу на Слуцк, а адтуль — на Мазыр ці Бабруйск, ужо не ведаю дакладна куды, бо дзіўныя рэчы распавядалі пра гэтую нешчаслівую вайну 1812 года. Але зноў вяртаюся да бабулі.

Яна, як толькі выйшла з экіпажу, пайшла ў свой пакой. Але што яна там, небарака, знайшла? Адзін развал! Столікі паламаныя, канторка разбітая, паперы і кніжкі, якія ў яе былі, парваныя на кавалкі і раскіданыя па падлозе і, што самае найгоршае, любімы балдахін з ложка садраны і дарэшты знішчаны! Убачыўшы гэта, а таксама поўны дзядзінец вайскоўцаў, разважаючы па-свойму — дзе сіла, там і перамога, — проста ідзе яна туды, адкуль, як разумее, нанеслі ёй шкоду. Марна было ёй тлумачыць, што гэта князь Панятоўскі, пляменнік нябожчыка караля, — нічога не дапамагло. Яна наблізілася да яго і пачала гаварыць напышліва:

— Ці гэта прыгожа, што князь, як мне сказалі, мой балдахін разарваў на кавалкі і дазволіў сваім казакам мой дом разрабаваць?!

Князь Панятоўскі адказвае ёй са сваёй ветлівай усмешкай:

— Яснавяльможная пані, гэта не мы, гэта не мае салдаты, не палякі, а маскоўскія казакі зрабілі; ідзем зараз за імі, каб адпомсціць за пані.

---

[61] *Юзаф Панятоўскі* (07.05.1763–19.10.1813) — князь, ваенны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Пляменнік караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1812 г. камандаваў 5-м корпусам у напалеонаўскай арміі.

Пасля ўсіх гэтых выпадкаў жыла бабуля яшчэ досыць доўга. Справілі ёй новы балдахін над ложкам, адрамантавалі хатнія рэчы, каштоўнай мэблі, як я распавядала, у яе не было, акрамя ложка і канапы. У пакоі з аднаго боку стаяла дужая печ з кафлі, а з другога — камін, у якім агонь палілі цэлы дзень, побач з ім стаяла вялікая скрыня для дроваў, якія штодзень прыносілі вартаўнікі. Насупраць канапкі паміж двумя вокнамі вісеў абраз Маці Божай Беззаганнай, з аднаго боку ад яе вісеў ружанец, а з другога — залаты гадзіннік (пра які казала, што будзе ён пазней скрадзены). У куце пакоя стаяў столік, пакрыты дыванам ручной работы, яшчэ перад апісанымі падзеямі на гэтым століку ляжалі кнігі для набажэнства, але вокладкі ад штодзённага чытання так пасціраліся, што кожная кніга была перавязаная тасьмой.

Калі пісала, што мела яна экіпаж і шэсць коней на стайне, то толькі для таго, каб пазначыць, што насілі яны тытул: коні яе мосьці старой. Бо калі прыязджаў экіпаж і сядала яна разам з пані Пясецкай і Рагазінскай, і ехалі павольна (бо, нягледзячы на тое што была яна ўжо старой, ездзіць любіла хутка), звярталася яна тады да фурмана:

— Грыцю, чаму ты валочышся, як слімак! Як табе не сорамна, коні нічога не робяць, толькі стаяць на стайне!

— Так, — адказваў сабе пад нос Грыгорый, — вельмі яе мосць ведае, як коні яе мосьці стаяць на стайне. Не прайшло і гадзіны, як вярнуліся мы з Нясвіжа. Не далі аўса з’есці, як пачулі: запрагай, запрагай!

Любіла яна, калі прыязджалі госці, але не любіла, калі яны ад’язджалі. І калі на працягу некалькіх дзён ніхто з гасцей не прыязджаў, прыбіраліся мы з Мар’янай Мержаеўскай, а дзеўкі тады паведамлялі:

— Ваша мосць, афіцэркі з Раманава прыехалі ў госці.

А калі бачыла нас, то звярталася да нас са смехам:

— І добра, што гэтыя афіцэркі прыехалі, будуць гуляць са мной у мар’яж сёння ўвечары.

Калі ўзгадвала яна, што доўгі час кагосьці са сваякоў не бачыла, то пыталася:

— Скажыце, а дзе падзеўся ўнук Станіслаў? А ўнук Дамінік[62]? Калі яны паўміралі, то хоць бы прачытаю за іх малітву, вечная ім памяць.

Смерці яна не баялася. Калі часам, задумаўшыся, сядзела яна, а хто-небудзь са сваякоў ці з прыслугі глядзеў на яе тужлівым позіркам, яна з усмешкай адказвала на гэтае маўклівае пытанне:

— Вось бабка, жыве і жыве!

Да самай сваёй смерці яна хадзіла, ніколі не ляжала. Але аднойчы ўстрывожыліся мы, што ў яе распухлі ногі. Адправілі па доктара. А калі той прыехаў, яна ўжо не магла ўстаць з ложка. Доктар падышоў да бабулі, каб падаць ёй лекі, але яна паволі адхіліла руку доктара і, скіраваўшы вочы і рукі ў неба, вымавіла свае апошнія словы:

— Там мой доктар!..

---

[62] *Дамінік Рэйтан* (1783–1851) — сын Міхала Рэйтана і Ганараты Багдановіч, брат Ганны Герыч, уласнік Грушаўкі з 1845 г., падпалкоўнік.

# ДАМІНІК КВЯТКОЎСКІ І ЯГО «ДУМКІ ПРА ФАРМІРАВАННЕ ЎЗБРОЕНАЙ СІЛЫ»

Ліквідацыя Рэчы Паспалітай і далучэнне Беларусі і Літвы да Расійскай імперыі паклала пачатак новаму этапу ў іх гісторыі. Тым не менш, частка насельніцтва гэтых краінаў, за рэдкім выключэннем шляхецкага паходжання, адмаўлялася змірыцца з гэтым фактам і працягвала змагацца за аднаўленне адзінай для беларусаў, палякаў, літоўцаў, украінцаў і іншых народаў дзяржавы. Як вядома, гэтыя памкненні так і засталіся нерэалізаванымі, удзельнікі нацыянальна-вызваленчага руху пацярпелі паражэнне, а на іх абрынуліся рэпрэсіі, якія з цягам часу толькі ўзмацняліся. Як вынік гэтага атрымала сваё развіццё практычна невядомая дагэтуль з'ява — палітычная эміграцыя з беларуска-літоўскіх зямляў. Яе прадстаўнікамі былі пераважна тыя ўдзельнікі розных выступленняў, якія не мелі магчымасці застацца на радзіме праз асцярогі падпасці пад царскія рэпрэсіі альбо добраахвотна пакідалі родны край, жадаючы працягваць сваю барацьбу за мяжой. Асобнае месца ў гэтым руху займаюць паўстанні 1794, 1830–1831, 1863–1864 гг., якія з'явіліся найбольш яскравымі спробамі вызвалення з-пад расійскага панавання і аднаўлення Рэчы Паспалітай. Паражэнне кожнага з іх прыводзіла да чарговай хвалі эміграцыі іх удзельнікаў.

На працягу 1772–1815 гг. назіралася некалькі хваляў эміграцыі. Усе яны былі непрацяглыя і нешматколькасныя. Хваля эміграцыі пасля паўстання 1830–1831 гг. прынцыпова адрознівалася гэтымі крытэрамі. За межы радзімы з тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай выехала ад 8 да 10 тысяч яго ўдзельнікаў. Сярод іх былі сябры паўстанцкага Нацыянальнага ўрада, дэпутаты на Сейм Каралеўства Польскага, літаратары, буйныя грамадскія і культурныя дзеячы, прадстаўнікі заможных шляхецкіх родаў, кіраўнікі паўстанцкага войска. Імі былі створаныя дзесяткі арганізацый розных кірункаў дзейнасці, дзякуючы ім у свет выйшла больш за сто перыядычных выданняў, вялізная колькасць гістарычных дакументаў, літаратурных твораў і навуковых працаў. Усё гэта стала прычынай, паводле якой гэтая хваля ўвайшла ў гістарыяграфію пад назвай *Вялікая эміграцыя*. Сярод яе прадстаўнікоў былі 1500–1700 нараджэнцаў Беларусі і Літвы [1, с. 53]. Адным з іх быў Дамінік Квяткоўскі.

Пра жыццё і дзейнасць Дамініка Квяткоўскага вядома няшмат. Паводле «Біяграфічнага слоўніка афіцэраў лістападаўскага паўстання», ён нарадзіўся 15 жніўня 1788 г. у Віцебскай губерні і быў сынам Вінцэнта і Марыі [2]. Аднак ён сам у прашэнні, дасланым расійскім уладам у 1832 г., называў сваім месцам нараджэння вёску Цахлевічы Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні [3, арк. 1–4]. Дата яго нараджэння падаецца верагоднай, бо ў тым самым «Біяграфічным слоўніку...» адзначаецца, што 3 лістапада 1806 г. ён паступіў добраахвотнікам у пяхотны полк напалеонаўскага войска, а ў хуткім часе пачаў служыць радавым у войску Княства Варшаўскага. Гэта вызначыла яго далейшую будучыню на некалькі гадоў, бо да 1814 г. ён служыў у напалеонаўскіх войсках, паступова ўздымаючыся па кар'ернай лесвіцы. 2 мая 1807 г. ён атрымаў чын падпаручніка, 10 кастрычніка 1809 г. — паручніка, 28 чэрвеня 1810 г. — капітана, 28 ліпеня 1813 г. —

прыкамандзіраваны пры штабе 2-га кавалерыйскага корпуса, 15 студзеня 1814 г. — прызначаны камандзірам батальёна пры штабе 5-га корпуса, 8 сакавіка 1814 г. — пераведзены ў штаб кавалерыйскага гвардзейскага корпуса генерала Себасцьяні. За свае заслугі 2 красавіка 1814 г. ён быў узнагароджаны ордэнам Ганаровага Легіёна. Пасля паразы Напалеона 2 траўня 1814 г. Кваткоўскі выйшаў у адстаўку ў чыне падпалкоўніка і прыбыў у Польшчу. Тут ён паступіў на службу ў войска Каралеўства Польскага — у чыне маёра ў 1-ы полк пешых стралкоў. З невядомай прычыны 29 ліпеня 1826 г. ён быў пазбаўлены ордэна Ганаровага Легіёна [2]. Верагодна, пасля гэтага ён выйшаў у адстаўку. Вядома, што ў Каралеўстве Польскім Д. Кваткоўскі ажаніўся і ў перыяд перад паўстаннем жыў у маёнтку Прывячэрын Куяўскага абвода Мазавецкага ваяводства разам з жонкай і дзецьмі. Як характарызавалі яго пазней расійскія ўлады, у гэты час ён «быў добрых паводзінаў і жыў спакойна» [3].

Пра ўдзел Кваткоўскага ў паўстанні таксама вядома няшмат. Пасля пачатку выступлення ў Каралеўстве Польскім ён далучыўся да яго і ўзяў удзел у фарміраванні так званага Літоўска-Валынскага легіёна. Гэтая вайсковая адзінка была створаная ў складзе Польскага войска пераважна з нараджэнцаў сённяшніх Беларусі, Літвы і Украіны. Ініцыятыва яе стварэння зыходзіла знізу — ад прадстаўнікоў тэрыторый, якія знаходзіліся ў Каралеўстве Польскім. У якасці камандзіра пешай часткі гэтага легіёна з чынам палкоўніка Кваткоўскі ўдзельнічаў у яе баявым хрышчэнні — у бітве пад Грохавам 25 лютага 1831 г. [4, s. 6, 28]. За свае заслугі ў паўстанні 9 чэрвеня (ці 1 ліпеня) 1831 г. ён быў узнагароджаны Залатым Крыжам [2].

Пасля паразы паўстання Кваткоўскі апынуўся ў Аўстрыйскай імперыі, у мясцовасці Іглаў, адкуль у 1832 г. падаў прашэнне расійскім уладам аб атрыманні даравання і дазволу на вяртанне ў маёнтак Прывячэрын. Спачатку прашэнне было перасланае Гродзенскаму грамадзянскаму губернатару для збору звестак пра яго ў Ваўкавыскім павеце, нараджэнцам якога ён называўся. Аднак, як было данесена ваўкавыскім маршалкам, ніякіх звестак пра Кваткоўскага аб яго дачыненні да Ваўкавыскага павета знойдзена не было. У выніку Гродзенская губернская следчая камісія, якая разглядала справы паўстанцаў па Гродзенскай губерні, прапанавала адаслаць справу Кваткоўскага князю Паскевічу-Ерэванскаму, намесніку Каралеўства Польскага, на той падставе, што ён усё жыццё пражыў і ўдзельнічаў у паўстанні менавіта там. Віленскі генерал-губернатар Даўгарукаў згадзіўся з гэтай прапановай, 22 снежня 1833 г. зацвердзіў яе, і на пачатку 1834 г. справа была перасланая ў Варшаву. Рашэннем Паскевіча Кваткоўскаму ў яго просьбе было адмоўлена на той падставе, што ён «выехаў у Францыю, чым пазбавіўся права карыстацца Усяміласцівейшай амністыяй нароўні з іншымі афіцэрамі былых польскіх войскаў, што вярнуліся своечасова да абавязку падначалення». Разам з гэтым ён абвяшчаўся выгнаннікам з дзяржавы, а яго маёмасць, калі яна мелася, прысуджалася да канфіскацыі ў казну. Гэтае рашэнне лістом ад 19/31 траўня 1834 г. было паведамленае Гродзенскаму грамадзянскаму губернатару. Жонка і дзеці Кваткоўскага засталіся на радзіме [3].

Гэты выпадак не стаў выключэннем у першы час пасля паўстання. Многія актыўныя і шараговыя яго ўдзельнікі, што пасля паразы апынуліся на тэрыторыі Прусіі і Аўстрыі, падалі прашэнні расійскім уладам аб атрыманні амністыі. І многія, таксама як і Кваткоўскі, атрымалі адмовы не з прычыны сваёй прыналежнасці да якіх-небудзь актыўных антыўрадавых дзеянняў, а праз працяглы разгляд іх спраў карнымі органамі. Напрыклад, такі самы лёс напаткаў шмат якіх паўстанцаў з Віленскай губерні, якія пачаткова былі аднесеныя Віленскай губернскай следчай камісіяй (ВГСК) да 3-га разраду

злачынцаў, а значыць, маглі бесперашкодна вярнуцца на радзіму. Аднак праз шматмесячны разгляд іх спраў і ўціск прускага ўрада, не дачакаўшчыся ў Прусіі адказу на свае прашэнні, выехалі ў Францыю. За гэта яны чарговымі рашэннямі ВГСК былі аднесеныя да 2-га разраду злачынцаў як асобы, якія «абцяжарылі сваю віну ўцёкамі» [5]. У выпадку прыбыцця ў межы Расійскай імперыі, яны павінны былі б аддавацца пад суд, а іх маёмасць — канфіскоўвацца.

Не атрымаўшы адказу на сваё прашэнне, а таму не маючы ніякіх гарантый бяспекі, Квяткоўскі з Аўстрыйскай імперыі выехаў на Захад. Спачатку ён апынуўся ў Дрэздэне, які служыў своеасаблівым перавалачным пунктам для былых паўстанцаў, а 29 чэрвеня выехаў адтуль у Парыж. Спачатку планавалася перавесці яго ў калонію ў горад Буржэ, куды накіроўваліся польскія эмігранты, якія ў гэты час прыбывалі ў Францыю, але 27 ліпеня 1832 г. ён атрымаў дазвол пасяліцца ў Парыжы [2]. Як сведчыць яго подпіс на белавіку рукапісу «Думак», прыбыў ён туды не адразу. 19 кастрычніка ён яшчэ знаходзіўся ў гарадку Санс (Sens) дэпартамента Ён (Yonne).

1 кастрычніка 1832 г. Квяткоўскі быў пададзены кандыдатам на ўступленне ў Таварыства літоўскае і рускіх зямель (ТЛРЗ), а 1 лістапада 1832 г. прыняты ў яго склад [6, k. 164, 165; 7, k. 14]. Гэтае таварыства было створанае 10 снежня 1831 г. у Парыжы групай з 10 актыўных удзельнікаў паўстання — нараджэнцаў Беларусі, Літвы і Украіны. Сваімі мэтамі яно паставіла збор матэрыялаў па гісторыі паўстання ў «Літве і рускіх землях», апісанне гэтых краінаў з гістарычнага і статыстычнага пункту гледжання, даследаванне іх насельніцтва. Далёка не ўсё з планаванага ўдалося рэалізаваць. Найбольшай заслугай таварыства лічыцца збор у эміграцыі вялікай мемуарнай спадчыны пра паўстанне 1830–1831 гг. у Беларусі, Літве і Украіне [8, 9, 10]. Рэкамендацыі, неабходныя для ўступлення ў ТЛРЗ, далі Квяткоўскаму Люцыян Калупайла, Станіслаў Ходзька і Яўстах Янушкевіч. Тым не менш удзел Квяткоўскага ў працы ТЛРЗ можна ахарактарызаваць як пасіўны. Першы раз ён з’явіўся на паседжанні ТЛРЗ толькі праз месяц пасля прыёму — 2 снежня. У далейшым ён прыходзіў на паседжанні толькі 5 разоў (2 і 10 снежня 1832 г., 1 лютага, 31 сакавіка і 3 ліпеня 1833 г.), прычым у пратаколах гэтых паседжанняў ні разу не зафіксавана, каб ён выступаў на іх [6, k. 176, 180, 197, 202, 206].

Хоць у пратаколах адсутнічаюць звесткі пра тое, да якога аддзела належаў Квяткоўскі, аднак найбольш верагодным выглядае меркаванне пра яго ўдзел у дзейнасці так званага аддзела навук вайсковых, натуральных і тэхнічных. На думку І. Дамейкі, паводле ініцыятывы якога ў ТЛРЗ і быў уведзены падзел на два аддзелы, да гэтага аддзела павінны былі адносіцца «ваенная навука, матэматыка, навука прыродазнаўства, механіка, аграномія, тэхналогія, архітэктура і да т. п.» [6, k. 146–161]. Багаты вайсковы досвед Квяткоўскага, што выяўляецца ў яго «Думках», пацвярджае тое меркаванне, што ён браў удзел менавіта ў гэтым аддзеле да часу ліквідацыі падзелу 1 сакавіка 1833 г.

У лютым 1833 г. у Парыжы Квяткоўскі падаваў прашэнне аб атрыманні пашпарта для выезду ў Дрэздэн, адкуль ён меў намер вярнуцца на радзіму. Аднак выехаць ён змог толькі ў траўні 1834 г. [2]. Далейшы яго лёс невядомы, але, мяркуючы па тым, што пра яго знаходжанне ў эміграцыі звестак не знойдзена, яму ўдалося прыбыць у Каралеўства Польскае. Несумненна, далейшыя пошукі ў архіўных сховішчах Варшавы і Парыжа дапамогуць праліць святло на невядомыя моманты ў жыцці і дзейнасці Д. Квяткоўскага.

Рукапіс «Думак» захоўваецца ў зборах Польскай бібліятэкі ў Парыжы — установы, якая была створаная яшчэ самімі эмігрантамі ў 1839 г. і дасюль ёсць адным з найбольш багатых сховішчаў рукапісных матэрыялаў польскіх эмігрантаў XIX–XX стст. Ён трапіў

у бібліятэку разам з паперамі Міхала Валовіча (шыфр 537/20) — яшчэ аднаго сябра ТЛРЗ, які пазней удзельнічаў у спробе ўзняць паўстанне на землях былога ВКЛ — так званай экспедыцыі Заліўскага, прыбыў у Слонімскі павет, стварыў невялікі партызанскі атрад, але быў схоплены расійскімі ўладамі і павешаны ў Гродне ў ліпені 1833 г. [11; 12]. Праца напісаная на 10 старонках фармату меншага за А4. Почырк добра чытаецца, якасць паперы добрая, нягледзячы на яе пажоўкласць ад часу. Тэкст напісаны на польскай мове з усімі характэрнымі для таго часу правіламі правапісу: напрыклад, «w całém woysku», «dostatecznéy», «iednego».

Зацікаўленасць падобнай тэмай — сістэмай фарміравання войска — невыпадковая. На працягу ўсяго часу паўстання яго кіраўніцтва сутыкалася з бракам жаўнераў, а колькасная перавага расійскіх войскаў у некалькі разоў была, на думку прадстаўнікоў кансерватыўнага лагера эміграцыі, адной з асноўных прычынаў паразы паўстанцаў. У эміграцыі, дзе асабліва ў першыя яе гады, вяліся гарачыя дыскусіі наконт прычын паразы паўстання і сродкаў, неабходных для ўзнаўлення барацьбы і перамогі, прапаноўвалася вялікая колькасць праектаў, якія, на думку іх аўтараў, павінны былі гэтаму садзейнічаць. Напрыклад, у той жа Польскай бібліятэцы захоўваецца праца згаданага М. Валовіча з умоўнай назвай «Партызанская вайна», дзе ён прапаноўвае шэраг захадаў, якія павінны садзейнічаць разгортванню партызанскага руху на землях былой Рэчы Паспалітай і павышэнню яго эфектыўнасці. На гэтым фоне праца Квяткоўскага выглядае абсалютна заканамернай і лагічнай. Яна, несумненна, заслугоўвае ўвагі з боку даследчыкаў гісторыі грамадска-палітычнага руху і развіцця ваеннай думкі на Беларусі ў XIX ст.

Афармленне працы максімальна набліжана да арыгінала. Усе падкрэсленыя фразы падкрэслены ў арыгінальным тэксце. Заўвагі, зробленыя па тэксце, прастаўлены таксама аўтарам рукапісу.

*Дзмітрый МАТВЕЙЧЫК*

# ДУМКІ ПРА ФАРМІРАВАННЕ ЎЗБРОЕНАЙ СІЛЫ,
## дастатковай у любым выпадку, з найбольшай ашчаднасцю Радзімы і карысцямі індывідуальнымі і агульнымі

У кожнай краіне, якой манарх правіць дэспатычна, войска звычайна бывае фізічным наборам людзей; у краінах вольных альбо якія імкнуцца да вызвалення ад гвалту тыранаў, узброеную сілу павінна складаць найлепшая частка моладзі як у фізічным, так і ў маральным плане.

Падчас вайны кожны жыхар краіны, будучы навучаны муштры і абавязкам жаўнера, маючы дастаткова здароўя і сілы для перанясення невыгодаў і цяжкасцяў лагернага жыцця, павінен узяць зброю ў рукі і стаць на абарону сваёй Айчыны, але ў часе поўнага спакою, каб войска не было цяжарам для краіны, яно не павінна быць большым за 1/200 частку ўсяго насельніцтва. Магчыма спалучыць найважнейшую патрэбу бяспекі краіны з патрэбай аблягчэння для яе жыхароў. За кароткі час, пры самай малой верагоднасці вайны, магчыма павялічыць войска у 2, 3 і 4 разы, і гэта без новага набору і фарміравання новых палкоў, трэба толькі загадзя моладзь, што мае здароўе і сілу, вывучыць добрымі жаўнерамі-грамадзянамі.

### НАБОР У ВОЙСКА

Кожны малады чалавек у сілах і добрым здароўі ад 18 да 30 гадоў жыцця можа быць прызваным на сапраўдную службу. Асобныя пастановы апішуць, як павінен быць наладжаны набор, хто можа і павінен быць ад яго вызвалены.

Нацыянальная ўзброеная сіла павінна складацца з войска, што знаходзіцца пад зброяй, Нацыянальнай гвардыі 1-га класа, Нацыянальнай гвардыі 2-га класа і Ваяводскай гвардыі.

Працягласць часу сапраўднай васковай службы і службы ў кожнай гвардыі вызначаецца па 4 гады так, што навабранец, скончыўшы 4 гады сапраўднай вайсковай службы, пераходзіць у першую Нацыянальную гвардыю, пасля 4 гадоў службы ў ёй пераходзіць у 2-ю Нацыянальную гвардыю, а пасля такога самага часу службы ў 2-м класе будзе належаць 4 гады да Ваяводскай гвардыі[1].

Калі б насельніцтва краіны, што складае 30 000 000, было падзеленае на 40 ваяводстваў ці правінцый з рознымі назвамі, то трэба было б у кожнай такой правінцыі сфарміраваць 2 палкі пяхоты па 1000 чал. і 2 палкі конніцы па 500 чал., а таксама па паўбатарэі Артылерыі, складзенай з 120 чал. з 6 гарматамі[2]. Усёй гэтай узброенай сілай, гэта значыць усімі, што знаходзяцца са зброяй у руках, і Гвардыямі аднаго ваяводства камандаваў бы генерал брыгады, у двух ваяводствах — генерал дывізіі, а ў чатырох — генерал корпуса.

---

[1] Нават калі хто-небудзь з навабранцаў будзе адасланы ў Гвардыю да выслугі названага часу, то ён застанецца ў ёй так доўга, пакуль не скончыць 16 гадоў службы.

[2] Сапёры, пантоннікі, мінёры і рамесныя кампаніі могуць быць сфарміраваныя і знаходзіцца ў некаторых галоўных вайсковых пунктах.

Якім бы ні было павелічэнне войска, колькасць генералаў, а нават і палкоўнікаў[3] засталася б такой самай, і таму як Гвардыі, становячыся са зброяй, павялічвалі б батальёны, эскадроны ці іх колькасць, належачы заўжды да адпаведных карпусоў, брыгадаў і палкоў.

У такім стане рэчаў штогод 1/4 частка жаўнераў кожнага класа войска пераходзіць у іншы ці цалкам выходзіць са службы, у канцы года міністр вайны падае рапарт Ураду, колькі бракуе для поўнага складу ва ўсім войску, столькі навабранцаў на пачатку кожнага года неабходна прызваць на службу. Дзейнае, ці пад зброяй, войска павінна камплектавацца навабранцамі, 1-я Нацыянальная гвардыя — самымі старэйшымі жаўнерамі дзейнай арміі ці тымі, хто таго заслугоўвае; 2-я Нацыянальная гвардыя — гвардзейцамі 1-га класа, а Ваяводская гвардыя — нацыянальнымі гвардзейцамі 2-га класа.

Такім чынам, уся нацыянальная ўзброеная сіла, паводле вышэй апісанага, складала б прыблізна:

| **Войска пад зброяй** | **Пяхота** | **Конніца** | **Артылерыя** | **Гарматы** | **Усяго войска** |
|---|---|---|---|---|---|
| У час поўнага спакою | 83 768 | 42 168 | 4 800 | 240 | 130 736 |
| У час верагоднасці вайны | 167 168 | 83 968 | 9 600 | 480 | 260 736 |
| У час пагрозы вайны | 247 168 | 123 968 | 14 400 | 720 | 485 536 |
| У час пачатку вайны | 327 168 | 163 968 | 19 200 | 960 | 510 336 |

З улікам валавой артылерыі, сапёраў, пантоннікаў і мінёраў нацыянальная ўзброенная сіла, заўжды гатовая да бою, складала б паўмільёна чалавек і да 2000 гармат з улікам валавой артылерыі.

З такой сілай Радзіма не апасалася б любога знешняга ворага, таму што значная колькасць мужчынскага насельніцтва, праходзячы праз усе класы войска і тым самым будучы навучанай вайсковай справе, разам з гарадскімі гвардыямі ў выпадку патрэбы магла б паставіць столькі жаўнераў[4].

[3] З гэтага вынікалі б для краіны асаблівыя карысці:

1° Такі камандуючы адной правінцыяй, знаходзячыся бесперапынна і ведаючы ўсе акалічнасці, што тычацца асобаў, мясцовасці, запасаў і да т. п., адзіны толькі ў стане паставіць гвардыі пад зброяй у найкарацейшы час.

2° У такім стане рэчаў у інтарэсе камандзіраў палкоў было б павялічыць сваю каманду Гвардыямі, а палкавыя запасы, майстры і да т. п. аблегчылі б ім хуткае дасягненне гэтай мэты.

3° У такім выпадку Ураду не трэба было б займацца планам новай фармацыі і падборам неабходных для гэтага асобаў, у чым часта робяцца памылкі, якія прыносяць шмат шкодаў краіне, і заўжды марнуецца час.

4° Таксама не трэба прызначаць новых камандзіраў палкоў і атрадаў, рэдка тыя, што спачатку Ураду прадстаўляюцца, бываюць на сваіх месцах — і калі не з прычыны злых намераў, то амаль заўжды з прычыны няўмення. А калі б і ўсё гэта не мела месца, то заўжды наносяцца крыўды заслужаным і здольным афіцэрам, таму лепей за ўсё перакрыць такім спосабам дарогу для інтрыг тых, што ў выпадку патрэбы прысягаюць Ураду сфарміраваць за свой кошт некаторыя адзінкі войска, каб атрымаць за тое чыны, а калі дасягнуць гэтага, нават не падумаюць пра выкананне ўзятага на сябе абавязку.

[4] Паводле прыведзеных пралікаў, такую вялікую ўзброеную сілу было б магчыма вербаваць праз 16 гадоў сталага спакою. Таму, каб наблізіць гэты момант, трэба ў першых гадах фарміравання такога войска ўзяць на службу столькі чалавек, колькі ўдасца, і, вывучыўшы іх, адразу адаслаць у Гвардыю, войска ж пад зброяй няспынна папаўняць новымі наборамі.

## ЗАНЯТКІ ВОЙСКА Ў ЧАС ПОЎНАГА СПАКОЮ

Кожны вайсковец, каб быць сапраўды карысным жаўнерам-грамадзянінам, павінен умець прынамсі чытаць, пісаць і лічыць, каб пасля выслугі ў войску гадоў, азначаных правам, не быў цяжарам для краіны і меў пэўны спосаб утрымання сябе і сваёй сям'і, павінен валодаць якім-небудзь рамяством.

Калі навабранец не быў навучаны гэтаму, то трэба ў першых гадах яго службы выправіць тое, што ў яго маладосці было занядбанае. З гэтай мэтай у кожнай кампаніі войска, што знаходзіцца на сапраўднай службе, апрача навукі школы жаўнера і ўзвода, навук гарнізоннага, лагернага і дысцыплінарнага парадку, павінны быць заснаваны школы ўзаемнага навучання, чытання, пісання і лічэння пад кіраўніцтвам здольных падафіцэраў і афіцэраў.

З аднаго боку, навабранец не павінен быць перагружаны вучобай, з другога — час яго заняткаў павінен быць так арганізаваны, каб ён ніколі не быў без справы, таму як бяздзейнасць, якая заўжды вядзе да дрэннага, адвучае ад працы, да якой мы ўсеагульна прызвычаіліся. Часта бачым здаровых экс-вайскоўцаў, якія жабруюць на хлеб, бо хоць яны да пачатку вайсковай прафесіі былі працавітыя, але на працягу сваёй службы не мелі іншых заняткаў, апрача пары гадзінаў муштры і варты раз на тыдзень, бавячы рэшту часу ў нуднай бяздзейнасці, у вясёлых баламуцтвах у корчмах. Скончыўшы сваю вайсковую службу, а разам з гэтым адвучыўшыся ад працы, хоць цалкам здаровы, звычайна ён ні за што не бярэцца. Я не бачыў і лічу, што павінен быць рэдкім той феномен, каб сын земляроба, прызвычаены да працы, уласцівай сабе, пасля заканчэння многіх гадоў службы быў працавітым земляробам. Улічваючы патрэбу дабра індывідуальнага вайсковых асобаў і агульнага краіны, павінна быць пастаноўлена, каб жаўнер не быў занятым муштрой больш за дзве гадзіны, школы ўзаемнага навучання і іншыя не павінны таксама займаць у яго часу больш за дзве гадзіны, пакінуўшы яму чатыры гадзіны часу штодзень занятку працай рамяства, якое ён абярэ. Афіцэры ўсіх чыноў гэтым займуцца асабліва, каб была дасягнутая такая важная мэта агульнага дабра. Таму як кожны недасведчаны бачыць, што не толькі:

1° Войска будзе знаходзіцца заўжды ў гатоўнасці і дастатковай сіле, каб бараніць свабоду Радзімы і яе межы, але больш за гэта;

2° Гэтая ж краіна не будзе абцяжараная абавязкам утрымання выслужаных жаўнераў, але насупраць — кожны жаўнер, вярнуўшы сваімі паслугамі належны доўг сваёй Айчыне, будзе яшчэ карысным грамадству як актыўны грамадзянін.

Толькі гэтым спосабам без аніякага напружання магчыма ў кароткі час павялічыць адукаванасць і вытворчасць, а потым запэўніць індывідуальнае асобаў і агульнае краіны шчасце.

Каб не адштурхнуць шмат каго, хто і так ужо наракае на адарванне жаўнера ад уласцівых яго стану заняткаў і на вялікую колькасць аб'ектаў, якім ён павінен прысвяціць сябе, на гэтым месцы апускаецца заўвага, што (паводле прыкладу Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі) значная частка войска, што знаходзіцца пад зброяй, якая ў першых гадах сваёй службы дасягне згаданых намераў, можа (без аніякай асцярогі неўласцівых заняткаў і небяспекі Радзімы) быць ужытая ў час спакою для публічных працаў, як, напрыклад, ачыстка сплаўных рэк, пабудова дарог і мастоў, казармаў, стайні для конніцы, складоў і іншых дзяржаўных пабудоў. З часам мы пераканаемся, што ўсё гэта не толькі магчыма, але павінна і абавязкова, таму як такія працы будуць практычнай часткай навук апісанага плана, якія павінны выкладацца вайсковай моладзі.

## ПЕРШАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ГВАРДЫЯ

Кожны жаўнер, што знаходзіцца на сапраўднай службе, пасля выслугі 4 гадоў пераходзіць са сваім вайсковым адзеннем у 1-ю Нацыянальную гвардыю, там ён атрымоўвае зброю, якую ў парадку і чысціні, як і мундзір, здае на адпаведны вайсковы склад пад нумарам свайго кантролю. Ён перастае, па сутнасці, знаходзіцца на сапраўднай вайсковай службе, але заўжды можа быць да яе прызваным. Ён не можа таксама нікуды аддаліцца з месца свайго жыцця, абранага ў ваяводстве, без ведання вайсковых уладаў. Калі ён хоча выехаць у іншае ваяводства, то толькі вышэйшая вайсковая ўлада можа дазволіць яму, а за межы краіны — сам міністр вайны.

1-я Нацыянальная гвардыя павінна збірацца штогод і практыкавацца ў муштры і манеўрах не менш за 10 дзён і не больш за 20, пасля чаго здае зброю і абмундзіраванне на склады, разыходзіцца па дамах і спакойна займаецца абраным ладам жыцця. Коні для конніцы, артылерыі і абозаў 1-й Нацыянальнай гвардыі паводле справядлівага размеркавання будуць утрымлівацца ў гатоўнасці і ў выпадку патрэбы адразу дастаўляцца жыхарамі ваяводства. Яны могуць быць пазначаны кляйном G. N. I. Такога каня грамадзянін без дазволу вайсковай улады не можа прадаць ці замяніць, аднак можа ўжыць яго для нескладанай працы, а ў кожным выпадку выбыцця, калецтва ці выхаду з азначанага ўзросту замяніць іншым, такім, які будзе прыняты вайсковымі ўладамі.

Коні для 2-й Нацыянальнай і Ваяводскай гвардый таксама будуць пазначаны клейнамі G. N. II. і G. W. Міністры ўнутраных спраў і вайны выдадуць распараджэнні, якія забяспечваюць у гэтым патрэбы краіны і як мага менш абцяжарваюць жыхароў.

Гарматы для артылерыі гвардый павінны знаходзіцца ў гатоўнасці ў арсеналах, асабліва для артылерыі 1-й Нацыянальнай гвардыі, так, каб тая магла выйсці ў поле паводле першага ж загаду.

## II НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ГВАРДЫЯ

Жаўнер, адслужыўшы 4 гады ў I Нацыянальнай гвардыі, будзе належаць да складу II Нацыянальнай гвардыі. Гэтая гвардыя не можа быць прызваная на сапраўдную службу ў час міру, але як толькі I Нацыянальная гвардыя будзе скліканая і стане са зброяй, II Нацыянальная гвардыя адразу павінна быць апранутай у мундзіры і быць гатовай да закліку, для гэтага яна ў такіх выпадках падлягае законам, якімі кіруецца I Нацыянальная гвардыя, але ў час поўнага міру бесперапынна аддаецца свайму ладу жыцця. Грамадзянскія ўлады пасля кансультацый з вайсковымі ўладамі могуць даваць сябрам гэтай гвардыі дазвол на выезд у розныя месцы краіны і ў выпадку жадання за мяжу, аднак без ведама міністра вайны выбыць не могуць.

## ВАЯВОДСКАЯ ГВАРДЫЯ

У працягу службы ўступаючы ў гэтую гвардыю, жаўнер у час міру можа цалкам і без аніякіх перапынкаў аддацца заняткам свайго ладу жыцця, але як толькі II Нацыянальная гвардыя стане са зброяй, Ваяводская гвардыя павінна быць гатовая да прызыву на сапраўдную службу і падлягаць законам, якімі кіруецца I Нацыянальная гвардыя. Зброя для ўсіх гвардый павінна быць на складах ваяводства ў поўным камплекце, таксама як і ўсе лагерныя прыстасаванні, толькі мундзіры павінны быць выдадзеныя загадзя паводле загаду міністра вайны.

## УНУТРАНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ Ў ВОЙСКУ

У кожным палку, асобным батальёне, кампаніі артылерыі, а нават і ў меншых атрадах павінны быць абраныя афіцэрамі і падафіцэрамі Гаспадарчыя рады і Адукацыйныя рады. У кожнай з гэтых радаў будуць прадстаўленыя сябры кожнага чыну без выключэння жаўнераў. Яны павінны быць так абраныя, каб з кожнай кампаніі быў прынамсі адзін. Гаспадарчыя рады будуць асабліва клапаціцца пра тое, каб публічны грош, прызначаны на патрэбы іх аддзелам, не быў патрачаны марна альбо несправядліва прысвоены загадчыкам сродкаў. Адукацыйныя рады будуць займацца паляпшэннем навучання ў адпаведных аддзелах. У абодвух выпадках звычайна старшынстваваць будуць камандуючыя. На сесіях, скліканых ад малодшага чыну да камандуючых штомесяц, Гаспадарчыя рады будуць займацца ўжываннем сродкаў, платнікі, кватэрмайстры, афіцэры, якія займаюцца дастаўкай адзення і ўтрымліваюць гаспадарку, павінны падаваць радзе рахункі і сродкі, а таксама ўсе доказы, якія будуць запатрабаваныя. Такія сесіі могуць мець месца і часцей, калі трое сябраў Рады прызнаюць патрэбу гэтага, і абедзве злучаныя Рады будуць абіраць кандыдатаў на падафіцэраў і афіцэраў да чына капітана ўключна. Ніводзін вайсковец не будзе адчуваць зняважлівага стаўлення і тым больш падвяргацца рукапрыкладству старшых якога б ні было чыну. У выпадку лёгкіх парушэнняў старшы мае права караць арыштам, у выпадку больш цяжкіх — будзе арыштаваны і аддадзены пад суд, а ім можа быць прысуджаны да цяжкага арышту, затрымкі аплаты на пэўны час, цялеснага пакарання і г. д. Несубардынацыя і невыкананне абавязкаў будуць сурова карацца цяжкім арыштам і нават ганебным выгнаннем з войска. Усе пастановы вайсковых судоў будуць праходзіць праз тры інстанцыі, калі абвінавачаны будзе апеляваць і паўсюль яму будзе дазволеная абарона.

Ніхто не можа быць чыноўнікам якога-небудзь роду айчыннай грамадзянскай службы, калі не выслужыць неабходных гадоў у войску і не атрымае станоўчага ва ўсіх адносінах пасведчання з гэтай службы. Калі з важных прычынаў у гэтым могуць быць якія-небудзь выключэнні, то прынамсі пры роўных умовах экс-вайскоўцы павінны мець перавагу.

Корпус ветэранаў не можа існаваць, а інвалідаў — вельмі нешматколькасны, калі толькі такое калецтва будзе мець месца, якое не толькі зарабіць на хлеб не дазволіць, але больш за гэта — не дасць магчымасцяў выконваць ніякіх абавязкаў публічнай службы. Пенсія інвалідаў павінна быць вышэйшая, чым у сапраўднай службе, асабліва для ніжэйшых чыноў. Ніякія пенсіі па гадах не будуць нікому выдавацца, хіба што па волі Сейма.

## АПЛАТА І ХАРЧАВАННЕ ВОЙСКА

Толькі войска, што знаходзіцца пад зброяй, будзе атрымоўваць плату, якая павінна быць прапарцыйная коштам на харчаванне. Урад павінен клапаціцца пра тое, каб вайскоўцы не спазнавалі галечы.

У час поўнага міру, калі які-небудзь полк ці аддзел быў бы ўжытым у працах у крэпасцях ці іншых публічных работах, жаўнер з такога аддзела будзе атрымоўваць толькі 1/3 частку платы, але за гэта ж асобна платнік будзе атрымоўваць у прапорцыі 22 ½ гроша штодзень з той мэтай, каб кожнага ў прыватнасці заахвоціць да працы і працуючым, больш чым іншым, даць магчымасці большага заробку. Афіцэры і падафіцэры, якія атрымоўваюць адпачынак ці дазвол на працу ў прыватных асобаў (што можа быць дазволенае тым, што скончылі 2 гады службы), не маюць права на плату, але толькі

яны самі маюць права распараджацца сваімі даходамі. Афіцэры, адпушчаныя на кароткі час, не страчваюць платы з прычыны значнага кошту іх абмундзіравання, але на час некалькітыднёвага адпачынку не могуць быць платнымі. Гаспадарчыя рады будуць клапаціцца пра тое, каб у першых выпадках публічная казна, а ў другіх — вайскоўцы не былі пакрыўджаныя.

У час вайны як войска, так і гвардыі, ужытыя ў сапраўднай службе, будуць платныя і, апрача гэтага, будуць мець дастаткова харчавання, складзенага з неабходнай колькасці хлеба, мяса ці саланіны, гародніны, солі і гарэлкі ці піва.

Усе пазіцыі харчавання ў час міру будуць закупляцца палкамі ці аддзеламі ва ўласных ваяводствах.

## АДЗЕННЕ ВОЙСКА

Адзенне войска павінна быць зграбным, але зручным і засцерагаць ад холаду. Што тычыцца колераў і крою — абавязкова нацыянальныя. Забеспячэнне гэтага павінна здзяйсняцца па ваяводствах. Ваяводскія рады будуць пры гэтым абараняць правы ваяводстваў, а генералы і Гаспадарчыя рады — публічнай казны і вайсковых індывідуумаў.

Адзенне жаўнера, што знаходзіцца на сапраўднай службе, пасля заканчэння азначаных гадоў становіцца яго ўласнасцю. Аднак ён павінен захоўваць яго, а таксама ўтрымліваць у парадку і чысціні, калі на працягу яго 4 гадоў службы ў І Нацыянальнай гвардыі ў час поўнага міру ніякага не атрымае, таму зборы і муштру ён павінен праходзіць у гэтым.

Адзенне гвардзейцаў нічым не адрозніваецца ад войска, што знаходзіцца пад зброяй, толькі І Нацыянальная гвардыя будзе мець па адным шаўроне, ІІ Нацыянальная гвардыя — па 2, а Ваяводская гвардыя — па тры шаўроны.

## УЗБРАЕННЕ

Пяхота будзе ўзброеная лёгкімі карабінамі з доўгімі і шырокімі штыкамі, якія пры патрэбе маглі бы быць ужытыя як палашы, трэція шарэнгі будуць мець косы, але жаўнер павінен быць добра навучаны ўменню дзейнічаць гэтай зброяй. З гэтай мэтай кожны жаўнер, навучаны дзейнічаць карабінам, павінен вучыцца дзейнічаць касой.

Конніца павінна мець дзіды, палашы і пісталеты, а таксама маленькія карабіны, складзеныя прынамсі за спінай, так, як у пяхоты, каб яна магла ўжываць першую зброю на кані, а другую — будучы пазбаўленай каня ці наўмысна спешанай.

## ДЫСЛАКАЦЫЯ ВОЙСКА Ў ЧАС МІРУ

Дыслакацыя брыгады ў кожным ваяводстве павінна так быць арганізаваная, каб была зручная для жыхароў і вайскоўцаў. Штаб брыгады і артылерыя — у ваяводскім горадзе, штабы палкоў з пэўнымі аддзеламі — у цэнтрах ваяводства і паветаў, батальёны, эскадроны і меншыя аддзелы — у іншых гарадах і мястэчках.

Урад павінен старацца, каб войска мела паўсюль зручныя казармы ў здаровых месцах, якое ён забяспечыць пасцелямі, начыннем, ацяпленнем і святлом.

## АБ АФІЦЭРАХ І ВАЙСКОВЫХ ЧЫНОЎНІКАХ

Каб мець крыніцу, дзе было б магчыма шукаць здольных афіцэраў, трэба, каб апрача звычайных школ, што існуюць у краіне, былі заснаваныя ніжэйшыя школы

ў палках і вышэйшыя вайсковыя ў дастатковай колькасці пры універсітэтах у якасці факультэтаў, а ў прыватнасці — школы артылерыі, інжынераў, школы вышэйшага штаба, а таксама флоту[5]. Час праходжання гэтых курсаў не можа залічвацца да гадоў вайсковай службы.

Ніхто не можа быць афіцэрам ці вайсковым ураднікам, хто не з'яўляецца земляком, хто не скончыць паспяхова патрэбнай вучобы і не дакажа сваёй кваліфікацыі добрымі і прыкладнымі паводзінамі. Толькі тыя будуць пераведзеныя на вышэйшыя пасады, якія, служачы на ніжэйшых, даказалі, што годныя гэтага гонару з прычыны поўнай адпаведнасці, прывязанасці да Айчыны і Яе свабодаў, а таксама адвагі і мужнасці, патрэбных кожнаму вайскоўцу.

Падначаленыя афіцэры будуць мець старшынства ў сваім корпусе, а вышэйшыя афіцэры і генералы — ва ўсім войску, і будуць павышацца праз выбары наступным чынам, пад чым павінна разумецца, што ніхто не будзе прапанаваны на вышэйшую ступень так, каб быў вызвалены ад службы і каб чарговасць не магла яму моцна дапамагчы, калі не будзе абраным. Як вышэй было сказана, да чыну капітана ўключна кандыдатаў абіраюць Гаспадарчыя рады, на чын маёра — капітаны, на падпалкоўнікаў — капітаны і маёры, а на палкоўніка — капітаны, маёры і падпалкоўнікі, на генералаў брыгады — усе штабс-афіцэры, на генералаў дывізіі — палкоўнікі і генералы брыгадаў. У выбарах генералаў вышэйшых ступеняў будуць удзельнічаць усе генералы. Міністр вайны выдасць наконт гэтага асобныя правілы, якія паклалі б канец інтрыгам, не дазволілі б крыўдзіць асобаў, якія не ўмеюць і не хочуць хадайнічаць за сябе, а таксама аблегчылі б паспяховасць выбараў.

З абраных міністр вайны ці старшыня Урада будзе прызначаць тых, што атрымаюць найбольш галасоў. У выпадку роўнасці галасоў будзе павышаны старэйшы на службе. Выбар афіцэраў штаба пакідаецца генералам.

Ніводзін афіцэр не можа жадаць адстаўкі, хіба што пасля 16 гадоў сваёй службы, але яму можа быць дадзеная адстаўка ў любы момант, як таксама і ў любы момант ён можа быць прызваны на службу. У час вайны гэта будзе ганьбай, так, як і дагэтуль было з тым, што будзе жадаць вызвалення ад службы.

Адзенне афіцэраў, што тычыцца крою і колераў, павінна быць тым самым, што і жаўнераў палка, у якім яны служаць, з той розніцай, што з больш цёмнага сукна і аздобленыя адзнакамі чыну.

Жыць яны павінны ў казармах, каб тым лягчэй прасачыць ці выканаць сваю службу.

Я пісаў у Санс у Францыі
дня 19/10 1832 г.
Дамінік Квяткоўскі,
палкоўнік

## СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ І ЛІТАРАТУРЫ

1. *Матвейчык Дз. Ч.* Эміграцыя з беларуска-літоўскіх зямель у Заходняй Еўропе (1831–1863 гг.) // Весці Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. 2007. № 3.

2. *Bielecki R.* Słownik biograficzny oficerów powstania listopadowego. T. 2. Warszawa, 1997. S. 402.

[5] Калі краіна будзе мець у сваім распараджэнні берагі мора, тады павінны быць заснаваны практычныя школы для матросаў.

3. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 4. Воп. 1. Спр. 162.
4. *Hoffman J.* Legia Litewsko-Wołyńska. Równe, 1931.
5. Lietuvos valstybės istorijos archyvas (Літоўскі Дзяржаўны гістарычны архіў). F. 437. Ap. 4. B. 299, 361, 362, 363.
6. Biblioteka Narodowa (далей — BN). Rkps. II.7871.
7. BN. Rkps. II.7872.
8. *Barszczewska A.* Rola Towarzystwa Litewskiego i Ziem Ruskich w popularyzacji wiedzy o Litwie i Białorusi na emigracji (1831–1836) // Zeszyty Naukowe Uniwersitetu Łodzkiego. Seria 1. Z. 53. Łodź, 1967. S. 45–67.
9. *Гарбачова В. В.* Дзейнасць Таварыства літоўскага і рускіх зямель у межах Вялікай эміграцыі ў Францыі // Гістарычны альманах. Т. 11. Гародня — Беласток, 2005. С. 172–188.
10. *Матвєйчик Д.* Створення і діяльність у Франції Товариства литовських і руських земель (1831–1833) // Український історичний збірник (2006) / Вип. 10. К.: Інститут історії України НАН України, 2007. С. 79–87.
11. *Sidorowicz-Czerniewska K.* Sprawa emisariusza Michała Wołłowicza w r. 1833. Grodno, 1934.
12. *Талерчык А.* Лістападаўскае паўстанне 1830 г. і ўдзел у ім Міхала Валовіча // Спадчына. 2000. № 2. С. 58–85.

# ГЕНЕРАЛ И. В. ГУРКО ГЛАЗАМИ СОВРЕМЕННИКОВ (по письмам Е. В. Салиас де Турнемир)[1]

В фондах Тверского государственного объединенного музея хранятся письма русской писательницы второй половины XIX в. Елизаветы Васильевны Салиас де Турнемир (известной под псевдонимом *Евгения Тур*), которые адресованы ее дочери Марии Андреевне, жене Иосифа Владимировича Гурко, чье имение Сахарово находилось неподалеку от Твери. Белорус И. В. Гурко прославился своим участием в русско-турецкой войне 1877–1878 гг. как военачальник, возглавивший два Забалканских перехода, и командир Кавалерийского корпуса, участвовавшего в осаде Плевны. Многие современники высоко оценивали действия генерала Гурко в ходе войны, считая, что благодаря ему был нанесен сокрушительный удар по турецкой армии. Уже при жизни это создало ему репутацию освободителя славян, в чем вполне убеждают и письма Е. В. Салиас.

Эти письма ярко характеризуют И. В. Гурко как человека долга и чести, который не имел привычки раболепствовать перед кем бы то ни было, что препятствовало его карьерному росту. Однако личные достоинства Гурко были столь очевидны, что остановить этот рост было не под силу его недоброжелателям, когда требовались авторитетные администраторы. В январе 1879 г. он был назначен помощником главнокомандующего войсками Петербургского военного округа, а с 7 апреля 1879 г. — временным генерал-губернатором Санкт-Петербурга (по 14 февраля 1880 г.). Спустя несколько лет, в 1882 г., Гурко принял должность временного одесского генерал-губернатора и командующего войсками Одесского военного округа, а с 1883 г. более 10 лет занимал пост варшавского генерал-губернатора и командующего войсками Варшавского военного округа. С 1884 г. состоял также членом Государственного совета, в 1893 г. был произведен в фельдмаршалы.

Публикуемые нами письма и фрагменты из писем Е. В. Салиас относятся к 1877–1879 гг. — особенно сложному периоду в жизни семьи, когда Гурко принимал участие в военных действиях, а затем оказался в должности главы Петербурга. Как можно видеть из писем, это назначение его родные воспринимали как тяжкий крест. Состоялось оно через несколько дней после очередного покушения на жизнь императора: 2 апреля в Александра II стрелял землеволец А. К. Соловьев. «Страшным» назвал 1879 г. М. Е. Салтыков, определив таким образом ситуацию в стране — активизацию деятельности террористических организаций и ответные репрессивные меры со стороны правительства. Начало 1879 г. ознаменовалось целой серией дерзких террористических актов: 9 февраля в Харькове был убит губернатор Д. Н. Кропоткин, 26 февраля в Москве — полицейский агент Н. В. Рейнштейн, 13 марта в Петербурге было совершено покушение на шефа жандармов А. Р. Дрентельна, наконец, 2 апреля прои-

[1] Исследование выполняется при финансовой поддержке РГНФ в рамках научно-исследовательского проекта РГНФ («Центральная Россия: прошлое, настоящее и будущее»), проект № 06–04–57402 а/Ц.

зошло покушение на императора. В подобной ситуации новая должность Гурко вряд ли могла восприниматься как поощрение его боевых заслуг, тем более что ставила его в ложное положение, так как, формально наделенный неограниченными правами, он оказывался в зависимости от действий Третьего отделения[2]. Гурко принял этот пост против своей воли, но из писем Е. В. Салиас мы узнаем, что служить под его началом считали для себя честью люди, искренне заботившиеся о благе отечества.

Письма Е. В. Салиас адресованы в основном дочери, но некоторые из них обращены к ее мужу (по-домашнему именуемому Жозефом) и к их старшему сыну Владимиру (Вале)[3]. Письма печатаются по современным правилам с соблюдением индивидуальных особенностей оригинала[4].

*Евгения СТРОГАНОВА*

---

[2] См.: Феоктистов Е. За кулисами политики и литературы (1848–1896). Воспоминания. М., 1991. С. 356–365.

[3] Владимир Иосифович Гурко (1862–1927), в будущем крупный правительственный чиновник, в 1906 г. товарищ министра внутренних дел, впоследствии член Государственного совета.

[4] Научный архив Тверского государственного объединенного музея (ТГОМ). Ф. 1. Оп. 1. Ед. хр. 77. Св. 9. Письма приводятся с указанием листа в тексте.

# ПИСЬМА Е. В. САЛИАС ДЕ ТУРНЕМИР

В. И. ГУРКО

*9 февраля 1878 г., Москва*

Милый мой друг Валя, только что я послала тебе вчера записочку и Моск.<овские> вед.<омости>, как получила твое с письмами, туда вложенными. Благодарю тебя и целую. Мне было очень радостно опять услышать вести об отце твоем, а то я здесь сижу, отрезанная от вас, конечно же, моим сердцем, которое всегда, друг мой милый, с вами. Мне надо было уехать. Я здесь душевно немного отдыхаю, ибо война меня извела и измучила и сразу сделала меня старухой совсем. Я чувствую, что я хожу, дышу, ем и пью, устаю и устала, как старуха. Только чувствую я еще не по-старушьиному. Мне надо было отдохнуть и физически. Тишина и спокойствие моей квартиры, особенно воздух ее, чрезвычайно чистый, действует на меня успокоительно. Физически моя усталость и надломленность начинает исчезать. Если бы я была богата, то, отдохнув, воротилась бы к вам до совершенного подписания мира. Я, несмотря на воинственность газет, думаю, что войны не будет. Вчера я писала к твоему отцу и отдала письмо гр.<афу> Толстому, который туда уехал. Здесь только вечером я вижу много народу. <…> Все славянофилы без ума от твоего отца. Говорят, что город Серпухов уже подписался для поднесения твоему отцу образ Св. Иосифа. В Москве, говорят, тоже готовят ему овации и всё спрашивают у меня, когда он приедет. Я говорю: «Я не знаю (что и правда). — Да приедет ли он? — Я не знаю. Если он через Москву не проедет, а поедет через Брест, мне будет это крайне прискорбно, но я полагаю, что, по любви его ко мне, он приедет повидаться со мною после войны. Он всегда любил меня и мою сестру[1] и, вероятно, захочет с нами повидаться после таких тяжких дней». Вот что я говорю и иначе говорить не могу, ибо так думаю. Я не могу допустить, чтобы твой отец не желал меня повидать после стольких мучений, слез и тревог. Вчера я заказала ризу на образ Божией матери Троеручицы (рука помощи, иносказательная, мистическая рука), весь в камнях настоящих, только по четырем углам ризы франц.<узские> очень красивые, но не настоящие камни, а композиция. Цена — страх. Продаю издание моих «Катакомб»[2], чтобы из части этих денег заплатить за ризу. Но я хочу, чтобы образ в вашем роду остался. Ты не должен забыть никогда ни моих молитв, ни моих слез об отце твоем, которого я так давно люблю как сына и уважаю как человека. День, в который я увижу его, будет одним из счастливейших в моей очень бедной счастием жизни. <…>

*(Л. 157–158 об.)*

---

1 Речь идет о Евдокии Васильевне Петрово-Солововo.

2 Книга Е. Тур «Катакомбы: Повесть из первых времен христианства». Вероятно, имеется в виду третье издание, вышедшее в 1878 г.

М. А. ГУРКО

*5 мая <1878 г.>, Москва*

Вчера ехал Долгорукий, и я написала два слова карандашом, посылая золотой, оставшийся от отца моего. Всего лучше отдать его в.<еликой> к.<няжне> Е.<катерине> М.<ихайловне> для делания ног механических[3]. Впрочем, все равно, куда хочешь, лишь бы раненым.

Напиши мне что-нибудь. Я даже не знаю, где Жозеф, уехал он или нет. Это письмо я посылаю тебе с верным человеком. Александр Иванович Барановской, брат моего друга Егора Ивановича, русопет первого разбора, мне не симпатичный, но честный человек, передаст это письмо и возьмет твое ко мне. Он пробудет 3 дня в Петерб.<урге>. Ты можешь с ним все мне написать — это не по почте и верный человек, как и что с Жозефом. После его отъезда из Москвы приехало и проехало много генералов и всяких военных, много рассказывали, гораздо больше, чем ты, и, между прочим, что Жозеф в глаза говорил в.<еликому> к.<нязю> такое, что понимается — он у него не в милости. Здесь в Москве стали говорить, что не отнимет никто у Жозефа страницу весьма блестящую русской истории, что как бы в.<еликие> князья не были к нему холодны, всей России, Европе (а один, говоря это мне, прибавил: Китаю, Японии и Индии) имя его известно и что ничья власть не может сгладить этого имени в истории. Вчера я слышала, но и в большом свете, что многие читали рескрипт <1 нрб.> и удивились, а многие возмутились, что сказано: «за план перехода через Балканы». В среднем кругу говорят: «Всем известно, что <1 нрб.> Гурко, зачем же его обижают». Третьего дня я слышала такой вопрос. «Ген.<енерал> Гурко в Петерб.<урге>, что ему дали? — Ничего еще, — сказала я. — Видно, всякого (sic!) надо поплатиться за громкие дела немилостью двора. Это в порядке, не он первый, не он последний. — Но он не в немилости. Император был весьма благосклонен к нему в главной квартире, я думаю, и теперь он не мог навлечь ничем на себя его неудовольствия. — Это странно, что ему ничего не дали, а Лориса-Меликова графом сделали[4]. Посмотрим, что будет после кампании».

Вот разговоры, мне сказанные или доходившие до меня отовсюду из других кругов. «Он сделал детям славное имя». «Им была ведена кампания». «Он прославил русское оружие». «Он повернул дело и переходом через Балканы завершил блеск прежних своих побед». Вот фразы, которые я слышу. Это мне пишут из провинции, говорят в кругах, где живут Лохвицкий[5] и другие, рассказывал мне Е. И. Барановской, который ведет дела и видит и купцов, и чиновников, и помещиков, и всякий люд. Я, разумеется, никому ничего не говорю — да и трудно было бы говорить: я ничего не знаю в самом деле. Я знаю только, что распускают слух, что он солдат не жалеет, но в Москве, где его солдаты еще лежат в больницах, распространяют иные слухи. Солдаты все его любят и говорят, что ген.<ерал> Гурко распекал их начальников, когда их дурно кормили. В Москве слухи против Гурко (которые не приняты были, однако) распространяли преображенцы. Это его первые враги. Я тебе написала все, что слышала и знаю. Я очень довольна, потому что он так ценим здесь. Еще говорят, что какой бы мир ни заключили, одним из глав-

[3] Изготовление протезов для раненых.

[4] Лорис-Меликов Михаил Тариелович, генерал-адъютант, граф с 1878 г.; в феврале 1880 г. был назначен начальником Верховной распорядительной комиссии, с августа 1880 по май 1881 г. министр внутренних дел.

[5] Вероятно, речь идет об адвокате Александре Владимировиче Лохвицком.

ных освободителей христиан и тот, кто первый раздавил Турцию, это ген.<ерал> Гурко, и этого уже не стереть теперь. Турции нанесен им удар смертельный. Прошу тебя напиши, что он, как, как его карты — с козырьми или нет, и как принял его государь. По оказии писать можно, а твое письмо я разорву.

*(Л. 76–77 об.)*

М. А. ГУРКО

*27 октября 1878 г., Москва*

Поздравляю тебя, мой друг, и прошу Бога благословить тебя. И тебе, и мне, и детям надо вечно благодарить Бога за его милость, что он возвратил вам и мне мужа, отца и милого сына и избавил тебя от смертельной болезни[6]. Я так глубоко чувствую эту милость Божию, что в церкви и ложась спать всегда мысленно благодарю Бога. Какие бы ни были у меня печали, я должна все стараться забыть, перенести и покориться, испытав счастие видеть Жозефа невредимым и тебя вне опасности.

Посылаю тебе мой бриллиант, но так как два раза дарить одно и то же непригоже, то посылаю тебе чашку, которая тебе понравилась. Я бы отдала ее тебе с удовольствием, если бы Жозя не пил из нее чай, когда воротился из Турции. Так как это была моя любимая чашка, то я ему в нее и налила чаю — а теперь жалею. Лучше бы мне было налить ему чай в мою чашку. Но во всяком случае хотя я и жалею, но отдаю тебе с удовольствием. Только береги чашку, закажи на нее футляр и спрячь туда, с запиской, что он, возвратясь, пил у меня в ней чай. Дети должны дорожить этим и знать.

*(Л. 161–162 об.)*

М. А. и И. В. ГУРКО

*25 декабря 1878 г., Москва*

Сейчас пришла от обедни. Целую вас всех и поздравляю с праздником. Желаю вам здоровья и всякого благоденствия. Христос с вами и с детьми. За вас молилась и благодарила Бога за то, что спас вас обоих от смерти и от беды и скорби. Молилась за всех тех, кто теперь в горе и лишился своих дорогих и милых. Нынешний день прошлого года был так ужасен, зная, что над Жозефом ежеминутно смерть летает. Великое Божие милосердие, что возвратил его нам невредимого. Дети должны всегда благодарить Бога, всю свою жизнь не должны забывать этого. Ты внуши им это, милая Маша. Да благословит вас Бог.

Вчера после всеночной, когда я еще сидела у Труб.<ецкой>, возвратился Шаховской. Сперва расскажу вам, как он попал к вам. Дней пять назад приезжал ко мне Голицын-отец и говорит мне: «Я к вам за советом. — Что вам угодно? — Вот образ (показывает), теперь: как его поднести генералу. — Это совсем не мое дело. Как вам угодно. — Но, видите ли, я бы не желал, чтобы вышла неприятность тому, кто принимает, и тому, кто подносит. Я бы желал, чтобы дети генерала ему отдали образ. — Но дети уехали. — Тогда нельзя ли послать кого, отдать детям образ. — Кого же? — Не

[6] М. А. Гурко, после заключения перемирия ездившая к мужу в Сан-Стефано, заболела изнурительной лихорадкой (см.: Феоктистов Е. Указ. соч. С. 354).

можете ли вы послать человека. — Если вам угодно, могу. — А если это будет стоит, то проезд… — Нет уж, это позвольте, я грошей не считаю. — Так могу я считать, что вы нашли человека, очень бы нас одолжили. — Человека послать могу». От меня князь Гол.<ицын> поехал к Н. Б. Труб.<ецкой>. Она нашла неприличным посылать образ с лакеем, а сказала, что в Москве много молодых, которые почтут за честь и счастие ехать к г.<енералу> Гурко. «И отчего не едет ваш сын, он был ординарцем, ему всего приличнее. — Он боится, что это как будто выслуживаться! — Какой вздор! Ген.<ерал> Гурко ему теперь даже не начальник. Но я не согласна брать у гр.<афини> Салиас человека, я жду своего внука и скажу ему, а если не его, надо в Москве сказать, найдется из молодежи кто-нибудь». В назначенный день отправлять к тебе образ, 23 декабря, вдруг входит ко мне Женя Шаховской и говорит: «Я от бабушки с письмом». В письме Н. <аталья> Бор.<исовна> Труб.<ецкая> пишет мне, что ее внук считает за честь и счастие ехать к вам в Сахарово с образом. Он в тот же самый день приехал из Петерб.<урга> на праздники к матери, переоделся (sic!), позавтракал у бабушки и явился ко мне за образом. Я говорю: «У меня образа нет. Образ у Голицына. Я тут не при чем. У меня просили человека, я не могла отказать. Голицын приедет сейчас. Он должен был привезти образ вам». А Голицын, но уже не отец, а сын, входит в комнату с образом. Шаховской ему говорит: «Давайте образ. Я сейчас еду». Голицын был ужасно сконфужен, и ему было ужасно неприятно, а всё семейство Шаховских и кн.<ягиня> Н.<аталья> Бор.<исовна> очень довольны, что их сын и внук свез тебе образ. Воротясь от тебя, он был очень весел и говорил, что образ тебе понравился. Я нахожу, что образ умно сделан, но слишком мал. Я бы была довольна, если бы это был образ, но не складни, и был бы большой. Но всякое даяние благо. Я нахожу надписи очень умными и хорошо выбранными. Говорят, что псалмы выбирал Дмитрий Васильевич Разумовский, священник Георгия на Всполье[7], которого так любил мой отец. В Москве многие, особенно дамы, удивлены, что все это сделали à huis clos[8], никому ничего не сказали, держали в секрете, в тесном кругу. Я догадываюсь, отчего и почему. <…>

Васильчикова, рожденная гр. Олсуфьева, просила меня, и не один раз, попросить карточку Жозефа, но с его подписью. Ее зовут, т. е. Васильчикову, Ольга. Пришли карточку, она очень просит. <…> Я читала твое письмо у тетки, ты напрасно говоришь, что мы надеемся, что Жозеф будет в Москве, — мы только желаем. Знаем очень хорошо, что Милютин его бы запрятал куда только возможно дальше, но вся надежда на самого государя. И обе мы вспомнили пословицу: Бог не выдаст, свинья не съест — и конечно, и Милютин, и еще больше Обручев[9], — родоначальники сего прекрасного четвероногого. Я бы желала скорее знать, куда это сунут нашего Жозю. Прощайте.

*(Л. 149–150 об.)*

---

[7] Разумовский Дмитрий Васильевич, с 1850 г. настоятель церкви Великомученика Георгия, что на Всполье (разрушена в 1933 г.), исследователь и первый историк русского церковного пения.

[8] При закрытых дверях (*фр.*).

[9] Милютин Дмитрий Алексеевич, профессор Академии генерального штаба, военный историк и боевой генерал, с 1861 по 1881 г. военный министр; Обручев Николай Николаевич, генерал от инфантерии, профессор Академии генерального штаба, один из видных военных администраторов 1870–1890-х гг.

И. В. ГУРКО

*17 апреля 1879 г., <Москва>*

Милый мой друг, целую тебя, пишу несколько строк, зная, что тебе читать некогда. Господь да сохранит и помилует тебя, да даст тебе разум светлый и не оставит тебя своею благодатию. Да хранит тебя твой ангел-хранитель. Всякий день молюсь о тебе, как умею. Жестокое это испытание — похуже войны для нас. Христос с тобою и мое недостойное, но с материнской любовию даваемое благословение.

В день твоего назначения получила от Дмитрия Вас.<ильевича> Разумовского, священника Георгия на Всполье, которого так любил мой отец, образок Божией Матери с записочкой (за образком) и письмо, к сему прилагаемое, и образ от неизвестного господина, здесь прилагаемый. Принес кто-то и отдал на мое имя, а там я нашла образ и письмо.

Целую тебя, друг мой, сбираюсь ехать в Сахарово. Думаю, если Волга не так быстра и без льда, выехать через два дня. Господь с тобою. Прикажи, прошу тебя, что ответить, хотя через Женю[10], князю Шаховскому[11]. Он ждет только позволения приехать, если ты скажешь, что берешь его. Я Жене писала. Ему 45 лет. У него 60 т.<ысяч> с.<еребром> дохода. Он служил только во время войны чиновником особых поручений и развозил громадные суммы денег с конвоем. Он честен, прям, исполнителен, аккуратен. Ему не нужно ни жалованья, ни чинов. Он сказал: «Нужны люди верные, и я пойду к генер.<алу> Гурко, если ему угодно взять меня. В какую должность он хочет, лишь бы я мог быть в сию критическую минуту полезен». Посмотри. Если хочешь, выпиши, он сей час явится к тебе. Если я уеду из Москвы, то телеграммой можешь вызвать. Его адрес: Госпитальный переулок, собственный дом. Князь Василий Шаховской. Если тебе не нужны новые люди и старых довольно, напиши мне, что места никакого уже не имеешь, раздал. Я ему скажу. Но будет жаль, ибо он честный, дельный, прямой человек и свое состояние устроил отлично, что всегда хорошо рекомендует человека.

Прощай, друг мой, целую тебя еще и еще.

*(Л. 104–105 об.)*

М. А. ГУРКО

*17 апреля 1879 г., <Москва>*

Нынче день рождения твоего брата. Поздравляю тебя и целую. Он тебе брат хороший, любит тебя и Жозю любит. Так он об вас из себя выходит. Всякий день мне пишет, и все его сердце с вами, как и мое. Я за вас измучилась и о себе не могу сказать, чтобы не горевала. Все надежды мои на спокойную, счастливую, детьми и внуками окруженную старость рухнули. Отняли вас у меня. Детей ваших у меня отняли. Будете вы жить далеко. Сюда назначили Павла Шувалова и дом уже ему наняли. Дом Новиковой на Малой Никитской и Поварской. Он на обе улицы выходит. А на Никитской (мне на слезы) отдается квартира, где бы я могла поселиться около вас через улицу. Но разве такое счастье мне на роду написано. Я была очень глупа, что всю зиму могла надеяться. Видеть Шуваловых в Москве,

---

[10] Сын Е. В. Салиас, известный исторический романист Евгений Андрееевич Салиас (1840–1908).

[11] Шаховской Василий Александрович добровольцем участвовал в русско-турецкой войне 1877–1878 гг., в 1884–1896 гг. Ярославский губернский предводитель дворянства.

яго не маглі дачакацца ў школе, бо ў гэты дзень яму трэба было мэльдавацца[9] ў паліцэйскім пастарунку. Чыжэўскі, не давучыўшы школьнага года, знік для нас бясследна, казалі, што ён уцёк за мяжу ў Савецкі Саюз. Пры надыходзе наступнага школьнага года 1923/1924 ніхто ў нас не клапаціўся пра школу, бо і не было ніводнага выбітнейшага чалавека.

Пасля новага 1924 года школьныя ўлады паклапаціліся аб нашай асвеце і прыслалі нам вучыцеля паляка — Мечыслава Гавэнду. Гаспадар тэй хаты, у якой была беларуская школа, не захацеў пусціць у сваю хату польскай школы. Падабралі хату цесную і нявыгадную, але вучыцца не было цесна, таму што больш паловы вучняў не пайшлі вучыцца да чужога вучыцеля, а якія і папрыходзілі, не маглі прызвычаіцца да новых манераў пана і яго незразумелай польскай гутаркі. Між дзецьмі і вучыцелем усцяж паўставалі непаразуменні. Відаць, і яму было непрыемна. Ніколі дзеці не бачылі на яго абліччы, што найбольш было патрэбна, — ветлівай усмешкі, наадварот, усё яго ўводзіла ў злосць. Пры сваіх вучыцялёх дзеці былі прызвычаены звяртацца — пан настаўнік. За гэтакі зварот польскі вучыцель моцна злаваўся і спачатку папраўляў: «Не наставнік, тылько научыцель», а калі гэта паўтаралася і надалей, ён упадаў у шалёную злосць. Навука, як вядома, ішла з вялікімі непрыемнасцямі і цяжкасцямі, і да канца школьнага года толькі адзін я дахадзіў. Са мной, праўда што, вучыцель любіў займацца, бо заўважыў здольнасці да навукі, нарэшце заўважыў мае малюнкі, якім прыдаваў вялікае значэнне, таму што нехта там з яго радні быў вялікім мастаком. Як папярэднія беларускія вучыцелі, так і польскі рыхтавалі мяне ў гімназію.

Прыходзілі яны ўгаворваць бацькоў, каб аддалі мяне ў далейшыя навукі, але ўгаворы не падзейнічалі, таму што ў той час навучанне было звязана з вялікім коштам, а мы жылі вельмі бедна, а да таго перажывалі яшчэ няшчасці, як упадак жывёлы і іншыя.

1924 год быў апошнім годам маёй адукацыі.

## САМАТУЖНАЯ АСВЕТА

Цікавасць да кніг мне не давала супакою. Аднаму з ленкаўскіх сялянаў вучыцель Абрамчык пакінуў пад апеку школьную бібліятэку, напамінаючы, каб даваў карыстацца ёй сваім лепшым вучням, сярод якіх быў я, як пазней аказалася, адзіным. Кнігі, узятыя з бібліятэкі, чыталіся і слухаліся з вялікай цікавасцю, і таму я быў сярод старэйшых заўсёды вельмі пажаданы. Сярод кніг былі амаль усе тагачасныя заходнебеларускія выданні. Вершы, асабліва гумарыстычныя, у мяне ў той час вельмі лёгка завучваліся на памяць, і я быў выдатным дэкляматарам. На вясковых вечарынках у перапынках між танцамі я выступаў з дэклямацыямі, што было вельмі пажаданым сярод моладзі. Даведаўшыся ў якой-небудзь суседняй вёсцы, што прыйшоў я, на музыку сыходзілася ўся вёска, усе старыя мужчыны і жанчыны паслухаць «вясёлых і складных расказаў». Апроч вершаў для дэклямацыі вывучваліся на памяць вершы, як тады іх звалі, «любоўныя», да якіх дабіраліся мелодыі і развучваліся спяваць хорам. Трэба прыпомніць, што моладзь у нашай вёсцы, асабліва дзяўчаты, мелі прыгожыя галасы і любілі спяваць ціхімі летнімі вечарамі.

Песні і прыпеўкі былі пераважна рускія, а беларускіх «любоўных» было вельмі мала. Прыйшлося распрацоўваць на песні вершы Канстанцыі Буйло. Дабіраліся адпаведныя мелодыі, такія толькі, каб не пазычаныя з іншых песень. У далейшым мне ўдавалася пісаць сатырычныя, гумарыстычныя вершы, у якіх высмейваліся так званыя шляхты. Гэта быў самы нізкі па сваёй свядомасці клас нашага насельніцтва. Такія лічылі сябе

[9] Meldować się (польск.) — тут: адзначацца.

адрознымі ад вёскі толькі тым, што хадзілі ў касцёл і навучыліся спачатку ў ксяндза, а пасля ў школе па-польску гаварыць, хоць тая гутарка была, як кажуць, ні к сялу ні к гораду. Такія «шляхты» рабілі свае шляхецкія забавы. Мне здарылася быць на такой забаве, пра якую я напісаў песню, што спявалася па мелодыі рускай «каробушкі»:

Поўна-поўна, як каробачка,
Як у бочцы селядцоў,
Назбірала ж іх хваробачка
Адусюль з усіх канцоў.

Як з вяровак пазрываўшыся
Маладыя жарабцы,
Так гарцуюць, разгуляўшыся,
Шляхоцкія малайцы.

Давялося ж мне тэй ночкаю
Не малое шчасце мець,
На забаву на шляхоцкую
Падзівіцца, паглядзець.

Не адзін з іх, разагнаўшыся,
Як раз’юшаны баран,
Аб другога моцна даўшыся,
Гаварыў «пшэпрашам пан».

Хоць мыляюцца і ікаюць,
Калі праўду вам сказаць,
Але ўсе па-польску пшыкаюць,
Добрай мовы не чуваць.

Не гавораць яны з дурнямі,
Тут такіх і не відаць,
Тут разумныя з культурнымі
Сабраліся гарцаваць.

Назбірала ж іх хваробачка
Адусюль з усіх бакоў,
Поўна-поўна, як каробачка,
Тут паўпанкаў-шляхцюкоў.

Песня гэтая была агульнага характару, не чапляла нікога паадзіночна. Найбольш, аднак, было такіх песень і прыпевак, якія чаплялі найбольш фанабэрыстых задавакаў, якія зневажалі вяскоўцаў, называючы іх быдлам, хамамі і да т. п., кідалі пагрозы ў мой бок, але мяне ў той час, няўрымслівага, гэта падштурхвала да далейшай такой дзейнасці, у выніку чаго паўстаў немалы цыкл. Нельга сказаць, што гэта не дало жаданых вынікаў. Амаль усе вяскоўцы каталіцкай рэлігіі не пайшлі да тых выродкаў, якія, нічым не адрозніваючыся ад свайго народа, назвалі сябе шляхтамі, нават не разумеючы значэння гэтага слова, і аддзяліліся, уяўляючы, што яны прадстаўляюць нашмат вышэйшы клас за вяскоўцаў. Нацкаваныя шляхцюкамі, мяне не раз спатыкалі паліцыянты і шукалі па кішэнях рукапісаў, але так удавалася, што не было да чаго прычапіцца, а неўзабаве надышоў тэрмін вайсковай службы.

## ВОЙСКА ПОЛЬСКАЕ

Адбываць вайсковую службу мне давялося ў Варшаве. Пра жыццё вайсковае пісаць доўга не патрэбна — яно кожнаму вядомае. Мне толькі крыху пашанцавала ў тым, што ў нашым 36-м палку быў так званы рэфэрат асвятовы, якім кіравала студэнтка псіхалогіі Варшаўскага універсітэта пані Ідзэбская[10]. Жанчына з выгляду слабая, худая, аднак вяла справы асветы сярод жаўнераў вельмі энергічна і адразу заўважала, хто мае цягу і адчувае патрэбу ў адукацыі. Пані Ідзэбская асабліва зацікавілася мной і праводзіла адкрытыя гутаркі адносна маёй радзімы Заходняй Беларусі. Яна прызнавала злачынствам польскі шавінізм і асабліва фанатызм клеру. Помню, як яна аднойчы пыталася, з якімі часопісамі польскімі знаёмяць у нашых беларускіх вёсках. Я між іншымі прыпомніў ксяндзоўскі «Rycerz Niepokolanej»[11]. Пані Ідзэбская вельмі абурылася з выкрыкамі: «A rzuccie to paskudztwo i nigdy nie czytajcie tego!»[12] Пані Ідзэбскай вельмі хацелася наведаць Беларусь і пазнаць на месцы народ, які яна лічыла несправядліва пакрыўджаным. Пані Ідзэбская рабіла намаганні, каб я, служачы ў войску, змог у рэфэраце асветы здабыць сярэднюю адукацыю. Дзеля гэтага яна зазывала сваіх калегаў — вельмі сымпатычных студэнтаў, якія выкладалі мне патрэбныя прадметы. З увагі на маю цікавасць да мастацтва пані Ідзэбская пару разоў вызывала мастака пана Юста, які мяне пазнаёміў з маляваннем алейнымі фарбамі. Я рыхтаваў партрэт нашага палкоўніка як падарунак ад нашай групы жаўнераў-навучэнцаў на ягоны дзень нараджэння. Партрэт закончыць памог Юст. Праца была вельмі ўдалай. Уручыць такі сюрпрыз палкоўніку з адпаведнай прамовай трэба было мне. Палкоўнік быў вельмі ўзрадаваны. Загадаў прынесці для цэлай нашай групы пачастунак — шакаладу і цукерак — і з паўгадзіны часу меў з намі гутарку.

Здабыць сярэднюю адукацыю ў войску так і не ўдалося, але я зусім не крыўдзіўся, бо ведаў, што з гэтага нічога не выйдзе. Я быў і так задаволены тым, што пані Ідзэбская пазнаёміла мяне з некаторымі людзьмі, якія маюць ясныя светапогляды. Апроч таго, пані Ідзэбская надзяліла мяне перад ад'ездам дамоў з войска лепшай польскай літаратурай і абяцала выклікаць мяне ў Варшаву на маючыя адбыцца курсы вясковых перадавікоў, якія ладзіць арганізацыя вясковай моладзі «Siew»[13]. Пані Ідзэбская паясняла, што арганізацыя вясковай моладзі будзе дбаць аб падняцці культуры на вёсцы на вышэйшы ўзровень. На пытанне, як такое кола моладзі будзе працаваць у нас, дзе вёска выключна беларуская, пані Ідзэбская адказала, што канстытуцыя польская не дазваляе нацыяналь-

---

[10] На жаль, аўтар не называе імя пані Ідзэбскай. Таму біяграфічныя звесткі гэтай асобы можам падаць толькі як версію, дапушчэнне. Доктар Катажына Вашчынская ў архіве Варшаўскага універсітэта знайшла згадкі пра дзвюх Ідзэбскіх — студэнтак аддзела псіхалогіі, якія маглі быць апякункамі аўтара ўспамінаў. Аляксандра Ідзэбская — н. 02.09.1915 г. у Рушках, скончыла універсітэт у 1937 г. Марыяна Ганна Ідзэбская — н. 07.01.1911 г. у Пятрусах, скончыла універсітэт у 1934 г. Даследчыца схіляецца да думкі, што гэта была менавіта Аляксандра. Можна пагадзіцца: у апошнія месяцы вучобы людзі больш занятыя ўласнымі клопатамі, а не грамадскімі.

[11] «Rycerz Niepokolanej» (Рыцар Беззаганнай) — часопіс, заснаваны ў 1922 г. манахам ордэна францысканцаў, доктарам філасофіі і тэалогіі Максімілянам Марыя Кольбэ (1894–1941). У многіх пытаннях трымаўся радыкальных пазіцыяў.

[12] «Кіньце тую гідоту і ніколі не чытайце яе!» (з польск.).

[13] Centralny Związek Młodzieży Wiejskiej «Siew» (CZMW) — арганізацыя асветніцка-выхаваўчая, заснаваная ў 1928 г., праўрадавай арыентацыі. Дзейнічала ў паўднёва-ўсходняй частцы Польшчы (значыць, у Заходняй Украіне, Заходняй Беларусі. — *Рэд.*). У 1931–1934 гг. налічвала 30–60 тысяч сяброў. У 1934 г. стала складовай часткай асветніцка-культурнай моладзевай вясковай арганізацыі Centralny Związek Młodej Wsi (CZMW).

ныя меншасці палянізаваць і выклады ў такім коле будуць весціся па-беларуску, а толькі мова дзяржаўная павінна быць польскай. Таксама адзін з калегаў пані Іздэбскай на мой пісьмовы зварот пра беларускую мову адпісаў: «Wasze poglądy o sprawie białoruskiej są bardzo rzeczowe. Trudno przecież człowiekowi wydzierać duszą bo co mu się zostanie. (Pawlikowski)»[14].

Пані Іздэбская датрымала сваё абяцанне: яна мяне выклікала на курсы перадавікоў вясковай моладзі, якія адбыліся ў сакавіку 1934 года ў Варшаве. Аб гэтым будзе напісана ў асобным раздзеле, а зараз згадаю аднаго чалавека[15], які ў свой час зрабіў на мяне значны ўплыў.

## ПАВАЛ АСІПОВІЧ

Пазнаёміліся мы на вясковай вечарынцы ў вёсцы Клочкава[16]. Зблізіла нас узаемная цікавасць. Ён заслухваўся маёй дэклямацыяй беларускіх гумарыстычных вершаў у перапынку між танцамі. Мяне ж вельмі зацікавіла першы раз бачанае выкананне «Лявоніхі», якую ён развучыў з сваімі бліжэйшымі, і яны выступілі для паказу. Трэба зазначыць, што танец «Лявоніха» быў у нас занядбаны і забыты і самых старэйшых цешыў не менш, чым маладых. Разгаварыліся мы на вуліцы, на лаўцы пад хатай. Была цёплая ціхая ноч ранняй восені.

Павал Асіповіч распытваў мяне, скуль я навучыўся вершаў беларускіх паэтаў, дзе ў якой школе вучыўся, чаму не падаўся ў далейшую навуку, якія чытаю газеты і многа чаго іншага. Помню, што адказваў я шчыра, адкрыта. Хацелася шмат што распытацца ў яго, але было замала часу. Ён запрашаў наведваць яго калі-небудзь нядзеляй ці святам. Жыў ён у добра дагледжаным багатым фальварку Манішчыца. Дом хаваўся ў садзе, які славіўся багатым ураджаем. У садзе было многа вуллёў з пчоламі і мёдам. Доўга я не мог асмеліцца яго наведаць — саромеўся сваёй нікчэмнасці перад ім. Першы раз прыйшоў я толькі тады, калі ён прыслаў парабка з запіскай, у якой было запрашэнне і назначаны быў час прыйсці. Павал Асіповіч, ці, як я яго звычайна зваў, Паўлуша, спаткаў мяне вельмі ветліва, угледзеўшы мяне пад брэх сабак праз вакно. Ён завёў мяне ў сваё асобнае памяшканне, якое займала крыху менш палавіны вялізнага старасвецкага дома. Дом быў высока падмураваны. Там былі размешчаны сховішчы на бульбу, іншыя караняплоды і наогул усё такое, што надаецца хаваць у склеп. Вялікая кухня і найбольшая другая частка дома служыла для жылля рэшты сямейнікаў і для чэлядзі. У Паўла была яшчэ малодшая сястра Марыся і старая маці — гаспадыня фальварка. Старой маці было ўжо не пад сілу самой дагледзець вялікую гаспадарку, бо, апроч нямогласці, была яна залішне грызлівага характару. Даглядаючы за работай чэлядзі, яна добрага не магла заўважыць, а што горшае ёй заўсёды двоілася або троілася ў вачах. Каб не наймаць больш рабочай сілы, гаспадыня працавала да знямогі сама і ніколі не была задаволена працай наймітаў.

У часе маёй гутаркі ў Паўлавым пакоі я адчуў вельмі прыемнае ўражанне. Незважаючы на свой юначы ўзрост, ён мог зацікавіць рознымі тэмамі і таксама розным

[14] «Вашы погляды на беларускую справу вельмі слушныя. Цяжка ўсё ж чалавеку выдзіраць душу, бо што яму застаецца (Паўлікоўскі)» (з польск.).

[15] Павел Рыгоравіч Асіповіч (1911–1959). Польскімі ўладамі падазраваўся ў прыналежнасці да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ). Савецкай уладай як памешчык, уладальнік маёнтка Манішчыца, быў асуджаны (09.07.1940) на восем гадоў зняволення ў папраўча-працоўных лагерах. Вызвалены 24 верасня 1941 г. Рэабілітаваны 01.03.1991 г.

[16] Клочкава, Манішчыца — цяпер тэрыторыя Маркаўскага сельсавета Маладзечанскага раёна.

настроем. Ён мог быць энергічным, вясёлым, жыццярадасным, а таксама сур'ёзным і разважным. Выслухаўшы мяне аб немагчымасці далей вучыцца з прычыны беднасці, ён прызнаўся, што і сам раздумаўся вучыцца далей, таму што для маці становіцца штораз больш не пад сілу ўпраўляць гаспадарку — трэба брацца за гэта самому. Ён дзеля гэтай мэты стаў выпісваць сельскагаспадарчыя беларускія і польскія часопісы.

Пачаў рабіць кантрольныя запісы пасеваў і ўмалотаў. Служба і найміты любілі яго за ветлівыя адносіны, вясёлы, жартаўлівы настрой. Пры аплаце за працу не дрыжэў ён за лішні дадзены грош. Пры яго доглядзе праца ў гаспадарцы ішла больш ахвотна і дружна.

Вось мы сядзім у яго ўтульным пакоі. З сценаў паглядаюць на нас вялікія партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа. На стале і на тумбах параскладаны беларускія кнігі і часопісы, якія толькі змаглі ў той час выдаць віленскія выдавецтвы. Заўважыўшы маю прагнасць да беларускай літаратуры, Павал абяцае мне заўсёды знайсці ў сябе жаданую кнігу пачытаць, а прачытаўшы, замяніць на другую. Мне ў гэтым было даволі шчасця, бо выпісаць кнігу трэба было мець грошы, на якія ў мяне было вельмі скупа. Пасля даўжэйшых гутарак і разважанняў Павал заявіў, што нам, свядомым беларусам, нельга «марнавацца» — г. зн. быць бяздзейнымі сярод сялянскай маласвядомасці. Трэба рознымі спосабамі праяўляць зацікаўленне да развіцця беларускага руху. Трэба ўпарта змагацца з польскім шавінізмам, аднак трэба помніць і аб асцярожнасці. Каб зрабіць хоць адзін крок наперад, адзначаючы сваю дзейнасць, мы пастанавілі прыцягнуць яшчэ каго трэба да справы — развучыць і паставіць беларускі спектакль. Для пастаноўкі падабралі дзве вясёлыя камедыйкі Л. Родзевіча — «Збянтэжаны Саўка» і «Пасланец». Паколькі мне задалёка было хадзіць на рэпетыцыі, Павал падабраў бліжэйшых «артыстаў», а мяне прасіў заняцца маляваннем афішаў.

## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ СПЕКТАКЛЬ

Было гэта каляднымі святамі 1927 года ў вёсцы Доўгі Лог[17]. Пад пастаноўку спектакля была занята даволі прасторная хата Тэклі Гулецкай. Сцэна была цеснаватая, але затое больш магло памясціцца гледачоў. У назначаны дзень я раней прыйшоў у Манішчыцу, каб пры маім удзеле правесці генеральныя рэпетыцыі. Быў агледжаны і ўдасканалены самаробны грым. Усё агледзеўшы і наладзіўшы, што было не так, пачалі збірацца ў вёску на месца. Мяне запрасілі быць суфлёрам. Нарэшце ажыццяўляецца тая доўгачаканая, маляваная даўно ў марах карціна. Перад туга сціснутымі гледачамі рассунулася заслона, і ўсе ахнулі, пабачыўшы кошык з бульбай, гаршчок, міскі і Магрэту, якая, седзячы на нізенькім зэдлічку, скрабе бульбу. Далёкі голас Саўкі: «Жонка!» Магрэта: «Я!» Саўка: «Магрэта!» Магрэта: «Тутачкі яна!» Саўка: «Чарвівая качарэжка!» Магрэта: «Лістком перад табой, пакорна, як цяля!» Можа, залішне прымітыўнай была сцэна і той тэатр, але выкананне вельмі падзейнічала на гледачоў, тых, хто ў жыцці і сам не раз быў грозным Саўкам і меў падобныя сутычкі з падобнай Магрэтай, а слёзнае апраўдванне Магрэты так расчуліла жанчын, што тыя спачатку выцíралі слёзы, а пасля ўсё запаўнялася дружным рогатам. Не менш цікавай была пастаноўка і другой часткі спектакля «Пасланец». Пасля прадстаўлення былі дэкламацыі вершаў, а нарэшце, калі разабралі сцэну, танцы.

Першы спектакль, хоць адбыўся пры бедных абставінах, пакінуў па сабе незабыўнае ўражанне. У далейшым беларускія прадстаўленні ладзіліся на вясковых сцэнах нашымі сіламі ў вёсцы Клочкава. Ставілі вадэвіль «Боты» і п'есу «Чорт і баба»[18], а аднаго лета

[17] Доўгі Лог — цяпер вёска ў Маркаўскім сельсавеце.

[18] «Чорт і баба» — п'еса Францішка Аляхновіча, напісаная ў 1918 г.

па запрашэнню ездзілі мы ў Крэва, дзе ставілі «Збянтэжанага Саўку» і фарс «У доктара». Апроч нас ладзіліся спектаклі-вечарыны лебедзеўскімі[19] сіламі, якія прыязджалі на нашу гмінную сцэну ў Беніцу. Заўважыўшы, што на польскія прадстаўленні мала хто ідзе, а з вясковых ніхто, а хочучы мець нейкі даход, пачалі ладзіць беларускія спектаклі і гмінныя работнікі ў Беніцы, а паколькі ў іх было замала сілы, быў і я запрошаны імі. Ладзілі трохактавую п'есу Фр. Аляхновіча «Птушка шчасця»[20]. Я дапамог заўвагамі пры арганізацыі спектакля ў дэкарацыі, грыміроўцы і рэпетыцыі, а нават узяў на сябе роль жыда. Прадстаўленне было ўдалым. Прасторная гмінная зала была перапоўненая, але даходам я не цікавіўся і пасля прадстаўлення пастанавіў змыцца дамоў. Праўда, на мяне за гэта пакрыўдзіліся, і маю сціпласць палічылі фанабэрыяй.

У далейшым беларускія пастаноўкі дазваляліся, толькі калі была наперад польская, а пасля і зусім забараняліся павятовым старастам. Мала таго, пачала паліцыя прыдзірацца да беларускіх кніг, і я за гэта быў выкліканы на споведзь да каменданта пастарунку. На мой доказ, што ў 100-м артыкуле Польскай Канстытуцыі выразна сказана аб тым, што нацыянальным меншасцям дазволена чытаць і пісаць на сваёй мове, мне паяснілі, што гэта агульны закон, а нядаўна ўвайшоў у сілу закон, які ў прыгранічнай паласе трэбуе, каб было ўсё выключна польскае, а прыгранічнай паласой стаўся ўвесь Маладзечанскі раён, а яшчэ пазней цэлыя ваяводствы Віленскае і Навагрудскае. «Дык як гэта выглядае? — спытаўся я ў каменданта. — Ці ж я нарэшце павінен стаць варварам: спаліць свае беларускія кнігі?» — «Не трэба паліць іх, але чытайце толькі сам сабе, але як будзеце даваць чытаць іншым, мы вас палічым прапагандыстам беларускай літаратуры, якія недазволены».

Пры гутарцы аб гэтым з Паўлам Асіповічам я пад глыбокай тайнай даведаўся, што, адчуваючы нацыянальны ўціск, больш энергічна пачалі працаваць падпольныя арганізацыі. Аб гэтым я ведаў і раней, але ніколі не пасмеў дапытвацца аб яго сувязях з падпольшчыкамі. Перад першым мая 1931 года ён мне даручыў раскідаць нелегальныя лістоўкі па дарозе Карачоўшчына — Лоск. Мне гэта зрабіць было зручна, бо дзяржаўны лес ад нашай хаты ў Юраўшчыне даходзіў да той дарогі, і, калі сцямнела, перад 1 Мая я вырашыў выканаць заданне. Калі дарога ўваходзіла ў Лоскую вуліцу, а лістовак яшчэ было, я прайшоў аселіцай і пачапляў іх на альховыя галінкі каля рэчкі. Прыйшоў я дамоў раней поўначы. Ніхто мяне нідзе не заўважыў. Першага мая я панёс у гміну грошы плаціць падаткі.

Назаўтра ў Лоск панаязджала паліцыянтаў. Шукалі слядоў, але да мяне наша паліцыя чапілася па дагадках значна пазней, бо Лоск і Беніца — гэта былі розныя паветы і ваяводствы.

Цяпер Павал быў заклапочаны, ніякіх мне заданняў не даваў, але перасцерагаў, каб нічога ў паперах і кнігах не было падазронага. Могуць быць у нас вобыскі, бо шмат дзе ўжо некаторых арыштавалі.

Было вельмі дзіўна, што такі прадбачлівы, які мяне перасцерагаў, быў арыштаваны паліцыяй, бо, уваліўшыся да яго ноччу, гэта было летам 1931 года, знайшлі пры вобыску нелегальныя камуністычныя лістоўкі. Праўда, што находка была не ў яго пакоі, але для паліцыі хапіла тых падстаў, што ў яго доме. Казалі, што зроблена было гэта правакацыйным спосабам, на што паліцыя была здатная, а менавіта, шукаючы нелегальнай літаратуры, яны самі падкідалі неўзаметку скрутак лістовак, бо хто ж мог за імі назіраць.

---

19 Відаць, гаворка ідзе пра самадзейны гурт з вёскі Лебедзева. Вёска ў той час была шырока вядомая актыўнасцю сваіх жыхароў.

20 Напісана паводле камедыі К. Марашэўскага.

Паўла Асіповіча адразу ж забралі ў турму, і мы надоўга рассталіся, бо ў часе яго зняволення мяне змабілізавалі ў войска. Арышт Паўла падзейнічаў адмоўна на ўтрыманне манішчыцкай гаспадаркі, але да эканамічнага заняпаду не дапусціла шматлікая энергічная радня, якая жыла таксама на добраўпраўленых фальварках, хоць і не так блізка. Апроч таго, пачаліся энергічныя клопаты і старанні аўтарытэтных перад уладай асобаў, каб не дапусціць да тэрміну пакарання. Тыя старанні і адвакаты, мабыць, падзейнічалі, бо пасля васьмімесячнага зняволення суд унявініў Паўла, і яго выпусцілі на волю.

## КУРСЫ ПЕРАДАВІКОЎ ВЯСКОВАЙ МОЛАДЗІ ЦЭНТРАЛІ «СЯЎБА»

Пані Іздэбская датрымала сваё слова. У пачатку сакавіка 1934 года мне з пошты прывезлі тэлеграму, у якой паведамлялася: «Ліст і грошы атрымаць у Беніцы». Я адразу ж паехаў на паштовай фурманцы на пошту, дзе атрымаў грошы — 25 злотых на падарожжа ў Варшаву — і пісьмо ад пані Іздэбскай з паясненнем аб маючых адбыцца курсах.

Паколькі да выезду было яшчэ часу, я падаўся да Паўла Асіповіча парадзіцца, што ён скажа пра маю паездку на курсы. Справа была яму яснай, і ён нічуць не пярэчыў у тым. Наадварот, сказаў, што для мяне будзе карысным пабыць на тых курсах. Асабліва ажывіўся ён тым, што мяне там забяспечаць мастацкай літаратурай: «Кніг бяры чым пабольш, бо яны ў нашым асяроддзі патрэбныя, а набываць іх каштоўна». Падбадзёраны Паўлам Асіповічам, я нарэшце выбраўся ў Варшаву. Пакуль сарганізуецца інтэрнат пры тэй святліцы, дзе адбываліся курсы, мне было напісана, каб я ехаў у свой полк і тую кампанію (роту), у якой я служыў, дзе часова атрымаю начлег і жыўнасць з жаўнерскага катла. Для мяне было гэта вельмі цікава, тым больш, што сустрэўся з сваімі начальнікамі і падначаленымі. Служба палкавая была аба мне паінфармавана, і я хадзіў без ніякіх перашкодаў цераз прапускную браму — мне нават вартавыя салютавалі як афіцэру, хоць выгляд майго адзення быў наглядна не вельмі ўнушальны. Вечарам мяне ў палкавой святліцы акружылі жаўнеры, у якіх я быў дружынавым падафіцэрам. Было пра што пагаварыць і што прыпомніць. Мяне найбольш збліжала з жаўнерамі тое, што ніхто пры маім камандаванні дружынай не быў пакрыўджаны.

Нарэшце (адведаўшы пані Іздэбскую, якая была прыхварэўшы, але вельмі ўзрадавалася майму з'яўленню) я знайшоўся сярод калег і каляжанак у вялікай прыгожай залі, дзе пачалі адбывацца нашы заняткі. Трэба адзначыць, што сярод нашай грамады слова «пан» у звароце не ўжывалася, яно замянялася словам «калега». Парадак дня быў такі: пасля сну і прывядзення сябе ў парадак было сняданне ў сталовай. Пасля снядання слухалі выкладаў, як тады звалі — прэлегентаў, якія прыходзілі да нас з міністэрстваў знаёміць з структурай дзяржаўнага апарату Польскай Рэчы Паспалітай. Пасля кожнага даклада былі пытанні, на якія давалі паясненні. Пасля абеду пераважна слухалі даклады аб паляпшэнні дабрабыту на вёсцы. Многа было лекцыяў аб вядзенні сельскай гаспадаркі, а яшчэ больш — аб розных спосабах пашырэння культуры і асветы на вёсцы. Пасля вячэры адбываліся таварыскія гульні, так званыя святлічныя забавы. Наогул час праходзіў цікава, карысна і весела. Былі такія дні, што вадзілі нас на экскурсіі па больш знамянітых мясцінах сталіцы, а за дзень перад ад'ездам было дазволена кожнаму на сваю руку пацікавіцца горадам. Заканчэнне курсаў адзначалася гутаркай з тагачаснымі польскімі пісьменнікамі, якіх спецыяльна выклікалі пагаварыць перад усяпольскай вясковай грамадой. Мэтай выкліку былі дзе-якія прэтэнзіі, быццам польскае пісьменства

замала цікавіцца вёскай. Пасля нясмелых і мала абгрунтаваных прамоў нашых вяскоўцаў выступілі пісьменнікі, сярод якіх былі Кручкоўскі, Кадэн-Бандроўскі і Серашэўскі[21]. Яны сваімі прамовамі не толькі абсадзілі, але і застыдзілі нашых курсантаў, так што больш пасля іх прамоў у нікога не найшлося адвагі ўступаць у спрэчкі.

Апошні вечар прысвячаўся выказванням уражання паасобных калег аб курсах. Я замест прамовы прыгатовіў верш, які вельмі падабаўся прысутным. Верш часткова быў друкаваны ў часопісе «Siew młodej wsi»[22].

## РЭХА ДЗЕЙНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ СЯЛЯНСКА-РАБОТНІЦКАЙ ГРАМАДЫ

Пішу «рэха», таму што да нашай глухамані даходзілі толькі чуткі аб тым, што ў больш культурных вёсках паўстаюць «беларускія гурткі», збіраюцца сходы, дзе гавораць і радзяцца аб паляпшэнні быту беларускіх вёсак. Для ўтрымання парадку на тых сходах бывае і паліцыя, але разганяць такі сход не мае права, і нават на заканчэнні такога сходу, калі пяецца марсельеза «Ад веку мы спалі», дык паліцыянт так, як і ўсе, павінен устаць. Такія чуткі былі ў 1926 годзе. Мне, 16-гадоваму юнаку, гэта было незразумелым, хоць весткі былі вельмі хвалюючыя. Газет у той час у нас ніхто не выпісваў, а тым больш я, бо не было за што. Заработкаў ніякіх не было, а калі ў пана часам і даводзілася зарабіць якую залатоўку, дык трэба ж было дбаць пра свой знешні выгляд, каб справіць сабе хоць якую танную святочную вопратку, бо «дарастаў да дзецюка» і хацелася выйсці да людзей у ненайгоршым выглядзе.

У пачатку зімы 1926 года на перадкалядныя запусты да майго хрышчонага бацькі прыехаў з жонкай госць з вёскі Дамашы з-пад Маладэчна; зваўся ён Маісей Касцюк. Мне аб гэтым паведаміў стары дзядзька Вінцук, які цікавіўся ў той час рознымі праблемамі і шмат што прыдумляў з сваёй фантазіі. Вінцук угаварыў мяне пайсці пазнаёміцца з далёкім госцем, які арганізуе беларускія гурткі. Прыйшоўшы, мы засталі гасцей за сталом, за які і нас запрасілі. Маісей з жонкай былі ў той час «маладажонамі», прыгожа выглядалі і, падвыпіўшы, былі абое словаахвотлівыя. Мы хутка разгаварыліся, і, даведаўшыся пра мяне, Маісей вельмі ўзрадаваўся, толькі пашкадаваў, што я яшчэ замалады, каб быць сябрам Грамады, але даведаўшыся, што я добра па-беларуску чытаю і пішу, вырашыў, што магу дапамагаць у арганізацыі гуртка ў нашай вёсцы. Стаў даваць патрэбныя парады, надзяліў мяне брашуркамі, сярод якіх былі праграма і статут Грамады. Паказаў сяброўскія білеты. Падвесяліўшыся, мы разам запелі «Ад веку мы спалі». Пасля Маісей з жонкай праспявалі па-беларуску «Інтэрнацыянал», а пасля ён сам заспяваў «Жыў на свеце Лявон». Пасля спеваў я пачаў дэклямаваць беларускія

---

[21] Знаныя ў той час польскія пісьменнікі. *Леан Кручкоўскі* (Leon Kruczkowski, 1900–1962) — драматург, празаік, публіцыст, грамадскі дзеяч. У яго гістарычным рамане «Кардыян і хам» (1932) асэнсоўваецца роля шляхты ў паўстанні 1830–1831 гг. У рамане «Паўлінава пер’е» (1935) распавядаецца пра галіцыйскую вёску напярэдадні Першай сусветнай вайны. *Юліуш Кадэн-Бандроўскі* (Juliusz Kaden-Bandrowski, 24.02.1885–08.08.1944) — празаік, публіцыст, арганізатар літаратурнага жыцця. У 1933 г. стаў генеральным сакратаром новапаўсталай Польскай акадэміі літаратуры. *Вацлаў Серашэўскі* (Wacław Sieroszewski, 24.08.1858–20.04.1945) — народжаны ў сям’і ўдзельніка паўстання 1863 г., сам быў двойчы пакараны высылкай у Сібір (1879, 1900). Уражанні ад побыту жыхароў Якуціі, Далёкага Усходу, іншых наведаных ім краёў (Каўказ, Японія, Маньчжурыя, Карэя…) леглі ў аснову шматлікіх твораў. Юны змагар і рамантык з узростам стаў гарачым прыхільнікам урада «моцнай рукі».

[22] «Siew młodej wsi»(Сяўба маладой вёскі) — орган Цэнтральнага саюза маладой вёскі: ілюстраваны часопіс пазіцыянаваў сябе як выхаваўчы, грамадскі, культурна-асветніцкі, земляробчы, пісаў пра кааператыўны рух і мясцовае самакіраванне.

вершы — патрыятычныя і гумарыстычныя, за што мяне так палюбіў Маісей, што пачаў мяне абнімаць і цалаваць. Ну, вядома, быў ён захмялеўшы, і я зразумеў, што гасцям трэба адпачываць. Мы з дзядзькам вельмі сардэчна развіталіся з гасцямі і падаліся дамоў. Справа арганізацыі гуртка Грамады зацягнулася, бо я быў адзінокі з сваімі думкамі. Трэба заняцца перш асведамленнем і заахвочваннем патрэбнай колькасці асобаў, трэба падрыхтаваць трывалы грунт, а гэта мне, нявопытнаму ў той час малалетняму, было не пад сілу, і таму чакалася адпаведнага мамэнту.

Мамэнту таго мы так і не дачакаліся[23]. Неўзабаве пасля 17 студзеня 1927 года ў солтысавай хаце на сцяне і па сценах хатаў большых вёсак былі расклеены паперы на польскай і беларускай мовах пад загалоўкам «Ліквідацыя Беларускай сялянска-работніцкай грамады». Там паведамлялася, што Грамада выкрыта як процідзяржаўная партыя, і польскі ўрад, спалохаўшыся хуткага росту, вырашыў спыніць дзейнасць арганізацыі, у якой было ўжо 100 000 сяброў. Усё гэта было зроблена за адну ноч, з 16 на 17 студзеня 1927 года, калі практычна па ўсёй Заходняй Беларусі правяліся арышты па цэнтральным і акруговых сакратарыятах і ўсіх гуртках Грамады. Рыхтаваўся ў Вільні вялікі, шырока вядомы працэс Беларускай сялянска-работніцкай грамады, які трываў, дакладна не помню, але, здаецца, больш месяца часу.

## ПРАЦЭС БЕЛАРУСКАЙ СЯЛЯНСКА-РАБОТНІЦКАЙ ГРАМАДЫ

Я не меў магчымасці з прычыны цяжкага матэрыяльнага становішча выпісваць газеты і таму не мог дакладна цікавіцца працэсам Грамады. Звесткі аб гэтым мне падаваў Павал Асіповіч, у якога я бываў, але не так часта, бо трэба было захоўваць асцярожнасць перад падазронасцю паліцыі. Павал Асіповіч выпісваў усе, якія тады яшчэ выходзілі, беларускія газеты і вялікую польскую газету «Кур'ер Віленскі», у якой дакладна апісваўся ход працэсу Бел. С.-Р. Грамады. Яшчэ ён мне расказваў, што і самому давялося бываць на тым працэсе, дзе ўпускаліся пабочныя гледачы па білетах. Не помню, колькі даслоўна каштаваў той білет, але значна даражэй, як у самы лепшы тэатр. Паводле яго расказу, зала суда была перапоўнена. Было шмат сваіх і замежных журналістаў. Падсудныя трымаліся з захаваннем сваёй годнасці. На заканчэнне працэсу, калі падсудным прачыталі прыгавор, яны як па камандзе ўсталі і заспявалі тагачасную беларускую марсельезу «Ад веку мы спалі». У часе спеву ўсе паўставалі — гледачы ў пашане, а паліцыя і суддзі ад разгубленасці. Старшыня Грамады Тарашкевіч, паслы Рак-Міхайлоўскі, Мятла і Валошын як перадавыя былі прыгавораны да 12 гадоў турэмнага зняволення. Далей ішлі сакратары і іншыя дзеячы, якіх не магу прыпомніць. Да Грамады былі далучыўшыся некаторыя паслы, прайшоўшыя па спісках польскіх партый як «Вызваленне»[24], яны былі таксама надзелены такой або меншай меркай. З такіх прыпамінаецца Галавач і быццам Ваявудскі. Меншыя меркі былі па 10, 8, 6, 5 і да 1 году турмы. Вязні былі парассыланыя па розных знамянітых сваім рэжымам турмах панскай Польшчы.

---

[23] Польскія ўлады пачалі ліквідацыю гурткоў і камітэтаў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, масавыя арышты яе актывістаў 15.01.1927 г. 21 сакавіка 1927 г. Грамада афіцыйна забаронена.

[24] Польская народная партыя «Вызваленне» ў 1915–1931 гг. мела значны ўплыў на сялянаў Заходняй Беларусі.

## НЕЗРАЗУМЕЛЫЯ ПАДЗЕІ НА ПАЛІТЫЧНЫМ ГРУНЦЕ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Для мяне ў той час было многа загадак без разгадкі. Больш свядомы Павал Асіповіч таксама не мог даць адказу на многія хвалюючыя пытанні. Хоць было гэта даўно, але што-небудзь можна прыпомніць. Чаму адзін з паслоў членаў клубу Бел. Сял.-Раб. Грамады — Юра Сабалеўскі — застаўся на волі? Чаму арыштаваны Ф. Акіньчыц быў хутка вызвалены, а таксама Р. Астроўскі і А. Луцкевіч? Адкуль узяліся ў не так шматлюднай беларускай перадавой інтэлігенцыі разнаякія палітычныя плыні? І нарэшце, на каго маглі і павінны былі арыентавацца мы, маласвядомыя і зусім несвядомыя сялянскія гушчы? Прыпомню тагачасныя беларускія перыядычныя выданні ў Вільні, якія грызліся між сабой, а нам паказвалі сваё як быццам самае правільнае абгрунтаванне. Газеты, найбольш тыднёвыя «Наша Воля», «Сялянская Ніва», «Biełaruskaja Krynica», «Беларускі Дзень», «Беларускае Слова», «Грамадзянін», «Народ», часопісы «Маланка», «Авадзень», «Шлях Моладзі», «Летапіс», «Калосьсе», «Родныя гоні», «Студэнцкая думка», «Вольная думка». Нават беларускія календары адрыўныя і тыя аднаго году былі траякія. Адзін быў выдадзены, як і ўсе іншыя гады, Віленскім выдавецтвам (Віленская, 12–6). Другі быў выдадзены беларускай кнігарняй «Пагоня», а трэці — Ул. Знамяроўскім. Гэтыя ўсе выданні былі адначасныя, а калі б заглыбіцца ў розныя часы, можна было б налічыць яшчэ больш. Безумоўна, што былі такія, якія шукалі выхаду з такога хаосу — хоць гэта было даволі трудна і небяспечна, аднак былі і ў нас пробы арганізаваць падпольную ячэйку КПЗБ. Справа гэта аднак не дайшла да выніку, таму што я быў адзінокі і палітычна несвядомы, а Павал Асіповіч пасля 8-месячнага пабыту ў астрозе пакуль што павінен быў на нейкі час прыцішыць сваю актыўнасць. Пагэтаму ён больш энергічна ўзяўся за гаспадарку, а былі яшчэ прычыны — гэта хвалюючыя загадкі палітычных падзеяў адносна беларускай справы, якія даліся заўважыць між урадамі Польшчы і СССР.

Лідэры Б. С.-Р. Грамады былі на нейкі час польскім урадам звольнены — атрымалі водпуск, хоць гэтага ніколі не практыкавалася. Скарыстаўшы з магчымасці, яны перабраліся за мяжу ў БССР. Не вельмі гладка выйшла толькі з Бр. Тарашкевічам. Яго затрымала польская паліцыя ў Гданьску, і ён апынуўся нанова ў астрозе. Неўзабаве адбылася замена вязняў між урадамі Польшчы і СССР. Тарашкевіча замянілі на вядомага ў той час драматурга Фр. Аляхновіча, які знаходзіўся на Салаўках. Газеты беларускія радаваліся ўдалай замене і абодвум дзеячам жадалі плённай працы на сваіх месцах. Цераз нейкі час тыя ж газеты паведамілі, што Бр. Тарашкевіч аж у Іркуцку. Аляхновіч жа жыў у Вільні, але асаблівай увагі ад польскай улады яму таксама не было.

Пра другіх быўшых паслоў не было нават чутак. Было толькі вядома з заходнебеларускіх газет, што ў Савецкай Беларусі тварылася штосьці падобнае ў адносінах беларускай справы, як і ў Польшчы. Там адбывалася так званая ліквідацыя нацдэмаўшчыны. Цэлыя плеяды беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, а таксама перадавых вучоных беларусаў высылаліся з бацькаўшчыны на далёкую поўнач або іншыя невядомыя месцы. Замежныя беларускія выданні (як я дазнаўся пазней) трактавалі гэтую падзею як змову польскага і савецкага ўрадаў, каб спыніць і знішчыць беларускі нацыянальны рух, які для іх быў непажаданы.

## РАЗГУБЛЕНАСЦЬ

Вярнуўшыся з курсаў перадавікоў вясковай моладзі, мне хацелася зрабіць хоць невялікі пачатак сваёй дзейнасці. Я ахвотна даваў чытаць прывезеныя з Варшавы кнігі, а пры нагодзе гутарак з больш выбітнымі наведвальнікамі пачынаў заахвочваць да арганізацыі кола вясковай моладзі, якое будзе ладзіць лекцыі і спектаклі па-беларуску, а на жаданне некаторых спектаклі будуць польска-беларускія. Са мною аднак не згаджаліся, нашы «шляхты» лічылі, што я хачу іх уцягнуць у непрыемнасці.

Апроч таго, мяне яшчэ выклікалі ў пастарунак паліцыі, дзе пагражалі і радзілі спыніць «дзейнасць», якая, паводле іх, была шкоднай толькі тым, што я трымаўся беларускага слова і вучыў іншых шанаваць беларускую мову.

У пачатку 1935 года ў варшаўскім часопісе «Siew młodej wsi» («Сяўба маладой вёскі») з'явілася абвестка ад Інстытута сацыялогіі вёскі (Instytut socjologii wsi), які дзейнічаў пры Галоўнай Школе вясковай гаспадаркі (Szkoła Główna gospodarstwa wiejskiego). Аб'яўляўся конкурс на лепшы жыццяпіс вясковага дзеяча. Вызначаліся ўзнагароды. Першая ўзнагарода — 250 злотых, дзве другія — па 100 злотых і чатыры трэція — па 50 злотых. Апроч таго, дзесяць выдатнейшых жыццяпісаў — па 20 злотых.

У абвестцы паяснялася, што ўзнагароды будуць назначацца конкурсным Судом па дакладным разглядзе і ўзнагароджвацца будуць не за дзейнасць, але за дакладнасць і ўмеласць пісання. Я некалькі разоў перачытаў абвестку. Мяне не так завабіла ўзнагарода, як тое, што я змагу ў жыццяпісе закрануць усе хвалюючыя пытанні справы беларускай у нашых вёсках. Таму я дакладна апісваў сваё жыццё, у якім найбольш падкрэсліваў сваё замілаванне да вёсак, якія ў нас выключна беларускія. Шчыра выказваючы свае думкі і погляды адносна беларускай мовы і культуры, я прасіў у канцы жыццяпісу паведаміць мне ў тым выпадку, калі мае погляды няправільныя або не згаджаюцца з рэчаіснасцю. Адказу на такія просьбы я не атрымаў, але праз нейкі час мне прыйшло паведамленне, што жыццяпіс мой прызначаны да друку, а значна пазней было афіцыйнае паведамленне аб тым, што мой жыццяпіс разам з іншымі будзе змешчаны ў кнізе пад назвай «Życiorysy włościan» («Жыццяпісы сялянаў») і адзначаны трэцяй узнагародай — 50 злотых. На першую ўзнагароду ніхто не напісаў, і таму павялічылі колькасць другіх і трэціх узнагарод. Нарэшце, паведамлялася, што кожнаму ўдзельніку конкурсу будзе высланы том з жыццяпісамі.

Маючы пры сабе такі дакумент, я, безумоўна, чуўся смялейшы ў нападах паліцыі. Аднаго разу мне прыйшла павестка з'явіцца ў Маладэчанскае староства да рэфэрэнта бяспекі. Выканаўшы апытальныя фармальнасці, рэфэрэнт бяспекі адразу ж бесцырымонна заявіў аба мне свае погляды, з чаго я даведаўся, што з'яўляюся процідзяржаўным дзеячам і што гэта ёсць апошняе папярэджанне, якога я калі не паслухаю, то буду высланы на бадзяніну за межы свайго ваяводства. Калі расчырванелы ад злосці панок скончыў, я папрасіў дазволу даць паясненне. «Тое, што Вы сказалі, мяне вельмі прыкра ўсхвалявала. Усе Вашы погляды аба мне — гэта не што іншае, як паклёпніцкія даносы на мяне з боку так званай у нас шляхты. Я даўно адчуў на сабе іх фальшывыя погляды і таму пастанавіў усё дакладна апісаць, што датычыць пад'ёму культуры ў нашых беларускіх вёсках. Я прасіў даць адказ на хвалюючыя пытанні, чаго не дачакаўся, але ўзамен таго мне прыслалі дакумент, што мая праца прызначана да друку і ўзнагароджана». Рэфэрэнт бяспекі ўважна разгледзеў паказаны яму дакумент. Першым пасля гэтага было папулярнае слова «пшэпрашам», прычым яшчэ і руку сваю з залатым пярсцёнкам працягнуў мне на знак згоды. Сказаў, каб не праймаўся тым, што ён выклікаў да сябе на допыт. У гэтым ён пазнаў мяне асабіста і даведаўся аб маёй лаяльнасці да польскай улады.

Аднак парадзіў мне, каб жыў дома спакайней, каб ажаніўся і заняўся гаспадаркай, інакш ён не гарантуе, што не магу стацца ахвярай правакацыі.

## СЯМ'Я

У той час жылі яшчэ бацька і маці. Самай старэйшай была сястра Дарына, а яшчэ старэйшая — Алена — была ў сваёй вёсцы замужам. Самым старэйшым братам быў Пракоп, пад ім — Васіль, пасля — Якуб і маладзейшым за іх быў я. Пада мной была яшчэ сястра Ганька. Усе браты як ёсць не былі падобныя характарамі. Пракоп вельмі любіў майстраваць і з часам сам сабой стаўся тым, пра каго кажуць «залатыя рукі». Здабыўшы патрэбныя інструменты, якія найбольш сам парабіў, зрабіўшы сталярны і такарны станок, ён даволі добра зарабляў і ў той матэрыяльна цяжкі час у яго вяліся грошы, бо заўсёды быў завалены заказамі. Грошы ён для сябе не сціскаў і часта даваў на патрэбы гаспадаркі, а нават аплачваць падаткі. Бацька, маючы яго за гэта на асаблівай увазе, угаворваў жаніцца, але ён некалькі разоў даў рашучую адмову, бо лічыў сябе хваравітым, а найбольш тое, што не меў ніякай прыхільнасці і цікавасці да жаночага полу. Ніколі не хадзіў ён на вечарынкі ці на іншыя зборышчы моладзі. Адзіна, што мог, пайсці да царквы.

Васіль быў таксама майстрам — навучыўся вельмі добра і гладка рабіць драўляны посуд, на які быў вялікі попыт. Спачатку рабіў цэбры, а пасля вялікія пукатыя дубовыя кадушкі, якія мелі цану. Вось так і ў Васіля вяліся грошы, але яны яму былі патрэбныя. Васіль быў асноўным работнікам і ў гаспадарцы. Арба і сяўба — гэта ўжо належала да яго. У святочныя дні ён меў сяброў, якія любілі выпіць ды не мелі за што. Сяброўства такое яго да дабра не даводзіла. Найбольш праз іх ён умешваўся ў бойку — дзе трэба, дзе і не трэба. На музыцы ён сябе вёў грозна, панура, гуляць не вучыўся і не хацеў, з дзяўчатамі не займаўся, ды яны і баяліся яго мядзведжага характару. Якуб быў бацькавым любімчыкам змалку, як самы ўдалы, прыгожы і здаровы. Пры адчуванні бацькавай пахвалы ў ягоным характары ўзгадавалася пыха, знявага да іншых, схільнасць да ашуканства і хітрасць. У гаспадарцы ён рэдка калі што памагаў. Навучыўся іграць, а носячы да майстроў, навучыўся сам правіць гармонікі і нарэшце стаўся сам майстрам. Музыкі здалёку прыносілі да яго правіць гармонікі. Ён мог, як кажуць, паправіць «абы з рук», але мог і ўхваліць сваю работу, каб уласнік гармоніка не шкадаваў грошай, з якімі ў той час было ўсюды скупа.

Мне навучыцца майстэрству каля старэйшых братоў было ўжо немагчыма, хоць часамі і трэба было зайсці ў Пракопаву майстэрню, каб пагабляваць дошчачку. Тут трэба прыпомніць, што, паводле загаду польскай улады, на вуглу кожнай хаты мусіла быць прыгожа намаляваная дошчачка, на якой пазначаны нумар, прозвішча і імя гаспадара, а таксама павінна была быць і да воза дошчачка, на якой павінен быць выразна і прыгожа напісаны адрас гаспадара. Я з такой работай добра спраўляўся і браў за адну дошчачку 50 грошаў. Гэта былі мае першыя заработкі каля дому. Як бы там ні было, але ніхто з нас, хлапцоў, на святочнае адзенне ці абутак з гаспадаркі не цягнуў, а калі былі пільныя работы, дык усе дружна браліся іх упраўляць, толькі бывала Якуб, калі здаралася дзе іграць вяселле, дык, нічога нікому не кажучы, змываўся з дому хоць сабе ў самы пільны, уборачны час.

За доўгія гады прадаваліся лішкі зерня і жывёла на павелічэнне гаспадаркі. Да пяці дзесяцін[25] надзельнай зямлі дакупілі ў мясцовага пана Стружынскага яшчэ столькі. Стала жыць раскашней, у гаспадарцы было ўжо двое коней і чатыры каровы. Пачакаўшы нейкі час, купілі яшчэ шэсць з палавінай гектараў. Даўней, як вядома, у гаспадарцы зіма была свабодная. Васіль стаў шукаць прадаўцоў дрэва на хату. Па далёкіх вёсках некаторыя людзі мелі свае невялікія лясы. Трэба было ездзіць пытаць, шукаць, пілаваць,

[25] Дзесяціна — старая мера зямельнай плошчы, роўная 2400 кв. сажням або 1,09 гектара.

вазіць. Аднаму, вядома, гэта не пад сілу. Ува ўсім памагаў я, бо ведаў, што трэба, таму што Васілю ўжо пара жаніцца, а пагэтаму пара пачынаць сваю гаспадарку. Зусім іншай думкі быў Якуб. Ён фактычна быў ужо «ажаніўшыся», бо ў яго была «жонка» і гадаваўся сын. Ён, аднак, не памагаў Васілю. Усю зіму ён сядзеў дома, правіў гармонікі і зрабіўся вялікім «майстрам», так што паездкі па нейчых лясах — гэта была б для яго страта дарагога часу. Аднак жа і ён пачынаў нешта дбаць, каб супакоіць сваю, яшчэ «незаконную» сям'ю. Ён пачынаў хітрэй: апытаў сабе на хату вялікі свіран у недалёкага пана. У разборцы, перавозцы і ўсім іншым мне трэба было таксама памагаць. Я нідзе ніколі не адмовіўся, бо такая была бацькава воля ў тым, што, калі старэйшы брат Пракоп рашуча адмовіўся жаніцца, бацьку хацелася, каб рэшта сям'і трымалася разам. Пазнаўшы нас ужо сталых, бацька палічыў, што я найбольш здатны жыць з Пракопам, які быў часамі вельмі нервовы і часта схопліваўся з іншымі братамі пры гарэлцы, чаго са мной ніколі не бывала, бо я мог ператрываць яго гарачку і, нарэшце, між намі было ўсё добра.

Васіль жаніўся яшчэ пры бацькавым жыцці. Вяселле гулялі па-даўнейшаму, але коратка, бо быў гарачы час — сенакос і надыходзіла ранняе жніво. Якуб не пасмеў жаніцца пры бацьку, бо з малога любімчыка выгадаваўся, як бацька казаў, «вырадак», але па бацькавай смерці таксама ўзяў у царкве шлюб і прывёў жонку ў хату. Таму, што ў сям'і была жалоба па бацьку, ён скарыстаў гэта, каб не рабіць расходнай гулянкі. Сын іхні застаўся ў яе бацькоў да таго часу, пакуль не ўвойдуць у сваю хату. <…>

Ажаніўшыся, Васіль і Якуб ужо найбольш праводзілі часу каля сваёй будоўлі. Мне даводзілася памагаць аднаму і другому, але ўжо больш памагаў я Якубу. Урабляць поле таксама ўжо выпадала мне. Ніколі аднак я не пасмеў выказаць незадавалення. У мяне ж таксама была ўжо зазноба, і, больш-менш прыпарадкаваўшы братоў, буду таксама заяўляць аб сваім жаданні. Аднойчы, калі Пракопу работа ўдавалася і ён чуўся ў добрым настроі, я нарэшце адважыўся спытацца ў яго, як ён думае аб маім намеры. Першы адказ яго быў такі, што пра такое ў яго пытацца не трэба, а трэба больш думаць аб сваіх магчымасцях у жыцці. Я прыпомніў яму бацькаву волю і бацькаву параду яго слухацца, і, калі б ён выказаўся што насуперак, я не пасмею самавольнічаць. Вывадам нашай гутаркі было тое, што ён нічога супраць не мае. Апроч усяго, жыла яшчэ маці, з якой лічыў сваім абавязкам прыталкаваць сваю справу. Маці не выказала найменшай супярэчнасці. Як маці, так і Пракоп былі нават кранутыя маім афіцыйным, шчырым зваротам, не так, як старэйшыя браты — не маглі сябе змусіць на шчырую гутарку такога зместу і выяўлялі сваё жаданне непрыстойнымі паводзінамі, як, напрыклад, раздражненнем, панурай маўклівасцю, забастоўкай у рабоце і г. д.

З сваёй абранніцай я быў пазнаўшыся даўно, але мы рэдка калі спатыкаліся. Яна з малых гадоў наймалася служыць у заможных гаспадароў або ў чыноўнікаў. Такое з'явішча ў той час было распаўсюджана, асабліва сярод дзяўчат, якім хацелася прыгожа адзецца, а гаспадарка не магла нічога выдзеліць на ўборы.

Служылі ў паноў за мізэрную плату, хоць часта даводзілася выконваць непасільную работу. Нарэшце наёмная сіла стала больш цаніцца, а гэта таму, што ўрад Латвіі дамовіўся з польскім урадам аб дазволе выязджаць з Польшчы ў Латвію на сезонныя работы, так што вельмі многія нашы дзяўчаты выязджалі на лета ў Латвію, а якія хацелі, дык заставаліся там і надалей. Плата за работу была значна вышэйшая, чым у нас. Мая «нарачоная» Агата Чарнэцкая[26] з меншай сястрой Лісаветай былі таксама з'ехаўшы на заработкі

[26] Агата Канстанцінаўна Чарнэцкая годна прайшла з мужам пакручастую дарогу жыцця. Калі хворы на сухоты Юльян Сергіевіч быў вызвалены з лагера, але не атрымаў дазволу на вяртанне дамоў і пасяліўся ў Карагандзе, яна паехала жыць да яго. Пахавана Агата Канстанцінаўна ў Ленкаўшчыне, побач з мужам.

ў Латвію. Я падтрымліваў з імі сувязь. Хоць яны былі амаль што зусім непісьменныя, але мае пісьмы маглі чытаць, таму што я іх, забаўляючыся, вучыў пісьменству. Сёстры Чарнэччанкі жылі і працавалі там па суседству. Гаспадары іх любілі за паслухмянасць і акуратнасць у рабоце, часта надзялялі іх гасцінцамі. Агата, прабыўшы ўмоўны сезон, вярнулася дамоў на водпуск, а Лісавета засталася. Пры сустрэчы я заявіў аб сваёй рашучасці жаніцца, і яна засталася дома рыхтаваць сабе выправу.

Пры падрыхтоўцы да вяселля я не пазбягаў даўнейшых звычаяў. Былі ў сватах. Былі і заручыны. Чыталіся ў царкве і «запаведзі» (аглашэнне), толькі вяселле было крыху скарочана, бо не хацелася цягнуць з гаспадаркі лішніх страт.

Ад традыцыйных падарункаў я адмовіўся, бо ведаў, як у той час цанілася залатоўка, не хацелася, каб хто цяжыўся на маё вяселле. Як бы ні было, але вяселле адбылося гучна, весела і добрым свабодным часам — зімой 1938 года. Шафу маладой унеслі ў хату — знайшлося добрае месца, а таксама і выгодны куток, дзе быў ложак і круглы столік. Было гэта недаспадобы ранейшым нявесткам, асабліва Якубавай Тэклі, якая шафу пакінула дома, а пасялілася ў кухні, але нічога не казала і лічыла за шчасце, што ўвайшла ў нашу сям'ю. Тым часам падтрымлівалася надзея, што хутка будзе мець не толькі куток, але і цэлую гаспадарку. Дачакаўшыся вясны і лета 1938 года, Васіль адышоў на сваю гаспадарку. Дзяльба адбылася спакойна. Якубава гаспадарка чакала яшчэ патрэбных будынкаў, але сам ён не вельмі так дбаў пра тое — часцей за ўсё кляпаў галасы да гармоніка ці ляпіў мяхі, а часам здаралася дзе іграць вяселле. Знікаў на тры дні, пасля чаго адпачываў ад п'янкі. Хоць бацькі ўжо не было ў жывых і маці была нямоглая, аднак не помню, каб што завіхрылася ў сям'і, у якой дачакаўся я першай мабілізацыі на вайну — 24 жніўня 1939 года.

## АПОШНІ ЖНІВЕНЬ

*Апошні жнівень, ты дагэтуль ва ўспаміне*
*У сонцы лічыш мне аўсяныя снапы…*

Ціхая, сонечная росная раніца. Не помню, за што на мяне Пракоп накрычаў, і я, як на тое ліха, агрызнуўся, сказаў: «Рана пачынаеш сабачы век жыць». Маці пачула гэта і зрабіла мне выгавар. Я змоўчаў — прызнаў сябе вінаватым. Да палудня ўжо нават не помню, што рабіў на Пасецы — так мы называлі купленую зямлю. Таксама не помню, хто ўручыў мне павестку, каб за дзве гадзіны выбраўся з дому на найбліжэйшы зборны пункт. Так пачалася для мяне мабілізацыя польска-нямецкай вайны. Жонка адвяла мяне на найбліжэйшую станцыю Валожын, адкуль цягнікі даставілялі вялікія зборышчы ў Маладэчна, дзе фарміраваўся наш 86-ы полк пяхоты. Не буду апісваць панікі, суматохі, плачу, галасьбы — гэта кожнаму вядома. Было гэта 24 жніўня 1939 года.

Таксама змяшалася ў хаос у памяці ваенная падрыхтоўка; помню яшчэ толькі: спаткаўся з братам Пракопам, ад якога даведаўся, што змабілізавалі на вайну яшчэ нашага каня.

Калі ехалі праз вялікія гарады, у тым ліку праз Варшаву, кідаўся ў вочы падрыхтоўчы рух да вайны: капалі процітанкавыя равы. Высадзіліся мы ноччу, недзе далёка за Варшавай у нейкім лесе, а ў якой мясцовасці — таго няможна было ведаць. Рухаліся наперад мы пераважна ноччу, а калі часам трэба было днём, дык толькі ляснымі дарогамі. Праз вялікі рыштунак рух быў вельмі трудным, але нельга было скардзіцца, і толькі такіх, каму ўжо сапраўды патрэбна была медыцынская дапамога, падбіралі і змяшчалі на калёсы. Ззаду калоны шарахцеў абоз. Там таксама пакутавалі нашы бедныя конікі, якія нядаўна аралі на зіму ржонне.

Раніцай туман заснаваў сасоннік, у якім мы паклаліся на адпачынак. Гэта было першага верасня 1939 года. Раптам пачуўся далёкі грукат, падобны на гром, але надвор'е не паказвала на навальніцу. Кожан з нас здагадаўся, што пачалася вайна. Прабыўшы пад прыкрыццём да вечара і даведаўшыся, што немцы афіцыйна аб'явілі вайну, мы нанач рушылі фарсоўным маршам наперад.

Дні, ночы і нашы заняткі нейкі час былі між сабою падобныя, і толькі аднаго вечара нам прачыталі пацяшаючыя навіны, што нашы войскі ўвайшлі ў нямецкую тэрыторыю на Прусах Усходніх, а тут, дзе было слабей, немцы палезлі да нас. Наша заданне заўтра: заняць пазіцыю так, каб іхнія чолгі (танкі) прыперці да ракі Пліцы, дзе яны будуць разбіты або патопяцца. З захаду ж на немцаў вырушылі нашы саюзнікі — Англія і Францыя.

Пасля такіх навін між намі паўстала ажыўленне, пачаліся песні. Паколькі 86-ы полк быў папоўнены пераважна беларусамі, дык песні былі беларускія, народныя. Помню, і я праявіў сваё мастацтва і на скорую руку сарганізаваў хор. Мы так прыгожа адспявалі песню «Ці свет, ці світае», што на загад ці просьбу вышэйшых афіцэраў яшчэ паўтарылі. Вось так адбыўся першы і апошні вечар песні ў польскім войску. Было гэта вечарам ці нават ноччу 3.09.1939 г.

Пасля натуральнага, гэта знача начнога адпачынку, з прыемным настроем, добра паснедаўшы, мы сталі рухацца наперад лясамі, зараснікамі і пералескамі. У невялікім разрэджаным лесе выбралі месца для абедняга адпачынку.

Раптам ні з таго ні з сяго зашумеў нізка над галовамі самалёт з польскімі апазнавальнымі знакамі. Хлопцы ажывіліся, сталі махаць шапкамі. На здзіўленне, раздаўся загад хутка падняцца і перамясціцца чым далей і схавацца ў густы лес. Правакацыйная хітрасць ворага была разгадана. Праз нейкі час з таго месца, дзе мы толькі што былі, пачуўся страшэнны гул самалётаў і ўзрывы бомбаў. Такім парадкам мы выратаваліся, але казалі, што некаторыя абознікі былі разбіты. Вечарам, калі пачало цямнець, нам загадана было займаць абарону — капаць проціўтанкавыя траншэі, кожан для сябе. Маім заданнем было абысці свой участак фронту, навучыць капаць «проціўтанкавую шчыліну».

Змучаныя і галодныя жаўнеры, асабліва палякі, не хацелі слухаць, бо надыходзіла ноч, а на нашым адрэзку было ціха. Страшэнна хацелася спаць. Вярнуўшыся на сваё месца, пачаў і я працаваць. Грунт не падаваўся да капання. Побач мяне капаў траншэю ардынанс[27] паручніка — камандзіра плютона[28], у якой яны павінны былі памясціцца ўдвух. Да ўсходу сонца мая траншэя была гатова, і я абышоў паглядзець, ці гатовыя мае жаўнеры. Далёка не ўсе зрабілі добра. Найчасцей пакапалі сабе звычайныя «долкі стшэлецке»[29], у якіх моцна спалі. Я іх не будзіў. Страляніна пачалася з правага флангу ўжо тады, калі сонца прыгрэла. На нашым адрэзку было ціха. Страшэнна марыў сон. Па лініі перадаваліся перасцярогі, але сонныя жаўнеры не маглі перадаваць, як належыць. Лінія нашай абароны была занята на схоне ўзгорку так, што адступіць было немэтазгодна. Каб схавацца за гару, трэба было прабегчы якіх сто метраў. Заслоны не было ніякай, голае поле.

Пасляабедзеннай парой на нашым адрэзку паказаліся тры варожыя танкі. З правага боку пачалі біць па іх нашы проціўтанкавыя гарматы, у выніку чаго адзін танк успламяніўся, а рэшта павярнулі назад. Па лініі пачуліся воклічы задавальнення. Я ўскрыкнуў, каб не спяшаліся цешыцца, але былі напагатове. Тое самае паўтарыў паручнік, камандзір плютона. Праз нейкі час пачуўся гул, ад якога дрыжэла зямля, і з таго самага боку паказалася калона танкаў, якая зараз жа развілася ў тральеры[30],

[27] Ordynans (польск.) — ардынарац, дзяншчык.

[28] Pluton (польск.) — узвод.

[29] Dołek strzelecki (польск.) — тут: акопчык.

[30] Верагодна: шарэнгі.

наступаючы на нас. Засакаталі нашы кулямёты і проціўтанкавыя гарматы, але гэта не магло паўстрымаць смерцяноснай лавіны. Страляць з карабінаў было зусім бескарысна. Гром, ад якога штораз мацней дрыжэла зямля, бесперашкодна набліжаўся. Нарэшце я ўжо быў падгатовіўшыся да самага апошняга мамэнту. Нейкім, быццам чырвоным агнём асвяцілася дно траншэі, і сыпнула на мяне зямлёй. Танк, прайшоўшы вузкую траншэю, пагрукатаў далей. Уся грымотная лінія была ўжо за намі. Ніхто не ведаў, што маем рабіць. «Пане капралю! — азваўся паручнік, — жые пан?» — «Жые, але засыпаны естэм», — азваўся я. — «Но, старай се пан як кольвек се выгжэбаць!»[31]

Я і без таго рабіў адпаведныя рухі, аслабаняючыся з-пад зямлі, таму што без руху ногі пачыналі дзервянець. «Пане капралю! Цо мамы робіць?» — азваўся ізноў паручнік. «Нех пан, яко довудца, дэцыдуе!»[32] — адказаў я.

Не чакаючы, паручнік падняўся ў траншэі і, падняўшы руку, усклікнуў: «Увага! Тшэці плютон! О, Езус, Марыя!» І раптам асунуўся. Выглянуўшы, каб зразумець загад паручніка, я заўважыў блізка нямецкіх салдатаў, з якіх адзін адразу скасіў нашага камандзіра. Ардынанс падаў па лініі аб тым, што пан паручнік забіты і, хто хоча яшчэ жыць, няхай здаецца ў палон. Страляніна на нашым адрэзку лініі спынілася, ды яна і раней не дзейнічала. Чулася з правага боку злосная нямецкая гутарка, якой я зусім не разумеў. «Гоў, гоў!»[33] — чуліся гартанныя воклікі. Набліжаўся такі гоман і да мяне. Я зразумеў, што, калі буду ляжаць, могуць прыстрэліць, і выскачыў падняўшы рукі, але карабіна ў траншэі не пакінуў, бо думаў, што трэба яго аддаць ворагу, гэта значыць — «злажыць бронь».

«Раус, раус!»[34] — крыкнуў немец, паказваючы на зямлю. Я зразумеў, што трэба пасці на зямлю, але немец таўкануў мяне ботам пад зад. «Ауф, ауф!»[35] — крыкнуў ён. «Жуцай карабін і вшыстко цо маш на земе!»[36] — крыкнуў нехта па-польску. Я ўскочыў, адшпіліў дзягу з ладаўніцамі, лапаткай, рвануў і кінуў маску і самы цяжкі тарністар[37], у якім апроч належнага ладунку былі дзве мясныя кансервы і галеты. Гэта быў той запас, якога няможна было есці без каманды. У часе голаду заўсёды ўспамінаўся той «запас». Узняўшы свабодныя рукі, я, знясілены, бег далучыцца да вялікай калоны нашых ваеннапалонных, якія стаялі, выстраіўшыся на дарозе. У часе бегу адзін з салдатаў хапіў мяне за каўнер і сарваў шынель, якога я таксама потым заўсёды шкадаваў.

Былі ўжо поцемкі, і нас гналі ў горад Петркаў. Усё па парадку цяпер цяжка прыпомніць, але апынуліся мы ў турэмным двары, дзе сабралася такая вялікая колькасць людзей, што ўсюды было цесна. Размясціліся мы на лесвічнай пляцоўцы, дзе ніяк нельга было легчы, а сон марыў. Галава цяжкая, як жалезная, звісала так, што я змушаны быў крыху прыхітрыць. Побач было закратаванае вакно. Адкруціўшы ад нагі абмотку, я зачапіў яе канцамі за крату і такім парадкам навязаў галаву. Назаўтра мы там пратаўкліся амаль цэлы дзень. Там польскі Чырвоны Крыж нам сарганізаваў нейкі пасілак, але што там было, ніяк не магу прыпомніць, бо тую баначку цеплаватай вадкасці я праглынуў як сабака муху. Наступная наша кватэра была ў Чанстахове ў ваенных стайнях, дзе мы пражылі тры дні. Апроч вады, нам нічога з яды не давалі, у выніку чаго многія моцна аслабелі.

---

31 «Пан капрал, вы жывы?»— «Жывы, але засыпаны». — «Ну, старайся як-небудзь выкараскацца!» (з польск.).

32 «Пан капрал! Што мусім рабіць?» — «Няхай пан, як кіраўнік, вырашае!» (з польск.).

33 Гоу! — верагодна: geh (ням.) — ідзі!

34 Раус! — верагодна: rauf (ням.) — уверх!

35 Auf! (ням.) — устаць!

36 «Кідай карабін і ўсё, што маеш, на зямлю!» (з польск.).

37 Tornister (польск.) — ранец.

# СШЫТАК II

Пасля колькіднёвага перапынку з прычыны нямогласці пачынаю працяг успамінаў. Чуюся вельмі слабым, а яшчэ горш тое, што не маю пэўнай надзеі на паправу. Тым больш хацелася б пакінуць па сабе, што павінен. Ці змагу гэта? Пытанне такое хвалюе. Шмат чаго мушу прапусціць, бо і далёка не ўсё захавалася ў памяці, таму што весці дзённікі не было магчымасці і не было тады ў думках.

Трохднёвае знаходжанне ў чанстахоўскіх вайсковых стайнях без ніякага пасілку, апроч вады, дало адчуць, што можа з людзьмі зрабіць голад. Адчула гэта і нямецкая варта. На трэці дзень камандаванне выбрала з дзесятак палонных, якія пайшлі на бліжэйшыя агароды накапаць бульбы і нассякаць капусты, у выніку чаго нарэшце быў нам зроблены пасілак. Таго ж вечара нас пагрузілі ў вагоны, і ноччу цягнік рушыў у дарогу.

Выгрузілі нас назаўтра паўднём і пад моцнай вартай павялі ў вялікі палатачны лагер, дзе было наслана саломы, на якую нарэшце рынуліся адпачыць. Праз нейкі час нас дружынамі падводзілі да катла, дзе далі хоць і мала, але нейкай больш людскай яды і, здаецца, што былі там ужо міскі і лыжкі, якія, праглынуўшы яду, мы аддавалі. Пасля абеду пайшлі зноў на салому. Сталі жывейшыя. Пачалася гутарка, шукалі сваіх.

З бліжэйшых маіх землякоў былі знаёмыя з дому Кулеш Казік і Лукашэвіч Янка. Мы пастанавілі трымацца між сабой так, каб не разлучацца.

На другі дзень пасля снядання, на якое была чорная кава, папрыносілі ў палаткі сталы. Пачаліся эвідэнцыйныя афармленні[38], прычым кожнаму з нас даваўся мэдальён на шнурку, які трэба было насіць на шыі. Там быў выбіты нумар эвідэнцыі. Апроч усяго, даваліся да подпісу карткі Чырвонага Крыжа, у якіх паведамлялася, што жывы і здаровы, трапіў да няволі і чуюся добра.

Пасля пяціднёвага побыту ў палатках нас пастроілі калонамі па пяцёрках, далі кожнаму з нас плоскую бляшанку-кансерву і на пяцёрку булачку хлеба. Папярэдзілі, каб не спяшаліся есці, бо наперадзе вялікая дарога.

Прывезлі нас у вялікі лагер, добраўпарадкаваныя баракі. Спачатку мы павінны былі прайсці дэзынфекцыю, пасля чаго пасялілі нас у бараках, дзе былі хоць двух’ярусныя, але жалезныя ложкі з матрацамі, посцілкамі і ваеннымі коцамі[39]. «Хоць няўежна, дык улежна», — жартавалі мы між сабой, але, як пазней аказалася, было ўжо і не так улежна. Дакучалі частыя непатрэбныя праверкі, гімнастыкі і іншыя выдумкі.

На каманду «Раус!» усе стрымгалоў кідаліся ў дзверы, а апошнія былі добра агрэтыя палкай па спіне. Як бы ні было, але мелі шмат вольнага часу, бо не ўсім службовым па бараках хацелася нас чапаць. Хто быў яшчэ спрытнейшы, той лазіў па ўсіх закутках абшырнай зоны. Можна было пабываць у розных бараках, адшукаць землякоў, наслухацца навін. Больш здольным на гэта быў Казік. Прыйшоўшы з абходу, ён малітоўна складваў рукі: «Дзякуй Богу, дзякуй Богу!» «А што?» — пыталіся мы з Янкам. «Дамоў паедзем!» — усклікаў ён, ды з такой радасцю, быццам ужо садзіўся на калёсы.

Пасля стаў расказваць, дзе, хто, што гаварыў. Аказваецца, вайна ўжо закончана. Нямеччына з Саветамі падзялілі Польшчу. Наша тэрыторыя занята Саветамі[40]. Палякаў рассылаць будуць на работы, а нас рыхтуюць да адпраўкі дамоў.

1976 г.

---

[38] Ewidencja (польск.) — тут: улік, рэгістрацыя.

[39] Koc (польск.) — коўдра.

[40] Уз’яднанне Заходняй Беларусі з БССР было рэалізаванае пры пачатку Другой сусветнай вайны. З 17 верасня да 1 кастрычніка 1939 г. савецкія войскі ўзялі пад кантроль беларускую этнічную тэрыторыю Заходняй Беларусі.

## Цытаты наўздагон

Юльян Іосіфавіч запомніўся мне як вельмі шчыры, справядлівы і бясхітрасны, спакойнага нораву чалавек. Нават у лагерных умовах, на паднявольнай працы ён стараўся выконваць заданне дакладна і акуратна. Ён не мог, не ўмеў працаваць абы з рук, за што быў часта крытыкаваны таварышамі па брыгадзе. «Нехта ж будзе карыстацца нашай працай, — апраўдваўся ён, — дык ці ж можна рабіць абы-як?»

Пятро Бітэль. Успаміны пра Юльяна Сергіевіча.
Куфэрак Віленшчыны. 2002. № 1 (6).

І вось аднойчы перад намі з'явіўся малады сімпатычны настаўнік… Гэта быў Юльян Сергіевіч, які вучыў нас, старшакласнікаў, беларускай мове, рускай, арыфметыцы, гісторыі, маляванню і спевам. Сергіевіч быў чалавекам, якога мы не спадзяваліся сустрэць на сваім шляху. Ён меў у сабе нешта ўласнае, непаўторнае, разумеючы кожнага з нас індывідуальна, бачачы ў нас людзей з небанальнай будучыняй.

Сёння я ведаю, што мы мелі справу з паэтам, усведамляючым сваё прызванне, выключна начытаным для таго часу, знаўцам польскай і рускай літаратуры, паэзіі. У дадатак да гэтага ён прадстаўляўся беларусам і быў такім.

Збігнеў Жакевіч. Юльян Сергіевіч — мой беларускі настаўнік.
Куфэрак Віленшчыны. 2002. № 1 (6)

Шчырая падзяка ўсім, хто дапамагаў шукаць патрэбныя звесткі: прафесару Адаму Мальдзісу (Мінск), доктару Катажыне Вашчынскай (Варшава), дырэктару Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганне Запартыцы, перакладчыцы Кацярыне Заброцкай (Мінск), краязнаўцу Міхасю Казлоўскаму і журналістцы Вользе Рудніцкай (Маладзечна).

*Публікацыя і каментары Валянціны ТРЫГУБОВІЧ*

# «ВАМ, ЯК ГІСТОРЫКУ, НЕ ЗАШКОДЗІЦЬ ВЕДАЦЬ…» Лісты Зоські Верас да Віталя Скалабана. 1979–1988 гг.

Пра Зоську Верас упершыню пачуў ў Ленінградзе ў 1968 г. ад Рыгора Семашкевіча, які прыехаў працаваць у архівах па сваёй улюбёнай тэме «Беларусы ў Пецярбургу». Ён распавёў, што ў Вільні жыве ветэранка беларускага руху Зоська Верас — Людвіка Антонаўна Сівіцкая (па мужу Войцік, 1892–1991), якая шмат памятала і мела унікальны архіў, у тым ліку лісты пецярбургскіх студэнтаў.

— Толькі ўсё жаліцца, што ніяк у Менск прыехаць не збярэцца, — з лёгкай іроніяй, што яму вельмі пасавала, заўважыў Рыгор.

…Некалі будзе напісаная гісторыя Беларускай Энцыклапедыі, з якой былі знітаваныя шмат якія падзеі ў беларускай эпапеі канца мінулага стагоддзя. Першы крок у гэтым кірунку ўжо зроблены — да 100-годдзя Петруся Броўкі, першага галоўнага рэдактара Энцыклапедыі, убачыў свет ладны дакументальны зборнік[1]. Адной з асаблівасцяў Беларускай Энцыклапедыі было тое, што ў ёй працавалі не толькі выдаўцы і арганізатары, але і апантаныя падзвіжнікі-навукоўцы, якія выдатна скарысталі высокі статус энцыклапедычнай установы дзеля збору і сістэматызацыі расцярушаных дадзеных пра Беларусь і яе дзеячаў. Сапраўднымі заснавальнікамі школы беларускіх энцыклапедыстаў былі Пятрусь Броўка, найлепшым помнікам якому з’яўляецца 12-томная БелСЭ, яго намеснікі Алесь Петрашкевіч і Іосіф Хаўратовіч.

…У жыцці мне шмат шчасціла, перш за ўсё на сустрэчы з добрымі людзьмі. Яшчэ студэнтам я пазнаёміўся з Вадзімам Андрэевічам Круталевічам, які і прывёў мяне ў Беларускую Савецкую Энцыклапедыю як магчымага аўтара па пытаннях гісторыі стварэння беларускай савецкай дзяржаўнасці. Мне давялося спачатку пісаць рэцэнзіі, а потым і артыкулы, змешчаныя ў другім томе БелСЭ. А з 1972 г. пачаў працаваць малодшым рэдактарам у гістарычнай рэдакцыі, кантактаваў і з супрацоўнікам літаратурнай рэдакцыі Іванам Уладзіміравічам Саламевічам. Першая сустрэча з ім была выпадковая, у калідоры на трэцім, «урадавым», паверсе пяціпавярховай камяніцы, якую, на жаль, захаваць за сабой энцыклапедысты XXI ст. не здолелі. Добра памятаю, як дасведчаны Янка Саламевіч, ужо добра абазнаны ў складаных лёсах артыкулаў пра рэпрэсаваных дзеячаў, многія з якіх не былі рэабілітаваныя, здзівіўся, калі я ў яго запытаўся пра дату смерці ксяндза Адама Станкевіча, артыкул пра якога, напісаны М. С. Сташкевічам, мне, пачатковаму энцыклапедысту, даручылі рэдагаваць. Патрэбную дату Янка не ведаў, а пасля афіцыйнага ліста ў КДБ з просьбай паведаміць дату смерці А. Станкевіча прыняты да друку артыкул быў зняты «па рэкамендацыі дырэктыўнай установы». Наша таварышаванне з Янкам Саламевічам асабліва падсілкоўвалася супольным раскрыццём псеўданімаў, Іван Уладзіміравіч шчыра радаваўся кожнай знаходцы і адразу ж фіксаваў яе на картку — так папаўняўся яго знакаміты слоўнік псеўданімаў, што ўбачыў свет дзякуючы спрыянню Міхаіла Фёдаравіча Дубянецкага, які таксама пэўны час працаваў у Энцыклапедыі.

[1] Імя Петруся Броўкі Беларуская Энцыклапедыя / укладальнік Л. В. Календа. Мінск: БелЭн, 2005. Са зместу: Селяменеў В., Скалабан В., Календа Л. Пятрусь Броўка – энцыклапедыст. С. 13–126.

Менавіта Янка Саламевіч і парэкамендаваў распачаць ліставанне з незабыўнай Людвікай Антонаўнай. Яна вельмі ўсцешылася, што нарэшце гісторыкі зацікавіліся бежанскай тэматыкай. Давялося і неаднаразова наведваць гаспадыню знакамітай «Лясной хаткі» ў Вільні. А пра сцежку, што вяла ў лесе да хаткі, падрабязна распавёў і нават намаляваў схему Уладзімір Содаль, на той час аўтар тэлевізійнай перадачы «Роднае слова», з кім пазнаёміўся таксама ў Энцыклапедыі. У першую вандроўку ў «Лясную хатку» выбраўся разам з мастаком Іванам Пратасенем, які працаваў у энцыклапедычнай рэдакцыі ілюстрацый. Захаваліся і фотаздымкі з той паездкі. Так што ліставанне з Зоськай Верас не было выпадковым, яно было наканаванае як папярэднімі навуковымі росшукамі, так і працай у Энцыклапедыі. Гэтае ліставанне не ўсім падабалася, у сярэдзіне 1980-х гг., на пачатку перабудовы, некаторыя нават раілі спыніць з Зоськай Верас усе кантакты. Але гэтага не адбылося. Болей таго, для Беларускага тэлебачання з лёгкай рукі Вольгі Іпатавай і Уладзіміра Содаля з рэжысёрам Аляксандрам Сухоцкім і аператарам Аляксандрам Масальскім быў зроблены нарыс «Дарога да Зоські Верас» (на жаль, сёння знайсці ў архівах Беларускага тэлебачання тую стужку не ўдалося).

Лісты Зоські Верас друкуюцца па арыгіналах, што захоўваюцца ў адрасата. Лісты да Зоські Верас — пераважна па копіях, што таксама захаваліся, частка — па арыгіналах, што знаходзяцца ў асабістым фондзе Зоські Верас у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

У падрыхтоўцы публікацыі ўдзельнічала Мар’яна Тумаш.

*Віталь СКАЛАБАН*

# ЛІСТЫ ЗОСЬКІ ВЕРАС ДА ВІТАЛЯ СКАЛАБАНА

**№ 1**

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Паважаная Людвіка Антонаўна!

Звяртаюся да Вас па рэкамендацыі Івана Уладзіміравіча Саламевіча. Для «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» я рыхтую артыкул «Беларускае таварыства ў Петраградзе па аказанню дапамогі пацярпелым ад вайны». У архіве таварыства захоўваецца дакумент аб тым, што ў 1916 годзе было даслана 200 рублёў «г-же Сивицкой задатка на холст»[1]. Копію дакумента і пачатковы варыянт артыкула пра таварыства дасылаю Вам. Мяркую, што гэтыя грошы былі адасланы Вам як сакратару Мінскага беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны за тканіну, якую выраблялі ў майстэрнях Мінскага таварыства для бежанцаў-беларусаў у Петраградзе. Буду вельмі ўдзячны Вам за крытычныя заўвагі па зместу артыкула і, калі гэта магчыма, за звесткі аб Мінскім беларускім таварыстве дапамогі пацярпелым ад вайны, яго сувязях з таварыствам у Петраградзе.

Усяго Вам добрага!

В. Скалабан

16.8.1979 г.

220600, Мінск, ГСП, вул. Акадэмічная, 15а,
Галоўная рэдакцыя Беларускай Савецкай Энцыклапедыі
Скалабан Віталь Уладзіміравіч

**№ 2**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

19/VIII.79
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Ваш зварот да мяне зрабіў мне вялікую прыемнасць, бо я ўжо даўна шукаю некага, каб зацікавіць працай камітэту Менскага аддзела Т-ва помачы бежанцам. Да гэтай пары мне гэта не ўдавалася…

Аб Менскім камітэце пісаць мне німа патрэбы. У маіх успамінах праца камітэту апісана вельмі падрабязна і дакладна, а яны (успаміны) цяпер у Івана Уладзіміравіча Саламевіча і можаце там у сябе на мейсцы з імі пазнаёміцца. З Пецярбургскім гэтакім жа т-вам мы афіцыяльнай сувязі не мелі, але прыватна ведалі аб усіх іх справах. Справа ў тым, што ў Пецярбургу тады было шмат студэнтаў б. сябраў «Гродзенскага гуртка беларускай моладзі» — значыцца маіх сябраў, з якімі я стала карэспандавала. Асабліва часта са студэнтам юрыдычнага факультэту Адольфам Зенюком[2]. Ён дакладна

---

[1] Прывядзем гэты дакумент: *Расписка. Выслано по почте в г. Минск г-же Сивицкой задатка на холст 200 р. Уплачено за перевод — 25 коп. ... Э. Будзько. 12 октября 1916 г.* (НАРБ. Ф. 672. Воп. 1. Спр 2. Л. 27). Таксама захавалася распіска Петраградскага паштамта аб прыёме перавода на 200 рублёй у Мінск Сівіцкай (у гэтай самай справе, л. 27а).

[2] Зянюк Адольф (1895–1938), у 1916 г. студэнт юрыдычнага факультэта Петраградскага універсітэта. У 1920-я гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце, рэдагаваў часопіс «Студэнцкая думка».

апісываў падзеі сярод беларусаў у Пецярбургу, а я інфармавала яго аб тым, што робім ў Менску. Яго лісты мы чыталі супольна ў «Беларускай хатцы» (Захараўская, 18), а ў Пецярбургу мае лісты чыталіся на сходках у праф. Б. Шыпілы…

Лісты А. Зенюка маю і цяпер у сябе.

Перапісываць усё з лістоў А. З. немагчыма. Калі Вам гэта патрэбна і цікава, калі ласка, прыяжджайце, чытайце і рабіце сабе нататкі. Факты, ацэнка працы т-ва — гэта можа даць больш, чым афіцыяльныя дакументы.

Пасылаю Вам копію бланку «Менскага аддзела т-ва…» Чаму «аддзела»? Бо фактычна гэтае т-ва было зарганізавана ў Вільні ў пачатку вайны, г. зн. у 1914 годзе. У пачатку 1915 г. на падставе статуту Віл[енскага] т-ва быў створаны «аддзел…» у Менску, аб чым мяне паведамілі — ліст гэты маю…

Як бачыце з копіі бланку назоў т-ва, які Вы падаёце ў сваім артыкуле, не зусім правідловы, бо і Пецярбургскі аддзел гэтак жа называўся.

У лісце з 13/XII.1915 г. А. Зенюк мне піша: «Калі падалі "устаў" Вашага камітэту (Віленскі), то тутэйшы граданачальнік не зацвердзіў, прычапіўся да некаторых пунктаў і знайшоў нейкія недастаткі. Падалі з папраўкамі…»

27/III.1916 г. піша аб «Ігрышчы» пад маркай Т-ва п[омачы] п[ацярпелым] а[д] ва[йны].

Што да «расписки» на 200 рб, то я гэтыя грошы атрымала не столькі як сакратарка, а больш як загадчыца ткацкай майстэрні. А ў справе высылкі тканінаў у Пецярбург дзеля прадажы я перапісывалася (і маю адказ) з гр. Сталыгвовай.

Паслалі не толькі «холст», бо сапраўдна кужалю было не шмат, а ручнікі, фартушкі, мужчынскія кашулі з вытканым арнаментам, паўсукенак (калі Вам гэта нешта гаворыць — гэта тканіна на жаночы касцюм — аснова лён-уток (узор) фабрычная воўна). У маіх успамінах ёсць і спіскі вытканага і іх цэны, бо ў мяне захаваўся нататнік з рахункамі, прозвішчамі бежанак і г. д.

Толькі цяпер звярнула ўвагу на словы Вашага ліста, што «тканіну выраблялі для бежанцаў-белар. у Пецярбургу». Не, гэта не так. Ткацкая майстэрня ў Менску была адчыненая, каб выкарыстаць льняную пражу, якую нашы менскія (зарэгістраваныя) бежанкі-беларускі напралі праз год з купленай немалой колькасці гатовага — чэсанага лёну. Мы давалі ўсім жанчынам, што хацелі ў такі спосаб працаваць-зарабляць, — калаўроты, прасніцы і лён (важылі на фунты) і плацілі за гатовую пражу. Пражы набралася шмат, часць прадалі, а каб выкарыстаць астатнюю, адчынілі ткацкую. Здаецца ўсё. Калі што трэба — пытайцеся.

А мае ўспаміны — раджу шчыра прачытаць. Зычу поспеху ў працы. Калі ласка, перадайце прывітанне Івану Уладзіміравічу.

Л. Войцік

**№ 3**

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Паважаная Людвіка Антонаўна!

Прабачце, што затрымаўся з адказам, быў у адпачынку. Шчыры дзякуй за ліст і каштоўныя звесткі, а таксама за дазвол азнаёміцца з успамінамі і матэрыяламі, якія захоўваюцца ў Вас.

У гістарычным архіве ў Мінску знайшоў шэраг дакументаў пра дзейнасць Мінскага аддзелу Беларускага таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны. Калі яны цікавяць

Вас — магу даслаць выпіскі. У архіве захоўваецца таксама справа аб спробе Вільгельма Казіміравіча Русецкага выдаваць у 1916 годзе ў Мінску штодзённую газету на беларускай мове «Беларусь». Ці не мела Беларускае таварыства нейкага дачынення да гэтай няўдалай спробы? І яшчэ пытанне, ці ўдзельнічаў у працы Беларускага таварыства і «Беларускай хаткі» ў Мінску Янка Купала? Дасылаю Вам таксама фотаздымак драматычнага гуртка ў Петраградзе, зроблены ў 1918 годзе і надрукаваны ў часопісе «Беларускае жыццё» ў 1920 годзе. Можа, на фатаграфіі ёсць хто-небудзь з Вашых знаёмых? Буду вельмі ўдзячны за адказы на мае пытанні.

Усяго Вам добрага!

В. Скалабан

24.9.79.

220600, Минск, ГСП, ул. Академическая, 15а, БелСЭ
Скалабан Виталий Владимирович

**№ 4**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

1/Х.79
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Ахвотна адказываю на ўсе Вашыя пытанні.

1) Аб спробе В. К. Русецкага выдаваць газету ў нас у т-ве ніколі не было гутаркі, і я не помню, каб аб гэтым чула.

2) Янка Купала ніякага ўдзелу ў працы т-ва ніколі не прымаў. Хоць хіба ён нейкі час і быў у Менску, бо яго жонка часта заходзіла ў камітэт не дзеля працы, а проста «ў госці» — і мы ўтрох — Уладка, Ванда Лявіцкая (дачка Ядвігіна Ш.) і я — шчыра пасябравалі.

Таксама не прымаў удзелу Альберт Паўловіч, хоць у яго была вялікая сям'я, а нам, ой, як былі патрэбныя людзі…

Безграшоўе змушала часта ладзіць скарбоначныя зборы, і мы былі змушаныя прасіць малазнаёмых або зусім незнаёмых хадзіць са скарбонкамі…

За прапанову прыслаць выпіскі з дакументаў пра дзейнасць т-ва шчыра дзякуй, але не трэба. Мне так часта здаралася натыкацца на памылкі, ці сумысныя, ці выпадковыя, што баюся.

Не хачу сабе псаваць старых нерваў.

За здымак сардэчна дзякуй.

Не маю пэўнасці, але ці той, што сядзіць пасярэдзіне, не Чэслаў Родзевіч?

Першы з правага боку Я. Купала, а за ім стаіць Паўліна Мядзёлка?

Але, магчыма, мыляюся…

Калі што трэба, пішыце.

Усяго найлепшага!

Л. Войцік

## № 5

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Паважаная Людвіка Антонаўна!

Шчыры дзякуй Вам за ліст з адказамі на мае пытанні. Дасылаю артыкул пра беларускае таварыства ў Мінску, падрыхтаваны для энцыклапедычнага даведніка «Минск»[3]. Памер артыкула не дазволіў спыніцца на тым, што афіцыйна гэта быў «Минский отдел Белорусского [общества] помощи потерпевшим от войны». Буду вельмі ўдзячны Вам за ўдакладненні і заўвагі па зместу артыкула.

Усяго Вам добрага!

5 лістапада 1979 г.

220600, Мінск, ГСП, вул. Акадэмічная, 15а.
Галоўная рэдакцыя БелСЭ.
Скалабан В. У.

## № 6

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

11/XI.79
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Толькі што атрымала Ваш ліст і артыкул і зараз жа адказываю.

Я рада, што Вы артыкул прыслалі мне на перагляд, бо сапраўды пару драбніц трэба ўдакладніць.

У такім выпадку (у энцыклапедыі) паводле мяне і драбніца мае значэнне.

А я нават хацела да Вас пісаць, выясніць, чаму «баюся» тых матэр'ялаў, якія Вы знайшлі ў архівах, аб т-ве пом[ачы] пацярп[елым] ад вайны. Бачыце, я не помню, што з нашых сапраўдных «паперак» магло трапіць у архівы. А можна спадзявацца, што людзі, якія стаялі зусім збоку, маглі падаць факты, якія ім здаваліся праўдападобнымі.

Я, на вялікі жаль, неаднаразову з такімі выпадкамі спатыкалася.

Так, напр., у зборніку твораў М. Багдановіча пададзены артыкул М. Багдановіча, у якім ён гаворыць крыху аб камітэце т-ва помачы, і там такое: «Камітэт лічыў патрэбным адчыніць бел. дзіцячы прытулак на 500 дзяцей». А такога намеру не было і не магло ніколі быць… Мы ледзь-ледзь здолелі ўтрымаць і пракарміць каля 30 дзяцей.

Хто М. Багд[ановічу] мог падаць такія цыфры і нашто, не разумею.

---

[3] Ніжэй друкуецца варыянт артыкула, дасланы Зосьцы Верас.

Белорусское общество помощи пострадавшим от войны. Существовало в Минске с июля 1915 до нач. 1917. Насчитывало около 50 чел. Возглавлял общество комитет: В. И. Чаусов (предс.), А. И. Левицкий (Ядвигин Ш., зам. предс.), В. И. Голуб (В. Голубок, секретарь), А. С. Астрамович (А. Зязюля), В. А. Левицкая, Л. А. Сивицкая (Зоська Верас), Э. Л. Сивицкая, В. С. Фальский; в его работе принимал участие М. Богданович. Общество открыло ночлежные приюты для беженцев (в районе Комаровки, Золотой горки), детский приют в Ратомке, бесплатные столовые и 1 платную («Беларуская хатка», Захарьевская, 18), которая одновременно была и бел. клубом, где налаживались нелегальные вечеринки-субботники. Оказывало помощь беженцам в трудоустройстве: раздавало льноволокно и приспособления для прядения, основало ткацкую и починочную мастерские и др. Поддерживало связь с Бел. обществом в Петрограде по оказанию помощи пострадавшим от войны. Отсутствие постоянного источника финансирования не позволило обществу развернуть более активную деятельность.

А што фальш гісторыі шкодзіць, хіба са мной згодзіцеся…

Усяго найлепшага!
Плёну ў працы.

Л. Войцік

Гэты энцыклапедычны даведнік выдаецца ў рускай мове?

1) Першым віцэ-старшынёй быў увесь час Усевалад Фальскі.
Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі) быў другім (адначасна былі два, першы і другі).

2) Нельга лічыць, што Бел. дзіцячы прытулак быў у Ратамцы, бо фактычна ён быў заснаваны ў Менску (Маскоўская, 1) — летам 1916 г. быў на летнішчы ў Карпілаўцы (гасп[адарка] Ядвігіна Ш.), а ў восені, калі Тат’янінскі камітэт адмовіў нам у далейшай субсідыі на ўтрыманне прытулку, дзяцей нашых забраў у Ратамку дзяржаўны расейскі прытулак з тым, што згадзіўся, каб нашыя беларускія дзеці вучыліся асобна ў сваёй мове.
Тады вучыцелькамі там былі В. Лявіцкая і Ядвіга Радкевіч.

3) Мы мелі толькі ткацкую майстэрню (вул. Старажоўская, № 1), ніякай «пачыначнай» не было, ані «пашывной», у якой як быццам Ядвігін быў загадчыкам. Ядвігін Ш. сапраўды быў загадчыкам ткальні, але яна належала да арганізацыі «Союз городов».
Здаецца, усё.

Л. Войцік

Яшчэ адно: ці не лепш даць мае прозвішча па мужу — Войцік (толькі праз «ц», а не праз «т», як гэта часта робяць), а не псеўданім?
Але гэта як уважаеце…

## № 7

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

14/XI.79
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Выслаўшы Вам адказ, ці лепш — невялікія папраўкі да Вашага артыкула аб Бел. т-ве помачы, я пашкадавала, што не запыталася Вас, ці гэта распрацоўваецца для энцыклапедыі толькі Мінск ці і іншыя гарады Рэспублікі? Напр., Гродна?
Калі б была гутарка аб Гродне, хіба варта было б хоць кароткую заметку, што там у 1909 г. (70 гадоў таму!) быў заснаваны нелегальны «Гродзенскі гурток беларускай моладзі» і працаваў да 1913 г. уключна.
Калі б гэта Вас зацікавіла хаця б так, паміж іншым, то паведамляю, што ў Мінску ў Фундаментальнай бібліятэцы АН БССР у Лідзіі Іванаўны Збралевіч ёсць мае падрабязныя ўспаміны аб ГГБМ, здаецца, і са здымкамі — групамі сяброў гуртка. Як не як, гэта была праца беларускай моладзі ў часы царскія.
Лічу сваім абавязкам паведаміць, а ці спатрэбіцца? Гэта справа іншая.

Усяго добрага!

Л. Войцік

**№ 8**

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Паважаная Людвіка Антонаўна!

Прабачце, што затрымаўся з адказам — быў у камандзіроўцы ў Маскве. Вялікі дзякуй за вашыя заўвагі па артыкулу, я іх улічыў.

З матэрыяламі, якія знаходзяцца ў Лідзіі Іванаўны Збралевіч, азнаёміўся, думаю, што іх можна будзе выкарыстаць пры падрыхтоўцы «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі».

Дазвольце павіншаваць Вас з Новым, 1980 годам і пажадаць усяго самага найлепшага!

В. Скалабан

26.12.1979

г. Мінск

**№ 9**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Дзякую за навагоднія пажаданні і Вам узаемнае шлю: усяго найлепшага! Рада буду, калі што з маіх матэр’ялаў спатрэбіцца ў Вашай працы.

Калі б што трэба было — пытайцеся.

Заўсёды ахвотна адкажу.

Бывайце!

Л. Войцік

2/I.80 г.

Вільня

**№ 10**

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Паважаная Людвіка Антонаўна!

Дасылаю Вам артыкулы пра Ч. Родзевіча і П. Каравайчыка, якія я падрыхтаваў для энцыклапедыі «Янка Купала». Буду вельмі ўдзячны за ўдакладненні і заўвагі па гэтых артыкулах.

Таксама дасылаю інфармацыю з газеты «Минский голос» ад 19 мая 1917 года аб Беларускім таварыстве дапамогі ахвярам вайны[4] і звяртаюся да Вас з просьбай пракаментаваць гэтую інфармацыю.

Жадаю ўсяго добрага!

В. Скалабан

25 ліпеня 1980 г.

---

[4] Ніжэй друкуецца дасланая Зосьцы Верас інфармацыя.

**Среди белорусов**

На состоявшемся 17 мая собрании членов белорусского общества помощи жертвам войны избран комитет в составе 9 лиц.

Президиум: председатель А. В. Ахрем-Ахремович, товарищи его В. С. Фальский и И. Кривко, секретарь Л. Сивицкая и казначей А. Павлович. Решено организовать деятельность на новых началах в связи с переживаемым моментом.

**№ 11**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

31/VII.80
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Крыху затрымалася з адказам.

Да артыкулаў аб Ч. Родзевічу і П. Каравайчыку нічога дадаць не магу.

Прозвішча Каравайчыка помню — магчыма, ён мільгануў у т[аварыстве] помачы… Але коратка і хіба нічога канкрэтнага не рабіў, бо ён жа, як пішаце, у 1916 г. канчаў гімназію і ў той жа год выехаў у Пецярбург….

Мае Пецярбургскія карэспандэнты таго часу нічога аб ім не ўспамінаюць.

Ч. Родзевіча я бачыла ў 1916 г. у Пецярбургу адзін раз. Пецярбургскія студэнты пісалі мне аб ім як аб надзвычайна добрым, чуткім чалавеку, на якім можна абапёрціся ў кожную цяжкую мінуту. І гэта ўсё.

Абодва Вашыя артыкулы не патрабуюць ніякіх каментарыяў.

А вось інфармацыя з газеты?

Я пераглядзела ўсе свае нататкі з таго часу, адпаведныя старонкі сваіх успамінаў і нічога падобнага не знайшла!

Не разумею, каму і нашто патрэбная была такая містыфікацыя?

Прозвішча Ахрэм-Ахрэмавіч — першы раз чую…

Янка Крыўка (віленчук, сын фельчара, які ў Кучкурышках пад Вільняй меў свой дамок) хоць шмат памагаў у працы т-ва, напр., вёў разам са мной курсы агародніцтва, садаўніцтва і пчалярства для бежанцаў — афіцыяльным сябрам т-ва быць не мог, як «нижний чин» — фельдфебель пяхоты. Ніколі не прымаў удзелу ў паседжаннях і г. д.

А Паўловіч — скарбнікам? Я яго бачыла ў працягу 3 гадоў адзін раз на спатканні Новага году 1916–1917 гг. І больш не спатыкала… І наагул ніякай працы ў т-ве ён ніколі не вёў.

Рэарганізаваць дзейнасць т-ва не было патрэбы, бо яно наагул канчала сваё жыццё, не было патрэбным — аставалася выдаваць бежанцам адпаведныя пасведчанні дзеля старання аб «пропуске» на зварот да хатаў. І гэта ўжо як прыйшлі немцы, спынілася…

Каб Вам было ясней, перапішу кусок са сваіх успамінаў.

«Ад пачатку працы т-ва ў нас асобнага скарбніка не было… У мяне ёсць нататкі: таму і таму выплаціла, тое і тое купілі і г. д. Выходзіць, што я як сакратар мела ў сябе і кассу?»

Ва ўспамінах я пішу:

«Трэба прызнацца, што рахунковасці ў камітэце (т-ва) помачы вяліся ў нас вельмі “па-хатняму”. Каб зрабіць у гэтай справе нейкі парадак, пастанавілі назначыць сталага скарбніка, тым больш што былі часта скарбоначныя зборы, ды падпісныя лісты, а грошы — папяровыя, вялічынёй паштовых марак! (Калі былі такія грошы ўведзеныя заместа “царскіх”, Вы, напэўна, весткі знойдзеце). Што за мука была падлічваць скарбонкі! Але гэта рабіла камісія, а скарбніку падлічаныя грошы проста ссыпалі ў кучу… Трэба было раскладаць па вартасцях, звязываць і г. д. Цэлыя ночы праходзілі пры гэтай рабоце. Скуль ведаю? Бо гэтым нешчаслівым скарбнікам была ізноў-такі я.

Як жа цешыліся Фальскі, Смоліч, Галубок, Ядвігін, калі звалілі такую работу на маю галаву…

Сход, на якім мяне выбралі скарбнікам (гэта ўжо афіцыяльна, бо я і так ім была ўвесь час) адбыўся ў кнігарні Завальная, 24[5]».

---

[5] Відавочная памылка. Маецца на ўвазе Захар’еўская вуліца.

А. Паўловіча і следу там не было…

Ізноў паўтараю: не разумею, каму гэта трэба было падаваць у газету такую фальшывую інфармацыю? А што яна фальшывая — галаву даю…

Калі што трэба будзе — пішыце.

Усяго добрага!

Л. Войцік

## № 12

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Паважаная Людвіка Антонаўна!

Спяшаюся падзяліцца з Вамі радаснай навіной. У газеце «Дзянніца» (№ 4 ад 27 лістапада 1916 года) мне пашчасціла знайсці артыкул Максіма Багдановіча «Агляд працы за першы год Мінскага аддзела Беларускага таварыства для помачы пацярпеўшым ад вайны». Максім Багдановіч падпісаўся псеўданімам «М. Осьмак», скарыстаўшы прозвішча сваёй бабулі Ганны Осьмак. Зверка артыкула ў «Дзянніцы» з артыкулам М. Багдановіча «Дзейнасць Мінскага беларускага камітэта», які ўключаны ў другі том твораў паэта, сведчыць, што іх пісаў адзін аўтар.

Копію артыкула дасылаю Вам. У сувязі з падрыхтоўкай публікацыі артыкула буду вельмі ўдзячны за кароткія біяграфічныя звесткі пра Вашу маці Эмілію Людвігаўну Сівіцкую, Віктара Іванавіча Чаусава, Вільгельма Казіміравіча Русецкага, Яна Крыўку.

Энцыклапедычны даведнік «Минск» выйшаў з друку. Як толькі паступіць у продаж — дашлю Вам.

Жадаю Вам усяго найлепшага!

В. Скалабан

16 снежня 1980 г.
г. Мінск

## № 13

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

18/XII.80
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Сёння атрымала Вашую просьбу і зараз адказваю, каб не затрымліваць Вам работы. Цікава атрымалася: Вы прыслалі копію артыкула Максіма Б[агданові]ча, я яго прачытала (чытала і раней у зборніку) і адразу апынулася ў 1916 г. у Менску: сталоўкі, ёлка, курсы, батлейка і г. д.

Здаецца, што гэта ўсё было ўчора — так уелася ў памяць. А можа, і ў душу?..

Аб тых, аб кім просіце, напішу, але што рабіць з самым артыкулам Б[агданові]ча? Адкуль ён браў цыфры, хто яму мог нешта падобнае падказаць? Гэта ж так усё перабольшана…

Ці Вы гэты артыкул Максіма думаеце даваць цалкам у даведнік (у друк)?

Пачну ад пачатку: сталовак бясплатных было 2 і адна танная. Бясплатныя былі абедзве адчыненыя адначасова.

Начлежак (як мы называлі) было ўсяго 3 — і больш не адчынялі. І жыло там па 2–3 сям'і з малымі дзяцьмі або з хворымі старымі…

У прытулку было менш-больш чалавек 30. Як я прачытала артыкул Б[агдановi]ча першы раз, яшчэ жыла дачка Ядвігіна Ш. Ванда і я зараз да яе напісала. Пытаюся: «Вандзя, сколькі ў нас у прытулку ў Карпілаўцы было дзяцей?» Яна зараз адказала: «Было 30, на больш не было мейсца. А што Максім пабольшвае, мусі так трэба». Ну, а я з гэтым «трэба» не згодная. Мусіць быць праўда. Каб дзеці працавалі ў сялян: «касілі», «малацілі» — ніяк не было б магчыма, бо самы старэйшы хлапец меў 15 гадоў і то з бранхітам, а рэшта ад 2–3-гадовых і вышэй. Каму ж было працаваць?

У «ёлцы» ўсё ў парадку.

Батлейка — быў адзін батлейшчык і адзін цымбаліст. Абодва недзе з вёсак Міншчыны.

Курсы ў парадку.

Пража лёну — так, толькі што такой колькасці жанчын ніколі не было. Найбольш да 100.

У мяне захаваўся нататнік з таго часу, запісаны прозвішчы, імёны, адрасы, колькасці ўзятага лёну.

Ткацкая майстэрня была адчынена шмат пазней, як ужо быў запас пражы. Што ткалі і па якой цане прадавалі — маю запісы. А вось ткальні салдацкай адзежы не было. Гэтым займаўся г. зв. «Союз городов». Кіраўнікам адной з такіх ткальняў быў нейкі час Ядвігін Ш. Здаецца ўсё.

Ага, на прытулак мы атрымлівалі грошы нейкі час з г. зв. Тат'янінскага камітэту.

І я вельмі рада, што Вы знайшлі «Дзянніцу» з 1916 г., бо мне не адзін раз прышлося спрачацца з тымі, хто даказываў, што «Дзянніца» пачала выходзіць толькі пасля Кастрычніка ў Маскве.

Добра, што я маю лісты студэнта з Пецярбурга, у якіх ён піша аб пачатку выхаду ў свет «Дзянніцы» і «Swietača».

А цяпер біяграфіі.

Мая маці Эмілія Людвікаўна з Садоўскіх Сівіцкая. Радзілася ў 1869 годзе ў Сакольшчыне. Бацька меў маленькі фальварак Альхоўнікі.

Дзеля таго што родная цётка Эміліі Садоўскай жыла ў Кракаве — паехала туды вучыцца. Скончыла там 6-ці кл. г. зв. «закрытую пэнсію», дзе в. высако стаяла навука моваў — французскай і нямецкай. Скончыла маючы 16 гадоў. Вярнулася да бацькоў, яшчэ вучылася прасць і шыць… Выйшла замуж за афіцэра — падпаручыка родам з Гродна Антона Міхайлавіча Сівіцкага, які служыў у пяхоце на Украіне. У 1907 г. муж памёр. Вярнуліся мама і я ў свой край. Ад 1909 жылі ў Гродне. Мама як удава капітана дастала дазвол адчыніць вучнёўскую кватэру. Жылі гімназісты і гімназісткі, амаль усе беларусы. Калі зарганізаваўся Гродзенскі гурток беларускай моладзі — усе паседжанні, лекцыі, падрыхтоўкі да спектакляў адбываліся ў нас. Не раз і вечарынкі адбываліся, бо было піяніна і мама нам іграла да танцаў, паіла гарбатай ды падкармлівала.

Увосені 1915 г. выехалі як бежанкі ў Менск. Я адразу пачала працаваць у т-ве помачы… А праз нейкі час, калі я мусіла заняцца іншымі справамі, маме запрапанавалі загадываць сталоўкай «Беларуская хатка», Захараўская, 18.

У 1918 выехалі да сябе ў Гродзеншчыну. У 1923 у Вільню… Э. Л. Сівіцкая памёрла ў 1944 г., маючы 75 г.

В. І. Чаусаў

Аб ім магу сказаць вельмі мала.

Яго, як даволі знанага адваката ў Менску, запрасілі прыняць удзел у арганізаванні аддзела т-ва помачы… Як адвакат ведаў усе кручкі, як найлягчэй атрымаць дазвол на існаванне гэтага т-ва. Выбралі старшынёй і першыя (адкудь і ад каго, не ведаю) атрыманыя грошы зляжылі ў яго рукі, дзе яны сабе спакойна пралежалі да восені (кастрычніка) 1915 г. Паміж іншым аддзел быў зарэгістраваны ў канцы 1914 ці пачатку 1915 г.

Старшынёй лічыўся праз увесь час існавання т-ва. Але ні на паседжаннях не бываў, ні работай не цікавіўся. Час ад часу з'яўляліся на «вечарынах-суботніках», дзе бяззменна пяяў куплеты купалаўскія — «І як тут не смяяцца, праўды не казаць…».

В. К. Русецкі

Менскі мешчанін. Меў на Старажоўскай вул. 2 дамкі. Адзін стары-стары, уросшы ў зямлю, дзе сам жыў з жонкай, а другі зусім новы, які памог пабудаваць сын. (Дзе, у якіх мясцох гэты сын быў, не помню, ведаю толькі, што ён быў знаёмы з Фляр'янам Ждановічам, бо як Ф. Ждановіч прыехаў у Менск, адразу прыйшоў да Русецкіх і я там з ім пазнаёмілася).

Мелі сад, кусочак агароду і пчолы. Абое там працавалі. Гэты новы дом, ці лепш сказаць пакой у ім, мы нанялі пад ткацкую майстэрню. А ў садзе, агародзе і на пчольніку займаліся практыкай нашы курсанты з курсаў садаўніцтва і г. д.

Сам Русецкі, спрактыкаваны пчаляр, згадзіўся правясці з курсантамі практычныя заняткі. Трэба дадаць, што пасля ў гэтым новым доме ў Русецкіх нейкі час, падобна, жыў Я. Колас і іншыя беларускія сем'і.

Янка Крыўка

Паходзіў з мяйсцавасці Кучкурышкі пад Вільняй. Бацька фэльчар меў там свой дамок. Янка скончыў пад Вільняй 2-гадовы курс садаўніцтва з добрай практыкай.

У Менску апынуўся як вайсковы — фельдфебель пяхоты. Як ён пазнаёміўся з нашым камітэтам, зусім не помню. Але энергічны, працавіты і жыццёва спрытны, шмат памагаў у розных справах. Ідэя курсаў была нашай супольнай. Маю ў сябе яго рукой напісаную праграму курсаў. Пасля ён вёў практычныя работы па садаўніцтве (я практыку па агародніцтве, але як самая малодшая і найменш практычная, больш сядзела «на тэорыі» і розных рэфератах).

Пасля 1923 году я спаткалася з Я. Кр[ыўка]м ужо тут у Вільні, ён мне памагаў рэдагаваць месячны гаспадарчы дадатак да грамадаўскіх газетаў. Пасля вайны выехаў з сям'ёй ў Польшчу.

Аб далейшай яго долі не ведаю.

**№ 14**

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Паважаная Людвіка Антонаўна!

Шчыра дзякую за Вашыя заўвагі і каментарыі да артыкула Максіма Багдановіча. Я мяркую зрабіць публікацыю ў «Полымі». Ва ўступным артыкуле абавязкова адзначу Вашу дапамогу. У каментарыях выкарыстаю архіўныя матэрыялы і звесткі, якія Вы паведамілі.

З глыбокай удзячнасцю і пажаданнем усяго самага добрага,

В. Скалабан

24 снежня 1980 г.

## № 15

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

«Мінск» — атрымала, сардэчна дзякую. Прыгожае і каштоўнае выданне. Шмат уложана ў яго працы. Загана адна — не ў нашай роднай мове…

Чаму, разумею — гэта ж на ўвесь Саюз робіцца… а ўсё ж…

Усяго Вам найлепшага

Л. Войцік

Калі б што трэба было — пытайцеся. Заўсёды з радасцю адкажу.

27.I.81 г.
Вільня

## № 16

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Паважаная Людвіка Антонаўна!

Зноў звяртаюся да Вас за дапамогаю.

Сярод архіўных матэрыялаў Мінскага аддзела Беларускага таварыства мяне вельмі зацікавілі дакументы ад 31 кастрычніка і 22 снежня 1916 г. Іх машынапісныя копіі дасылаю Вам. Зверка арыгіналаў гэтых дакументаў з аўтографамі Максіма Багдановіча сведчыць, што іх пісаў Максім Багдановіч. Першы дакумент падпісаны Вамі як выконваючай абавязкі сакратара, Вашай рукою і зарэгістраваны дакумент.

Дасылаю таксама прывітанне мінскіх беларусаў «Да беларускай калоніі ў Петраградзе», надрукаванае ў «Дзянніцы» 27 лістапада 1916 года, у гэтым жа нумары змешчаны і артыкул Максіма Багдановіча пра Беларускае таварыства.

Буду вельмі ўдзячны за каментарыі да гэтых дакументаў.

З пажаданнем усяго самага добрага,

В. Скалабан
20.4.81 г.

## № 17

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

25/IV.81
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

З прыемнасцю адказваю Вам і спадзяюся па магчымасці ўсё выясніць.

Што да ліста да Пецярбургскіх (тады ж ён быў яшчэ Пецярбургскім!), усё проста і ясна.

З «прашэннем» аб дазволе на скарбоначны збор да Менс[кага] губернатара таксама ніякіх заўвагаў быць не можа — я не толькі падпісывала, але і сама з гэтымі «прашэннямі» хадзіла. «Яго Сіятельствам» губернатар быў таму, што ён быў князь! Адно толькі дзіўна, што А. Лявіцкі падпісаўся як «председатель комитета» тады, калі старшынёй (председателем) увесь час быў фармальна Чаусаў, а А. Лявіцкі — віцэ-старшынёй (заместителем),

таксама як і У. Фальскі. З той розніцай, што У. Фальскі фактычна замяняў старшыню ва ўсіх справах: г. зв. «ходатайствованиях».

Што да трэцяй паперкі — просьбе аб адзежу — то я тут нічога не разумею. Тым больш, што мяне ў той час ў Менску якраз не было праз 3 тыдні. Я была ў Пецярбургу, каб пры помачы тамтэйшых беларускіх дзеячоў даведацца, ці можна лічыць на помач дзяржаўных органаў нашаму Менскаму камітэту.

Трэба дадаць, што з гэтага нічога не выйшла — тады ўжо ураду было не да бежанцаў і іх патрэбаў.

Не ведаю, ці лепш — не помню, ці я Вам ужо пісала, што ў Ратамцы ніякага «беларускага» прытулку не было!

Калі нам увосені 1916 г. трэба было ўжо забіраць нашых дзяцей з «летнішча» ў Карпілаўцы (Ядвігіна Ш.) і мы, не маючы ніякіх сродкаў матэрыяльных, звярнуліся да Тат'янінскага камітэту з просьбай аб помачы, каб далей утрымліваць свой прытулак у Менску, нам адказалі, што ўтрымліваць асобны прытулак на малую колькасць дзяцей (у нас іх было калі 30-ці чалавек) не аплачваецца, і запрапанавалі аддаць дзяцей у вялікі прытулак Тат'янінскага к[амітэ]ту, які існаваў якраз у Ратамцы. Мы былі змушаны на гэта згадзіцца, але паставілі варунак, што «нашыя» дзеці будуць вучыцца асобна ў мове беларускай і іх будуць вучыць іх дагэтульшнія вучыцелькі і апякункі: Ванда Лявіцкая (дачка Ядвігіна) і яе памочніца Ядвіга Радкевіч. Згоду на гэта мы дасталі, і хоць дзеці жылі разам з іншымі ў вялікім будынку, на школу далі амаль побач маленькі дамок, г. зв. «дачу», дзе ў вялікім пакоі паставілі парты, а ў маленькім, аграваным жалезнай печкай, жылі В. Лявіцкая і Я. Радкевіч. Якія былі абставіны і як вучыліся, ведаю добра, бо ездзіла да іх пару разоў на месяц.

У агульным (Тат'янінскім) прытулку нашыя дзеці былі пакормленыя і апранутыя, так як і ўсе іншыя. Дык на што было б прасіць Тат['янінс]кі камітэт аб адзежу і бялізну для іх? І то на 52, калі ў нас ніколі столькі не было? Чый гэта помысл і дзе тут сэнс — не разумею і да цяперашняга часу нічога аб гэтым не ведала…

Як гэта, так і ўсе перабольшаныя цыфры ў артыкуле М. Багдановіча астаюцца для мяне загадкай.

Каго М. Б[агданові]ч радзіўся, у каго пытаўся? Ён жа сам быў коратка і арганізацыя бел. дзіц. прытулку ў Менску адбывалася перад яго прыездам.

Як жа я не люблю ўсялякага фальшу! Хоць бы ён і нікому не шкодзіў. Але «няпраўда» ёсць «няпраўда».

Ёю можна скарыстацца толькі тады, калі гэтага вымагаюць выключныя абставіны.

А так — без патрэбы? Гэта толькі фальшуе гісторыю…

Я вельмі рада з таго «прашэння» да губернатара, бо гэта цалком выясніла тую «совершенно секретную» — паперку ад паліцмайстара. А я ўсё думала, чаму гэта паліцыя так намі зацікавілася?

Ці Іван Уладзіміравіч Саламевіч аб гэтым «прашэнні» да губернатара ведае? Яго варта было б дадаць, як дакумент да маіх успамінаў аб Т-ве помачы ахвярам вайны, якія маюцца друкавацца ў 1-й кніжцы «Спадчыны».

Калі можа што не зусім ясна, калі ласка — пытайцеся.

Усяго найлепшага!

Усім знаёмым прывітанне.

Л. Войцік

P. S. Я чула, што ў Вас у Энцыкл[апедыі] працуе Уладзімір Варава? Ён быў некалісь адказным рэдактарам Грамадаўскай прэсы і мы з ім на Віленскай, 12 разам працавалі. Цікава, ці ён мяне помніць? Калі так, то і яму шчырае прывітанне.

## № 18

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Паважаная Людвіка Антонаўна!

Шчыры дзякуй за ліст і заўвагі да матэрыялаў. Як Вы раіце, некаторыя архіўныя дакументы я перадаў Івану Уладзіміравічу. Магчыма, яны ўвойдуць у «Спадчыну» як дадатак да Вашых успамінаў.

Адносна Уладзіміра Варавы — дасылаю артыкул, змешчаны ў 2-м томе Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

Зараз ідзе падрыхтоўка да 90-годдзя Максіма Багдановіча. У Мінску адкрыецца помнік паэту, вельмі цікавай абяцае быць выстаўка, якая арганізуецца Саюзам мастакоў БССР. Мастак Іван Пратасеня, супрацоўнік нашага выдавецтва, рыхтуе да выстаўкі работу і пытаецца, як выглядаў Максім Багдановіч у Мінску восенню і зімою, ці насіў шалік? Калі насіў шапку — то якую? Ці настаўляў каўнер у халодны час?

Беларускае тэлебачанне вельмі зацікавілася тэмай «Максім Багдановіч у Мінску», асабліва тым, што Вы, паважаная Людвіка Антонаўна, шмат ведаеце і можаце самі расказаць пра паэта. Было б вельмі добра, каб аператары тэлебачання ў бліжэйшы час прыехалі разам са мною ў Вільню і запісалі для перадачы Вашыя ўспаміны пра Максіма Багдановіча. Спадзяюся, што Вы будзеце згодны на такую ўдзячную справу, перадача ж пойдзе на ўсю Беларусь…

З пажаданнем усяго самага лепшага,

В. Скалабан

4 чэрвеня 1981 года

## № 19

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

7/VI.81
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Проста не ведаю, што Вам адказаць… Мае ўспаміны аб М. Багд[ановічу] — «Пяць месяцаў у Менску» — друкаваліся ў «ЛіМ’е», увайшлі ў кніжку Н. Б. Ватацы «Шлях паэта», а больш дадаць не маю чаго… Напісала так падрабязна…

А найважнейшае тое, што я апошні час вельмі дрэнна чуюся… І то па-сапраўднаму дрэнна. Ледзь на нагах трымаюся… Які ж з мяне ў такіх умовах апавядальнік? Дзеля ажыўлення перадачы лепш гутарка, а тут ізноў праблемы: я вельмі дрэнна чую — мне трэба пісаць запытанні…

Як жа бы гэта выглядала?

Як бачыце, перашкодаў шмат…

А вось каб Вы прыехалі самі, гэта было б добра. Можа, знайшлося і для Вас па Вашай дзейнасці што цікавае — у мяне ж сапраўды нешта падобнае да архіваў. Маю каля 5000 лістоў, шмат здымкаў…

А і пагаварыць на гэтую самую тэму — М. Б[агданові]ч — было б аб чым, чаго ані ў друку, ані ў перадачы не закранеш…

Гэта — мая няшчасная Бядуліная фантазія «Страцім-Лебедзь»…

Да мяне пісаў дырэктар Літар[атурнага] музея Максіма Б[агданові]ча — што хацелі б прыехаць і г. д. Я адказала, запрашала на пачатак прыблізна гэтага месяца…

Пакуль што маўчаць.

Мо таму, што я ніякіх лістоў М. Б[агданові]ча, ні яго незнаных здымкаў не маю. А мела б даць толькі рысунак «Беларускай хаткі» ды яе план. Так што карысць з мяне не вялікая… Могуць і не прыехаць, а мне з некім адпаведным пагаварыць трэба. Папярэдзіць, каб уся хлусня, якую напісаў З. Бядуля, не распаўсюдзілася далей.

Цяпер адказ для Вашага мастака І. Пратасені. Апошнюю (бяссонную) ноч ламала сабе галаву над гэтымі адказамі — ці меў Максім шалік? Абсалютна не прыпамінаю… хіба што не? Шапку насіў — сваю яшчэ студэнцкую і пальто студэнцкае — ветрам падшытае…

Каўнера не настаўляў…

Вельмі добры вонкавы вобраз Максіма даў у сваіх кароценькіх успамінах Лявон Заяц-Зайцаў, змешчаных у кніжцы «Шлях паэта», стар. 68-я. Не магу толькі згадзіцца з адным сказам: «часта недаядаў…» Чаму ж гэта? Максім прыходзіў раніцай у «Бел. хатку», мы разам снедалі і разам выходзілі на работу. Пасля ён у «Бел. хатцы» абедаў і або ўжо аставаўся аж да г[адзін] 10–11 — значыцца вячэраў абы на пару гадзін выходзіў, а пасля на вячэрнюю гарбату прыходзіў ізноў.

Так што пакуль! Бывайце.

Чакаю адказу.

Л. Войцік

[P. S.] Калі б Вы надумаліся прыехаць (што было б в. добра), то мушу напісаць, як мяне знайсці. Найлепш пазваніць проста з Менска да майго зяця Лявона Антонавіча Луцкевіча[6] на работу: № тэлеф. 632443, дамовіцца, калі і чым прыедзеце, і ён у пазначаны час Вас спаткае ды прывядзе. Гэтак робяць усе, хто першы раз прыязджае. Інакшай рады німа.

---

А каб так зрабіць энцыклапедычны артыкул «Беларуская хатка»?

Цяпер, калі маю добрую рэканструкцыю, план памяшкання…

Мо неяк разам акрэслілі б яе мейсца на Захараўскай, 18.

Гэта можна зрабіць толькі асабіста, а не лістоўна.

Быў бы канец непаразуменням.

Л. Войцік.

## № 20

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Паважаная Людвіка Антонаўна!

Шчыры дзякуй за ліст. Думаю, што завітаць да Вас змагу ў канцы чэрвеня. Раней не атрымаецца па сямейных абставінах.

Зараз я працую ў рэдакцыі літаратуры над «Энцыклапедыяй літаратуры і мастацтва Беларусі». Мяркую, што можна будзе змясціць артыкулы «Гродзенскі гурток беларускай моладзі», «Колас беларускай нівы», значна дапрацаваць артыкул «Беларуская хатка».

Іван Пратасеня вельмі ўдзячны Вам за ўспаміны пра знешні выгляд Максіма Багдановіча.

Да хуткай сустрэчы!

З пажаданнем усяго самага добрага,

В. Скалабан

16 чэрвеня 1981 года

---

[6] Луцкевіч Лявон Антонавіч (1922–1991), беларускі грамадскі і культурны дзеяч, сын Антона Луцкевіча. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. У 1944 г. уступіў у Беларускую краёвую абарону. У 1945 г. у Польшчы арыштаваны і засуджаны. Пасля вызвалення з лагера жыў у Вільнюсе, ажаніўся з дачкой З. Верас Галінай Антонаўнай Войцік.

**№ 21**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

21/VI.81
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Я вельмі ўцешылася магчымасцю хутка пазнаць Вас асабіста.

І я, здаецца, ужо пісала Вам, як да мяне дабрацца — тэлефон да майго зяця і г. д.

Тым часам нечакана малая перашкода… Сёння я даведалася, што зяць на наступны тыдзень (ад 22 па 29) узяў адпачынак і на рабоце яго не будзе.

Астаюцца 2 магчымасці: або распытацца ды ўзяць план дарогі да нас ці ў Івана Уладзіміравіча Саламевіча або ў Уладз[іміра] Ільіча Содаля, або адлажыць выезд у Вільню на першыя дні ліпеня.

Гэта як Вам выгадней.

Я з радасцю пазнаёмаю з усімі матэр'яламі, што тычацца гуртка, «Коласа бел. нівы», а мо яшчэ з «Бел. борцяй», т[аварыства]м «Пчала», «Гісторыяй 1-га бел. адрыўнога календара»… З «Бел. хаткай» таксама, тым больш што маю яе рысунак (добры), план памяшкання, рысунак «Бел. кнігарні» ў Менску.

Асабіста лягчэй растлумачыць, дзе гэта было… Мушу дадаць, што чуюся даволі блага, а не хацелася б, каб што асталося недагаворанае.

Усяго добрага!

Чакаю.

Л. Войцік

**№ 22**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

24/X.81
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Нешта Вы даўна не адклікнуліся… Не маеце да мяне ніякай справы?

А я маю да Вас просьбу.

Ці не маглі б Вы зрабіць ксеракопію таго «прашэння» на імя Мінск[ага] губернатара, пісанага рукой Максіма Багдановіча?

Гэта для Літаратурнага музея М. Багдановіча ў Гродне, які там арганізуецца.

Я падсказывала Мінскаму літар[атурнаму] музею М. Багдан[овіча], каб яны пастараліся для сябе гэты, па-моему, важны экспанат, бо ён сцвярджае супрацоўніцтва М. Багдановіча ў Камітэце т-ва помачы ахвярам вайны.

Ці здабылі яны яго ўжо, не ведаю. Ды гэта іх справа.

А Гродзенскаму музею я мушу дапамагчы. Гродна — горад майго бацькі, і ўсе яго справы для мяне дарагія.

Калі гэта магчыма, не адмоўце маёй просьбе.

Падаю адрас, на які можна выслаць.

Усяго добрага!

Л. Войцік

Адрас (адной з арганізатараў музея)
Бічэль-Загнетава Данута Іванаўна
230009 Гродна
(Адрас не друкуецца. — *В. С.*)

**№ 23**

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Мінск. 5.XI.81 г.

Глыбокапаважаная Людвіка Антонаўна!

Вашу просьбу выканаў, фотаздымак аўтографа Максіма Багдановіча адаслаў Данусе Бічэль-Загнетавай. Днямі вычытаў карэктуры публікацый пра Максіма Багдановіча ў «Полымі» і «Нёмане», як часопісы выйдуць, дашлю Вам.

З пажаданнем усяго самага добрага

В. Скалабан

**№ 24**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

14/XI.81
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Сардэчна дзякую за выкананне маёй просьбы. За «Нёман» буду ўдзячная, а «Полымя», калі ласка, не прысылайце, бо мы яго выпісываем і атрымліваем акуратна.

Усяго добрага!

Л. Войцік

**№ 25**

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Глыбокапаважаная Людвіка Антонаўна!

Вось і адсвяткавалі юбілей Максіма Багдановіча. Як і абяцаў, высылаю часопісы «Полымя» і «Нёман», а таксама газеты з юбілейнымі матэрыяламі. На жаль, у «Полымі» рэдакцыя зняла каментарыі.

З пажаданнем усяго самага добрага,

В. Скалабан

17.12.1981 г.
г. Мінск

*БДАМЛМ. Ф. 318. Воп. 1. Спр. 137. Л. 18.*

## № 26

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Сардэчна вітаю Вас з Новым годам. Зычу ўсяго самага лепшага: здароўя, плёну ў працы, радасці, шчасця… Шчыра дзякую за ўсё прысланае. Хоць мы «Полымя» выпісваем, але і лішні экзэмпляр не пашкодзіць. Вельмі ўдзячная Вам за добры артыкул у «Нёмане».

Хоць людзям будзе вядома, як працавала Т-ва помачы…

І добра, што ўспомнілі аб «Дзянніцы» 1916 г., а то шмат дзе падаецца, што «Дзянніца» пачала выходзіць толькі ў 1918 г. у Маскве, а аб яе папярэднім існаванні не ўспамінаецца. Мяне толькі бянтэжаць цыфры ў артыкуле Максіма. Скуль ён іх браў? Напр., «вывезлі ў Карпілаўку 50 дзяцей…», а ў нас іх ніколі не было больш як 30–35. Ён гэта пісаў тады, як я была 3 тыдні ў Пецярбургу (як тады называўся). Мо яму хто радзіў? Падказваў? Не ведаю…

Але гэта ў апошнім не так важна. Адно, што не згаджаецца з маімі ўспамінамі.

На скольні паўнейшымі былі б успаміны аб побыце Максіма ў Менску, каб не трэба было прапускаць прозвішча яго найлепшага сябры таго часу Аркадзя Смоліча[7]. Гэты быў самы сардэчны прыяцель і апякун Максіма. Яны былі аднагодкамі…

Усяго добрага!

Л. Войцік

Калі ласка, перадайце маё дзякуй маст. Пратасеню за рысунак[8]. Як добра, што на фоне старога Мінска…

Падзякавала б сама, але не ведаю адрасу, а што горш — ані імяні, ані па бацьку…

## № 27

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Глыбокапаважаная Людвіка Антонаўна!

Дасылаю «Голас Радзімы» з публікацыямі пра Максіма Багдановіча. У газеце змешчана і мая публікацыя пра аўтограф паэта. Тэкст напісаны разам з Людмілай Забалоцкай, супрацоўніцай нашага выдавецтва. Людміла дасылае Вам таксама свой зборнік «Радаводны васілёк».

З пажаданнем усяго самага лепшага,

В. Скалабан

1.2.1982 г.

---

[7] Смоліч Аркадзь Антонавіч (1891–1938), навуковец, палітычны і грамадскі дзеяч. Рэпрэсаваны ў 1930 і 1937 гг. Канчаткова рэабілітаваны толькі ў 1988 г., таму цэнзура выкрэслівала яго прозвішча.

[8] Маецца на ўвазе малюнак І. Пратасені «Максім Багдановіч і Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая) у Мінску. Восень 1916 года», надрукаваны на трэцяй старонцы вокладкі часопіса «Нёман», 1981, № 12.

## № 28

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

10/II.82
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Шчыра дзякую за прысланы нумар «Гол[ас] Радзімы». Хоць я ўжо яго мела, бо атрымліваем, але вашая ласкавая памяць вартая сардэчнай падзякі. Маю ўжо цэлую папку «90-годдзе М. Багдановіча» — усе часопісы, усе матэр'ялы, якія адносяцца да гэтай даты.

Чытаючы «Голас Радзімы», г. зн. адносны 50 нумар, не абмінула я і артукулу «Тым імя мілае вышэй» нейкай Д. Вярхоўскай.

Вы, як гісторык, напэўна не здзівіцеся, што на мяне гэты артыкул зрабіў дзіўнае ўражанне. Відаць з усяго, што пісала яго асоба, якая абсалютна не дбае аб праўду напісанага. Дзве вялікія памылкі кідаюцца ў вочы. 1-я. М. Багдановіч прыяжджаў у Вільню ў 1911 г., і даволі спраўдзіць у Энцыкл. або ў кніжках «Пісьменікі Беларусі», каб ведаць, што ў той 1911 г. у Вільні не было ані Я. Коласа, ані Я. Купалы, ані З. Бядулі, ані Канст. Буйло.

Другая: …з Мінска ў Ніжні Ноўгарад пасля смерці жонкі пераехаў з пяцігадовым Максімам і г. д.»

Відаць, аўтарка не чытала жыццяпісу Максіма і не ведае, што ён жыў у Гродне?

Ну, добра, памылкі, далікатна кажучы, аўтара, але што робяць рэдактары газеты? Якая іх роля?

Мусі, гэта таму, што «рэдакцыйная калегія», а дзе «няняк шэсць, там дзіця без носа».

Падумаць, што такое ідзе за мяжу…

Сапраўды сорамна.

У гэтую хвіліну спахапілася: можаце сказаць, чаму гэта я Вам менавіта пішу, а не каму іншаму? Мусі, якраз таму, што Вы гісторык і хіба найлепш мяне зразумееце.

Я арганічна не магу сцярпець няпраўды і абыякавасці да яе.

Усяго Вам найлепшага!

Л. Войцік

## № 29

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Сардэчна дзякую за памяць, за добрыя пажаданні.

На вялікі жаль, і ўвішнасць, і няўрымслівасць катастрафічна зніжаюцца. І хіба не дзіва — кожны дзень набліжаецца «дзевяць дзесяткаў». Ці ж не страшна?

Усяго Вам найлепшага!

Л. Войцік

14/III.82
Вільня

**№ 30**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

11/IV.82
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Магчыма, Вы ўжо атрымалі з Гродна ад Дануты Іванаўны Бічэль-Загнетавай просьбу прыслаць у будучы музей М. Багдановіча аўтограф паэта?.. Тое «прашэнне» да Мінскага губернатара — з маім подпісам…

Калі ласка, не адмоўце…

Там у іх трагічнае становішча. Памяшканне (у доме, дзе жылі Багдановічы) быццам далі, арганізацыю музея даручылі Бічэль-Загнетавай, але ані грошай на рамонт, ані на экспанаты не даюць…

Проста здзек.

Данута Іванаўна проста не ведае, куды звярнуцца, што ёй рабіць.

Усяго добрага!

Л. Войцікава[9]

**№ 31**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

25/VI.82
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Такая справа.

Нехта (не помню хто) мне казаў, што добра было б даць вестачку ў Літаратурную БСЭ — аб «Коласе беларускай нівы» — аднаднёўцы (як мы яго называлі), выдадзенай Гродзенскім гуртком беларускай моладзі ў 1913 г.

Аб ГГБМ… Вы ведаеце, нат гаварылі А. М. Пяткевічу аб маіх успамінах, друкаваных у 1925 г. у «Студэнцкай думцы».

Я, зразумела, згадзілася, што аб «Коласе бел[арускай] н[івы]» напісаць трэба, але я асабіста за гэта не беруся — дрэнна чуюся і не маю часу — трэба спяшацца закончыць розныя справы.

Запрапанавала напісаць аб «Коласе…» Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу. Ён адказаў, што можа гэта зрабіць, але мусіць атрымаць заказ з БелСЭ. Што Вы на гэта? «Колас…» — гэта высілак сябраў гуртка і адзіны рэальны знак яго існавання…

Я ў сваіх ўспамінах аб ГГБМ пісала, што «Колас…» загінуў. Гэтак думала доўгія гады. На шчасце, памылілася. І. У. Саламевіч, працуючы ў Віленскіх архівах, натрапіў на яго… Не маючы магчымасці зрабіць фотакопіі, бо экзэмпляр быў моцна знішчаны, быў так добры, што перапісаў усё ад рукі! Удзячнасць для мяне бязмежная…

Пасля мне яго передрукавалі на машынцы і зрабілі вокладку паводле майго апісання, такую, як была ў сапраўднасці, у некалькіх экзэмплярах. Адзін з іх я пераслала А. М. Пяткевічу.

Рада была б атрымаць ад Вас адказ.

Сёння, 25 чэрвеня, адзін з першых сябраў Гродз[енскага] гуртка (жыве даўна ў Польшчы) Зыгмунт Абрамовіч канчае 90 гадоў!! У. І. Содаль напісаў з гэтай нагоды аб ім

[9] Ліст Д. Бічэль-Загнетавай да В. Скалабана ад 18.04.1982 г. і паштоўка ад 30.04.1982 г. захаваліся.

артыкул, занёс у ЛіМ, але там не спяшаюцца… А шкада, бо З. Абрам[овіч] быў у трупе І. Буйніцкага, а што яшчэ важней — ён сваяк Фр. Багушэвіча… І па сённяшні дзень захаваў чыстую бел[арускую] мову.

Усяго найлепшага.

Шчыра зычлівая,

Л. Войцік

На ўсялякі выпадак пасылаю адрасы Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча.

Сталы ў Гродне:
Гродна 230029
вул. Горкага, 78, кв. 13

Часовы ў Мінску:
вул. Кастрычніцкая, д. 10а, кв. 304б

**№ 32**

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Глыбокапаважаная Людвіка Антонаўна!

Шчыры дзякуй за рэцэнзію на артыкул пра «Заранку». Вашы заўвагі пастараемся ўлічыць.

Адносна артыкула пра «Колас беларускай нівы». Вельмі хочацца, каб гэты артыкул напісалі Вы, шаноўная Людвіка Антонаўна. Дасылаю заказ і прыкладную схему. Толькі больш за старонку машынапісу рыхтаваць не трэба, гэта ж для Энцыклапедыі, куды трэба пісаць сцісла.

Дасылаю таксама «Голас Радзімы» ад 24 чэрвеня, на 6 старонцы газеты — інфармацыя пра Вас, а на 8-й — артыкул Г. Каханоўскага пра Ігната Кулакоўскага, Вашага прадзеда.

З пажаданнем усяго самага добрага,

В. Скалабан

28 чэрвеня 1982 года

**№ 33**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

7/VII.82
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Ну, вось паслухала Вас і напісала[10]…

Што гэта вартае, не ведаю.

Да 20-га яшчэ ёсць час. Калі што не так, калі трэба паправіць, дадаць — пішыце. Прыкра, што так неакуратна запоўніла аўтарскую картку. Апошні час в. дрэнна чуюся.

Усё, што раблю, патрабуе шмат высілку. А маю яшчэ не адну работу скончыць. Дзякую за прысланы «Голас Радзімы». Я ўжо чытала, бо «ГР» стала атрымліваю. Было б прыемна, каб у артыкуле не было недакладнасцяў…

[10] Артыкул Л. А. Войцік «Колас беларускай нівы» змешчаны ў Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва. Мінск, 1985. Т. 3. С. 96.

Што ж, не кожны так, як Вы, стараецца ўсё да дробязей выясніць.

А ў вестцы аба мне асабіста ў іх атрымалася бессэнсоўшчына… Быццам я скончыла 2 школьныя ўстановы. А я ў сваёй аўтабіяграфіі напісала выразна: …пачала навуку ў Кіеве ў частным «Коммерческом училище Л. Н. Володкевич» — скончыла там 4-ю кл. і ў выніку смерці бацькі пераехала ў Гродна, дзе паступіла ў прыватную гімназію і скончыла яе ў 1912 г. Перадусім, коммерческое — гэтае ніякая не камерцыйная, а гандлёвая школа. Яна 7-[год]ка, а я скончыла толькі 4 кл. і ў Гродне паступіла адразу ў 6 кл. Тая Кіеўская школа была на высокім узроўні і в. шкада было яе кідаць… Не ўдалося.

А як у Вас са «Студэнцкай думкай». Ці будзе яна ўлічаная ў літаратурную энцыкл[апедыю]?

Я ведаю, што Вы «Ст[удэнцкую] думку» бачылі, чыталі, бо ж Вы сказалі А. М. Пяткевічу[11] аб маіх успамінах аб Гродз[енскім] гурт[ку], там надрукаваных.

У мяне «Студэнц[кай] думкі» ёсць шмат нумароў, і я з ёй мела блізкае дачыненне і шмат аўтараў ведала асабіста.

Калі б хто хацеў з гэтым часопісам бліжэй пазнаёміцца, калі ласка, няхай прыяжджае. Некаторых аўтараў «Студэнц[кай] думкі» і біяграфіі маю, і лісты, і здымкі.

Усяго найлепшага!

Л. Войцік

Не паспела ліста ўлажыць у каперту, як прыехаў Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі[12]. Выявілася, што недакладнасці ў артыкуле «І. Кулакоўскі» паўсталі таму, што ён не атрымаў майго ліста, у якім я яму пераслала дакладныя весткі, атрыманыя з Беластоцкіх архіваў.

Цяпер Генадзь Аляксандравіч усё сабе запісаў, мо яму яшчэ гэта спатрэбіцца.

Калі зяць мой сёння перадрукуе на машынцы мой матэр'ял, то заўтра вышлюць. Не ведаю, ці атрымалі тое, што я напісала ў энцыкл[апедыю] «Прырода Беларусі».

Мо і тое трэба было перадрукаваць, а не пасылаць рукапіс?

Але калі і зрабіла памылку, то ўжо прапала…

Яшчэ раз ўсяго добрага!

Л. Войцік

**№ 34**

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Глыбокапаважаная Людвіка Антонаўна!

Прабачце, што адказваю са спазненнем, быў у адпачынку. Нататку пра «Колас беларускай нівы» атрымалі, будзем рыхтаваць артыкул у «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі». Рэдакцыя біялогіі Вашы матэрыялы таксама атрымала і, як пераказваў мне загадчык рэдакцыі Н. А. Дзісько, задаволена імі.

У сувязі з падрыхтоўкай у «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі» артыкула пра Вас, просім адказаць на пытанні анкеты.

Дасылаю вам паштоўку, якую напісаў Станіслаў Фёдаравіч Цярохін[13].

З пажаданнем усяго самага лепшага,

В. Скалабан

17 жніўня 1982 г.

*БДАМЛМ. Ф. 318. Воп. 1. Спр. 137. Л. 15.*

---

[11] Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч (н. 1931), літаратуразнавец.

[12] Каханоўскі Генадзь Аляксандравіч (1936–1994), гісторык, краязнавец.

[13] Цярохін Станіслаў Фёдаравіч (н. 1929), этнограф.

**№ 35**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

30.08.1982 г.[14]

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Нарэшце пасылаю анкету. Ці ўсё добра, не ведаю. Адно ведаю, што ўсё праўда — нічога прыдуманага німа.

Адно не ведаю, як зрабіць. Верш «Песня сіраты» сапраўды быў напісаны ў 1911 г., у гэтым жа годзе пасланы ў «Н[ашу] ніву». А там праляжаў аж да 1913 г. і тады толькі быў надрукаваны.

Шчыра кажучы, я аб ім зусім забылася і вельмі здзівілася, скуль гэты верш у «Н[ашай] ніве» ўзяўся? Калі што трэба, паправіце?

За паштоўку Станіславу Фёдаравічу сардэчна дзякую. Узрушыла мяне да глыбіні душы…

Адкажу яму на яго хатні адрас. А мо дойдзе? Бо ўжо было так, што ліст мой загінуў.

Работа набягае адна на другую. Ахвота ўсё зрабіць, усё выканаць ёсць, а вось фізічнай сілы німа…

А так бы хацелася ўсё задуманае зрабіць… І надвор'е нядрэннае… Ані лісточка жоўтага… Усё зялёнае, свежае, шмат кветак…

Усяго найлепшага!

Спору ў працы.

Л. Войцік

Усім знаёмым шчырае прывітанне.

Анкета

1) Людвіка Антонаўна Войцік. Псеўданім — Зоська Верас.

2) Радзілася 30 верасня (н. ст. 13 кастрычніка).

3) Мястэчка Меджыбаж УССР Хмяльніцкая вобл.

4) Аб'язды інструктар: садаўніцтва, агародніцтва і пчалярства (пасля заканчэння адпаведных курсаў у Варшаве ў 1914 г.).

5) Беспартыйная.

6) Прыватная жаночая гімназія ў Гродне — год 1912.

7) Беларускі аддзел таварыства помачы ахвярам вайны — 1915–1918 гг.
Адміністратарка грамадаўскай прэсы — 1924–1929 гг.
Рэдактарка і выдавец часопісі для дзяцей «Заранка» — 1927–1931 гг.
Старшыня пчалярскага т-ва «Пчала» — 1928–1938 гг.
Рэдактар час. «Бел. борць» — 1934–1938 гг.

8) Друкавалася ад 1911–1913 гг. у «Нашай ніве».
Верш — «Песня сіраты».

9) Проза, паэзія (пераважна для дзяцей), мемуары, публіцыстыка.

10) Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік. г. 1924, выданне «Голас беларуса».

---

[14] Дата паштовага штэмпеля месца адпраўлення — Вільнюса.

11) Пераклады: некалькі вершаў М. Канапніцкай (публікаваныя ў «Заранцы»).
З украінскага — «Князь Марцыпан», сцэнічны твор для дзяцей, 1929 г.
З расейскага: «Лясныя хаткі» Біянкі, выд. «Заранкі», 1931 г.

12) —

13) Літаратурных рэчаў — не было.

14) Перакладаў на іншыя мовы не было.

15) Манаграфіяў ніякіх. Дробныя прадмовы да мемуараў.

Л. Войцік

## № 36

### ІВАН ПРАТАСЕНЯ, ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Шаноўная Людвіка Антонаўна!

У вераснёвыя дні, якія ў гэтым годзе выдаліся быццам на заказ цёплыя і сонечныя, ад усяго сэрца віншуем Вас з юбілеем і жадаем усяго самага добрага і светлага. Ваша руплівая праца на ніве беларускай культуры заўсёды будзе ўзорам самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне. Шчыра ўдзячны за незабыўныя сустрэчы з Вамі, за Вашы лісты, такія сардэчныя і паважлівыя. Шкадуем, што не выпадае павіншаваць асабіста, з вялікай павагай і любоўю

Іван Пратасеня
Віталь Скалабан

28.9.1982 г.

## № 37

### ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Паважаныя Віталь Уладзіміравіч і грамадз. Пратасеня.

Сардэчна дзякую за віншаванне і за добрыя прыязныя словы.
А шкада, што Вы не змаглі прыехаць! Ды і цяпер не шкодзіць бы адведаць наш лясны куток… Каб Вы ведалі, што за багацце колераў, адценкаў у нашым наваколлі! Вочы мастака не ведалі б, куды глядзець і як пабачанае ўспрыняць. Не ўсюды спаткаецца такая разнаякая расліннасць, сабраная ў адным мейсцы.
Што ў Вас новага?
Усяго найлепшага.

Л. Войцік

17/Х.82
Вільня

P. S. Прабачце, што так тытулую па прозвішчу гр. Пратасеню — не ведаю, як па бацьку.

Л. Войцік

## № 38

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Сардэчна вітаю Вас з Новым годам! Усяго Вам найлепшага ў жыцці і ў працы.

Калі ласка, перадайце мае найлепшыя пажаданні грамадз. І. Пратасені

шчыра зыч. Л. Войцік

25/XII.82
Вільня

## № 39

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Здзівіцеся, напэўна, атрымаўшы гэтыя здымкі ці не ў 1½ года пасля таго, як яны былі зробленыя…

Зяць аб гэтай плёнцы зусім забыўся… Схаваў і толькі цяпер выпадкова знайшоў. За што просіць выбачаць…

Пасылаю па 2 экз. — для Вас і для гр. І. Пратасені (выбачайце, не ведаю, як яму па бацьку). Здымкі, здаецца, добрыя. І мне прыемна іх мець на памятку нашага першага асабістага знаёмства.

Усяго Вам найлепшага.

Абаім!

Шчыра Л. Войцік

1/III.83
Вільня

## № 40

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

8/XI.83
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Усё добра.

Наш Гродзенскі гурток бел[арускай] моладзі падпісваўся яшчэ ГГБМ — дзеля канспірацыі. Працы А. Лявіцкага[15] былі падпісаны псеўданімам Дзядзька, Бацька, Юрка Снапко. Ну і я «Шара Пташка». Пераклад М. Канапніцкай — мой. Рэшта ананімныя.

Прозвішчы ўпісала я ў часова загубляным і знайшоўшымся (дзякуючы Янку Саламевічу) экзэмпляру «Каласоў».

Мо гэтыя высненні і не важныя, але Вам, як гісторыку, не зашкодзіць ведаць.

Псеўданімы А. Лявіцкага: Дзядзька і Бацька — ёсць у Энцыклапедыі псеўданімаў, а Юркі Снапко — німа… Ці я забылася падаць, ці памылкова не змясцілі.

---

[15] Лявіцкі Язэп Язэпавіч (псеўд. Юрка Снапко, 1893–1916), паэт.

Атрыманая сёння ад Вас «паперка» перанясла мяне ў той далёкі час… Гэта падзея: збіранне матэр'ялаў, перапіска, адбіванне на тапірографе адбылася акурат 70 гадоў таму. А як жыва ўсё помніцца…

Наша (маёй маці і мая) кватэра на Гараднічанскай № 14… Ноч. Завешаныя вокны (гэта ж нелегальная работа…). Работа да світанку… Перарыў на шклянку гарачай гарбаты, якую падала нам мая маці.

А якая атмасфера работы… Радасць… крыху ганарымся, што вось хапіла энергіі, сілы волі, каб самім сціплай жменькай зрабіць задуманае. Тады ўжо старэйшыя калегі-арганізатары гуртка (Адам Бычкоўскі, Дзядзевіч, Пушкарэвіч[16] і г. д.) былі студэнтамі Пецярбургскага універсітэту. З тых старшых асталася я адна. Рэшта (ці як у нас у Сакольшчыне кажуць «рэшнія») былі маладзейшыя. Дзякуй Вам за штуршок да мілых успамінаў.

Усяго Вам найлепшага!

Л. Войцік

**№ 41**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

6/I.84
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Шчыра дзякую за Навагоднія зычэнні (а Вы ці мае атрымалі?) і за часопіс з Вашым артыкулам. Пішыце «і з падзякай за дапамогу» — а я аніяк не магу зар'ентавацца, у чым я Вам дапамагла? Што пазнала Ч. Родзевіча на здымку? Гэта мала, вельмі мала…

А вось я не магу зразумець, чаму ў Вас напісана, што «Дзянніца» пачала выходзіць у 1918 годзе… Яна ж выходзіла (як і «Swietač», рэдагаваны Э. Будзькам) у пачатку 1916 году…

Я абедзве гэтыя газеты атрымлівала ў Менску і пасылала іх у Бабруйск Ф. Шантыру[17] (ён у іх друкаваў свае дробныя вершы), на што маю доказ — ліст з падзякай.

Апрача таго, маю шмат лістоў ад Пецярбургскіх студэнтаў, у якіх якраз пішуць аб выхадзе ў свет «Дзянніцы» (Жылуновіч) і «Swietača» (Эдвард Будзька).

Апрача ўсяго гэтага, тое самае сцвярджае праф. С. Х. Александровіч… Гэта значыць, пацвярджае мае весткі.

Пасля «Дзянніцу» перавёз (яе выдавецтва) Жылуновіч у Маскву…

То як гэта разумець? Чаму такая няяснасць? Ці гэты мой ліст да Вас дойдзе? Не ведаю. Не разумею прычыны, чаму вельмі шмат лістоў і маіх, і да мяне не даходзяць?

Нават замежныя акуратней даходзяць, чым мяйсцовыя. У Менску шмат хто перастаў пісаць… Што ж, трудна, можа, надаела, а можа, хто і хварэе?

А я вось скрыплю і то моцна скрыплю, але ўсё яшчэ трымаюся… хоць вельмі цяжка…

Усяго найлепшага

Л. Войцік

---

16 Пушкарэвіча ўспамінае А. Лойка, як захавальніка архіваў праф. Эпімах-Шыпілы. Гэта той самы — наш сябра ГГБМ (заўвага З. Верас). Пушкарэвіч Канстанцін Аляксеевіч (1890–1942), філолаг, гісторык, перакладчык. Дасланыя звесткі былі выкарыстаныя ў артыкуле пра Пушкарэвіча ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі».

17 Шантыр Фабіян Гіляравіч (1887–1920), беларускі пісьменнік, публіцыст, дзяржаўны дзеяч. Муж З. Верас. Гісторыі кахання З. Верас і Ф. Шантыра прысвечана пьеса-дакумент Л. Рублеўскай і В. Скалабана «Людвіка і Фабіян».

P. S. У лістах з Пецярб[ургу] мне шмат пісалі аб працы Т-ва помачы бежанцам, і я сама ў 1916 г. была ў іх інтэрнаце — хваліцца не мелі чым, балаган быў несусветны. Аб працы гэтага т-ва расказваў Эдв. Будзька на Усебеларускім з'ездзе ў Менску. Грошы ўмелі здабыць (поўную суму паводле сваёй «сметы» ад Ураду + 5000 руб. ад літоўскай арганізацыі), але не вельмі патрапілі выкарыстаць — гэтак думала, крытычна гледзячы студэнцкая моладзь.

Вось бы Вам прачытаць тыя лісты… Думаю, карысна было б.

Л. Войцік

## № 42

### ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Сардэчна дзякую за памяць, за віншаванні на Жаночы дзень.

Я даведалася, што гэты Вы мяне «сасваталі» са школай у Лагойску. Гэта добра… У мяне матэр'яла пра сям'ю Ядвігіна Ш. шмат.

Няхай карыстаюць.

Крыху ўжо паслала і дамовілася, што летам прыедуць да мяне па больш.

Усяго добрага.

Л. Войцік

22/III.84
Вільня

## № 43

### ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

6/X.84 г.
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Шчыра дзякую за памяць, за добрыя пажаданні! Не лёгка насіць такія гады на карку…

То хоць людская прыязнь і зычлівасць падтрымлівае. А юбілей сёлета ў мяне не адзін… У канцы месяца міне 75 гадоў ад арганізацыйнага сходу Гродзенскага гуртка бел[арускай] моладзі, дзе мяне выбралі бібліятэкарам гуртка, ды яшчэ 60 гадоў таму выйшаў з друку мой «Батанічны слоўнік».

Пасылаю Вам мой экслібрыс, які зрабіў для мяне мастак В. М. Целеш[18]. Крыху трэба растлумачыць. З левага боку Гродзенскі фарны касцёл, побач якога жылі мае дзяды, рос мой бацька. А насупраць у б. доме Ст. Баторыя была мая гімназія. З правага — Менскі чырвоны касцёл, наскос ад якога была «Беларуская хатка», дзе ў 1916–1917 гг. я жыла і працавала і дзе кожны дзень бываў Максім Багдановіч. Сярэдзіна — зразумелая!

Усяго Вам найлепшага.

Л. Войцік

---

[18] Целеш Вячка (Вячаслаў) (н. 1938), мастак, педагог, грамадскі і культурны дзеяч. Жыве ў Рызе.

**№ 44**

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Шаноўная Людвіка Антонаўна!

Здымак Пушкарэвіча атрымаў. Шчыры дзякуй!

Разам з Іванам Уладзіміравічам працуем над зборнікам твораў Фабіяна Шантыра. Ёсць шмат цікавых знаходак. Іван Уладзіміравіч збіраецца наведаць Вас, магчыма, прыедзе да Новага года.

Жадаю Вам усяго самага лепшага,

В. Скалабан

23.12.1984 г.

*БДАМЛМ. Ф. 318. Воп. 1. Спр. 137. Л. 20.*

**№ 45**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Шаноўны Віталь Уладзіміравіч.

Сардэчна вітаю з Новым годам!

Няхай ён Вам прынясе ўсё найлепшае: добрае здароўе, ясны настрой, плён у працы.

Дзякую за памяць, за добрыя пажаданні.

Шчыра зычлівая Л. Войцік

26/XII.84 г.
Вільня

**№ 46**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Што да прысланага на рэцэнзію артыкула. З ацэнкай вершаў поўная згода. Пару дробных паправак. Год нараджэння — я не зусім пэўная. Мог радзіцца ў 1893, а можа, і ў 1892, як і я? Мы абое былі ў 6-м кл. гімназіі. Але ці гэта так важна? У Грод[зенскі] гурток бел[арускай] м[оладзі] уступіў у 1910 г. адразу на пачатку яго існавання. Мейсца нараджэння? Добра і вёска (тады не ваяводства) Гродз[енскага] губерня Сакольскі павет. (Не разумею, што значыць «Бел. ваяводства ПНР — канец 1916 г.»?) (выясненне цяперашняга адрасу?)

Яшчэ: у «Коласе беларускай нівы» Ю. Лявіцкі падпісваўся яшчэ другім псеўданімам «Дзядзька». Лічу, што для энцык[лапедыі] важна не толькі паэзія, але і сам чалавек. Таму пасылаю яго жыццяпіс са сваіх успамінаў. Мо спатрэбіцца? А не, то для Вашай уласнай цікавасці.

Сама «ўстаўляць» свае думкі не бяруся… У гэтых «справах» я ўжо скончылася… Хіба пара?

Каб не патрэба, не гэта рэцэнзія, то Вы, мусіць, зусім ужо аба мне забыліся? Праўда?

Калі ласка, кіньце пару слоў, ці Вам гэты матэр’ял аб маім сцэнічным «Бацьку» прынясе якую карысць?

Ці ў Літар[атурнай] энцыкл[апедыі] даюцца здымкі? Праўда, што здымак Я. Лявіцкага мог бы быць толькі з 1911 г. і то копія з групы Гродз[енскага] гуртка. Іншага не маю.

Усяго найлепшага! у жыцці і працы.

Л. Войцік

7/VII.85

Вільня

P. S. Забылася выясніць, што значылась у жыццяпісе падкрэсленыя словы: трымацца, псуецца, хочацца. У гэтай частцы Сакольшчыны ў народнай мове так гаварылася, і Ю. Снапко і ў мове і лістах, і ў вершах моцна гэтага трымаўся…

## № 47

### ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

18/IX.85

Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Пішу да Вас, як да гісторыка, а ў якой справе, хіба адразу самі здагадаецеся…

Не ведаю, якія Вашыя адносіны да нова выданай кніжкі Н. С. Сташкевіча[19].

Не разбіраюся, ды і не стараюся — у гэтай цэлай блытане, але калі адразу кідаюцца ў вочы, далікатна кажучы, няпраўдзівыя факты, то і цэласці цяжка верыць…

Першае. Далучыў мяне (з перакручаным прозвішчам) да нейкай дзейнасці, а што гэта было? Не ведама. Але там і Бадунова, і Шыла, і іншыя, з якіх я ведала, акрамя Бадуновай і Шылы,аднаго Козіча, а Душэўскага і ў вочы ніколі не бачыла, бо ён быў увесь гэты час у Пецярбургу. Як доказ маю шмат лістоў ад Пецярб[ургскіх] студэнтаў, у якіх не мала ўспамінаецца К. Душэўскі як студэнт.

А Чэрапук? Я ж яго ведала як 12–13-гадовага хлапчука і сама яго прыгатаўляла да гімназіі. А ў Менску ён наагул не быў…

Другое: «Беларуская хатка». Аўтар нават не ведае, што гэта такое…

Быццам утварылася пад уплывам Пецярбургскіх дзеячоў. А ці гэта папраўдзе не была сталоўка Менск[ага] аддзела т-ва помачы ахвярам вайны?

Т-ва гэтае не ў Пецярбургу паўстала, а ў Вільні ў самым пачатку вайны. А ў Менску гэта быў яго аддзел… Ізноў жа доказы маю ў лістах, да мяне адрасаваных, і бланкі т-ва.

У «Бел[арускай] хатцы» ніякіх спектакляў не ставілі ніколі. Бывалі г. зв. «суботнікі». Аб іх я напісала кароткі ўспамін «Суботнікі ў “Беларускай хатцы”». Можна іх прачытаць у «Гасцёўні Галубка».

Ці гэта ў аўтара такая багатая фантазія, ці проста прывычка пераіначываць па сваёй волі факты? Бо ёсць у кніжцы і яшчэ падобнае.

Больш не пішу… Мне ўжо пісаць цяжка, а Вам яшчэ цяжэй чытаць мой цяперашні почырк.

У свой час лістамі (1916–17 гг.) Пецярбургскіх студэнтаў зацікавіўся праф. С. Х. Александровіч[20]. Рабіў сабе нататкі, як быў у мяне, а пасля не раз прасіў выпісаць яму такую ці іншую вестку…

---

[19] СташкевичН. С. Приговор революции: крушение антисоветского движения в Белоруссии (1917–1925). Минск, 1985.

[20] Александровіч Сцяпан Хусейнавіч (1921–1986), літаратуразнавец, пісьменнік.

Разам з іншымі лістамі матэр’ял у мяне багаты і не выдумка, а жывая праўда.

Як гэта добра было б, каб Вы змаглі прыехаць пазнаёміцца з тым, што ў мяне ёсць для ўласнай цікавасці і — карысці. А я пакуль яшчэ трымаюся, шмат магу выясніць. Не толькі лісты маю, а і іншае…

Стаўлю справу так. Адкажаце хоць пару слоў, добра, калі не, палічу справу Праўды забітай і пахаванай. І — няхай жыве хлусня!

А калі ўжо мяне палічылі прыналежнай да людзей шкодных, то аб выданні кніжкі маёй німа што думаць. Трэба папярэдзіць Івана Уладзіміравіча, каб не траціў дарма часу на яе складанне.

Цэлае сваё жыццё цярпець не магла хлусні, а цяпер у самым-самым яго канцы столькі наглыталася… Як ніколі.

Усяго Вам добрага!

Зычлівая Л. Сівіцкая-Войцік

Ці маеце ў архівах пратаколы з’езду 25–27 сакавіка 1917 г.?

Скончыла і думаю: цікава, ці атрымаю які-небудзь адказ?[21]

Л. Войцік

## № 48

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

15.10.1986 г.[22]

Шаноўны Віталь Уладзіміравіч.

Сардэчна дзякую за памяць, за добрыя пажаданні.

Недаўна пераглядала нашы супольныя з Вамі здымкі. Прыемна мне было паглядзець, прыемна, што яны ёсць.

Усяго Вам найлепшага ў жыцці і працы

Шчыра зычлівая Л. Войцік

## № 49

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Дарагі Віталь Уладзіміравіч.

Сардэчна вітаю і віншую з Новым годам!

Няхай ён прынясе ўсё самае лепшае: добрае здароўе, бадзёры настрой, шчасце, багаты плён у працы.

Шчыра зычлівая Л. Войцік

28/XII.1986 г.

Вільня

---

[21] На лісце памета: *Паслаў віншавальную паштоўку 28.9.[19]85 і паабяцаў напісаць падрабязны ліст.*

[22] Дата паштовага штэмпеля месца адпраўлення — Вільнюса.

**№ 50**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

26/VI.1987.
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Учора атрымала ліст ад рэдакцыі «Советская Белоруссия», ад карэспандэнта аддзела культуры Сяргея Крапівіна[23].

Калі ласка, перапрасіце яго ад майго імені, што не адказваю яму асабіста, а на Вашыя рукі. Каб хоць крыху лепш чулася, то магла б і па-руску напісаць, у канцы, можа, ён бы і па-беларуску прачытаў — але пісаць мне вельмі цяжка. А Вы ўжо, думаю, і мой цяперашні почырк зразумееце.

Адкладаць адказу не хачу, бо не ў мае гады гэтак рабіць… А хоць крыху аб Язэпе Фарботка[24] паведаміць магу, што дасць магчымасць вясці далейшыя пошукі.

Я. Фарботка я бачыла ўсяго адзін раз — на спатканні Н[овага] году 1917. Ён прыйшоў разам з Альбертам Паўловічам, з якога дачкой Уладзяй (Уладзіславай) якраз нядаўна пажаніліся…

Абое маладзенькія, і Уладзя выглядала як гімназістка, бо яшчэ ў школьнай форме. Сукенка бранзовага (на сённ[яшняй] бел[арускай] мове «карычневага») колеру. Так што зусім магчыма, што Я. Фарботка толькі нядаўна скончыў у Менску гімназію.

Больш яны, як і сам Альберт Паўловіч, у «Беларускую хатку» не прыходзілі. Чаму? Не ведаю. А. Паўловіч у жыцці беларускіх дзеячоў удзелу не прымаў. Пасля са ўспамінаў яго дачок вядома, што ў іх у дому ладзіліся канцэрты. Прымалі гасцей з правінцыі. Але з нас, згуртаваных пры т-ве помачы ахв[ярам] вайны, ніхто ў іх не бываў.

Мяне гэта вельмі дзівіла, бо тады ўжо ў «Бел[арускай] хатцы» і хор У. Фальскі зарганізаваў, а У. Галубок сякі-такі аркестр са сваіх чыгуначнікаў наладзіў.

Пару гадоў таму Літар[атурны] музей Багдановіча ў ЛіМ’е надрукаваў вестку ад адной з малодшых дачок Альберта Паўловіча нейдзе з Польшчы… што яны — малодшыя дочкі — спатыкаліся з Максімам Багдановічам у «Бел[арускай] хатцы».

Але гэта хіба ім снілася, бо ў «Бел[арускую] хатку» ніхто з гэтай сям’і не прыходзіў. Вось бы з Літ[аратурнага] музею Максіма Б[агданові]ча дастаць Вам адрас (яны і нейкія экспанаты на бацьку прысылалі), значыцца ў Музеі і адрас, і акты быць павінны.

Страціла крыху часу — пераглядзела ўсе свае запісы-ўспаміны, ці няма яшчэ якой весткі аб Я. Фарботка. Але нічога не знайшла.

Паглядзела на гэты свой ліст і падумала: ці будзе ў Вас, Віталь Уладзіміравіч, цярплівасць прачытаць маю «мазаніну». Ці зразумееце? Рука не слухаецца, дрыжыць. А пісаць прыходзіцца не мала.

Спадзяюся, што ласкава адкажаце.

Калі б яшчэ што трэба было — пішыце. Рука не слухаецца, але галава яшчэ працуе…

Усяго Вам добрага ў жыцці і працы.

Сардэчна зычлівая Л. Войцік

---

[23] Крапівін Сяргей Сяргеевіч (н. 1956), журналіст.

[24] Фарботка Язэп (Юзік, Язэп Аўгусцінавіч, 1893–1960), паэт, літаратуразнавец. З дапамогай З. Верас быў напісаны артыкул пра Я. Фарботку ў «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі».

## № 51

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

29/II.1988
Вільня

Шаноўны Віталь Уладзіміравіч.

Сардэчна дзякую за памяць, за лютаўскі № «Полымя». Я аб тым эпізодзе нашага з Вамі спаткання зусім забылася…

Але той маленькі запіс аб Напалеоне Чарноцкім[25] і сёння маю.

З вялікай прыемнасцю прачытала ў гэтым нумары «Полымя» артыкул Кастуся Тарасава «Падзеі гісторыі і версіі літаратуры». Вось дзе сапраўдная нескажоная гісторыя. Каб гэта так усе гісторыкі, і большыя, і меншыя, пісалі. Але аб гэтым толькі марыць можна…

Усяго Вам добрага! Добрага здароўя і выдатных плёнаў у працы.

Сардэчна зычлівая Л. Войцік (З. Верас)

## № 52

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

3/IV.1988
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Заўсёды з цікавасцю чытаю Вашыя артыкулы і ўсё лічыла абсалютна верагодным.

Тым часам недаўна (у гэтую мінуту не помню ў чым) пабачыла, што Вы паўтараеце вестку аб тым, быццам ««Вайсковая рада»[26] (1917) прабавала супрацоўнічаць з немцамі». Прабавала, а немцы адмовіліся? Так? А як ВР прабавала, я пераканалася на ўласнай скуры, даслоўна — на ўласнай руцэ, калі мяне немец ухапіў за руку і не даў узяць з шуфляды стала патрэбнай мне пячаткі…

Апішу гэтыя падзеі дэталёва — яны ў мяне не толькі ў памяці, але і ў запісах…

Адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі мы (менскія беларусы) захапілі губернатарскі дом (у гэтым доме і адбыўся з’езд ваенных Заходняга фронту…). Там, у губернат[арскім] доме адбываліся ўсе сходы, нарады, паседжанні беларускіх арганізацыяў.

І сёння не ведаю, за якія «заслугі» мяне выбралі сакратаркай, і я на ўсіх паседжаннях пісала пратаколы, вяла справаздачы і г. д. Можа таму, што пісала лепш за іншых, а мо таму, што была асвоеная з такой работай з часоў Гродзенскага гуртка бел[арускай] моладзі з 1909 году.

Але я не пакідала работы з бежанцамі ў камітэце помачы ахвярам вайны і ўсюды мела гэтую работу на першым плане.

І вось у губернатарскім доме мне далі асобны пакойчык (для работы) недзе высока, на апошнім паверху. Я запратэставала. Бо як жа ж мяне тады знаходзілі б бежанцы?

---

[25] Напалеон Чарноцкі (1866–1937), публіцыст, перакладчык. Зоська Верас паведаміла біяграфічныя звесткі пра Н. Чарноцкага, якія былі выкарыстаны ў дасланай публікацыі: Скалабан, В. Працяг гісторыі з «Дзядзькам Антонам» // Полымя. 1988. № 2.

[26] Маецца на ўвазе Цэнтральная беларуская вайсковая рада.

Тады мне запрапанавалі заняць былы кабінет губернатара… Гэта было в. выгодна, бо адразу пры самым уваходзе ў будынак.

І вось як прыйшлі немцы, адразу кінуліся займаць губернатарскі дом ды выганяць бел. арганізацыі. Выганяць па-свойму энергічна, нахальна…

Якое ж, у чым гэтае «супрацоўніцтва»?

Да мяне ў кабінет уляцеў немец і загадаў выйсці. А ў шуфлядзе ляжала неабходная мне пячатка камітэта помачы бежанцам. Я ў шufляд[ку] па пячатку, а немец мяне за руку — не браць! У гэты самы дзень, лепш — увечары, позна да мяне на кватэру прыйшоў рэдактар газеты «Вайсковая рада», прынёс усю сваю рэдакцыю, машынку ды ўсю рэд[акцыйную] канцылярыю. Просіць — вазьміце, схавайце ўсё ў сябе, у Вас не будуць шукаць. Хавалі ад каго? Ад немцаў, то дзе, у чым выяўлялася гэтае «супрацоўніцтва»? І каму ды на што патрэбная гэтая няпраўда?

Ведаеце што, Віталь Уладзіміравіч, а каб Вы так знайшлі крыху вольнага часу ды пад’ехалі да мяне. У мяне ўспаміны з’ездаў, працы ў 1917 г. запісаны вельмі падрабязна ды і ў памяці захавалася, а даваць куды-небудзь у друк не збіраюся. Я ўжо не даўгавечная (чуюся в. дрэнна), добра было б пазнаёміць асабіста з маімі запісамі чалавека, якому веру. Можа і дадаць што, растлумачыць трэба было б.

Што Вы на гэта?

Чакаю адказу. Добра было б яго атрымаць, пакуль яшчэ так-сяк на нагах трымаюся.

Усяго добрага!

Шчыра зычлівая Л. Войцікава

**№ 53**

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

29.08.1988 г.[27]

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Бязмерна ўдзячная за прыезд, за ўсе весткі. Перачытываю запісы з гутаркі — адзінае, што паддаецца маім вачам. Пасылаю Вам бланк нашага камітэта як доказ, што мы яго ніколі не называлі «бежанскім». Магчыма, такія бланкі ў Вас ёсць, ды няхай і гэты будзе. Тут гэта нікому не будзе патрэбным. Можа, у машынапісе ёсць што неяснае?[28] Пытайцеся. Наноў сляпая, але памяць яшчэ служыць.

Усяго Вам найлепшага! Шлю прывітанне ўсім знаёмым.

Сардэчна зычлівая Л. Сівіцкая-Войцік
(або Зоська Верас)

Стараюся аб здымку Усевалада Фальскага для Вас[29].

[27] Дата паштовага штэмпеля месца адпраўлення — Вільнюса.

[28] Гаворка ідзе пра аўтарызаваны машынапіс успамінаў З. Верас.

[29] Гэты і наступныя два лісты З. Верас напісаны фламастэрам вялікімі літарамі на спецыяльна разлінаваным аркушы паперы.

## № 54

ВІТАЛЬ СКАЛАБАН — ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

Шаноўная Людвіка Антонаўна!

Ваш рукапіс я перадаў у часопіс «Полымя». Там абяцалі друкаваць у пачатку 1989 г.[30]

З пажаданнем усяго самага добрага,

В. Скалабан
13.9.88 г.

P. S. Шчыры дзякуй за пасведчанне камітэта 1917. З Вашага дазволу я перадам яго ў архіў-музей, да Ганны Іванаўны Сурмач[31].

В. Ск.

*БДАМЛМ. Ф. 318. Воп. 1. Спр. 137. Л. 21–22.*

## № 55

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

17/IX.[1988]
Вільня

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Дзякую за ліст.

І не снілася мне ніколі даваць свае «ўспаміны» ў друк. У будучай кніжцы ёсць, праўда, раздзел: «Успаміны …[32]». Але цэласць? Ці Вы іх прачыталі…[33]? Ці німа там чаго, што выкліча «нездаволенне» — Круталевіч ізноў будзе мяне вінаваціць ува ўсіх смяротных грахах?

Вельмі шкадую, што пакуль вочы былі здаровыя не спраўдзіла машынапісу з рукапісам, які так у поўным парадку. Усё «падкідалі» мне спешную работу. А цяпер сваіх рукапісаў нават прачытаць не магу. Так і ў друку, нават калі дажыву, нічога не прачытаю…

Аж дзіва бярэ, што яны цяпер мяне такую бязбожна старую знаходзяць і атакуюць. Пайшла мода на Гродзенскі гурток (ГГБМ). Школы хочуць яго мець у сваіх школьных музеях. Маю пару копіяў, але не маю здымкаў. А Наліваеў Анат. Аляксандравіч недзе прапаў. А быў добры час, калі прыяжджаў і рабіў добраякасныя копіі ўсяго, што мне было патрэбнае…

Ці што яшчэ здолею зрабіць? Не ведаю. Часта ляжу. Вельмі чакаю Ганны Ів. Сурмач. Маю для яе 31 пісьмо Паўлінкі Мядзёлкі. Ды і яе супрацоўніцы акту прыняцця таго, што ўзялі, не прыслалі. «Пасведчанне», калі ласка, дайце ў музей-архіў. А калі будзе

---

[30] Абяцаная часопісам публікацыя ўспамінаў не адбылася.

[31] Сурмач Ганна Іванаўна (н. 1947), гісторык, архівіст, грамадскі дзеяч. Жыве ў Празе.

[32] Не разборліва. Магчымы варыянт: *Выбрана з агульных*.

[33] Два словы неразборлівыя.

ў Вас хвілінка часу, загляніце да Л. Ів. Збралевіч[34]. Там жа майго назбірал[ася]. Усяго найлеп[шага].

Яшчэ раз выразы ўсяго найлепшага.

Сардэчна зычлівая Л. Войцік

## № 56

ЗОСЬКА ВЕРАС — ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

7.10.1988 г.[35]

Паважаны Віталь Уладзіміравіч.

Сардэчна дзякую за павіншаванне.

Л. Войцік[36]

Зусім слепну… А ізноў да Вас маю справу, хоць і прыкра, што турбую Вас.

Не ведаю, што рабіць з партрэтам Ф. Шантыра. Для маёй цяперашняй сям'і гэта зусім чужы чалавек. У сямейным альбоме ёсць здымак, зроблены ў Бабруйску на вуліцы. Атэлье там не было.

Здымак пад дрэвам. Над галавой галіны, на фрэнчы вайсковы …[37]. Калі я даведалася аб смерці Ф. Ш. — дала ў Гродне добраму фатографу зрабіць належны партрэт. Цяпер пытанне, дзе яго каму аддаць? Думала парадзіцца Гаўр. Ів. Гарэцкага, але ў яго падобна нешта нядобра. А маю спяшацца… Маюць на яго ахвоту Літ[аратурны] музей М. Багдановіча. Але ці там яму мейсца? Як бы не было, поштай партрэт не вышлецца. Мусіў бы яго нехта забраць асабіста. Што бы Вы мне парадзілі?

Спяшаюся ўсё аставіць у магчымым парадку.

Сардэчна зычлівая Л. Войцік

*Публікацыя і каментары Віталя СКАЛАБАНА*

---

[34] Збралевіч Лідзія Іванаўна (н. 1930), працавала загадчыкам аддзелам рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР.

[35] Дата паштовага штэмпеля месца адпраўлення — Вільнюса.

[36] Тэкст напісаны на фотапаштоўцы з выявай кветак маку, далей — на разлінаваным аркушы паперы.

[37] Адно слова неразборлівае.

# СТАГОДДЗЕ ВАЧЫМА МАСТАКА
## Успаміны Яўгена Ціхановіча

Пры вывучэнні гісторыі мастацтва дзённікі — гэта неацэнны скарб. Справа ў тым, што для мастака, у адрозненне, скажам, ад літаратара, дзённік не ёсць часткаю пісьменніцкіх практыкаванняў. Мастакі найперш фіксуюць свае адкрыцці, дастасоўныя да іхнае творчасці. Параўнальна з іншымі традыцыямі мастакоўскае літаратуры беларуская традыцыя, безумоўна, выразна вылучаецца. Найперш таму, што перад нашымі творцамі заўсёды паўставала праблема этнічнае самаідэнтыфікацыі. А затым і… канспірацыі. Праўда, дзённікі і лісты беларускіх савецкіх мастакоў — нетрывалы дакументальны грунт. Напрыклад, Заір Азгур, выбітны беларускі скульптар XX ст., увайшоў у гісторыю нашае культуры і як аўтар некалькіх кніг успамінаў: «Незабыўнае» (1962), «Тое, што помніцца…» (кн. 1–2, 1977–1983). Але з іх старонак вы не дазнаецеся ані пра тое, як ён бясконца ляпіў Сталіна, Мао Цзэдуна, Кім Ір Сэна ды драбнейшых іхных памагатых. Нічога не напісаў ён і пра рэпрэсіі 1930-х гг., нават абмінуў Халакост.

Разам з тым на пачатку 1930-х гг. скульптар Азгур быў першым, хто ўвасобіў вобразы Коласа і Купалы (для фасада Нацыянальнага тэатра), а таксама дзесяткі вобразаў тагачасных дзеячаў беларушчыны — Францішка Багушэвіча, Кастуся Каліноўскага, Уладзіслава Галубка, Усевалада Ігнатоўскага… Аднаго вечару, як сведчаць людзі, ён мусіў замкнуцца ў майстэрні і пазнішчаць усе свае творы, у якіх сачылася якая-кольвек «нацдэмаўшчына». Гэты выпадак не патрапіў у Азгуравы мемуары, затое патрапіў у мемуары Яўгена Ціхановіча, старэйшага з беларускіх мастакоў.

Ён нарадзіўся ў сям'і чыгуначнага служачага 25 лістапада 1911 г. на станцыі Джусалы, у далёкім Кыргызстане. Старэйшы брат — таксама мастак, славуты графік Валянцін Ціхановіч, нарадзіўшыся быў у Вільні. Ягоная жонка — дачка Уладзіслава Галубка.

Ціхановічу выпала вучыцца ў мурах славутага Віцебскага мастацкага тэхнікума, настаўнікамі і калегамі былі класікі еўрапейскага мастацтва. Яўген Ціхановіч браў удзел у мастацкіх выставах ажно ад 1932 г. За гэты час ім створаныя дзесяткі жывапісных палотнаў, сотні графічных работаў, ілюстрацыяў і экслібрысаў. Шмат твораў гэтага мастака можна пабачыць у музеях, кнігах, падручніках. Ён быў знаёмы з усёй палітычнай і культурнай элітаю Беларусі. Да канца дзён сваіх быў адданым беларускім патрыётам і працавітым творцам. Плённа працаваў у галіне эстампа (пераважна лінагравюры), майстар экслібрыса. Удзельнічаў у сусветнай выставе «ЭКСПО-70» у Японіі. Мастак быў узнагароджаны дзвюма ганаровымі граматамі і Граматай Вярхоўнага Савета БССР. Ён пражыў доўгае жыццё — 94 гады і быў апошнім прадстаўніком мастакоўскае дынастыі Ціхановічаў.

Яўген Ціхановіч быў і выдатным мемуарыстам. Часткова ягоныя ўспаміны былі апублікаваныя на эміграцыі, у часопісе «Полацак», часткова ў выглядзе асобных артыкулаў і інтэрв'ю ў беларускай прэсе («Свободные новости», «Культура», ЛіМ,«Наша Ніва»). Але збольшага з напісанае ім застаецца недаследаваным. Цяпер ягоны архіў складае больш за 2 тысячы адзінак дакументаў — рукапісаў, фотаздымкаў, малюнкаў, выцінак з друку. Гэтыя матэрыялы, пераважна мемуары, належаць сям'і мастака (нявесткі). Частка іх ласкава перададзеная мне для вывучэння пасля смерці мастака. Апроч таго,

захаваліся некаторыя магнітафонныя запісы інтэрв'ю з мастаком, адзін з якіх зроблены ўласна мною. Гэтыя матэрыялы маюць выключную каштоўнасць. Бо, па-першае, гэта ўспаміны чалавека, які быў блізкі да палітычнай эліты Беларусі, у тым ліку і часоў нямецкае акупацыі, а сам ён, зяць Уладзіслава Галубка, належаў да культурнае эліты. Па-другое, яны створаныя мастаком, а не прафесійным літаратарам ці гісторыкам, таму маюць непасрэдны, адвольны стыль, што надае ім вельмі суб'ектыўны, але унікальны характар.

Паводле мемуараў Ціхановіча, некалькі месяцаў да арышту цесця ў іх прыватным доме жыў Кандрат Крапіва. Яго запомнілі як вясёлага балагура, які разам з імі снедаў, па выхадных гуляўся з дзецьмі. За дзень да арышту Галубка Кандрат Крапіва з'ехаў з іхнае хаты. Пасля ніякіх кантактаў з сям'ёю Галубка-Ціхановіча не меў. Стыль мемуараў Ціхановіча вельмі сціслы, лапідарны. Але гэта надае ім дынамічную энергетыку. Гэтак, напрыклад, адзін з тэкстаў змяшчае вельмі драматычны аповед пра вобшук у кватэры Якуба Коласа, што рабіў з супрацоўнікамі НКУС Віталь Вольскі: *«Вольскі сам асабіста перачытваў усе рукапісы, паперы. Вельмі нерваваўся. Тады Колас яго спытаў: "Віталька, а што ж ты шукаеш?" "Я табе не Віталька!" — закрычаў той. І пасля папароў усе падушкі брытваю».* Аб'ектыўнасць гэтага ўспаміну, роўна ж як і ўспаміну пра вобшук і арышт Уладзіслава Галубка, вымагае больш дэталёвага вывучэння і каментароў гісторыкаў. Гэтак, напрыклад, Ціхановіч (і, як вынікае, іншыя людзі з сям'і Галубка) цвердзіць, што рукапіс «Несцеркі» (адпаведна і сам літаратурны твор) быў створаны Уладзіславам Галубком і прапаў пасля вобшуку, у якім браў удзел Вольскі. Відавочна, і гэты вельмі важны аспект з гісторыі нашае літаратуры вымагае дадатковага вывучэння і дакументальнага абгрунтавання.

Цікавыя гістарычныя зацемкі былі зробленыя Ціхановічам і паводле словаў ягоных блізкіх. Напрыклад, «Пра Янку Купалу і Пілсудскага».

*«... Гэта быў пачатак 20-х. Не магу дакладна ўспомніць, калі і дзе я пачуў, як чытае свае вершы Янка Купала. Мабыць, у Доме пісьменнікаў. Ведаю, Купала не надта любіў чытаць сам, мабыць, саромеўся, а можа, думаў, што артыст гэта зробіць лепш за яго. Ці, хутчэй, і тое, і другое разам. Купала наагул не любіў выступаць з прамовамі, бо навошта яму было на людзях выкладаць свае думкі, якія ляцяць у паветра і там губляюцца? Ён не хацеў выходзіць на сцэну, дзе яго сустрэнуць як артыста, пачнуць пляскаць у ладкі, наробяць шуму, а навошта? У той час лічылася, што, калі маеш пастаўлены голас і можаш выступаць з розных нагодаў, ты актывіст, цябе выбіраюць, ты паважаны. Купалу заўсёды запрашалі ў прэзідыумы розных сходаў ці вечароў, дзе павінны былі сядзець знакамітыя людзі. Гэта надавала прадстаўнічасці сходу.*

*Часцяком, калі чалавек чуў упершыню вершы ў выкананні Купалы, яго спасцігала пэўнае расчараванне. Манатонны, глухі голас, дый кожнае слова вымаўляецца не гэтак яскрава, як трэба. Нават сэнс верша ўхапіць было цяжка, заставалася адно разглядаць паэта — як ён стаіць, як трымае рукі, чаму не расстаецца са сваім кійком...*

*...Ад жонкі я ведаю, што Купала любіў слухаць, як яна чытала ягоныя вершы, як выразна гучалі яе словы, пераходзячы ў згукі пачуццяў. Сэнс вершаў узрастаў нават ад жэстаў яе рук. Галубок нездарма браў сваю дачку ў менскі Белпедтэхнікум, каб яна чытала вершы Купалы перад студэнтамі пасля лекцыі аб тэатры, аб літаратуры ў сцэнічным мастацтве. Быў гэткі выпадак, калі цётка Уладзя ўзяла да сябе Люсю Галубок на пару дзён, каб Люся вывучыла вершы Купалы пад яе кіраўніцтвам. У гэтым нічога дзіўнага не было, бо Люся яшчэ не мела досведу трымацца перад гледачамі. Рэпетыцыі адбываліся ў Доме І з'езда РСДРП, дзе тады і жыла сям'я Купалы. Цётка Уладзя як былая настаўніца валодала сакрэтамі падыходу да дзяцей — ёй лёгка*

*было працаваць з таленавітай дзяўчынкаю. Можна толькі сабе ўявіць, як хвалявалася Купаліха за кулісамі ў той вечар прэм'еры. Але ўсё адбылося добра, і маленькая актрыса мела цяпер сваё амплуа.*

*Вечар той быў прысвечаны Юзафу Пілсудскаму, які сядзеў у ложы гарадскога тэатра, абапіраючыся на шаблю. Ён пяшчотна глядзеў на маленькую дзяўчынку і праз свае вялікія вусы ўсміхаўся. Пэўна, падабалася яму маленькая дзяўчынка, што гэтак добра чытала беларускі прывітальны верш ад Купалы. Гэты вечар, — казала Люся Галубок, — запомніўся мне болей за ўсё, бо той вусаты дзядзька кінуў кветкі да маіх ног, а потым доўгі час людзі пляскалі ў далоні стоячы. Сотні людзей глядзелі ў тую ложу, на Пілсудскага, на ягоных выкшталцоных ад'ютантаў, польскіх афіцэраў…*

*Казалі, што беларускія ўрадоўцы з БНР сустракалі Пілсудскага хлебам-соллю… Тады ніхто не ведаў, да каго далучаць нашую маленькую дзяржаву. Бо Заходні край, як расейцы называлі нашую Беларусь, не меў ані ўзброеных злучэнняў, ані дакладных межаў і трывалых юрыдычных правоў… Калі ж націск Чырвонага Войска ўзмацніўся, Пілсудскі вымушаны быў адступаць. Польскія войскі па дарозе ўсчынялі гвалты, рабункі і пагромы. Гвалцілі жанчынаў, а сівым жыдам адразалі бароды. Хто толькі не таптаў каваным ботам нашую маці-Беларусь! Немцы, палякі, ізноў немцы. Хто толькі не дзяліў яе на часткі, не абдзіраў то злева, то справа. Але найбольш гвалту было за царскай Расеяй, а пасля і за бальшавіцкім Савецкім Саюзам…»*

Складаным і супярэчлівым было стаўленне Яўгена Ціхановіча і да сваіх калегаў мастакоў. Некаторыя ягоныя думкі выглядаюць спрэчнымі, калі вядзецца пра габрэяў. Тым не меней ён, нібы спахапіўшыся, імкнецца быць аб'ектыўным. Перадусім ацэньваючы даробак мастакоў. У гэтых выпадках ягоныя мемуары, несумненна, маюць вялікую дакументальную каштоўнасць для гісторыкаў мастацтва, як, напрыклад, ва ўспаміне «Пра Азгура і Коласа».

*«… Заір Азгур быў старэйшы ад мяне толькі на тры гады. Першая наша сустрэча адбылася ў 1929 г. у доме Якуба Коласа. Азгур ляпіў бюст Коласа, а я і мой прыяцель па прафтэхшколе, Шымановіч, фарбавалі дом Коласа звонку і ўсярэдзіне.*

*У Азгура пасля сканчэння Віцебскага мастацкага тэхнікума бюсты Коласа і Купалы былі першымі дзяржаўнымі замовамі. Ляпіць з натуры Коласа амаль не атрымлівалася з тае прычыны, што ў пісьменніка не было часу пазіраваць. А таму Азгур абзавёўся вялікай колькасцю фотаздымкаў класіка ў розных позах — у профіль, анфас і са згубленага профілю. Гэткі спосаб быў няпростым. Не было станкоў, што круцяцца, на якіх мадэль сядзіць у фатэлі, а скульптар бачыць яе з усіх бакоў… З вялікімі цяжкасцямі Азгуру і ягоным фарматарам удалося зрабіць толькі адну адліўку (у чорнай форме), дый тую з вялікай рызыкай — не было ніякага досведу.*

*У Менскім гарадскім тэатры на фасадзе былі дзве паўкруглыя нішы: злева стаяў Пушкін, а справа — Гогаль. Абодва тыя бюсты былі з бронзы. Дык вось, замест Пушкіна паставілі бюст Купалы, а замест Гогаля — бюст Коласа. Праўда, у гіпсавым выкананні. Толькі з расфарбоўкаю пад бронзу. У тыя часы беларусізацыя ішла ў поўным разгары. Самасвядомасць з'яўлялася паўсюль. Толькі вось мароз, сонца, вецер ды дажджы збаёдалі гіпсавыя бюсты. Да таго ж фасад тэатра рэканструявалі тройчы — усё змянялася і ўсё забывалася.*

*Творчая біяграфія Азгура шырылася галоўным чынам у жанры бюстаў дзеячаў культуры мінуўшчыны паводле іхных партрэтаў, а сучасных дзеячаў — ужо і з натуры. Усё ж Азгур займеў і майстэрню, і ўсё абсталяванне: станкі, асвятленне ды іншае. Набліжаліся тыя фатальныя гады (канец 30-х), калі сталінскі тэрор касіў усіх без разбору, асабліва выхоплівалі дзеячаў культуры, навукі, літаратуры…*

*І Азгуру давялося самому разбіваць гіпсавыя бюсты "ворагаў народа", спаміж якіх быў і гэткі "вораг", як Уладзіслаў Галубок... Адразу ж па вайне разгарнуліся пошукі "касмапалітаў", у ліку якіх галоўным чынам апынуліся дзеячы культуры яўрэйскага паходжання. Гэта супала з прыездам у Менск славутага артыста Міхоэлса, які ачольваў камісію па Сталінскіх прэміях. Міхоэлса і ўдзельніка тае камісіі, які яго суправаджаў, забілі ўначы — быццам бы грузавая машына наехала. Гэтак гэбісты інсцэнавалі. Міхоэлсу прыпісваліся сувязі з амерыканскай "буржуазна-нацыяналістычнай" арганізацыяй "Джойнт" і першым паслом Ізраіля ў СССР Голдай Мэір. Азгуру гэтым разам давялося разбіваць гіпсавую групу: Міхоэлс трымае на руках немаўля, якое сімвалізуе нараджэнне новае жыдоўскае дзяржавы... Праз пэўны час Азгур наноў зляпіў партрэт Міхоэлса, ужо па фотаздымках і без усялякіх алегорыяў. Дзякуй Богу, досвед быў. А вось партрэт Уладзіслава Галубка, першага народнага артыста Беларусі, маэстра гэтак і не сабраўся ўзнавіць. Таму той бюст не згадваецца ў энцыклапедыях. Гэтак і губляюцца ў памяці людзі, незвычайна адораныя ў сваёй творчасці...*

*А возьмем кампазіцыю помніка Якубу Коласу. Тут з левага боку Сымон-музыка з дзяўчынаю, справа — Дзед Талаш са стрэльбаю і хлопчык, які паказвае пальцам, куды мусіць страляць дзед... Пасярэдзіне кампазіцыі — аграмадная постаць Якуба Коласа спінаю да шматлюднай вуліцы Веры Харужай... Паэт нібы падпёр рукою падбароддзе, да якога не стае якіх 30 см. Фантаны абапал гэтак і не былі ўведзеныя ў дзеянне. Сам Азгур завяршыў гэтую натуралістычную кампазіцыю бярозамі. Гэтыя дрэвы хоць неяк скрадваюць спіну помніка. Памятаю сваю гутарку з Данілам, сынам Коласа, пра тое, што мастакам і скульптарам гэты мемарыял Коласу зусім не падабаецца. Даніла мне адказаў, што сам факт стварэння помніка Коласу на плошчы ягонага імя, ды ў дадатак і вуліца, таксама названая ў гонар Коласа, яго цалкам задавальняюць. А крытыка, маўляў, ад мастакоў і асабліва скульптараў паходзіць ад зайздрасці: кожны хацеў бы атрымаць такі заказ».*

Разам з тым Яўген Ціхановіч вельмі цвяроза ацэньваў і ўласны даробак. Творы, найперш жывапісныя палотны, на сацыяльныя і гістарычныя тэмы, палітычныя заказы, не выклікалі ў яго асаблівых пачуццяў. Апроч прыкрых (і дакладных) успамінаў: *«Мне таксама даводзілася рабіць партрэты Леніна альбо Сталіна невялікага памеру (60/80 см) па 20 рублёў за кожны. Працаваў я ад раніцы да вечара на 100 рублёў... Пісаў я партрэты "правадыроў" і для Дома ўрада, і памеры іхныя дасягалі 10 метраў на 6. Часам, стоячы, на палатне малюеш вока метровага памеру, а ў руцэ трымаеш фотакартку, разлінаваную ў клеткі. Маляваў таксама партрэты для трыбуны, дзе ў дні святаў і дэманстрацый стаялі сакратары ЦК КПБ разам з урадоўцамі. Хоць памеры "палотнаў" тут былі меншыя (прыкладна 6 метраў на 4), але праца была ўсё адно нялёгкая...»*

Шмат месца ва ўспамінах Яўгена Ціхановіча прысвечана Вільні, з якой ён быў звязаны крэўнымі повязямі. Не зважаючы на суб'ектывізм, а часам і на дыдактычнасць, ягоныя нататкі маюць абаяльнасць неабыякавага сведкі. Асабліва каштоўнымі ёсць радкі, прысвечаныя апошнім перадваенным месяцам.

*«У Вільні, у Акруговым інжынерным упраўленні, праходзіў вайсковую службу мой бацька, Мікалай Сяргееў сын, Ціхановіч. Тутака нарадзіўся мой старэйшы брат Валянцін. Бацька быў родам з Рэчыцы. Натуральна, ён быў беларусам, хоць пісаўся расейцам. Адкуль майму бацьку было ведаць, што Паўночна-Заходні край і ёсць Беларусяй... Забраны край. Паўсюдна стаялі акупацыйныя расейскія войскі, што дыслакаваліся па ўсіх гарадох, і ў Вільні таксама. Бацька пісаўся расейцам, а мне расказваў пра паўстанне*

*1863 года, і пра Кастуся Каліноўскага, і пра ягонага ката, графа Мураўёва… Пра тое, што паўстанцаў вешалі на Лукішках.*

*Не буду разважаць, чаму і хто аддаў Вільню Літве і перайначыў у Вільнюс. А вось як усё тут мянялася, я бачыў на ўласныя вочы. Як мяняліся ўсе шыльды з назвамі вуліцаў. Як з Коўна панаехала багата паліцыі, у савецкай міліцэйскай форме. Я звярнуўся да аднаго гэткага "савецкага" міліцыянта, каб той параіў, дзе які гатэль, як куды прайсці. А ён мне ў адказ — па-літоўску, паказвае, што ён мяне зусім не разумее…*

*У той прыезд паспеў я зайсці на госці й да літоўскіх пісьменнікаў. Карцела пагутарыць з імі наконт Кастуся Каліноўскага, пра Вільню ды нашую будучыню.*

*Драўляная хатка, дзе змяшчалася пісьменніцкае згуртаванне, была акурат пад гарою Гедыміна, у гушчары дрэваў, што толькі пачыналі зелянець. Яна нагадвала шляхецкі маёнтак, дом пана, які ўцёк ад бальшавікоў. Сустрэлі мяне тут ветліва, нават знялі паліто ў шатні, што, як па мне, было ўпершыню. Паказаў ім сваю камандзіроўку, патлумачыў, чаго завітаў. Яны запрасілі мяне ў сталоўку, што была пры дамку. За нашым столікам сядзелі 4 чалавекі і толькі адзін з іх гаварыў па-расейску. Ён быў старэйшы за ўсіх, мабыць, за пяцьдзясят якіх гадоў. Гэты стары пісьменнік прыціснуў мяне да сцяны. З ягоных словаў вынікала, што Каліноўскі належыць Літве, бо кіраваў паўстаннем на літоўскіх землях. Я толькі здолеў сказаць яму, што не час Каліноўскага дзяліць, калі ён усё ж рабіў супольную справу і для беларусаў, і для літоўцаў. Цяпер я разумею таго літоўца. Ён не рабіў розніцы паміж царскімі і савецкімі расейскімі захопнікамі.*

*А ён прыціскаў мяне ізноў… Маўляў, колькі ў вас, у савецкіх, сапраўдных мастакоў? Аднаго Дайнеку хіба не зблытаеш ні з кім. Ён называў мастакоў, што робяць прапаганду, але да сапраўднага мастацтва не маюць ніякага дачынення. Далей ён наўпрост пачаў пералічваць тых, лепшых на ягоную думку, мастакоў, якіх ганіць афіцыйная савецкая крытыка. Тым часам маладыя пісьменнікі сядзелі моўчкі ды слухалі. Было відаць, што яны ведаюць расейскую, але ніхто з іх не ўставіў ніводнага слова…*

*Пасля я пайшоў са старэйшым пісьменнікам глядзець графічную майстэрню, дзе была тады выстава. Мне было цікава. У большасці графічныя творы тут былі з рознымі фармальнымі пошукамі. Былі цікавыя пластычныя кампазіцыі. Але ніводная з гэтых працаў бадай не прайшла б нашага выстаўкаму ў Менску. Бо ў нас гэта ўсё назвалі б гнілым Захадам, мастацтвам, якое зводзіць ад класавае барацьбы. Што праўда, было ў літоўцаў Мастацтва. Мастацтва, над якім хоч не хоч, а мусіш паразважаць…*

*Мой новы знаёмы вывеў мяне на вольнае паветра. Мы развіталіся, прыўзняўшы капелюшы, як некалі рабілі ўсе, калі я быў юнаком. Традыцыя гэтая доўга трымалася і ў нас, але толькі паміж старэйшымі. А тут, у Вільні, усё засталося па-ранейшаму».*

Надзвычай каштоўнымі ёсць запісы пра мастака Пятра Сергіевіча. Каштоўныя акурат тым, што былі зробленыя калегам мастаком. Ціхановіч прыводзіць і некаторыя малавядомыя старонкі з творчае біяграфіі славутага беларускага мастака.

*«У Вільні, у Беларускім музеі, я ўпершыню сустрэў Сергіевіча. Ён пазнаёміў мяне з маладзейшымі працаўнікамі, якія сядзелі ў маленькім пакойчыку. Іх было трое. Яны сустрэлі мяне спачатку не дужа ветліва, але як дазналіся, што я зяць Уладзіслава Галубка, дык і гамана пайшла па-іншаму. Штодня я заходзіў у Беларускі музей імя Івана Луцкевіча да Сергіевіча і потым разам з ім абыходзіў віленскія касцёлы, дзе было багата абразоў італьянскіх майстроў, якія, на думку Сергіевіча, мне трэ было ўбачыць абявязкова. Маўляў, іншага выпадку можа не быць.*

*Зазвычай Сергіевіч вёў мяне проста да службовага ўваходу ў касцёл ці царкву, даваў касцельнаму служку ў рукі якія тры рублі савецкія й прасіў па-польску дазволу паглядзець*

*разам з “панам з Менску” мастацтва ў бажніцы. Мы заходзілі ў храм Божы, Сергіевіч ставаў на калені, жагнаўся даланёй і толькі пасля дазваляў сабе прайсці далей…*

*Напружанасць у горадзе тым часам павялічвалася. Горад жыў прадчуваннем нечага вельмі важнага, вельмі страшнага. Гэта можна было зразумець нават па тым, што ўва ўсіх касцёлах служылі імшу несупынна.*

*Аднаго разу Сергіевіч запрасіў мяне ў сваю мансарду, якую быў узяўшы ў арэнду ад старога мастака. Майстэрня была немалая, але ўтульная. Там мы разглядалі партрэты дзеячаў беларускае культуры. Яны мне ўвогуле падабаліся, але адчувалася нейкая сухаватасць у каларыце. А аднолькавыя фарматы стваралі ўражанне царкоўных абразоў. Між тым тыпажы былі розныя, кантрастныя. Гэта і вылучала партрэты міжсобку, каб іх параўноўваць. Мне запомнілася вялікае палатно — партрэт ксяндза Станіслава Глякоўскага.*

*На развітанне Сергіевіч даў мне фотастужку з тымі партрэтамі, а я, у сваю чаргу, перадаў яе старшыні Саюза мастакоў БССР, Рубінштэйну. Давялося яму яшчэ і на словах патлумачыць, хто такі Пётра Сергіевіч. У газеце “ЛіМ” Рубінштэйн (да ўсяго ён лічыўся і журналістам!) змясціў колькі здымкаў тых партрэтаў з кароткімі анатацыямі да іх. Але партрэта ксяндза Глякоўскага спаміж іх не было».*

Размова ў мемуарах Ціхановіча вядзецца пра 1939 год. Праз год прапаў недзе і сам Рубінштэйн. Пасля на пасадзе былі толькі выканаўцы абавязкаў старшыняў Беларускага саюза мастакоў. Гэта было аж да 1948 года, калі нарэшце быў праведзены Другі з’езд саюза. Часам трапляюцца і дакументальныя зацемкі, датычныя мастацкага жыцця наогул і дзейнасці Саюза мастакоў у прыватнасці.

*«Я памятаю, як збіраўся тады Першы з’езд Саюза мастакоў у памяшканні Саюза пісьменнікаў, на рагу вуліц Савецкай і Камсамольскай. Выступалі Яўген Зайцаў, які крытыкаваў некаторых мастакоў за лайдацтва, выступаў Айзік Кучар, які дзівіўся таму, што мастакі не могуць на словах выказаць сваю думку. Выступалі яшчэ чалавек восем-дзесяць, у тым ліку і я. Усе чакалі першага сакратара ЦК КПБ Панамарэнку. Ён павінен быў прыйсці на з’езд і паставіць задачы перад падрыхтоўкай першай Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва пад дэвізам “Ленін і Сталін — арганізатары беларускай дзяржаўнасці”.*

*Калі Панамарэнка ўвайшоў у залю, усе падняліся і пачалі несупынна пляскаць у далоні, мабыць, хвілін дзесяць, пакуль ён сам рашуча не спыніў гэтыя авацыі. Потым, крыху пачакаўшы, Панцеляймон Панамарэнка раптам задаў залі наступнае пытанне: “Узніміце рукі, хто з вас прачытаў "Кароткі курс гісторыі ВКП(б)"?”*

*І ўся заля падняла рукі. Вядома, усе мусілі рукі ўздымаць: адзінагалоснасць была стопрацэнтовая.*

*З таго часу партыя бальшавікоў намертва ўхапілася за выяўленчае мастацтва як лепшае з рычагоў прапаганды ідэяў камунізму. Было зусім нядзіўна, што на чале Выставачнага камітэта быў пастаўлены Кулагін — першы намеснік першага сакратара ЦК КПБ».*

Асобную частку ўспамінаў Яўгена Ціхановіча складаюць тэксты, прысвечаныя Другой сусветнай вайне. Паводле сведчанняў Яўгена Мікалаевіча, у акупаваным Менску засталося 34 сябра Саюза мастакоў БССР. Падчас нямецкае акупацыі Ціхановічу давялося працаваць і жыць з многімі тагачаснымі палітычнымі, грамадскімі дзеячамі. Сярод іншых цікавым ёсць ягоны ўспамін пра прафесара Вацлава Іваноўскага, пра якога ён шмат ведаў.

*«Можна многа чаго распавядаць пра Вацлава Іваноўскага як навукоўца, палітыка, аднаго з пачынальнікаў вызвольнага руху…*

*Прафесара Іваноўскага я асабіта зблізку бачыў толькі адзін раз, калі ён, як заўжды без аховы, праходзіў па Нізкім завулку, у раёне Нямігі, да прафесара Лыкоўскага. Лыкоўскі быў галоўным эпідэміёлагам горада. Іваноўскі заўсёды спакойна й годна хадзіў па ўсім Менску.*

*Ад 3 лістапада 1941 г., як яго прызначылі бурмістрам Менска, ён шмат зрабіў для ратавання людзей ад нямецкіх рэпрэсіяў. Я гэта ведаю. Улетку 1943 г. з ініцыятывы групы прафесара Іваноўскага было створанае й падпольнае беларускае нацыянальна-дэмакратычнае аб'яднанне дзеля гуртавання сілаў, якія мелі на мэце адбудову беларускае незалежнае дзяржавы па вайне…*

*7 снежня 1943 г. Вацлаў Іваноўскі быў забіты на рагу цяперашніх вуліцаў Нямігі і Камсамольскай. Іваноўскі, як заўжды, без аховы ехаў на фурманцы. Ролю ахоўніка і выконваў фурман. Некалькі чалавек жалезнымі прутамі забілі іх абодвух, Іваноўскага з фурманам. Прутамі — каб не было чуваць стрэлаў. Хто гэта зрабіў, невядома было ні тады, ні цяпер. Магчыма, забойства было ўчыненае са згоды гаўляйтара фон Готбэрга. Але тады ўсе забойствы валілі на партызанаў, і, каб гэтак выглядала, Іваноўскаму як бурмістру немцы зрабілі шыкоўнае пахаванне на Кальварыі. Так не стала вялікага чалавека. Было яму толькі 62 гады… Прафесара Лыкоўскага я ведаў даволі добра. Ён, пэўна, меркаваў, што мая сям'я мае сувязі з партызанамі… Колькі разоў ён нам дапамагаў. Яго, прафесара медыцыны, закатавалі "сталінскія сокалы" на Валадарцы. Разам з тымі, хто "працаваў на немцаў"».*

З вядомых прычынаў мастакоўскае жыццё Беларусі 1941–1944 гг. па-ранейшаму вывучанае слаба. Таму любыя сведчанні маюць вялікую каштоўнасць.

*«Усе мастакі, якія апынуліся пад акупацыяй, мусілі стаць на ўлік ва ўправе, што выдавала мастакам (а таксама пісьменнікам і артыстам) даведку, з якой раз на тыдзень ён павінен быў з'яўляцца ў аддзел мастацтва, каб засведчыць, што яшчэ жывы. Намеснікам загадчыка Дома мастацтва быў мастак Мікола Дучыц, а загадчыкам — Ільінскі (колішні журналіст), родны брат народнага артыста СССР. І, натуральна, па-над усімі аддзеламі ўправы быў немец (гэтак званы шэф). Дык вось, гэтыя шэфы змушалі мастакоў браць удзел у выставе, што мусіла адбыцца ў памяшканні Оперы, пры ўмове, што кожны прынясе не менш як 3 работы на вольныя тэмы… Я асабіста даў эцюд партрэта жонкі, краявід і нацюрморт. Тутака і Каржанеўскі просіць мяне зірнуць на тое, што ён прынес Дучыцу. "Многа, замнога,– кажу я. — Знайшоў час выстаўляцца ў такім аб'ёме". А ён у адказ: "Вы на Дэкадзе ў Маскве бралі ўдзел у выставах. А я ў той час служыў у войску. І вось толькі цяпер ёсць магчымасць паказаць свае творы". Карацей кажучы, не паслухаў ён маіх парадаў, выставіў больш за 40 малюнкаў алоўкам, былі і акварэлі, але не было ніякіх тэматычных кампазіцыяў. Заняў сваімі творамі невялікі пакойчык у тэатры, толькі колькасць ягоных твораў вылучала яго сярод іншых мастакоў. За гэта ў 1945 г. яго выслалі на 10 гадоў, а пасля забаранілі жыць у сталіцы. Знайшліся людзі, сярод іх і мастак Яўген Мікалаеў з Віцебска, якія ўсё жыццё не давалі Каржанеўскаму ходу ў мастацтве. Нават юбілейнай выставы той Мікалаеў не дазваляў зрабіць. Хоць Антон Каржанеўскі заставаўся сябрам Саюза мастакоў.*

*Мікалаеў быў "членам Віцебскага гаркама партыі". Гэтая акалічнасць вельмі спрыяла яму ў мастакоўскай кар'еры. Ён за кароткі час атрымаў ганаровае званне заслужанага дзеяча мастацтваў, а пасля і народнага мастака БССР. Каржанеўскі быў звярнуўся да праўлення Саюза мастакоў з просьбаю дазволіць зрабіць выставу ў Менску, але і тут Віцебскі гаркам выступіў з пратэстам. Тая забарона дзейнічала да самое смерці Каржанеўскага. Дзейнічала і пасмяротна».*

Успаміны і архіў мастака Яўгена Ціхановіча, што перахоўваецца ў прыватных асобаў, ёсць унікальнай крыніцаю для вывучэння найноўшае гісторыі Беларусі. Як зяць слыннага беларускага драматурга, пісьменніка і мастака, дзеяча тэатра Уладзіслава Галубка і як брат славутага мастака Валянціна Ціхановіча, ён быў блізкі да бамонду Менска 1930-х гг. Гады Другое сусветнае вайны Яўген Ціхановіч правёў таксама ў Менску, плённа працаваў. Па вайне ягоныя творы занялі пачэснае месца ў беларускім савецкім мастацтве. Успаміны мастака пра сваякоў, пра дзеячаў культуры і палітыкі, пра даваенную Беларусь і жыццё пры нямецкай адміністрацыі 1941–1944 гг. уяўляюць з сябе дакумент надзвычайнае каштоўнасці для гісторыкаў мастацтва і літаратуразнаўцаў. Многае з напісанага Ціхановічам застаецца няясным, шмат што наогул няведамае шырокай грамадскасці. Пакуль была апублікаваная толькі нязначная іх частка. Мемуары Яўгена Ціхановіча вымагаюць далейшага вывучэння, каментавання і публікацыі найбольш каштоўных фрагментаў. Цікавым сведчаннем атмасферы 1970-х гг. ёсць і ягоны ўспамін пра стасункі мастакоў з КДБ.

*«На допыце па справе мастака Кіпніса следчы КДБ падпалкоўнік Сцепаненка задаў мне пытанне: “Чаму на партрэце Галубка маюцца надпісы, якія ў яго выклікаюць сумненне, ці патрэбны яны наогул?” Відаць, следчаму хацелася ведаць нешта аб творчых напрамках, ці чым дыхаюць мастакі, якія праходзяць як сведкі па справе Кіпніса, якога затрымалі ў Брэсце, па дарозе ў Ізраіль. Сцепаненка, відаць шукаў зачэпкі ў маім партртэце Галубка, які яму падабаўся, але вось словы яму не давалі спакою. І можа, тут ён мяне зловіць, быццам я знарок даю такія назвы, каб адзначыць як дакор душагубам у трагічным лёсе нашага Галубка.*

*Давялося мне тлумачыць падпалкоўніку, беларусу па паходжанні, што надпісы — усяго толькі афішы тых п’ес, аўтарам якіх з’яўляецца Галубок, гэта творчая біяграфія былога народнага артыста БССР, а зараз маецца другое званне — ворага народа, хаця і рэабілітаванага.* “*Мы стараемся забыть эти тридцатые годы*”, *— сказаў ён адказам на мае тлумачэнні.*

*Ён прывёў прыклад з маршаламі, што былі «здраднікамі», як казалі рэпрэсаваныя ў тыя гады, быццам хацеў падкрэсліць, наколькі дробна гучыць прозвішча Галубка побач з маршалам Тухачэўскім. «Что Голубок, ведь даже маршалы были репрессированные! Да, да мы стараемся этот период забыть». З нейкай упартасцю следчы націскае на тым, што і мне варта забыцца пра ўсё тое, што нельга забыць ніколі, ні ў якім разе не толькі сваякам, але і ўсім, хто любіць сваю радзіму і свой народ. Допыт працягваўся амаль дзесяць гадзін з перапынкам на абед, і калі я зноў падымаўся па прыступках параднага ўваходу ў КДБ, мае ногі дрыжалі, быццам я сам павінен у нечым, і можа, хто бачыць зараз са знаёмых і думае, крый Божа, чаго гэта мастаку спатрэбілася падацца ў такі дом. Ніколькі не дзіўна, што такія думкі лезуць у галаву, бо дом гэты мне вядомы яшчэ задоўга да арышту Галубка, калі наркомам НКУС быў Берман. Вакол дома ўзад і ўперад хадзілі вартавыя з вінтоўкамі. Яны час ад часу пакрыквалі на прахожых, што спыняліся ля дома:* “*Проходи! Проходи!*” *— чулася звычайна, калі сустракаліся знаёмыя. Такі быў час, што нічога не было дзіўным, бо ведалі ўсе, быццам ахова павінна быць пільнай, бо сядзяць у падвале ворагі народа.*

*Зараз мы не бачым тых вокнаў, што паловай сваёй глядзелі тады на тратуар, а з іх зімою валіла смуродная пара, якая цягнулася ў твары мінакоў. Трэба ўявіць сабе, колькі ў падвале сядзела, а хутчэй, стаяла тых ворагаў народа, якіх трэба было трымаць не толькі ў турме, ці ў* “*амерыканцы*”, *што была ў цэнтры двара, але і ў падвале галоўнага корпуса, што выходзіў сваім фасадам на Савецкую вуліцу — цяпер Ленінскі праспект. Будынак захаваўся і зараз, але на ім ужо няма добрай скульптурнай групы*

*ў класічным стылі, дзе рымская матрона абдымае двух анёлаў з абодвух бакоў (*цяпер аднаўленая. *— С. Х.). Скульптурная група над уваходам вельмі нагадвала Берману "очную ставку", бо нездарма з усіх бакоў чуліся смяшкі, так што трэба было яе разбурыць і як мага хутчэй за тое, што мастацкі твор не адпавядае сваёй формай таму зместу будынка і так аголена лезе ўсім у вочы».*

Гэты фрагмент успамінаў тычыцца 1979 г. Але аўтар невыпадкова прыгадвае 1930-я гг., праводзячы міжволі паралелі з метамі і метадамі дзейнасці савецкіх чэкістаў.

*«Па загадзе Наркома (*Бермана*. — С. Х.) узарвалі царкву на пляцы Волі, манастырскую таксама. Ля заходняга моста ўзарвалі так званую Чыгуначную царкву і вельмі ганарыліся сваім сапёрскім майстэрствам, у тым, што не пашкодзілі нават ніводнае шыбы ў Доме ўрада. Так ішла барацьба з рэлігіяй, знішчалі архітэктуру разам з старадаўнімі іконамі і выдатнымі фрэскамі, што былі ў цэрквах.*

*Народны камісар НКУС БССР, Берман, адзначыўся яшчэ і тым, што паводле яго загаду ў Мінскай турме замуравалі вокны, застацца павінны былі толькі верхнія фрамугі, а звонку зрабілі "намордзнікі", каб вязень не бачыў нават блакітнага неба. Загад быў выкананы вельмі тэрмінова, так і засталося ўсё да гэтага часу, быццам такое было і заўсёды.*

*Як гучаць іранічна сёння словы "Народны камісар унутраных спраў" ці "народны Камісарыят" пры тым, што ўнутраныя справы рабіліся супроць народа, як і ўсе чорныя справы рабіліся ад імя народа.*

*Менавіта пры Бермане мне давялося разам з мастаком Давідовічам афармляць фасад НКУС да першамайскіх святкаванняў у 1937 годзе. Але ж хто мог ведаць, што гэты год стане апошнім у жыцці народнага артыста БССР, ды і для ўсёй сям'і Галубка абернецца цяжкімі выпрабаваннямі. Між тым працавалі мы не ў памяшканні, а на двары, каля "амерыканкі" — гэта круглая турма без вокнаў, вышынёй каля пяці паверхаў. Па другі бок "амерыканкі" — вязні паволі рухаліся па кругу, гэта была "прагулка", яна вельмі ж нагадвала карціну Ван Гога, дзе таксама ў турэмным двары, як у глыбокай студні, вязні рухаліся па кругу. Праца была скончана, але заставалася работа электрыка, а ён не прыходзіў. "Чаму няма электрыка?" — запытаўся я ў камендата Ключанкова: "Ён сядзіць у мяне ў падвале, бо застрэліў сваю жонку ад рэўнасці", — пры гэтым яго правае вока шырака расчынялася некалькі разоў, відаць, не ўсё было добра ў каменданта з нервовай сістэмай, яно і зразумела, мы ж ведаем, якія абавязкі выконваюць гэтыя каменданты па сваёй службе. На развітанне Ключанкоў папрасіў мяне зрабіць яму карціну "Ленін у шалашы" і даў мне запрашальны білет на вайсковы парад, што меўся быць ля помніка Леніна пад Домам урада. Такой ласкі да мяне магло быць толькі тое, што Ключанкоў ведаў, што я зяць народнага артыста.*

*На вайсковым парадзе я быў, а вось карціны "Ленін у шалашы" не зрабіў, бо становішча з арыштамі пашыралася так хутка, што захапіла кіраўніцтва па справах мастацтва пры СМ БССР. Спачатку знік Патапейка, потым Ткачэвіч, у Доме ўрада што ні дзень кагосьці забіралі, кагосьці ставілі з новых. Слухі плылі адзін за адным, называліся прозвішчы, а сваякі ці суседзі не казалі тае праўды, як бы яна ні была вельмі цяжкай…*

*Але ж вернемся да допыту следчага па справе мастака Кіпніса. Цікава адзначыць, што следчы пераходзіў ад адной тэмы да другой, а пра Кіпніса быццам забыўся, слухаў больш, чым гаварыў. Яго прыклад з маршалам Тухачэўскім быў, на мой погляд, толькі як жаданне зачыніць гэтую балючую тэму, бо і сам не мог знайсці апраўдання, чаму лепшыя кадры кіраўнікоў Чырвонай Арміі зрабіліся ворагамі народа перад гэткай цяжкай вайной.*

*Так я і казаў следчаму: "Вы можаце забываць, што хочаце, а мне Галубок даражэй" і што я буду ставіць яму помнікі не ў бронзе, не ў граніце, а ў партрэтах фарбамі, у гравюрах, афортах і ў іншых матэрыялах, якія мне па сілах і па кішэні. І следчы хацеў ведаць, што я думаю адносна выезду з СССР у Ізраіль грамадзянаў яўрэйскай нацыянальнасці. Я адказаў тым, што спаслаўся на Леніна, які казаў, што лепшая праява дэмакратыі і правоў чалавека — гэта яго права вольнага выбару краіны пражывання. Далей Сцепаненка пачаў мяне прашчупваць адносна нацыянальнай культуры, і ў гэтым выпадку ён назваў Кіпніса, які сцвярджаў, што ў СССР не даюць ці забараняюць развіццё нацыянальнай культуры, і як прыклад назваў зачыненне ў Мінску яўрэйскага тэатра, зачыненне яўрэйскага педтэхнікума ў Віцебску, закрыццё выдання яўрэйскіх газет і г. д. Мне зноў прыйшлося спасылацца на Леніна, які казаў, што ад развіцця нацыянальнай культуры народы ідуць да развіцця ўсеагульнай культуры чалавецтва.*

*Далей размова пайшла наконт беларускай мовы, аб якой следчы меў уяўленне як аб непатрэбнай ці адміраючай: "даже родители не хотят посылать своих детей в белорусские школы" — было сцвярджэннем Сцепаненкі. "А што вы будзеце рабіць? — адказаў я, — калі ў вышэйшых навучальных установах вучэбныя працэсы праходзяць толькі на рускай мове? У нас, у Беларусі, родная мова выкладаецца як замежная ва ўсіх сярэдніх школах, а спроба дзе-небудзь вярнуцца да беларускай мовы ў якой-небудзь арганізацыі лічыцца шкоднай праявай беларускага нацыяналізму..." Я ўбачыў, што перада мною сядзіць слабы апанент і гаворка зайшла ў тупік. Я, на здзіўленне следчага, сказаў яму, што і рускія хутка адмовяцца ад сваёй мовы і ўсе мы будзем гаварыць на мове эсперанта.*

*Усе гэтыя ўспаміны не могуць быць лішнімі, бо наша моладзь нічога не ведае аб Галубку, чалавеку з легенды, ахвяры сталінскага тэрору...»*

Яўген Ціхановіч пайшоў з жыцця 5 ліпеня 2005 г. Гэтак перагарнулася апошняя старонка ў гісторыі славутае мастакоўскае дынастыі. Толькі вось насуперак прыродзе сышоў, перажыўшы сына Генрыха і ўнука Яна…

*Сяргей ХАРЭЎСКІ*

## ЛІТАРАТУРА


1. Актуальные вопросы истории советского изобразительного искусства // Искусство. 1989. № 6.
2. *Васілеўскі П. П.* Не паспеў // ЛіМ. 1997. 1 жніўня.
3. *Володарский В. М.* Искусство при тоталитарных режимах // Тоталитаризм в Европе XX века: Из истории идеологий, движений, режимов и их преодоления. М., 1996.
4. Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Т. 5: 1941 — да 1960-х гг. / Рэдкал.: С. В. Марцэлеў і інш.; рэд. тома П. А. Карнач. — Мінск: Навука і тэхніка, 1992.
5. *Крэпак Б.* «Антычнасьць» III рэйха і сталінскі «рэнэсанс» // Культура. 1993. 25 ліп.
6. *Лыч Л. М., Навіцкі У. І.* Гісторыя культуры Беларусі. 2-е выд., дап. Мінск: ВП «Экаперспектыва», 1997.
7. *Ціхановіч Я.* Парадны партрэт у «экстэр'еры» натоўпу // Культура, 1993. 9 лістапада.
8. *Ціхановіч Я.* Партрэт стагодзьдзя вачыма мастака // Наша Ніва. 2001. № 1, 2.
9. *Харэўскі С.* Мастацтва таталітарызму // Таталітарызм. Курс лекцыяў. Беларускі калегіюм. Мінск, 2007.
10. *Харэўскі С.* Гісторыя мастацтва і дойлідства Беларусі // Пропилеи. Вильнюс, 2007.

# ВЛАДИМИР БАРАН — ЧЕЛОВЕК И ПЕДАГОГ

## АД РЭДАКЦЫІ

Гэты том мы пачалі рыхтаваць у 2005 г. З таго часу шмат змянілася. Памёр аўтар нарысаў пра выдатнага гарадзенскага настаўніка Уладзіміра Барана — вядомы журналіст Валерый Задаля. Наша публікацыя, такім чынам, — своеасаблівы помнік і аўтару партрэта.

Валеры Задаля нарадзіўся 15 сакавіка 1953 г. у Клецку. Закончыў факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў галоўным рэдактарам наваградскай газеты «Новае жыццё», намеснікам старшыні Тэлерадыёкампаніі Гродна. Сябра ПЭН-цэнтра. Сябра БАЖ з 1997 г. Супрацоўнічаў з газетамі «Народная Воля», «Пагоня». Сябра КХП БНФ.

З 2002 г. на пасадзе намесніка старшыні Гродзенскага аддзялення ГА «Таварыства беларускай школы». Стваральнік «Літаратурнай гасцёўні». Выдаваў і рэдагаваў шэраг лакальных спецыялізаваных газет. Выкладаў у Гарадзенскай школе маладога журналіста.

Аўтар кнігі «Мудры настаўнік Алесь Белакоз».

Памёр 12 красавіка 2007 г. у Гродне.

R. I. P.

## З ЛІСТА В. ЗАДАЛІ ДА А. ФЯДУТЫ

…Што да сабраных матэрыялаў з жыцця Уладзіміра Іванавіча Барана, то маю даволі дадзеных, каб падрыхтаваць, напрыклад, нарыс.

Ёсць падрабязны досвед з дзяцінства (бежанства, вучоба ў Расіі, вяртанне сям’і дадому, праца пастушком, дапамога сельскага настаўніка, паляка між іншым; вучоба ў Гродзенскай польскай гімназіі імя А. Міцкевіча…). Як вывучаны архіўныя матэрыялы, так і праведзены шэраг гутарак з асобамі, якія блізка ведалі У. І.

Шэраг матэрыялаў сведчыць пра работу У. І. у Варшаве (праца ў Доме сірот, вучоба ў Варшаўскім універсітэце, сустрэчы з Я. Корчакам, знаёмства з ім праз кіраўніцу Дома сірот, якая ведала гэтага славутага дзіцячага псіхолага з часоў Кіева — 1920 г.).

Асаблівы пласт складаюць факты з жыцця У. І. перыяду нападу немцаў на Польшчу (1939) і ваеннага часу. Напэўна бачыцца характар У. І. (узяў з сабой у Варшаву на вучобу ў гімназіі сястру, над якой апекаваўся; сяброўства з былымі выпускнікамі Гродзенскай гімназіі, якія ўладкаваліся на работу ў Варшаве, расстрэл аднаго з іх энкавэдыстамі падчас спробы вяртання на Гродзеншчыну ў часе нямецка-польскай вайны, небяспека ўласнаму жыццю, калі таксама «ставілі да сцяны», работа ў Гродне па найме ў час акупацыі — распілоўка дроў і г. д.).

Асобны блок складаюць матэрыялы пасляваеннага часу, калі У. І. уладкаваўся на работу настаўнікам. Маю ўспаміны педагогаў тых часоў. Нешта падказвае сама гісторыя школы. Пэўныя звесткі даюць публікацыі ў газетах і часопісах за розныя гады. Успамінаецца многа прозвішчаў. Праглядаецца шлях У. І. да прафесійных вяршынь, уздым школы як адной з наватарскіх не толькі ў Беларусі, але і ў СССР: шырокае

распаўсюджанне вопыту працоўнага выхавання, «абкатка» кабінетнай сістэмы, мноства адкрытых урокаў, запрашэнне дырэктара на ўсесаюзныя нарады, яго публікацыі ў друку, узнагароджанне ордэнамі Знак Пашаны і Леніна.

Кажуць, што хацелі надаць званне Героя Сацыялістычнай Працы, але знайшліся канкрэтныя людзі, якія сталі на дарозе, — закончыў «не той» (Варшаўскі) універсітэт, «заходнік» (асоба з іншым светаглядам)…

Як інтэлігент вышэйшай пробы праявіў сябе У. І. у часы наймацнейшага свайго выпрабавання — прыход у школу жонкі першага сакратара абкама КПБ Кляцкова, новыя парадкі, якія твАрыліся на вачах чалавека, які гэтую школу падымаў цягам некалькіх дзесяцігоддзяў. Чаму гэтая шаноўная спадарыня не ўзяла, як у свой час У. І., нікому не вядомую школу, а прыйшла ў найлепшую ў вобласці, рэспубліцы? Ёсць факты, якім чынам будаваліся басейны, спартзала, хто з кіраўнікоў канкрэтнага раёна вобласці выконваў гэта, адкуль падвозіліся будаўнічыя матэрыялы і інш. Цяпер за такія «сацыялістычныя падыходы» нехта сядзеў бы ў турме. Але Леанід Герасімавіч кіраваў Гродзенскай вобласцю, быў Героем, членам ЦК КПБ…

З павагай

*Валерый ЗАДАЛЯ*

Гродна

**Ад рэдактара.** Сам гарадзенец і былы настаўнік, я хацеў, атрымаўшы гэты ліст, заўважыць сп. Задалю, што існуе і іншы погляд на дзейнасць Марыі Пракопаўны Кляцковай на пасадзе дырэктара школы № 1 г. Гродна, што шмат хто з калег (у тым ліку і ў школе, дзе працаваў я) сёння ацэньвае яе працу як спробу працягнуць стварэнне лепшай школы ў Беларусі – той працэс, які і пачаў Уладзімір Іванавіч Баран. Гэта была ўжо іншая школа, але таксама – школа № 1 не толькі па парадкаваму нумару. Але… Але не паспеў. Валерыя Задалі больш няма.

Няхай гэты артыкул выйдзе ў тым выглядзе, як яго падрыхтаваў аўтар.

# БЫЛ ТАКОЙ УЧИТЕЛЬ В ГРОДНО

*Владимир Иванович Баран родился в 1908 г. в деревне Пилюки Гродненского района. Закончил Вертелишковскую школу (1925), Гродненскую учительскую семинарию (1931), гуманитарный факультет Варшавского университета (1935).*

*Работал учителем и воспитателем в детском доме Варшавы под руководством известного педагога Януша Корчака, в Варшавском лицее имени С. Батория (1931–1939), в Гродненской гимназии имени А. Мицкевича, СШ № 1 г. Гродно (1939–1941). Был завучем СШ № 7 г. Гродно (1944–1950), директором СШ № 1 (1950–1972).*

*Неоднократно избирался депутатом городского Совета. Заслуженный учитель БССР. Отличник народного просвещения. Награжден орденами Ленина, Знак Почета, медалями «За трудовую доблесть», «За трудовое отличие».*

*Один из самых талантливых педагогов Гродненской области.*

У каждого из нас хранится в памяти какой-то более яркий образ с детства. Почему помнится именно это, а не иное — одному Богу известно. Владимир Иванович через всю жизнь пронес не радостный солнечный день, наполненный летним теплом и пением птиц, а сумрачный сентябрьский вечер, дождливый и ветреный, раскисшую полевую дорогу и дом с окнами, перебитыми крест-накрест черными от времени деревянными горбылями. Семья возвратилась из беженства домой. Был 1918 год.

В биографической справке[1] от 18 декабря 1989 г. он отметил следующее: родился 17 октября 1908 г. в деревне Пилюки Гродненского района в крестьянской семье. Далее следует 1925 год, когда он поступил учиться в Гродненскую учительскую семинарию. Отметим, что Западная Беларусь до 17 сентября 1939 г. входила в состав Польши. Это были так называемые «кресы всходне»[2].

Его младшая сестра Надежда[3] приоткрыла неизвестные страницы детства Володи. В беженстве, а семья очутилась в Сибири, он закончил несколько классов русской школы. По возвращении и взрослые, и дети постарше впряглись в работу. Отец был строгим человеком. Еще в родной деревне Пилюки в молодые годы овладел столярским искусством. Делал сани, телеги, колеса. Поначалу голод давал о себе знать. Поэтому отец решил, что Володя будет работать пастушком. Нашел хозяина и отправил к нему сына.

Мать, Мария Николаевна, женщина деревенская, родом из деревни Вертелишки, пробовала отговорить мужа:

— Я сама буду пасти коров. А Володя пусть учится.

Не помогло.

Однако уступил учителю Болеславу Крыговскому. Тот взволнованно, с порога, выговаривал отцу:

— Что же вы делаете! Это очень способный мальчик. Я сам буду его учить. Он имеет большое будущее!

Если от пастушества Володя был освобожден, но от иной работы по хозяйству — нет. Всякую свободную минуту проводил в огороде, на арендованных участках земли.

---

[1] Государственный архив Гродненской области. Фонды № р — 380, оп. 1. Коллекция В. И. Барана, заслуженного учителя БССР. Русская школа № 1.

[2] См.: Дарья и Томаш Наленч. Юзеф Пилсудский. Легенды и факты. М.: Полит. литература, 1990. С. 390.

[3] Из воспоминаний Н. И. Илькевич. Записано 05–06.02.2005 г.

Своих неплодородных разрозненных полосок было мало, поэтому брали для обработки чужую, возвращая владельцу 1/3 часть урожая. Требовали досмотра собственные три коня и три коровы, косилка, жатка.

Наемных работников не приглашали. Справлялись сами. В будущем это спасло от раскулачивания как такового и, возможно, от расстрела.

Тот же Б. Крыговский в 1925 г. посодействовал поступлению Володи в учительскую семинарию. К этому времени он получил аттестат выпускника школы в Вертелишках. Денег для оплаты учебы в семинарии не хватало. Один из братьев, Петр, специально подряжался на отхожие заработки, заготавливал сено, чтобы продать его в Гродно. Заработанные деньги отдавал Володе.

О шести годах учебы в Гродно Владимир Иванович не оставил каких-то специальных записей. Безусловно, как будущий географ-профессионал, педагог по призванию, человек широких взглядов и интересов, он не мог не интересоваться историей своего учебного заведения. Знал, что мужская гимназия было возобновлена в 1834 г.[4] на базе бывшей доминиканской гимназии как классическая с 8-годовым сроком обучения. В 1916 г. начала работать первая польская школа, преобразованная позже в учительскую семинарию (гимназию).

В год его поступления на учебу работал учительский коллектив во главе с директором Фредериком Домбровским. Изучались латинский, польский, французский и немецкий языки, история, природоведение, религия (католичество и православие), математика, физика, химия, рисование, каллиграфия. Обязательным было музыкальное образование, пение. Поощрялись увлечения литературой и искусством.

По инициативе городского общества любителей природы преподаватель Ян Кохановский организовал ботанический сад. Вскоре появился и зверинец — будущий Гродненский зоопарк, первый в Беларуси.

В 1927 г. учитель гимназии Михал Кап получил степень доктора философии. Защита состоялась в университете имени Стефана Батория в Вильно. 20 октября 1929 г. ученики гимназии участвовали в торжествах по случаю открытия памятника Элизе Ожешко. Многие гимназисты печатались в журнале гимназии «Знич». Первый номер был издан 19 марта 1930 г.[5].

Затем была проба устроиться на работу в Вильно. Очевидно, с этим городом Владимир думал связать свою судьбу, учиться в университете. По каким-то причинам не получилось. Однако знакомые посоветовали ехать в Варшаву и попытать счастья, устроившись воспитателем в детский дом. Дали и конкретный адрес: пани Мария Роговская-Фальская[6], неординарный педагог, руководительница образцового приюта для детей-сирот «Наш Дом».

Пани Мария после предварительного разговора с Владимиром приняла его на работу, выделила комнату для жилья. Согласилась, чтобы воспитанницей стала и Надежда, младшая сестра нового работника. Удивилась, что между ними такая огромная разница в годах — почти 20 лет. Она устроила для девочки строгий экзамен, проверила знания, голос и коротко сказала:

---

[4] См.: Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Мінск: БелСЭ, 1977. С. 440.

[5] Slowo Ojcżyste. 2002. № 10 (46). S. 12–13.

[6] Родилась 02.02.1878 г. в Дубне-Подляшской (Гродненская губерния, Белосточчина). Дипломированный учитель, член Польской социалистической партии. Неоднократно арестовывалась за революционную деятельность. Была в ссылке в глубинных губерниях России, а также в Воложине (Минская губерния). В 1915 г. вместе с Я. Корчаком в Киеве создает интернат для польских детей и молодежи. В 1919 г. в Польше инициирует приют «Наш Дом». Умерла в 1944 г.

— Беру. Из нее будет толк.

Владимир долго не мог привыкнуть к тому, что пани Мария всегда надевала черное платье с белым воротничком и была похожа на монашку. Позже узнал, что она пережила большое горе. Во время повторной высылки в Воложин умерли ее муж Леон, врач и активист ППС (Польской социалистической партии), и маленькая дочь. Выбор работы с оставшимися без родителей детьми был не случаен.

Пани Мария познакомила молодого воспитателя с Янушем Корчаком, выдающимся детским педагогом, работавшим в приюте «Наш Дом» врачом и консультантом.

Опыт преподавания и педагогической работы приобретался также в элитных лицее № 1 и гимназии имени С. Батория, где Владимир Баран преподавал, будучи студентом, а затем и получив диплом выпускника географического факультета Варшавского университета.

Сохранились тезисы выступления[7] Владимира Ивановича, подготовленные им к встрече со студентами педагогического института. Маститый педагог, пенсионер вспоминает основание 6 декабря 1939 г. на базе польской гимназии и лицея имени Адама Мицкевича русской СШ № 1 имени С. М. Кирова в помещении теперешнего корпуса Гродненского сельскохозяйственного университета по улице Академической, 10.

Директором был назначен Николай Минович Гридюшко. Первые уроки проводили В. М. Мельникова, Ф. А. Слоним-Дроздник, В. А. Вавилов, В. И. Баран. На работу были приглашены учителя — жены советских офицеров. Они и составили костяк педагогического коллектива. Всего в школе было 32 учителя

Среди 800 учеников 20 классов были дети военных, интеллигенции, рабочих и служащих — русских, белорусов, поляков, евреев, литовцев[8]. Секретарем созданной комсомольской организации избрали ученика 9-го класса Николая Софьина.

В 1940 г. Н. Гридюшко снова призвали в армию. Вместо него директором стал Василий Васильевич Николаев. Во время войны он погиб под Могилевом. Горстка земли с его могилы хранится в школьном музее.

Первый выпуск состоялся 19 июня 1940 г. Дипломы об окончании школы получили Володя Лазарев, Таня Гришаева, Оля Рыбкина и Николай Шикита.

В 1940/41 учебном году школа в организационном и материальном плане являлась ведущей по многим показателям. Проводилось немало мероприятий для учителей и руководителей иных школ города и области.

Сразу после нападения Германии на Польшу (01.09.1939) Владимир принял решение возвратиться на Восток, домой. Сделать это подсказала и пани Мария: «Немцы арестуют и бросят за проволоку». 17 сентября войска СССР также вступили на территорию Западной Беларуси. Сборы были короткими. Вместе с приятелем Яном покинули Варшаву. Неопытность, вера в лучшие человеческие качества сыграла с ними плохую шутку. Во-первых, сильно выделялись одеждой — костюмы, шляпы. Люди посоветовали найти что-то попроще. Во-вторых, если немецкие патрули пропустили, то задержал первый же советский разъезд. Короткий допрос, проверка документов. У Владимира был паспорт, где была сделана запись о местожительстве, имелись справки с места работы. Его отвели в сторону. А вот Яну не повезло: то ли в спешке не взял документы, то ли потерял в дороге. Его обозвали предателем и здесь же, в овраге, расстреляли. Володя после Сибири прилично говорил по-русски, попытался заступиться и объяснить ситуацию. Но его грубо оборвали: «Смотри, и тебя пришлепнем!»

---

7 О педагогической практике, 1974 г. Личный архив В. И. Барана. Машинописный вариант.

8 Первая на Гродненщине // Гродненская правда. 1965. 1 янв.

Этот случай навсегда оставил в сердце Владимира глубокую рану. Он сделал вывод, что с советской властью надо быть предельно осторожным. Опасно быть жителем Западной Беларуси, опасно иметь диплом Варшавского университета, опасно свободно владеть польским, немецким и иными языками, опасно быть откровенным даже с близкими людьми.

Если проанализировать архивные записи Владимира Ивановича, то в этом легко убедится. Он молчал о своем знакомстве с Янушем Корчаком и совместной работе. Впервые публично коротко обмолвился об этом в 1978 г.[9]. На то была веская причина: Министерство просвещения Польши персонально пригласило принять участие в работе Международной научной сессии, посвященной 100-летию выдающегося педагога. Присутствовали также гости из ЧССР, Италии, Бельгии, ФРГ, США, республик СССР.

…Еще раз Владимир почувствовал дыхание смерти уже по возвращении домой. Красная власть приступила к ликвидации зажиточных крестьян. Семью сразу же записали в кулаки. Отца и старших сыновей, а также Володю повели под конвоем в гмину, где уже обосновался новый орган власти — сельский комитет бедноты как отделение временного ревкома. В дороге конвоиры совещались: расстрелять «контру» сразу или после официальных формальностей? На дорогу вышли односельчане, чтобы защитить семью Баранов. Решили продолжить «суд» в гмине. На счастье, там встретился человек, который хорошо знал семью Ивана Барана. Он убедил председателя, что арестованные совсем не кулаки, а своего благосостояния добились собственным трудом. Никогда не нанимали наемных рабочих.

На этот раз беда вроде бы отступила, если не считать конфискацию всей живности и сельскохозяйственного инвентаря. Хорошо еще, что мать, умная женщина, сразу после задержания мужа и сыновей спрятала немного муки.

Владимир после этого уехал в деревню Липники в Берштовской пуще, где жили родители его жены Марии. Но не было где заработать на хлеб. Поэтому подался в Гродно, где поначалу работал столяром, пильщиком дров, разнорабочим, а позже поступил на работу в СШ № 1, которая готовилась к открытию. Он оказался одним из нескольких учителей, принятых из местных педагогов.

21 июня 1941 г., в субботу, младшая сестра Надя стала одной из первых пионерок Гродно. Накануне этого торжества Владимир купил ей галстук. В воскресение она собиралась ехать в деревню, к родным, чтобы порадовать родителей. Ранним утром над городом появились фашистские самолеты. Прогремели взрывы. Война…

Школа стала госпиталем для раненых немецких солдат. Учителя разбрелись кто куда. Жены советских офицеров вливались в толпы отступающих красноармейцев. Многие погибли под бомбежками, иные возвратились в город.

Владимир снова взялся за плотницкое ремесло. Часто приходил с пилой и топором, аккуратно завернутыми в тряпье, на так называемую биржу труда. Она располагалась недалеко от теперешнего гродненского автовокзала. Терпеливо ждал. Не отказывался от любого предложения. На овсянку и хлеб зарабатывал.

Едва не погибла и его жена Мария. В центре Гродно немцы создали гетто. Туда согнали сотни людей. Среди них была и семья Лапиных, соседей по дому на Цегляном переулке, где жили в то время Бараны. До войны глава семьи Лапин имел в Гродно фабрику игральных карт. Мария Александровна варила клюквенный или овсяный кисель, брала хлеб и старалась незаметно передать несчастным за проволоку, что категорически запрещалось оккупантами под страхом смерти. На этот раз не повезло: наткнулась на охранника.

---

[9] Рядом с Янушем Корчаком // Гродненская правда. 1978. 16 янв.

Тот вскинул винтовку, и Мария заметила, как прикладывается к спусковому крючку и отходит от него палец фашиста. Что-то сдержало его. Может, перепуганный вид молодой женщины, которая стояла ни живая ни мертвая под прицелом и как завороженная смотрела в зрачок карабина. Может, чувство вседозволенности: хочу — прощаю, хочу — караю. Это так сладко ощущать собственную власть над людьми в присутствии десятков людей, отгороженных от тебя колючей проволокой. Может, просто пожалел…

Осенью 1943 г. с семьей едва не случилась другая трагедия. Под Индурой партизаны убили немецкого военнослужащего. По оккупационным законам в Гродно были взяты 100 заложников из числа наиболее известных людей города. Эсэсовцы арестовали и Владимира Барана с женой Марией и четырехлетним сыном Володей. Отвели в тюрьму — бывший иезуитский монастырь, что рядом с Фарным костелом. Мария Александровна просила сына: «Молись, молись Богу, сыночек». И Владимир стоял на коленях в центре бывшей кельи и, глядя в окно на хмурое осеннее небо, молил Всевышнего о спасении. На следующий день они вернулись домой. Оказывается, что заложников взяли больше ста, — и семья Барановых оказалась лишней. У Марии Александровны после этого стало заметно больше седины…

После освобождения города в июле 1944 г. Владимира Ивановича назначили завучем школы № 7. Она находилась на улице Дзержинского, во дворе сегодняшней школы № 10. То, что называли гордым словом «школа», было полуразрушенное здание. На плечи Владимира Барана легла ответственность за подготовку школы к учебному году. Сам крутился как белка в колесе, но сумел подготовить классы к первому сентября. Горожане, родители учеников, оказали ощутимую помощь. Вообще, чувствовался неподдельный энтузиазм, вызванный изгнанием гитлеровцев, радостью, что отступила страшная опасность быть убитым, что детям есть возможность снова сесть за парты.

Ну, о партах — это сказано громко. Не было никаких парт, наглядных пособий. Где могли, собрали столы, сколотили скамейки. Но главное — была крыша над головой. И не беда, что временами состав класса доходил до трех возрастов.

В этой школе в 1945 г. продолжила учебу дочь известного репрессированного политического деятеля Западной Беларуси Анатолия Ольшевского, будущая жена известного белорусского писателя Алексея Карпюка — Инна Ольшевская, ныне кандидат педагогических наук, доцент кафедры педагогики Гродненского университета[10]. Она вспоминает: «Была я уже переростком для моего класса… Попала в 7-й класс и то была вынуждена наниматься индивидуально. Школа наша находилась на задворках теперешней десятой. Завучем был Владимир Иванович Баран, бывший воспитатель и преподаватель детского дома в Варшаве»[11].

О работе в СШ № 7 Владимир Иванович не оставил подробных воспоминаний. Однако этот пробел могут восполнить газетные публикации. Например, республиканская пионерская газета «Зорька» поместила полосу «Беседа о Земле». Сообщалось, что в школе № 7 города Гродно состоялся вечер занимательной науки. Организатором выступил Владимир Иванович Баранов (так в тексте заметки. — *В. З.*). Он подсказал эту идею активистам комсомольской организации. Альберт Галишников, Зоя Жулего, Юрий Сурба, Феликс Зверев подготовили приборы, схемы, рисунки Галилея, Бруно, Коперника, афиши. Со стороны рабочих было много вопросов[12].

Позже в другом издании ЦК ЛКСМБ — газете «Сталинская молодежь» — была напечатана информация «Девять лет назад». Учитель из Гродно Владимир Баран расска-

---

[10] И. А. Карпюк умерла в 2008 г. — *Ред.*

[11] http://kamunikat.net.iig.pl

[12] Зорька. 1945. 29 ноября.

## «І ЖУКАЎ, І КАРАЛЁЎ З ГАГАРЫНЫМ БЫЛІ ГЕНІЯЛЬНЫМІ, ЯНЫ — ЗДЗЕЙСНІЛІСЯ!»

— Дарэчы, к канцу жыцця Ленін пачаў усведамляць свае памылкі. У яго разважаннях з'явілася шмат такога, што сведчыла аб глыбокім павароце, ён пачаў разумець: многае зроблена не так, як трэба, і шмат небяспекі пагражае таму, што зроблена. Ён стаў разумець, якая дрэнь яго акружала — усе гэтыя троцкія, сталіны, зіноўевы, каменевы, бухарыны — практычна ўсе без выключэння. Я, вядома, не гавару пра ленінскі маладняк такіх будучых лідэраў, як Кіраў, Фрунзэ, Тухачэўскі, некаторыя іншыя, — гэта сапраўды былі людзі чыстыя, сумленныя, вельмі таленавітыя.

А наступныя, Жукаў напрыклад? Гэта ніякі не палітык, але ў ваеннай справе ён геній, найвялікшае натхненне! Знаходзяцца, аднак, подлыя людзі, якія распачынаюць дыскусіі: а ці быў Жукаў вялікі? Ды якія могуць быць у гэтым сумненні? Каб не ён, мы, безумоўна, пацярпелі б паражэнне у найцяжэйшай вайне. Ленінградская, Маскоўская, Сталінградская, Беларуская, Берлінская бітвы — гэта ж усё Жукаў! Ён, Ракасоўскі… Так, ён быў грубы, нават жорсткі, але ж ён нікога не расстраляў — лаяўся, здымаў, караў, але не забіваў.

*— У яго чыста рускі, пятроўскі характар…*

— Абсалютна. Я яго добра ведаў, Жукава. Конеў з ім подла абышоўся… Але калі Конеў прайграў Заходні фронт, было прызначана следства, і яго маглі расстраляць, як Паўлава. А Жукаў заступіўся: «Дайце яго мне намеснікам камандуючага фронтам», — і накіраваў пад Калінін. Аднак у 1957-м, калі Хрушчоў вырашыў зняць Жукава, Конеў «аддзячыў» свайму выратавальніку — дапамог расправіцца з геніяльным палкаводцам…

Ці вось чытаю ў «Дружбе народов» пра Каралёва — а ці быў ён геніяльны? І тут жа аўтар артыкула адказвае: «Не, я так не лічу!» Будзь жа ты пракляты! Ды якое ты маеш права лічыць ці не лічыць? Калі ён — ЗДЗЕЙСНІЎСЯ, вось што важна! Разумееце: здзей-сніў-ся! Не судзяць, непаважаныя, пераможцаў.

Далей, аднак, той жа аўтар прасуе Гагарына, з якім я пазнаёміўся адразу пасля палёту. Шмат размаўляў з ім і палюбіў гэтага хлопца назаўсёды. Але карціць абгадзіць святыя імёны і падкідваецца подлае пытанне: а ці здольны быў першы касманаўт выйсці з няштатнай сітуацыі? І тут жа аўтар сцвярджае: «Не, ён быў звычайны лётчык»! Ну якая твая справа судзіць чалавека, які першым выйшаў у космас, а значыць — перамог, здзейсніўся! За адно гэта яго імя на такіх скрыжалях гісторыі запісана, што яно будзе жыць да таго часу, пакуль само чалавецтва будзе існаваць. Вы ўявіце: Гагарын ляцеў у капсуле, у вогненнай капсуле, у невядомасць, з абсалютным няведаннем свайго лёсу, бо да гэтага ўжо гарэлі людзі, сабакі, а ён даверыўся Каралёву і паляцеў. І паводзіў сябе вельмі талкова — не псіхаваў, дакладна кантраляваў сітуацыю, хоць у яго там былі вельмі складаныя моманты. Ведаю пра гэта не па чутках — ён мне асабіста расказваў, па слядах свежых уражанняў. Шарык жа круціўся на ўсю моц!

*— Незапланавана круціўся?*

— Не, запланавана, але з непрадбачанымі ўскладненнямі. Рэжым спуску быў вельмі цяжкі, перагрузка была 12-разовай, гэта практычна мяжа —15 ужо гібель.

Калі чытаеш вось такіх падонкаў, якія быццам бы даследуюць нашу гісторыю, прэтэндуюць на нейкае вышэйшае веданне і сваю выключную, незакамплексаваную адукаванасць, дык проста здзіўляешся. Я пражыў даволі многа і дастаткова ведаю, вывучаў гісторыю, як гаворыцца, не па першакрыніцах, а па рукапісах… І вось што павінен сказаць як сведка і ўдзельнік вялікіх падзей: жывучы ў гэтай краіне і жадаючы паскудзіць ёй, думайце, дзікуны, хоць бы пра тое, дзе і як гэта трэба рабіць… Ну паскудзь, калі карціць, калі падмывае, але не на людзей жа!

## «ФАТАЛЬНАГА ПРЫМІРЭННЯ З СІСТЭМАЙ У НАС НЕ БЫЛО — СТРЫМЛІВАЛА ДЫСЦЫПЛІНА НА МЯЖЫ ПАКОРЛІВАСЦІ, ПАЧУЦЦЁ АБАВЯЗКУ»

*— Міхаіл Васілевіч, слухаючы ваш расказ пра тое негатыўнае, што адбывалася ў жыцці партыі і дзяржавы, нельга не задаць пытанне: чаму супраціўленне гэтаму працэсу было нейкае нясмелае, не вельмі прыкметнае, хоць заўсёды і паўсюдна ёсць людзі светлыя, высокія, для якіх праўда, справядлівасць, імкненне да ісціны — вышэй за ўсё… Была фатальная пакорлівасць, выпакутаванае прымірэнне ці нешта іншае?*

— Прымірэння не было, а вось дысцыпліна на мяжы пакорлівасці існавала. У людзей той катэгорыі, да якой адношу сябе я, да ўсяго іншага было яшчэ і пачуццё абавязку, што пераважала астатняе. Мой вышэйшы прынцып, з якім я жыў, жыву і памру, заключаецца ў народнай прымаўцы: родная зямля табе — калыска і магіла… Усё жыццё я служыў гэтай зямлі, як салдат, і з тым яе пакіну… Ніякіх іншых мэтаў, ніякага іншага разумення маіх задач у мяне не было.

Так, я разумеў несправядлівасць, я горка перажываў за няўдачы і паражэнні. Улічыце, якой школай стала для майго пакалення Вялікая Айчынная з яе сорак першым і іншымі крытычнымі гадамі… Але ніколі — у рэйдах па варожых тылах, у акопе перадавой, — у мяне ніколі не было сумненняў у пастаўленай перада мной задачы: я павінен зрабіць тое, што загадана, інакш можа сарвацца на больш высокім узроўні. Я заўсёды быў упэўнены ў перамозе і ўсё жыццё быў салдатам гэтай краіны, а з часам і гэтай партыі.

## «ДА СЯРЭДЗІНЫ 1942-га БЕЛАРУСЬ КІНУЛІ САМ-НАСАМ З ГІТЛЕРАМ…»

*— Было б дзіўным, Міхаіл Васілевіч, каб мы абмінулі тэму вайны, 22 чэрвеня. Вы пачалі яе пад Беластокам, пабачылі на свае вочы трагедыю пачатку баявых дзеянняў…*

— Генералы і афіцэры, з якімі я сустракаўся ў 1941–1942 гг., як правіла, былі людзьмі справы. Мы ўсе ў глыбіні душы разумелі: вышэйшае кіраўніцтва зрабіла каласальныя пралікі. Але сказаць пра гэта адкрыта — азначала стаць пад кулю каля першай жа сустрэтай сценкі. Так званыя «паражэнчыя размовы» спыняліся бязлітасна. Прэс, націск з патрабаваннем «Стаяць насмерць!» спалучаліся не толькі з адпаведнай ідэалагічнай работай, але і са смяротнай пагрозай, што зыходзіла ад карных органаў — разведкі і контрразведкі. Спецыяльна арганізаваная служба так і называлася: СМЕРШ — «Смерць шпіёнам!». Існавала таксама сістэма загараджальных атрадаў. Машына, натуральна, страшная, але без такіх жорсткіх мераў спыніць праціўніка было б цяжка.

Асноўная маса людзей, аднак, ваявалі не шкадуючы жыцця, з выразным усведамленнем: яны выконваюць свой абавязак. Што датычыцца распісаных пазней у раманах сцэнаў гераічных атак з крыкамі: «За Сталіна!», «За Радзіму!», дык на справе гэтага ніхто не крычаў, крычалі іншае — «Ур-ра-а!», мацюкаліся, на чым свет стаіць… Але ўсведамленне — над Айчынай сапраўды навісла смяротная пагроза, мы можам трапіць у рабства — гэтае адчуванне нараджала магутны вал патрыятычных пачуццяў, гартавала магутную сілу адпору. І ўрэшце яна стала непахіснай. Не, не загады Сталіна цэментавалі армію, не загараджальныя атрады і яе СМЕРШ…

*— Вам давялося стаць адным з арганізатараў партызанскага руху на Беларусі…*

— На першапачатковым этапе дапамога партызанам была вельмі нездавальняльная, пра яе ніхто ўсур'ёз не думаў: нават абкамы партыі, што ішлі ў тыл праціўніка, не мелі рацыі… Вельмі беднае аснашчэнне, прымітыўная амуніцыя груп… Усё рабілася спехам, непрадумана.

Мы аддавалі ўсе сілы, каб паставіць падполле больш-менш арганізавана, і нейкія апорныя структуры ўрэшце стварыць удалося, але ў цэлым гэтая работа вялася вельмі цяжка.

Увесь 1941-ы, палову 1942-га вышэйшае кіраўніцтва, нягледзячы на вядомы сталінскі заклік у звароце да савецкага народа 3 ліпеня, партызанскім рухам не кіравала і фактычна ім не займалася. Я лічу гэта вельмі грубай памылкай, яе вынікі — велізарныя страты людзей, сапраўдных патрыётаў Айчыны.

Мне давялося бачыць ампутацыю рук і ног з дапамогай звычайнай цяслярскай пілы, калі замест наркозу няшчасным давалі самагон-пяршак…

І толькі тады, калі ў 1942 г. пасля надзвычай жорсткіх нямецкіх рэпрэсій і адэкватнага росту ўсенароднага супраціўлення ў зводках нямецкага камандавання з'явіліся рэгулярныя трывожныя паведамленні пра так званых камуністычных разбойнікаў і бандытаў, тады толькі да Сталіна дайшло: наяве сур'ёзны фактар! Да таго ж увесь сусветны друк пачаў пісаць пра народных мсціўцаў, асабліва Беларусі, Украіны, Браншчыны, Смаленшчыны, Пскоўшчыны. Вось у Крамлі і вырашылі: трэба аб'яднаць рух у тыле ворага. І з'явіўся Цэнтральны штаб партызанскага руху на чале з Панамарэнкам.

*— Існуе пункт погляду: партызанскія атрады пачалі арганізоўвацца з падачы ведамства Берыі?*

— Гэта няпраўда. КДБ і разведупраўленне Генштаба арганізавалі толькі групы і атрады спецназа, галоўным чынам разведвальныя і дыверсійныя, іншы раз — тэрарыстычныя. Яны мелі выдатныя штабныя радыёперадатчыкі амерыканскай вытворчасці і маленькія рацыі «Вавёрка», што працавалі ў радыусе 200–300 кіламетраў. Па ўсёй Беларусі, па-мойму, такіх прафесійных адзінак было недзе каля двух дзесяткаў, тады як у цэлым у рэспубліцы дзейнічалі звыш тысячы атрадаў, сотні брыгад. Так, разведка паўсюдна ўкараніла сваіх людзей — ніхто не ўтойвае існавання асобых аддзелаў, што падпарадкоўваліся службе КДБ. Але яны складаліся з аднаго-двух чалавек… У той час як партыйна-камсамольскія арганізацыі падполля рэспублікі аб'ядноўвалі звыш ста тысяч чалавек.

*— Для вас не сакрэт: шмат хто сёння разважае так: каб нямецкая акупацыйная адміністрацыя была больш гібкая, народная вайна не мела б перспектывы…*

— У контрпрапагандысцкім арсенале практыка альтэрнатыў зарэкамендавала сябе як даволі падспудная і эфектыўная: што было б, калі б?.. Падкінь пытанне — і, калі ласка, сумненне пасеяна… Разумееце, ідзе размова не пра тую гісторыю, што рэальна адбылася, а пра варыянты яе магчымага развіцця. У выніку накручваюцца горы дэмагогіі, глупства, лухты…

Дык вось, што датычыцца канкрэтнага вашага пытання. Так, магчыма, пры ўмове больш ліберальнага акупацыйнага рэжыму супраціўленне было б менш актыўным, затое павялічылася б колькасць калабарацыяністаў, агентуры і г. д., і да т. п. Але ж вайна стала такой, якой яна вядомая. Смею вас запэўніць, самая спрыяльная акупацыя, захоп рэспублікі пад уладу чужой дзяржавы, чужой нацыі зневажаюць карэннае, галоўнае ў характары народа — пачуццё чалавечай годнасці. Вось чаму памянёная вамі альтэрнатыва — тыповы прыклад нізкапробных прыёмаў, разлічаных на дыскрэдытацыю таго сапраўднага гераізму, які праявіў беларускі народ, што заставаўся без абароны, без сур'ёзнай падтрымкі да сярэдзіны — канца 1942 г., без сур'ёзнай увагі да сябе з боку «геніяльнага і мудрага» таварыша Сталіна, які аддаваў перавагу не справе, а напышлівым прамовам ды мудрым павучанням…

*— Вы не заўважылі публікацый, дзе гаворыцца пра вашы спрэчкі з Мазуравым?*

— Я ніколі не прытрымліваўся лініі на паляпванне па плячы з кім бы там ні было. Я нікому не прызнаваўся ў каханні. Я ні ў кога не прасіў прабачэння, акрамя тых выпадкаў, калі дапускаў грубасць, а гарачнасць у мяне здаралася.

Гэта так, прадмова да адказу.

Што датычыцца Мазурава, дык ён быў самым блізкім з маіх сяброў. У партызанах мы нейкі час жылі ў адной хаце… Але тады мы не выпілі разам ні чаркі гарэлкі — было не да таго, працавалі, як праклятыя. Калі пасля франтавога ранення ён трапіў на камандзірскія курсы «Выстрал» і захацеў пайсці з іх для барацьбы ў фашысцкім тыле, я двойчы хадайнічаў перад Панамарэнкам: «Нам патрэбны такія сакратары падпольнага ЦК камсамола!»

Дарэчы, калі ў 1953-м я адмовіўся ісці старшынёй Саўміна Беларусі, гэтую пасаду заняў па прапанове Патолічава менавіта Мазураў, што і паслужыла асновай для плётак. Хоць мы ні разу не паспрачаліся і не далі адзін аднаму ніякіх падстаў для папрокаў.

Я вельмі шкадую аб раннім яго сыходзе з палітычнай сцэны. Брэжнеў неўзлюбіў Мазурава за ўпарты характар — сумленны, прамы, рэзкі. Ён сапраўды тады прыхварэў, але працаваць мог.

*— Успомнім яшчэ аднаго партызана — Машэрава…*

— У той жа «Звяздзе» нядаўна пісалі: удава Пятра Міронавіча была здзіўлена, што ў ЦК КПСС не знайшлі нічога лепшага, як паслаць на пахаванне Зімяніна, з якім у Машэрава былі вельмі складаныя адносіны… «Мілая» фразачка…

Што ж было на самай справе?

Сакратаром Маладзечанскага падпольнага абкама камсамола яго вылучылі з пасады камісара партызанскай брыгады, дзе ён вельмі добра праявіў сябе. Я падтрымаў гэтую кандыдатуру, азнаёміўшыся з прадастаўленымі дакументамі. А праз некаторы час, пасля ранення, мы вылучылі Машэрава на званне Героя Савецкага Саюза.

*— Бытуе пошлае меркаванне, што тая «зорачка» была дадзеная не так за баявыя заслугі добрага, сумленнага, смелага хлопца, як з прапагандысцкіх меркаванняў — вунь, маўляў, якія ў нас камсамольскія лідэры!*

— Не, гэта няпраўда. Хоць да звання яго сапраўды прадстаўляў ЦК камсамола. Дарэчы, нашу ініцыятыву падтрымаў і БШПД. Калі рашэнне аб узнагародзе Машэрава прынялі, з’явілася радыётэлеграфнае паведамленне: герой, выявілася, быў у палоне! Мяне гэта ашаламіла, як гром сярод яснага неба. Справа ў тым, што згодна з палажэннем, зацверджаным у Палітбюро, тыя, хто быў у палоне, не мелі права на ўступленне ў партыю, прадстаўленне да ўзнагародаў — ніякіх адгаворак! У іх была адна прывілея: загладжваць сваю «віну» крывёй…

*— А хто даведаўся пра мінулае Машэрава?*

— Контрразведка…

*— Ну і…*

— Я да Панамарэнкі: такая гісторыя. Той: «Што ж рабіць — абараняць яго ці не? Я гэтага Машэрава нават не бачыў, як, дарэчы, і ты…» — «Так, але мае надзейныя людзі вельмі добра адзываліся пра яго». У прыватнасці, самым добрым чынам характарызавала яго Таня Гаварэнь, будучая жонка Прытыцкага…

Я прапанаваў Панцеляймону Кандратавічу наступнае: «Ён біўся, двойчы паранены. У палон трапіў пры фарміраванні дывізіі, якая нават у бой не ўступала, дарэчы, улічыце — чалавек здолеў уцячы! Свой міжвольны грэх Машэраў не ўтойваў — пра ўсё напісаў сам. Адным словам, абаронім. Мяне чэкісты не паслухаюць, а ваша слова можа стаць вырашальным». — «Добра. Але май на ўвазе: ты асабіста адказваеш за свайго Машэрава! За кожны яго ўчынак, кожнае яго дзеянне!»

Панамарэнка тут жа дамовіўся з Цанавам, і той сказаў, што справа закрыта. Сапраўды, скончылася вайна, Машэраў пайшоў наперад, гісторыя з палонам больш не выплывала,

хоць аднойчы чэкісты нагадалі мне пра яе. Я адказаў: «Таварышы, ёсць рашэнне вышэйшых інстанцый — больш да гэтай справы не вяртацца».

*— Самому Пятру Міронавічу вы расказвалі пра тое, што здарылася?*

— Ні разу. Хоць, даходзілі чуткі, ён ведаў, як усё здарылася. Але Машэраў таксама ніколі не заводзіў са мной ніякіх размоў пра гісторыю сваёй узнагароды. Відаць, ён зразумеў: не ўздымаю я сам гэтую тэму — значыцца, няма чаго варушыць мінулае. Хоць, мне здавалася, нешта яго мучыла… Можа, мая стрыманасць.

*— Міхаіл Васілевіч, а якую пазіцыю заняў Машэраў у 1953 г. пры галасаванні на пленуме?*

— Нейтральную, не падтрымаў ні мяне, ні Патолічава. Але ўсё гэта — пытанні ўзаемаадносінаў персаналій, і таму не вельмі цікава…

*— Добра. Пераходзім да наступнага. У публіцыстыцы, мемуарах апошняга часу ўсё большую моц набывае думка: партызаны «падстаўлялі» пад немцаў ледзь не цэлыя раёны — не кажам ужо пра асобныя «хатынскія» вёскі… Мне асабіста, дарэчы, даводзілася чуць ад старых самае рознае, у гэтых расказах рэальнасць была куды больш празаічнай, чым ва ўзнёслай патрыятычнай літаратуры часоў «застою». Але ж ці можна падводзіць базу пад ідэю нейкай вялікай правакацыі народных мсціўцаў супраць свайго ж народа?*

— Гэта страшэнная, нахабная няпраўда. Галоўнай задачай партызанскага руху, акрамя ўдараў па фашыстах, лічылася абарона народа — жанчын, старых і дзяцей ад знішчэння. Паўсюдна мы мелі рэзервовыя лясы, балоты, зямлянкі, схаваныя склады… За атрадамі, брыгадамі, злучэннямі цягаліся цэлыя цывільныя абозы! Адных яўрэяў, якім пагражала поўнае вынішчэнне, выратаваліся тысячы і тысячы.

*— Галоўным чынам вы дзейнічалі ў партызанскай зоне Усходняй Беларусі і абапіраецеся на гэтыя ўспаміны. Але ў заходніх раёнах карціна была, мабыць, іншая?*

— Так, там пэўны ўплыў мела польская Армія Краёва, якая вяла барацьбу супраць немцаў куды менш актыўна, чым супраць нас. «Акаўцы» шкодзілі вельмі моцна. Я не асуджаю іх за тое, што яны змагаліся за сваю радзіму. Аднак калі «акаўцы» гаспадарылі ў беларускіх раёнах, прымаючы іх за польскія, гэта было, дыпламатычна кажучы, некарэктна.

## «ГЭТА БЫЛА ТРАГЕДЫЯ — МЫ ЖЫЛІ Ў АРДЫНАРНЫМ РЭЧЫШЧЫ ПАДТРЫМКІ»

*— Міхаіл Васілевіч, крыху вышэй мы ўжо выходзілі на тэму славутага пленума ЦК КПБ 1953 г. Давайце пагаворым пра яго больш падрабязна, тым больш апошнім часам ваша прозвішча некалькі разоў узгадвалі менавіта ў сувязі з гэтым…*

— Так, я чытаў публікацыі ў «Звяздзе» і «Рэспубліцы», але ўсякі раз ацэнка тых падзей падаецца ў скажоным выглядзе. Дык вось, на пленум мяне тады проста загналі з Масквы ў Мінск насуперак маёй волі. Па-партыйнаму: «Трэба!» Пасля няшчырай размовы ў ЦК ВКП(б) з «белорусским» адценнем:

— Вы, беларус, мову беларускую ведаеце?

— Ведаю.

— Тады збірайцеся, паедзеце дадому.

Усё! А я ж толькі два месяцы таму пераехаў у першапрастольную. І, паверце, ніводнага дрэннага слова не сказаў пра Патолічава.

Дарэчы, як і было дамоўлена ў Крамлі, у Мінску на пленуме я выступаў па-беларуску. А потым мяне абвінавацілі ў нацыяналізме. Дзіўна: выступаць у Беларусі на беларускай мове — гэта нацыяналізм! Ну да чаго мы дажылі! Дзіўна, што «Рэспубліка» піша, быццам не прынялі мяне і адстаялі Патолічава — такім чынам, маўляў, незразумелы Зімянін выявіўся ластаўкай, якая не зрабіла вясны…

*— Дык як жа было насамрэч?*

— 25 чэрвеня пачаўся пленум. Звоніць Малянкоў:
— Таварыш Зімянін, як ідзе пленум?
— Нармальна.
— Як адносіны да Патолічава?
— Нармальныя.
— Да вас?
— Нармальныя.
— Слухайце, — гаворыць, — у нас тут абставіны складваюцца так, што мы параіліся і вырашылі: а можа, пакінуць Патолічава ў Беларусі? Не чапаць? Як вы глядзіце?
— Калі ласка, ёсць у вас такая думка — пярэчыць не буду, самі ведаеце — я сюды не рваўся.
Ён гаворыць:
— Добра, выкажам пленуму такую рэкамендацыю ЦК, а яны няхай прагаласуюць і вырашаць. Даручаем сказаць гэта вам.
Вяртаюся ў залу пасяджэнняў ад апарату ВЧ, выступаю:
— Таварышы, быў званок з Масквы…
Мне і няўцям, што ў гэты дзень, 26 чэрвеня, арыштавалі Берыю. А вось Хрушчоў Патолічаву паведаміў, але той, натуральна, ні гуку. Не ведаючы ўсёй падаплёкі, працягваю:
— У Масквы ёсць меркаванне: улічваючы ход пленума, можна пакінуць першага сакратара таварыша Патолічава. Давайце вырашым…
Да гэтага спрэчкі ішлі дастаткова жыва: гучалі выступленні і з крытыкай, і з добрымі словамі, але цяпер ход дэбатаў быў фактычна вырашаны. Прагаласавалі, натуральна, за тое, каб «прасіць Цэнтральны Камітэт партыі пакінуць таварыша Патолічава і пераглядзець ранейшае рашэнне аб яго адкліканні».
Аб'явілі перапынак. Я пазваніў Малянкову.
— Добра. У адносінах да вас мы паведамім сваё рашэнне пазней.
Пра крамлёўскае «добра» далажыў пленуму і перадаў яго вядзенне Патолічаву, той адразу пачаў выступаць:
— Таварышы, ЦК падтрымлівае наша рашэнне, ёсць таксама прапанова ЦК аб зацвярджэнні таварыша Зімяніна Старшынёй Савета Міністраў БССР, а таварыша Кляшчова накіраваць на партыйную вучобу, згодныя?
Згодныя…
Увечары я прыйшоў да Патолічава:
— Шчыра віншую. Скажыце, калі ласка, ці гаварылі вы з Хрушчовым? У чым спружына ўсіх гэтых незразумелых паваротаў?
— А ты нічога не ведаеш?
— Чаго не ведаю?
— Берыю арыштавалі. У гэтым і ўсё пытанне.
— Мікалай Сямёнавіч, будзем лічыць размову скончанай, я жадаю вам поспеху. З вашага дазволу заўтра раніцай вылятаю ў Маскву і спадзяюся, што тут з вамі больш не сустрэнуся.

Павярнуўся і пайшоў. У сакратарыяце Хрушчова папрасіў сустрэчы з Мікітам Сяргеевічам, дні праз тры ён прыняў мяне.

— Што, як? Чаму з'явіўся?

— Так ужо атрымалася — не складваецца…

— Вы вельмі легкадумна ставіцеся да рашэння ЦК: то туды, то сюды…

— Мікіта Сяргеевіч, а вы ў мяне пыталіся, калі адразу накіроўвалі туды, потым фактычна адмянялі тое рашэнне? Вы лічыліся са мной, пыталіся пра маю згоду на пасаду Старшыні Саўміна? Будзьце ласкавы далажыць Цэнтральнаму Камітэту аб маёй просьбе вярнуцца ў Маскву.

Ён зразумеў: жарт недарэчны. Праз пару дзён было Палітбюро. Прысутнічалі Маленкоў, Хрушчоў, Варашылаў, Молатаў…

— Таварыш Зімянін, мы ведаем, што вы сумленна выканалі пастанову ЦК па Кампартыі Беларусі, да вас няма ніякіх прэтэнзій. Але чаму хочаце паехаць адтуль?

Я не ўдаваўся ў дэталі, адказаў проста:

— Ведаеце, таварыш Маленкоў, так складваюцца абставіны: мы з Паталічавым будзем нагадваць двух мядзведзяў у адной бярлозе — пазбаўце мяне ад гэтага.

— А што вы хочаце? — пытанне пасля красамоўнага маўчання.

— Вячаслаў Міхайлавіч тут сядзіць — калі няма пярэчанняў, я вярнуўся б у МЗС.

Хрушчоў раптам падтрымаў мяне:

— Сапраўды, Вячаслаў Міхайлавіч, як вы глядзіце на гэтую прапанову?

— Калі ласка, хоць заўтра, — адказвае Молатаў. — Ён нам да кампаніі, няхай вяртаецца.

Маленкоў заключае:

— Так і быць. Вы свабодныя, жадаю поспеху.

І праз тры дні зноў пачалася мая дыпламатычная работа. Дарэчы, на аддзеле, які я пакідаў перад Мінскам, застаўся Андропаў. Цяпер жа яго рыхтавалі на Венгрыю. Юрый Уладзіміравіч не хаваў свайго задавальнення:

— Гэта не аддзел, а вар'яцкі дом.

Сапраўды, мы курыравалі восем сацыялістычных краінаў плюс Грэцыю — работы па горла…

*— Міхаіл Васілевіч, прабачце, давайце ўсё ж падвядзём рысу пад тым славутым беларускім пленумам: якія яго нябачныя спружыны?*

— Хрушчова не задавальняла тое, як характарызавалі вашага пакорнага слугу: «Найлепшы вучань Панамарэнкі». Таго ён ненавідзеў смяротна. І калі потым стаў на чале ўлады — спусціў на тармазах.

*— Два ўкраінцы…*

— Не, Хрушчоў — рускі. Але ў прынцыпе — так. Дык вось, накіроўваючы мяне ў Мінск, за два тыдні да арышту Берыі, Хрушчоў ужо рыхтаваў аперацыю супраць Лаўрэнція. Пра гэта мне потым сказаў яго памочнік. Мікіта Сяргеевіч перад паездкай раіў: пракансультуйцеся ў дасведчаных таварышаў, якія там у Мінску справы, у чым заключаюцца памылкі, як іх можна паправіць. Вазьміце, маўляў, пару тыдняў і падрыхтуйце пленум самым належным чынам, яго ж весці вам. Такім чынам, ён асудзіў мяне на правядзенне кансультацый — Хрушчоў цягнуў час, каб я да арышту, што рыхтаваўся ў Крамлі, не змяніў Паталічава, з якім яго звязвалі прыемныя ўспаміны пра сумесную работу на Украіне, нябачную барацьбу з Кагановічам. Ён разлічваў таксама падлавіць мяне, вучня не любімага ім Панамарэнкі, на гэтай інтрызе барацьбы за ўладу. Але я не думаў ні пра што іншае, акрамя сумленнага выканання дырэктыў ЦК. І таму нічога

ў іх не атрымалася з задуманай камбінацыі. Каб я дапусціў хоць на імгненне знявагу Патолічава, праявіў жаданне ўтрымаць лідэрства — усё…

Так, у адносінах да Берыі Мікіта Сяргеевіч зрабіў тады, у 1953-м, мужна, ён сапраўды рызыкаваў сваім жыццём, за што і цаню яго. Але са мной гэты «мілы анёл» вёў вельмі подлую гульню. Выратавала тады толькі навука Панцеляймона Кандратавіча: «Жыві па сумленні…».

## «ПАСЛЯ КУПАЛЫ І КОЛАСА ВЯДУЧЫМІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ З'ЯЎЛЯЮЦЦА КУЛЯШОЎ І ТАНК»

*— Міхаіл Васілевіч, давайце адыдзем ад палітычных жарсцяў, інтрыгі і проста пагартаем старонкі вашай беларускай біяграфіі…*

— Ёй адведзена першая палова жыцця. Радзіма — Віцебшчына. Напачатку ў дакументах пісалі — «рускі». Калі ж межы перагледзелі — нацыянальнасць змянілі на «беларус». Бацька быў машыністам, памёр, пакінуўшы на жонку мяне з малодшым братам Уладзімірам. Моцна бедавалі. Праз два гады ў сям'ю прыйшоў айчым, вельмі прыстойны, добры чалавек. Ён кахаў маці, і яна да яго ставілася з вялікай павагай. Усё ішло добра аж да 1929 г., калі на айчыма пачалі квапіцца нядобрыя людзі, — краіна ўступала ў страшную эпоху. Уласна, згубіць яго хацелі не праз нейкую ідэю — зласлівым зайздроснікам не даваў спакою наш новы, дабротны па тым часе дом.

Пасля некалькіх спробаў неяк уладкавацца ў гэтым жыцці я, пятнаццацігадовы, вырашыў паспытаць шчасця ў Ленінградзе. Прайшоў курсы кандуктараў таварных цягнікоў і пачаў калясіць.

Калі надакучыла, пайшоў у дэпо вучнем слесара. Народу шмат, нас, маладых, не надта любілі — ганялі па ўсялякай дробязі, цэлы дзень лаянка… Каб неяк вылезці з гэтай непрагляднасці, паступіў на літаратурныя курсы пры Доме камвыхавання. Вучыў нас пісьменнік Далецкі, аўтар рамана «На сопках Маньчжурыі». Ён звярнуў увагу на маю манеру, прапанаваў працаваць у газеце.

І вясной 1931-га мяне сапраўды прынялі ў рэспубліканскую «Беларускую вёску». Сабралася маса назіральнікаў за новым жыццём: у вёсцы нарастала напружанне — змагаліся з кулакамі, яўрэямі, у якіх шукалі золата…

Я, семнаццацігадовы, адчуваў: вельмі часта цяжка зразумець матывы ўчынкаў людзей — напісаць праўду, не схлусіць, не наклікаць бяды на герояў, не пакрывіць душой… А тут яшчэ злоснікі даведаліся пра высылку айчыма. І Міхайлаў, тагачасны рэдактар газеты, дарэчы — муж Ларысы Пампееўны Александроўскай, тонка адчуўшы сітуацыю, прапанаваў перайсці ў часопіс «Беларусь» — там, маўляў, будзе менш цякучкі, зоймешся вучобай… Сапраўды, чытаць пачаў запоем, удзень і ўначы, няспынна. Пазнаёміўся з Кузьмой Чорным, Пятром Глебкам. На ўсё жыццё пасябраваў з Аркадзем Куляшовым.

*— Ён выклікаў у вас вялікае ўражанне?*

— Глыба, геніяльны паэт! Я лічу, што пасля Купалы і Коласа вядучымі ў беларускай паэзіі з'яўляюцца Куляшоў і Танк.

*— А той жа Глебка?*

— Гэта ўжо другі парадак.

*— Вы ведалі і Броўку?*

— Так, прычым блізка. Але, нягледзячы на сяброўскія нашы адносіны, высока ацэньваючы яго працавітасць і здольнасці, аддаю перавагу іншым — Куляшову і Танку. Гэта паэты сусветнага маштабу, іх імёны не гучаць так, як таго заслугоўваюць, выключна праз беларускую нязвычку рэкламаваць свае велічыні.

*— Абодва глыбы?*

— Абодва. Асабліва Аркадзь Куляшоў.

— Калі ўжо зайшла размова пра беларускую літаратуру, давайце закранем і нашых майстроў прозы. Як вы ставіцеся, напрыклад, да Васіля Быкава?

— Добра — як да мастака. Ён, бясспрэчна, вельмі таленавіты, адзін з найлепшых сучасных празаікаў. Але я катэгарычна не прымаю яго палітычнага выбару.

Дарэчы, вернемся да дзён мінулых. Дык вось, памятаю, быў крытык Бендэ — літаратурны бандыт, касмапаліт подлы, авантурыст. Граміў ён аднаго пісьменніка за другім. Асабліва даставалася літаратурнай групе «Узвышша», у якую ўваходзіў Чорны, Глебка, працаваўшы тады ў маёй газеце, Паслядовіч. Далей узяліся за «Маладняк», іншыя аб'яднанні. Карацей кажучы, тады пайшлі па этапе Чарот, Александровіч, Дубоўка, Зарэцкі, Шушкевіч…

Рэпрэсіі на Беларусі былі ўвесь час. Праследавалі так званых нацыянал-дэмакратаў. Потым тых, хто падазраваўся ў сувязі з нямецкай і польскай разведкамі: як жа, пагранічная рэспубліка! Да таго ж шмат палякаў, былі нават суцэльныя польскія раёны, напрыклад Койданаўскі. Наогул, хапала ўсім, ад сялянаў да літаратараў.

*— Гэта ўспрымалася недарэчнасцю?*

— На жаль, у той час я не ўнікаў у глыбіні такіх пытанняў. Было, як і ў многіх іншых людзей, толькі нейкае трывожнае пачуццё на душы…

Вы не павінны перабольшваць узровень майго разумення таго часу, я толькі фарміраваўся. Так, начытаны юнак, але мала яшчэ навучаны жыццём… І толькі ў арміі зразумеў: размова ідзе пра буйныя справы, пра рознагалоссе ў кіраўніцтве. А да таго мысліў, падобна большасці, трывіяльна: барацьба з трацкістамі, бухарынцамі, правым ухілам, таварыш Сталін як пераемнік Леніна працягвае генеральную лінію — словам, як нам гаварылі, так мы і думалі, жылі ў ардынарным рэчышчы падтрымкі.

## «"ПАРТЫЗАНКА" ВЫЗНАЧЫЛА БЯЗМЕЖНУЮ ДУХОЎНУЮ ГЛЫБІНЮ БЕЛАРУСАЎ»

*— Я чуў, вам давялося падняць на дзяржаўную вышыню пытанне аб пераглядзе спісаў удзельнікаў падполля і партызанскага руху?*

— Было шмат сігналаў у ЦК, людзі крыўдавалі: ваявалі, змагаліся, а адпаведных дакументаў не даюць. Асабліва шмат скаргаў ішло з Украіны. Я далажыў сітуацыю Суславу. Той: «Безумоўна, трэба ісці да Брэжнева». Гутару з генеральным, потым праводзім спецыяльнае абмеркаванне і прымаем рашэнне: калі ёсць пацвярджэнне сведак аб удзеле ў партызанскіх аперацыях і падполлі (дарэчы, менавіта тады мы і прапанавалі падпольшчыкаў прыраўняць да партызанаў, бо падполле фактычна — справа яшчэ больш трагічная і небяспечная), то афармляюцца адпаведныя дакументы.

*— Праблема вырашылася так проста?*

— Што вы: дыскусія працягвалася тры дні. Аднак рашэнне было аднагалосным. Першая рэакцыя Суслава: «Слухайце, так жа мы можам атрымаць тысяч сто ліпавых партызанаў!» — «Ну і што? Затое мільёны адчуюць справядлівасць. Ім будзе чым ганарыцца, будзе што сказаць дзецям пра свае адносіны да фашыстаў». — «Згодны. Дакладзіце Брэжневу». Той: «Няхай будзе так…» У выніку толькі на Украіне за два гады адпаведная лічба павялічылася на цэлы мільён… І ў Беларусі ўдвая больш людзей атрымалі пасведчанні, якімі яны ганарацца.

*— Вас, Міхаіл Васілевіч, папракаюць за незавершанасць расследавання па мінскім падполлі…*

— Справа была такой заблытанай, а мяне настолькі засыпалі тады аператыўнымі, тэрміновымі заданнямі, што я прама і сумленна сказаў: «Таварышы беларусы, дарагія землякі, саджайце ў архівы разумных людзей, і хай яны дасканальна разбяруцца з кожным прозвішчам, сведкам, фактам. Гэтую работу нельга закрыць камісіяй з высокім прадстаўніцтвам, тут патрэбны доўгі, скрупулёзны пошук…»

… Калі падводзіць рысу, то, на маю думку, за ўсю гісторыю беларускага народа пачынаючы з часоў яго фарміравання, тых бітваў, якія ён вёў, выкрышталізоўваючыся ў нацыю, самым цяжкім, трагічным экзаменам (але і гераічным адначасова), які вызначыў бязмежную духоўную глыбіню беларусаў, была партызанская вайна. Сам-насам з ворагам, за тысячу кіламетраў ад фронту, у абстаноўцы глыбокай ізаляцыі, практычна без падтрымкі ў самы цяжкі, першапачатковы перыяд ён выстаяў, не зламаўся, прымусіў ворага лічыцца з сабой.

*— Для ілюстрацыі тут вельмі дарэчы гісторыя вашага айчыма.*

— Калі ў 1938-м камісар палка прапанаваў мне ўступіць у партыю, высветлілася — айчым жа нібыта вораг народу! Наладзілі спецправерку, пасля яе палітрук дакладвае: «Чорт яго ведае, за што на Урал чалавека выслалі: быў адзін конь, адна карова, адна свіння, куры і дом…» Але нехта з мясцовых падказаў: ведаў пасля германскага палону нямецкую мову.

Між іншым, айчыма ў 1943-м расстралялі на плошчы ў Барысаве за ўдзел у партызанскай вайне. Вось вам і нямецкі шпіён… Чалавек у імя Радзімы забыўся пра тое, як абышліся з ім «верныя сталінцы»…

*— А як вы даведаліся пра гэта?*

— Будучы ўжо сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі, папрасіў разабрацца начальніка Мінскага абласнога ўпраўлення КДБ Соцкага Паўла Станіслававіча. Мне пашанцавала ў тым сэнсе, што айчым быў расстраляны па пунктуальным нямецкім пратаколе, які захаваўся.

## «ПАСЛЯ ВАЙНЫ МЫ ДВА ГАДЫ “ПЕРАТРАСАЛІ” КАДРЫ — ШУКАЛІ ВОРАГАЎ…»

*— Пагаворым пра ваш пасляваенны лёс?*

— Ужо ў 1946-м я папрасіў Панамарэнку тэрмінова забраць мяне з камсамольскай работы. Справа ў тым, што да маёй персоны праявіла павышаную ўвагу Мішакова, тая самая, якая згубіла Косарава, першага сакратара ЦК УЛКСМ. Чаму? Выступіў на пленуме з крытыкай аддзела прапаганды, які яна курыравала. Умомант была арганізаваная праверка ўсёй беларускай арганізацыі, і, хоць хібаў не знайшлі, на бюро ЦК у Маскве яна дала дыхту: зазнайка, перараджэнец і г. д. А пасля бюро падыходзіць: «Ну як, Міша, і далей будзеш крытыкаваць?» — «Не, — адказваю, — навошта, дастаткова»…

А трэба вам сказаць, што пры Сталіне Мішакова была магутная баба, страшная, яна пасадзіла шмат людзей. Калі я зразумеў, што ад гэтай персоны зыходзіць смяротная пагроза, тады і звярнуўся да Панамарэнкі: «Забярыце мяне ад гэтай сволачы!» Ён усё зразумеў, неадкладна ўнёс прапанову аб зацвярджэнні мяне другім сакратаром Гомельскага абкама партыі.

Пабыў там год, а тут «за памылкі» здымаюць міністра асветы і мяне прызначаюць на яго месца, на пачатку 1947-га. Не паспеў адпрацаваць і паўгода, навесці парадак, як адбываецца наступная гісторыя.

Вясной 1947-га Хрушчоў на Украіне прызначаецца старшынёй Савета Міністраў, Панамарэнка — кіраўніком урада ў Беларусі, першым сакратаром — Гусараў, другім — Ігнацьеў. Адбываецца перафарміраванне ўсяго кіраўніцтва, і вашага пакорнага слугу на пленуме ЦК выбіраюць сакратаром па кадрах.

Фактычна ўвесь сакратарыят Цэнтральнага Камітэта прыбыў з Масквы. Дарэчы, у Кіеў высадзіўся аналагічны «дэсант»: Кагановіч першым, Патолічаў другім, але апошні зрабіў стаўку на Хрушчова, выйшла, як кажуць, нескладуха, і яго накіравалі першым у Растоў, а ўжо адтуль у Беларусь. Гэтыя перамяшчэнні і адносіны праз гады вельмі сур'ёзна адаб'юцца на мне, я ўжо расказваў пра тое.

Ну а мінскі «дуэт» складалі добрыя, прыстойныя мужыкі, якія, праўда, нічога не разумелі ў беларускіх справах і людзях. Не разумелі, чым жыла рэспубліка ўсе гэтыя гады, як адбілася на ёй вайна, акупацыя. Вось чаму яны мелі патрэбу ў чалавеку, які б добра ведаў кадры і абстаноўку. Мне выпала праверка ўсяго асабовага складу партыйных і дзяржаўных органаў.

*— Але ж гэта гіганцкая работа!*

— Так. Для аднаго чалавека ноша непасільная. Улічыце, аднак, што ў мяне быў апарат, падключаліся таксама чэкісты. Галоўнае, чаго я тады баяўся, — гэта, крый Божа, штонебудзь нарабіць. Вы нават уявіць сабе не можаце, наколькі гэта было складана, цяжка і небяспечна. Выбухованебяспечна. Таму што тыя, хто апынуўся ў свой час у палоне, па дырэктывах Масквы не павінны былі заставацца на дзяржаўнай, партыйнай рабоце. Нават у самой партыі… Выключна падазрона ставіліся да акружэнцаў, хоць большасць з прыйшоўшых у партызанскі рух — акружэнцы 3, 4 і 10-й армій, што прыкрывалі Беларусь на пачатку вайны. Шмат сакратароў райкамаў, асабліва першых, я ведаў асабіста па партызанскіх справах. І яны да мяне ставіліся з павагай.

Тады мне вельмі дапамог наказ Панамарэнкі: «Глядзі, Міша, не загубі людзей…» Калі, нягледзячы на ўсе намаганні, дапамагчы некаму не атрымлівалася, дык лічыў за лепшае перасунуць людзей убок. Толькі б не раздавіць недаверам, адстаўкай. Але даводзілася мяняць тых, хто быў талентам на вайне, а ў справах гаспадарчых — пасрэднасцю, што тармозіць рух наперад. «Ператрасанне» працягвалася два гады, аж да чарговага партыйнага з'езда, на якім мяне выбралі другім сакратаром.

*— І колькі народу, хоць бы прыблізна, прайшло тады праз падобнае «чысцілішча»?*

— Прыкіньце: каля ста раёнаў на ўсю рэспубліку — значыцца, сто райкамаў, сто райвыканкамаў, некалькі абкамаў і аблвыканкамаў, ЦК, Саўмін, Вярхоўны Савет — хапае… Вядома, смела сцвярджаць, што мы справіліся з задачай ідэальна нельга, але ва ўсякім выпадку абышлося без сур'ёзных ахвяр. Самазабойстваў, як у іншых рэгіёнах краіны, у нас не было.

На жаль, меліся выпадкі грубага ўмяшання работнікаў з ведамства Цанавы, лічыўшага сябе ўсемагутным, — як жа: жанаты з сястрой самога Берыі! Во ўжо дзе кат, вырадак сапраўдны…

Потым я працаваў другім сакратаром разам з Патолічавым. У маім уяўленні гэта вельмі дасведчаны партыйны работнік, але адначасова яго вызначала адкрытая самаўлюбёнасць, схільнасць да аўтарытарнага стылю кіравання — тыповая сталінская школа, бо ён быў адзін час сакратаром ЦК ВКП(б). Асабліва насцярожвала яго хітрасць: Патолічаў не з тых, хто гаварыў прама. Вось чаму я заўсёды працаваў з ім з пэўнай аглядкай. Хоць у цэлым, паўтараю, адносіны былі ў межах нормы.

## «ЦАНАВА І БЕРЫЯ РЫХТАВАЛІ Ў БЕЛАРУСІ ВЯЛІКІ ПАЛІТЫЧНЫ ПАГРОМ: НАС ВЫРАТАВАЎ 1953-і…»

*У гэтым месцы я папрасіў Міхаіла Васілевіча расказаць больш падрабязна пра Цанаву. Калі пачаў расшыфроўваць дома дыктафонны запіс, высветлілася: апарат нечакана адключыўся роўна на такі прамежак часу, пакуль мой субяседнік апавядаў пра так званую пасляваенную беларускую справу. Быццам злы дух былога грознага гэбіста падслухоўваў нас і ўмяшаўся якраз тады, калі размова зайшла пра ягоныя тайны…*

*Я вымушаны прасіць прабачэння і ў чытачоў, і ў Міхаіла Васілевіча — прыводжу яго распавед па памяці, таму тут па маёй віне магчымыя нейкія дробныя недакладнасці ці агаворкі.*

— Славутая гучная справа пра «дыверсію» ленінградскіх урачоў вельмі насцярожыла мяне. Я інтуітыўна зразумеў: гэта відавочная правакацыя можа мець крывавы працяг у любым іншым рэгіёне краіны. Толькі што праведзеная каласальная праверка партыйна-савецкіх кадраў выявіла нямала нейкіх дробных разрозненых фактаў, якія пры вялікім жаданні можна было дастаткова лёгка спалучыць у адзінае цэлае, надаць ім характар буйнамаштабнай палітычнай змовы і пачаць новы палітычны працэс.

Беларусь, якая пабыла пад акупацыяй, найлепш падыходзіла для рэалізацыі такой подлай правакацыі. А што датычыць Цанавы, то ў мяне не было аніякіх падстаў лічыць яго анёлам.

Прадчуванне трывогі спраўдзілася пасля таго, як і я ў ЦК — здарылася так, што мне давялося тады замяшчаць першага сакратара, — і ён у КДБ адначасова даведаліся пра надзвычай рэдкі канфлікт у адным з нядаўна арганізаваных калгасаў Гродзеншчыны — сяляне па нейкай прычыне адмовіліся здаваць толькі што сабраны хлеб. ЧП! Прытыцкі, які быў тады на чале абкама, не надаў, аднак, гэтаму належнай увагі, ён і не падумаў, у якім святле можна прэпараваць вострую сітуацыю.

Ужо па першых словах Цанавы я зразумеў: начальнік дзяржбяспекі гатоў выкарыстаць і сялянаў, і Прытыцкага ў якасці своеасаблівых запалак для вялізнага вогнішча. Каб выйграць час і прадумаць нейкія контркрокі, прапанаваў яму паехаць на месца і разам разабрацца.

«Хлебнае пытанне» сапраўды ўдалося зняць. Свае памылкі прызналі калгаснікі, свае — прадстаўнікі ўлады, свае — Прытыцкі. Здавалася б, можна было супакоіцца, але трывога не пакідала мяне ўсю зваротную дарогу да Мінска, у вушах стаяла нервовая размова з Цанавам: «А я, таварыш Зімянін, сцвярджаю, што ваш Прытыцкі — буржуазны агент яшчэ з часоў дыфензівы»!

Праўда, Цанава ўрэшце пагадзіўся на «нічыю», але давяраць яму…

Як толькі ўвайшоў у свой цэкоўскі кабінет, тэрмінова стаў пісаць шыфраграму ў Крэмль, у якой пастараўся зняць усе магчымыя палітычныя нюансы. Я быў упэўнены: Цанава парушыць сваё слова і памкнецца закруціць «справу», таму вытрымаў дакумент у вельмі строгім, максімальна канкрэтызаваным стылі. У заключэнне прапанаваў падшукаць Прытыцкаму іншую работу, якая больш адпавядала б яго характару.

З цягам часу хто-ніхто абвінаваціў мяне: маўляў, Зімямін «зняў» гродзенскага сакратара… Ім і няўцям было: я выратаваў яму жыццё, не гаворачы ўжо пра далейшую кар'еру. Бо Цанава адправіў-такі сваю дакладную на Лубянку з зусім іншымі высновамі, адправіў раніцай наступнага дня. І вось гэтыя дванаццаць гадзін розніцы паміж дзвюма шыфраграмамі вырашылі лёс многіх і многіх людзей: Берыя прынес Сталіну свой матэрыял па Гродзеншчыне пазней, чым зрабілі гэта работнікі ЦК ВКП(б). Мае высновы пераканалі яго, што сітуацыя вычарпана. У выніку Сталін толькі буркнуў нешта накшталт: «Гэты твой Цанава то спазняецца, то спяшаецца…»

Пазней, калі я апынуўся ў Маскве, дакладна даведаўся: такая рэакцыя ў «бацькі народаў» адтэрмінавала старанна падрыхтаваны «мінскім Лаўрэнціем» сцэнар вялікага палітычнага пагрому ў Беларусі, які павінен быў вось-вось распачацца. Запуск рэпрэсіўнай машыны перанеслі на пасля, але імклівыя падзеі 1953 г. перакрэслілі тыя крывавыя планы.

## «ПАД РЭПРЭСІІ Ў ДЭМАКРАТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІЦЫ В'ЕТНАМ ТРАПІЎ КОЖНЫ ДРУГІ КАМУНІСТ»

*— Міхаіл Васілевіч, час ужо закрануць і «дыпламатычную» частку вашага жыцця. Можа, дзеля інтарэсу пачнём з вострага: як вы адрэагавалі на шумнае зняцце Молатава з пасады міністра замежных спраў?*

— Калі мяне папрасілі выступіць на маскоўскім партыйным актыве, «прысвечаным» Молатаву, я выступіў з асуджэннем яго памылак, але не стаў перамываць брудную бялізну. І гэта вельмі не спадабалася. Фурцава, напрыклад, безапеляцыйна заявіла: «Таварыш Зімянін мог сказаць больш!»

*— Выступіў, на яе думку, недастаткова прынцыпова?*

— Вось-вось! А таварыш Зімянін, заўважу я вам, выступіў так таму, што на пленуме ЦК, які абмяркоўваў Берыя, Молатаў у сваёй прамове прама сказаў: «Тут успаміналі так званую беларускую справу, успаміналі ў яе кантэксце Зімяніна, таму я павінен заявіць: ён паводзіў сябе на пленуме ў Мінску дастойна і добра працуе цяпер у МЗС». Пытанне, такім чынам, было закрытае.

Ну а я што ж, павінен быў пасля падзення Молатава плаціць яму паскудствам? Так, ён — грубы, жорсткі, аўтакрат самы сапраўдны, рукі ў крыві, сталінскі саратнік… Але ж і іншыя былі дакладна такія ж, уключаючы, каб яго чорт узяў, самога Хрушчова!

*— Але, як я зразумеў, вам невыпадкова давялося пакінуць МЗС?*

— Так, мяне накіравалі ў В'етнам. Сітуацыя ў краіне была вельмі вострая. Кітайцы дапамагалі там праводзіць, на сутнасці, партыйную чыстку, а па афіцыйным пратаколе — партыйнае ўпарадкаванне. Тым больш паралельна праводзілі так званую аграрную рэформу. У выніку паперасадзілі масу людзей, асабліва камуністаў, па турмах і лагерах, а сколькі лёсаў скалечылі мімаходзь? Такім чынам, на маю долю выпала задача аб'ектыўна ацаніць працэс, што адбываецца ў ДРВ, спрагназаваць, чым ён завершыцца.

Забягаючы наперад, скажу: справа немінуча ішла да паўстання. Дарэчы, яно практычна і пачалося, але было папярэджана разумнымі контрдзеяннямі.

*— Міхаіл Васілевіч, большасць нашых чытачоў занадта мала ведаюць пра сутнасць і важнасць дыпламатычнай работы, дрэнна ўяўляюць яе спецыфіку. Давайце, па магчымасці, дэталізуем памянёную вамі сітуацыю. Тым больш у адносінах да В'етнама ў савецкіх людзей склаўся трывалы стэрэатып: ваявалі і ўсё тут, а цяпер вось працаваць зусім развучыліся…*

— Я даклаў абстаноўку ўжо праз тры месяцы пасля прыезду ў ДРВ. Хрушчоў проста ашалеў ад такіх ацэнак і прагнозаў: «Ды што ён піша, гэты хлапчук!» І адразу ж выкарыстаў знаходжанне ў Індыі Мікаяна, перацэліўшы таго на В'етнам, — тэрмінова накіраваў у Дэлі шыфроўку з маёй разгромнай характарыстыкай і патрабаваннем разабрацца ва ўсім на месцы. Аператыўна пайшоў запыт гасцявога візіту, тут жа «дабро» — і вось, калі ласка, разбіраемся ў сітуацыі разам.

Мікаян прыняў маю пазіцыю. Так, была лаянка, але я ўсё ж даказаў, што краіне пагражае небяспека, што Хо Шы Мін заангажаваны авантурыстамі з камітэта па аграрнай рэформе і ўпарадкаванні партыі.

*— А ці давялося вам кантактаваць, дыскутаваць з кітайцамі, калі в'етнамскія справы накіроўваліся «рукой Пекіна»?*

— Паралельна з Мікаянам з Кітая па просьбе Хо Шы Міна прыляцеў Чын Ю, адзін з лідэраў КНР таго часу, галоўны эканаміст кітайскіх камуністаў. Мы разам прыйшлі да высновы: брыгады па аграрнай рэформе з КНР трэба адклікаць, аграрную рэформу — прыпыніць, спыніць перагібы. Што датычыць партыі, дык адмянілі ўсе рашэнні аб рэпрэсіях, якія закранулі практычна кожнага другога камуніста, усіх зняволеных выпусцілі.

Тагачаснага генеральнага сакратара партыі (не блытайце: Хо Шы Мін быў яе старшынёй) вызвалілі з яго пасады і адначасова — з камітэта па рэформе. Да ўлады прыйшоў новы сакратар, які працаваў на Поўдні, — Ле Зуан.

Я быў глыбока ўзрушаны, калі праз доўгія гады ў дні майго 70-годдзя быў узнагароджаны залатым ордэнам Хо Шы Міна — вышэйшай узнагародай ДРВ.

*— Чаму ж вы так хутка пакінулі В'етнам?*

— Захварэў. Стаў імкліва траціць вагу, і Грамыка адазваў мяне ў МЗС на Далёкаўсходні аддзел — гэта Кітай, Японія, Манголія, Карэя плюс В'етнам, Камбоджа, Лаос.

Дзеля справядлівасці павінен сказаць, што пасля в'етнамскай гісторыі, аб'ектыўна выкладзенай Мікаянам, Хрушчоў рэзка, на 180 градусаў змяніў свае адносіны да мяне. Ён быў здзіўлены тым, што ўдалося прадухіліць найгоршае развіццё падзей. І па яго ініцыятыве мяне накіравалі ў Чэхаславакію, дзе я прабыў пяць гадоў.

## «ПРЫ ЎВАРВАННІ Ў ЧССР ПАЛІТЫЧНЫЯ МАТЫВЫ ДЛЯ ПАЛІТБЮРО ЦК КПСС БЫЛІ ДРУГАРАДНЫЯ»

*— Гэта значыць, да падзей 1968 г. пасля вашага ад'езду ў Маскву заставалася яшчэ некалькі гадоў? У такім разе ці маглі вы тады прадказаць, як у Ханоі, чым усё можа павярнуцца ў Празе?*

— Я прадбачыў нарастанне напружання ад незадаволенасці курсам, які праводзіўся кіраўніцтвам таго часу — Новатны быў, на жаль, не лепшым прэзідэнтам гэтай краіны. Сітуацыя таксама пагаршалася памылкамі тых, хто выступаў супраць Новатнага за лібералізацыю абстаноўкі, што ішла ў атмасферы ўзмацнення буржуазна-нацыяналістычных і антысавецкіх настрояў. Але пры мне знешне ўсё было добра, за выключэннем нейкіх цяжкасцяў паміж чэхамі і славакамі, Новатным і Дубчакам. Да пары да часу мне ўдавалася згладжваць такое напружанне, але я мусіў паведаміць у Маскву: абстаноўка абвастраецца. На жаль, сітуацыя развівалася ў кірунку ўсё больш непапраўным і грозным — умяшанне Амерыкі і асабліва Англіі, Германіі, праізраільскай групоўкі, пагражала вырваць Чэхаславакію з сацыялістычнай садружнасці.

*— Але ці ж гэтага было дастаткова для такога радыкальнага кроку, як увод савецкіх войск? Ці разумна спадзявацца, што Маскве ўдасца ўтрымаць Прагу з Браціславай сілай?*

— Увядзенне туды арміі я лічу памылкай, не трэба было гэта рабіць.

*— Міхаіл Васілевіч, такое рашэнне, відаць, прымалася не на адной нарадзе?*

— Раіліся шмат, доўга. Яшчэ да жнівеньскіх падзей, напрыклад, я лятаў туды вывучаць абстаноўку на месцы. Папярэджваў Дубчака: «Куды вы ідзяце? Глядзіце, падзеі могуць стаць незваротнымі». — «Ну што вы, Міхаіл Васілевіч, пра які разрыў вы гаворыце?»

Як бы там ні было, наша ўмяшанне, увод савецкіх войскаў — буйная, прынцыповая памылка. Але яе нельга разглядаць толькі вось так ізалявана, па-за кантэкстам развіцця адносінаў у сістэме Варшаўскага Дагавора, у сацыялістычным лагеры. Чэхаславакія

з усходу на захад цягнецца амаль на тысячу кіламетраў, з поўначы на поўдзень — у пяць разоў карацейшая. З аднаго боку ЧССР абгінае Польшчу і Усходнюю Германію, падыходзячы да Заходняй, з другога — Венгрыю, далёка ў тыл… Пераход гэтай краіны на антысавецкія пазіцыі, на пазіцыі нейтралітэту, які абвяшчаўся групай, што змагалася за «сацыялізм з чалавечым тварам», азначаў выключэнне стратэгічнага плацдарма, які адразу разрываў сацыялістычную садружнасць з імгненным пранікненнем магчымага праціўніка амаль на тысячу кіламетраў у напрамку да граніцы СССР.

Такая прамая стратэгічная пагроза на фоне ваеннага процістаяння і стала вырашальным фактарам у прыняцці ваеннага рашэння, якое ператварыла Чэхаславакію ў ахвяру. Ну а палітычныя матывы, нягледзячы на ўсю іх сур'ёзнасць, важнасць, былі другарадныя.

У апраўданне таго, што рабіла наша армія і нашы людзі, я абавязкова павінен сказаць наступнае: маршал Агаркаў, камандзіры ўведзеных у ЧССР злучэнняў, Кірыл Трафімавіч Мазураў, які быў там галоўным прадстаўніком Палітбюро пад імем генерала Трафімава, правялі аперацыю без адзінай ахвяры.

*— Але існуюць успаміны тых жа чэхаславакаў, напрыклад у часопісе «Иностранная литература», што рускія танкі жывымі душылі жанчын, дзяцей, аўтаматчыкі стралялі ў бяззбройных… Гэта хлусня?*

— Такое мог напісаць толькі адпеты нягоднік ці подлы правакатар. Не! Ніводнага чалавека савецкія салдаты не забілі! Ніводнай жанчыны, ніводнага дзіцяці не задушылі!

*— А што вы думаеце пра армію ЧССР?*

— Трэба аддаць ёй належнае: яна праявіла вытрымку і не адкрывала страляніны, не агаляла ствалы гармат, не выводзіла танкі на скрыжаванні — яна выстаяла сцяўшы зубы наша ўварванне, не зрабіўшы ніводнага стрэлу. Арудавалі, крычалі ў асноўным хлопчыкі ў скураных куртках, што насіліся на матацыклах па ўсёй краіне. Хоць, вядома, былі і тыя, хто іх падтрымліваў. Галоўным чынам — прадстаўнікі буржуазіі. Вельмі шматлікай: паўмільёна з усяго 14-мільённага насельніцтва. Гэта былі, улічыце, найбольш адукаваныя, уплывовыя і непрымірыльныя да СССР, савецкага ладу людзі.

*— У любым выпадку хіба гэта апраўдвае нашы дзеянні?*

— Не. Але, каб не было хлусні, трэба праўдзіва намаляваць усю карціну, інакш не зразумець: не ўсё так проста і адназначна, як здаецца з часам.

*— Міхаіл Васілевіч, і для пацвярджэння сказанага давайце ўспомнім і ўрокі афганскай авантуры…*

— Калі я слухаю цяпер выступленні лідэраў маджахедаў, дый некаторых нашых, што сцвярджаюць, быццам Савецкая Армія пацярпела паражэнне, дык задумваюся вось аб чым.

Гэта фальсіфікацыя: 40-я армія не прайграла ў ДРА ніводнай бітвы. З пункту погляду ваеннага майстэрства яна паводзіла сябе самым прыстойным чынам. Іншая справа — ракавой памылкай стаў зноў жа яе ўвод туды! Памылка грубая, нецярпімая.

Ініцыятарамі яе сталі тыя людзі, якія трымалі на сувязі Нацыянальна-дэмакратычную партыю Афганістана і падманвалі наша кіраўніцтва: мы, маўляў, можам адыграць вялікую рэвалюцыянізоўчую ролю, мы ўзмацнім наш паўднёва-ўсходні фланг за кошт далучэння новай краіны, мы наблізімся да Індыі — матываў дастаткова. Хоць усё гэта было хлуснёй і не апраўдвала сябе. А самы элементарны ўрок нам трэба было атрымаць з таго, што англічане ў свой час правялі там дзве вайны і абедзве прайгралі…

*10 чэрвеня 1944 года*

…Я вельмі кволы чалавек. Я не мужны, як іншыя, не станоўкі й не вытрывалы. Я, напэўна, ніколі не змог бы прайсці тых этапаў, якія прайшоў, скажам, ты. Я ведаю: трэба выхоўваць у сабе сілу волі. Але як яе выхаваеш, калі ўся мая істота няздатная да гэтага? А спрабаваў. Я кідаў курыць. Куру з 15-гадовага ўзросту, з тае пары, калі страціў бацькоў. У 1941 годзе, на трэцім месяцы вайны, я колькі часу знаходзіўся ў свайго далёкага сваяка на Койданаўшчыне. «Не патрэбная цяпер мне твая самасейка, — сказаў я сваяку, — буду кідаць курыць». «Пабачым», — пачуў у адказ.

У першы дзень, здаецца, ніякіх праяваў не было. На другі дзень я хадзіў як мыла з'еўшы. Сваяк ад'язджаў у млын, папрасіў мяне запрэгчы каня. А я ніколі не запрагаў, нават не ведаў, як ускладаць на каня хамут. Сказаць сваяку, што не ўмею, не выпадала — ён бы смяяўся з мяне. І я пайшоў запрагаць. Усклаў хамут, здаецца, правільна. Але вось гэтая дуга, каб на яе немач! Толькі вазьмуся за супоню, крыху пацягну — і дуга перакульваецца праз галаву каня. Ізноў прымацую гужамі дугу да аглобляў, спрабую засупоніць хамут — і зноў адбываецца тое самае. «Ты яшчэ не запрог?» — пачуў раптам голас. «Не», — адказаў я. «Ха-ха-ха! З якога ж боку ты запрагаеш? Як жа ты ўкладаеш дугу ў гужы? Ты мо п'яны?» — «Не п'яны, а дурны! Разумееш? Дурны! Паспрабуй сам два дні не пакурыць, дык і ты каня не запражэш! І ў цябе ўсё наадварот будзе выходзіць!» — «Ха-ха-ха! Я ж казаў, што не жартачкі — кінуць курыць».

А ў другую ноч я не змог заснуць ні на часіну. На трэцюю ноч, змучаны бяссонніцаю, здаецца, крыху задрамаў. Пасля ўсхапіўся з ложка, пабег на кухню, запаліў газніцу, сеў на лаву й пачаў абіраць бульбу. «Што ты робіш?» — пачуў спалоханы голас гаспадыні…

«Можа, я лунацік?» — падумалася мне. Але ж месяца ў гэтыя ночы не было. Мае думкі развеяў сваяк. Падышоў і падаў капшук з табакаю: «На, закуры…» І я закурыў. Адразу пасвятлела ў вачах, і іншы свет паўстаў перада мною. Палягчэла на сэрцы.

Другі раз я кідаў курыць у канцы 1942 года, будучы ўжо ў Рызе. Дактары катэгарычна забаранілі мне курыць і піць гарэлку. Я цвёрда пастанавіў: ні адной папяросы ў зубы, ніводнага глытка гарэлкі ў рот!

А тым часам, калі я знаходзіўся паблізу людзей, якія курылі, дык прагавіта ўдыхаў водар табачнага дыму, мае рукі трэсліся, як у старца, на вачах выступалі слёзы. Калі знаходзіўся ў рэстаране, а паблізу хто-небудзь выпіваў, нос мой ужо так свярбеў, ажно слюнкі цяклі.

Я не мог працаваць — галава адмаўлялася думаць, літары скакалі перад маімі вачамі, стук пісальнай машынкі змушаў мяне скрыгатаць зубамі, найменшы пабочны гук даводзіў мяне да шаленства. Я не размаўляў з людзьмі, а агрызаўся, як паранены звер.

А ў адну ноч (ведама ж, бяссонную) пад маім ложкам пачалі пішчаць пацукі. Я ўсхапіўся, запаліў святло, схапіў чаравік, перакуліў ложак — і велізарны пацук прабег каля маіх ног. Я шпурнуў чаравікам, не патрапіў, а пацук знік у шчыліне паміж сцяной і печчу. Да болю я дзёр кіпцюрамі печ, рад быў бы яе ў гэты мамэнт разбурыць, але — не ставала сілаў…

Я не жыў, а мучыўся. Давялося адрачыся ад сваіх пастановаў. Курыць я не кінуў, а гарэлку мой арганізм з радасцяй прымае і да сянняшняга дня.

Вось каб пажыў з год у тым месцы, дзе не п'юць і не кураць, скажам, у турме, дык там змог бы адвыкнуць, і нічога са мной не сталася б.

Прабач мне, дарагі Масей! Ізноў я распісаўся. Залез у нейкую дурніну. Дзякаваў табе за ліст, а цяпер вунь куды залез.

Я падобны на трохгадовае дзіця. Калі хто-небудзь выпадкова загаворыць да мяне павышаным тонам, адразу нейкі цяжар сціскае мае грудзі, камяк — у горле, я адчуваю

ў сабе пусціню. Тады я раблюся маўклівым, незгаворным, галаву апускаю долу. Часта пры сустрэчах з сябрамі я не паказваю выгляду, што хто-небудзь мяне пакрыўдзіў, бо крыўдзіцца, фактычна, няма на што, але сяджу як вады ў рот набраўшы. Мяне не разумеюць: «Чаго нос павесіў? Трэба быць вясёлым, жыццярадасным! А ты?»

А я яшчэ ніжэй апускаю голаў. Уладзімір Дудзіцкі, калі я быў у Менску, сказаў і такое: «Я турмы прайшоў, этапы прайшоў, а носа не вешаў і не павешу. Ты нічога не бачыў, нічога не перанёс, а ўдаешся ў роспач! Арыгінальнічаеш! Глядзеце на мяне — я паэта, а таму не такі, як усе іншыя! Дык ты арыгінальнічай перад тымі, хто цябе не ведае, я цябе даўно разгадаў!»

І запраўды, ад усіх заўсёды я чую амаль тое самае: «Арыгінальнічаеш!»

А мне ніколі гэта не прыходзіла і не прыходзіць у галаву. Ні аб якіх арыгінальствах я ніколі не думаў і не думаю. І два гады таму я быў гэткім самым чалавекам. І нікому тады сваіх вершаў не паказваў і ні ад кога не чуў: «Арыгінальнічаеш!» Выходзіць, ва ўсім вінаватыя вершы.

Адзін Лявон Случанін[40] даў мне беспамылковую ацэну: «Барышня! Цямця-лямця! Меланхолік!»

Я не пакрыўдзіўся. Хоць адзін чалавек сказаў больш-менш правільна.

Хіба не барышня? Вось у тваім лісце прачытаю ласкавае слова — і ўсмешка з'явіцца на маім твары, і тады я гаваркі, вясёлы, нават без гарэлкі. Магу гаварыць і жартаваць да таго часу, пакуль мне не скажуць: «Досыць! Абрыдзела!» І ад гэтых словаў прападае мая весялосць, і я набываю выгляд, апісаны вышэй. Толькі гарэлка робіць мяне інакшым. Тады я хоць і мала гавару, але вясёлы, тады калі і пакрыўдзіць мяне хто, дык не змаўчу. А пасля, калі працверажуся, бяру назад свае словы. Адзінае ў мяне нязменнае — гэта ўпартасць. Часамі стрэліць у галаву думка: не гаварыць нічога пра тое і тое. Тады хай мяне рэжуць, хай б'юць — не скажу ні слова.

Вось толькі цяпер, пішучы ліст, я ўспамінаю, якім я часта бываю. Я добра ведаю, што вельмі дрэнна быць такім чалавекам. Але накшталтныя думкі ў маю галаву не прыходзяць тады, калі я бываю такім.

Я ніколі нікому не апавядаў так шмат аб сваіх недахопах. Нават найбліжэйшы мне чалавек Уладзімір Глыбінны добра мяне не ведае. Ты — першы чалавек, перад якім я так адкрыты. Запраўды, форма звароту на «ты», твая прастата і прыхільнасць развязалі мой язык. Пішучы лісты ў афіцыйным тоне, я ніколі не змог бы быць такім шчырым. Я тады пісаў бы пра грамадскія справы, не панураўся б у сваё асабістае. Быў бы не «раднёй», аб якой ты пісаў, а чэрствай і халоднай істотай. А часам хочацца забыцца на штодзённае і цалкам аддацца самому сабе. Нічога, крыху падрасту, падвучуся і пасля напішу аповесць, высмеяўшы гэткага тыпа, як я, які і граша не варты.

Ты нікому нічога пра мяне не кажы. Пакуль што я веру толькі табе аднаму. Не варта чытаць маіх лістоў іншым — тады на свеце будзе менш людзей, якія з мяне смяюцца.

Я здзіўляюся, чаму вашаму рэдактару не падабаюцца мае вершы «І неба ранішнім абмылася дажджом», «Яе чакаў і я», «Даволі спаць»? Я ўважаў, што гэта — найлепшыя мае вершы. Мне здавалася, што ў іх упершыню бліснула мікраскапічная іскарка майго ўласнага «я», пазбаўленага эпігонства. Цяпер мае думкі развейваюцца.

Наагул, мне здаецца, што калі б я паслаў у «Новую дарогу» свае пазалеташнія, спаленыя ў печы, вершы «Над калыскай», «То не сокал раным-рана», дык яны спадабаліся б вашаму рэдактару.

Між іншым — я вялікі прыхільнік ягоных вершаў. Яшчэ ў 1942 годзе, едучы праз Вільню ў Рыгу, я заўважыў два зборнікі Хведара Ільяшэвіча[41]. Тады ў Вільні я прачытаў колькі ягоных вершаў, але набыць зборнікаў не давялося. Яшчэ тады я зацікавіўся

арыгінальнымі, своеасаблівымі вершамі Ільяшэвіча, не падобнымі на творы другіх паэтаў. У іх былі трапная вобразнасць, мастацкасць і культура.

11 чэрвеня 1944 года. А ад брашуры «Друкарня Мамонічаў»[42] я быў у захапленні. Надзвычайна сур'ёзны і разумны твор!

Нядаўна адзін рыжскі беларус даў мне пачытаць зборнічкі Хведара Ільяшэвіча і часопіс «Калоссе»[43]. Вершы я не толькі чытаў, але і перачытваў. Глыбака запалі ў памяць радкі:

Паплыву ў хвалях шуму з-пад палёў беластоцкіх
Да дняпроўскіх лугоў і да слуцкіх пшаніц.
Мо мне вецер раскажа, як у гэтых зарэччах
Рассыпаў нехта слёзы і ў змрок галасіў.
Мне так часта здаецца ў жаўцеючы вечар,
Што каменні на полі — гэта жнеі без сіл.
Распляліся іх косы і апалі прыгожа,
Вецер з рук абамлелых не развеяў ім сны.
І яшчэ замірае спеў працяжны на пожні
З тых гадоў, калі ў жыце упалі яны.

Цудоўна! Тут няма зрыфмаванага набору словаў, затуманеных штучна створанымі вобразамі. Тут — глыбака пачуццёвыя думкі, трывога за лёс народу, вялікая пашана нашчадкаў да прадзедаў. Гэта — жыццё, якое кранае сэрца жывога чалавека, якое змушае яго не быць бесклапотным і падумаць, дзе і для чаго ён жыве. І мне здаецца, што Хведар Ільяшэвіч пасля Танка[44] — другая паводле сілы велічыня сярод паэтаў Заходняй Беларусі. Па-мойму, Ільяшэвіч перарос і Арсенневу, і Машару[45], а пра Іверса[46], Васілька[47] і Хмару[48] не варта і ўспамінаць.

Параўноўваючы моўныя асаблівасці вершаў Ільяшэвіча з асаблівасцямі празаічных твораў у «Калоссі» і артыкулаў у «Новай дарозе» М. Дальнага, я пераканаўся, што Дальны — гэта Ільяшэвіч. Калісьці я чытаў артыкул у абарону маладых паэтаў, і мне ніяк не верылася, што яго напісаў Ільяшэвіч. А прачытаўшы артыкул «На новай хвалі» пра паэзію Арсенневай, я зусім расчараваўся ў М. Дальным. Чытаў я гэты артыкул, як і ўсе, зверху ўніз, але да толку дайсці не змог. У пачатку гаворыцца пра адно, у сярэдзіне — пра супрацьлеглае, а ў канцы — супрацьлеглае і сярэдзіне, і пачатку. «Перад ёй адчыняецца новая багатая крыніца творчасці — сацыяльнасць». Што гэта? Не разумею. У адным месцы Арсеннева плыве на новай хвалі, а ў другім — спрабуе плысці. І меркаванні аб колішняй пяснярцы чыстае красы нешта не вяжуцца.

Але навошта я пачаў выказваць свае беспадстаўныя погляды аб крытыцы? Ды яшчэ ў лісце! Прабач, дарагі Масей!

*12 чэрвеня 1944 года*

Я маю вялікае жаданне набыць зборнікі вершаў Хведара Ільяшэвіча. У Вільні не мог трапіць у кнігарню Станкевіча[49]: то яна была зачыненая, то ў мяне не было часу, то іншыя прычыны перашкодзілі. А даводзілася чуць, што ў кнігарні Станкевіча гэтыя зборнікі ёсць. Не ведаю, калі мне зноў давядзецца быць у Вільні. А тым часам, можа, з Беластока можна было б выпісаць гэтыя зборнікі?

Я ўжо памірыўся з усімі і зноў вяду нармальны кшталт жыцця.

Учора прагульваўся ў горадзе. Было не асабліва горача, але ад сонца ў мяне пачала кружыцца галава, зрабілася нядобра. Ледзь жывы дабраўся дахаты. Прагавіта ўдыхаў паветра, але чамусьці мне яго не ставала; я адчыніў вакно, высунуў галаву на двор — усё

адно не ставала. Гаспадыня дала панюхаць нейкіх кропель — тады палепшала. І што такое — сам не ведаю. Такіх выпадкаў ужо больш за год у мяне не было.

Пад вечар узяўся за рукапісы сваіх пачатых вялікіх рэчаў. Узлаваўся на іх — кінуў у печ і спаліў. Толькі пачатак паэмы «Айчына» пакінуў. А пасля зрабілася шкада спаленага. Цэлую ноч праз гэта мучыўся — не мог заснуць і на часіну.

Ці закончу калі-небудзь паэму «Айчына» — не ведаю. Цяпер лета — спецыяльна пісаць не прыходзіць натхненне. Калі іду на працу ці знаходжуся ў страўні, часам з'явіцца ў галаве колькі новых радкоў — запішу. Чытаю назаўтра — не падабаецца, знішчаю, і гэтак справа наперад не пасоўваецца. А тады нешта новае, не вершы, а штосьці невыразнае, несфармаванае лезе ў галаву, не дае супакою. Хацеў на два тыдні забыцца на ўсё, адпачыць — няма рады. Калі да мяне звяртаюцца, мала назваць маё імя ці прозвішча два ці чатыры разы — трэба падысці і крануць мяне, тады толькі я пачую.

Ты толькі не падумай, дарагі Масей, што ўважаю сябе за генія, за паэту. Часта ад узнерваванасці я бываю горшым за п'янага, а выпіўшы колькі кілішкаў гарэлкі, магу за тры гадзіны нагáсіць цэлую паэму. Каб мяне так натхняла жыццё сваёй цвярозасцяй, як гарэлка нецвярозасцяй, дык праз дзесяць гадоў, магчыма, і быў бы з мяне такі-сякі паэта.

Сяння аднаўляў у памяці спалены рукапіс пачатай драмы. Нічога не атрымалася — свае рэчы я так не запамінаю, як чужыя. Зборнік мой ужо набраны, звярстаны і пракарэктаваны. У канцы гэтага тыдня будзе друкавацца, у пачатку наступнага — трапіць у пераплётную. Можа, паспее выйсці ў свет.

Калі рабіў карэктуру, дык расчароўваўся ў сваім зборніку. Нішто мне не падабаецца, усё здаецца бязвартасным, мізэрным і нікчэмным. А раней так хваляваўся за лёс кніжкі, перажываў. Для чаго ўсё гэта было?

А як з тваімі зборнікамі? У 9-ы нумар часапісу я даў інфармацыю, што хутка выйдуць. Справа з выхадам нашага часапісу — няважная. Яшчэ 8-ы, красавіцкі, нумар ляжыць у друкарні. Віна не наша. Друкарні занятыя для вайсковых мэтаў. Ужо шмат нумароў падрыхтавана да друку, і яны чакаюць у друкарні.

Я аддаў у набор для чарговых нумароў твае вершы «На хутары» і «Жыццё». У 15-м нумары «Новага шляху» пачнём друкаваць артыкул Ул. Глыбіннага «Лірычнае адтварэнне перажытага». Калі маеш вялікую і выразную фатаграфію, прышлі, дамо цябе ў гэты нумар на вокладку. Я не жартую. Калі які-небудзь актор мае права трапіць да нас на вокладку, дык паэта мае на гэта яшчэ больш правоў.

Прабач мне, што адрываю цябе гэтым лістом ад працы. У мяне з'явілася ахвота пагутарыць. Бо з людзьмі сустракаюся рэдка, заўсёды — адзін, як Лявон Бушмар[50]. Той, праўда, быў ваўком, а я — ваўчаня.

Моцна цісну тваю руку! Бывай!

З паважаннем — твой Алесь.

МАСЕЮ СЯДНЁВУ

*14 лістапада 1944 года, Рыга*

Дружа мой!

Сяння мы атрымалі 5 экзэмпляраў 6-га нумару «Новае дарогі». Урэшце, я змог прачытаць газету на месцы, не хадзіць да «вялікіх чалавекаў» з паклонамі, не выпрашваць ад «оного высочества» ласкі даць мне пачытаць «Новую дарогу». І гэта, напэўна, дзякуючы табе. Шчыра дзякую і прашу прабачэння за ўчыненыя мною клопаты…

Шчыра дзякую табе за ліст, за фатаграфію. Пры надрукаванні ў «Новым шляху» артыкула пра цябе выкарыстаем і фатаграфію.

А ў сваіх вершах ты ўздымаешся вышэй і вышэй… Чытаючы верш «Зманлівасць», я страціў раўнавагу, ускочыў на стол, голасна зачытаў на ўвесь рэдакцыйны пакой. Шкада, што каля мяне не было каралеўны, а толькі… калега-карэктар. І, дзівак, падумаў, што я звар’яцеў. (Ён у нас працуе не так даўно, добра мяне яшчэ не ведае.) А можа, ён і не памыліўся… Часамі мне здаецца, што я запраўды чалавек ненармальны. Нармальныя людзі заўсёды застаюцца нармальнымі…

І, ведаеш, неяк не хочацца верыць, што гэтыя вершы пісаліся колькі год таму. Каб яны былі напісаныя на катарзе або ў турме мікалаеўскіх часоў (хоць і не жыў тады, але мне апавядалі), дык я тады б даў веры. А вось як можна напісаць такія вершы на савецкай катарзе — я ніяк не магу ўявіць. Мне здаецца, што яны пісаліся цяпер. І кожны новы верш — усё новыя й новыя поступы наперад, незалежна ад таго, якая стаіць пад вершам дата. Гэта сведчыць аб велізарным творчым росце — не па днях, а па гадзінах.

Я вельмі рад падтрымліваць лучнасць з чалавекам, які піша гэткія цудоўныя вершы. Гэта кажу я шчыра, ад чыстага сэрца, без ніякіх намераў трапіць у ласку. Я ніколі не крывіў душой і не збіраюся крывіць. Пасля тваіх вершаў я адчуваю сябе мізэрненькім вершаплёцікам, і ў мяне пачынаюць з’яўляцца думкі, ці не надакучаю я табе і ці добра, што я звяртаюся такім тонам, хоць ты нічога супроць не маеш у апошнім лісце.

Ты пытаешся — адкуль я паходжу? Што ж — будзем заводзіць больш шчыльнейшае знаёмства.

Я з’явіўся на свет 1-га траўня 1922 года ў вёсцы Крысава, у 7-мі кіламетрах ад Койданава, у 33-х кіламетрах ад Менску. На вёсцы давялося жыць толькі да аднагадовага ўзросту. Потым лёс кідаў мяне, спачатку з бацькамі, а пазней і аднаго па розных мястэчках і гарадох Беларусі. Бацька мой — спачатку земляроб, потым — інтэлігент. У 1929 годзе атрымаў вышэйшую сельскагаспадарскую асвету. У 1938 годзе памёр у менскай турме. Маці ў гэтым жа годзе была асуджаная і высланая на 10 гадоў у Нова-Сібірскую акругу. Не ведаю, што з ёй цяпер, але, напэўна, не жыве, бо мела вельмі дрэннае здароўе.

А я — іхны старэйшы сын. Сын «ворагаў народу»… Маю незакончаную сярэднюю асвету.

Ты памыляешся — я не моцна складзены. Рост мой — ніжэйшы сярэдняга. Сам я — тонкі, як цвік, крыху гарбаваты. Можна лёгка ўзяць мяне аднэй рукой, як матыля, і не толькі мой верш, але і мяне самога без цяжкасцяў выкінуць у кошык.

Здароўе… Здаецца, увогуле нядрэннае. Толькі вельмі слабое сэрца. Не магу нармальна ўзняцца на трэці паверх. Не магу мыцца ў лазні, не магу хутка хадзіць. Ледзь не так дыхне на мяне вецер — і даводзіцца пасля адлежвацца ў пасцелі. Але я на гэта мала бяру ўвагі. Нядаўна мне давялося чуць, што людзі з хворым сэрцам вельмі жывучыя. Як каты…

Гэта табе, відавочна, нецікава… Дык ласкава прашу прабачыць.

Колькі дзён таму вярнуўся з Менску наш галоўны рэдактар. Блізу два месяцы быў ён там. Мне аднаму тут было цяжкавата. Дзеля гэтага другі і трэці нумары выходзяць са спазненнем. Са спазненнем быў выпушчаны і першы нумар. Другі нумар сяння друкуецца. Заўтра вышлю. Там змешчаны твой верш «Дзяцінства». (Дарэчы, па-мойму, лепш было б «Маленства»; дзяцінства бывае ў старасці, калі чалавек дзяціняе. І чаму «ўзнаў», а не «пазнаў»? Прашу прабачыць за гэту заўвагу.) У трэцім нумары будзе надрукаваны «Домік у Менску». У чацвёрты нумар пастараюся даць верш «Маім бацькам», у пяты — «Зманлівасць».

Я прашу прабачыць мне за гэткую хаатычнасць майго ліста, за ягоную несур’ёзнасць. Нешта не клеюцца думкі. Дрэнны настрой. Віна ўсяму гэтаму — «Уражанні», «Дарога

на Парнас», якія кагадзе давялося прачытаць у «Новай дарозе». Здзіўляюся, як жа ў газеце, якую выпускаюць літаратары, і нядрэнныя літаратары, магла з'явіцца такая бесталковая, неразумная рэч. Горшай дурніны (прабач, калі ласка), мабыць, нідзе нельга знайсці. З такой некультурнасцяй (апрача дурніны) варта было б Чаславу Будзьку[51] не вылазіць з «зажабленага балота» на пасмешышча людское. Запраўды, ніяк, ну ніяк не магу ўявіць, як да старонак газеты магло быць дапушчанае жабінае кваканне… Жаба горш усякай скаціны. (Сам ён бесталковая скаціна!)… Прашу дараваць за лаянку. Але, мне здаецца, ты разумееш, што мне ад гэтага лягчэй…

Артыкул М. Дальнага ў абарону маладых паэтаў — кашаль для хворага чалавека. «Раніца»[52] вельмі добра зрабіла і вельмі правільна.

Ад чалавека, які мае дараванне, толькі і трэба вымагаць і вымагаць. Ніякія «аглоблі» і ніякія каменні не заглушаць такога чалавека, а яшчэ больш загартуюць яго, гэтым самым дапамогуць яму праз усе цяжкасці выбіцца, казаў той, у людзі. Калі ж той, хто не мае даравання і спалохаецца «аглоблі», дык не шкода. Усё адно з яго нічога не выйдзе. А розныя «абароны» на ягоны адрас даюць яму падставы думаць, што ён усё ж, казаў той, не лыкам шыты. І што горш усяго, такія абароны робяць маладога паэту вечным калекам. Толькі суровае вымаганне і бязлітасная крытыка могуць дапамагчы паэту, які не мае апоры пад нагамі, знайсці яе.

Не дай Божа стаць за лекара чалавеку, які знойдзе на дарозе паўвоза лекаў. «Такія дактары вымуць душу без пары»[53], — справядліва кажа народ. За апошнія словы я цалкам адказваю.

У першых чыслах сакавіка паеду ў Менск. Буду там мала не месяц. Пасля, вяртаючыся назад, затрымаюся крыху ў Вільні.

На гэтым я і кончу. Няма часу больш пісаць.

Рэдакцыя чакае ад цябе новых вершаў.

Жадаю ўсяго найлепшага!

З прывітаннем — Алесь Салавей.

## УЛАДЗІМІРУ СЯДУРУ і МАСЕЮ СЯДНЁВУ

*28 траўня 1946 года, Зальцбург*

Дарагі Уладзімір Сядура!

Дарагі Масей Сяднёў!

Атрымаў ад Уладзіміра Сядуры ліст. Шчыра дзякую. Радуюся, што ён жыў і здароў. Як маецца ягоная маці? Уладзік! Апошнім часам я шукаў цябе праз сваіх знаёмых у Брэгенце. Адтуль атрымаў весткі, што ты выехаў у амерыканскую зону Нямеччыны.

Яшчэ з восені мінулага года я таксама думаю пра тое, каб выехаць туды, дзе ёсць больш нашых людзей, скажам, у Рэгенсбург. Але да сянняшняга дня не выехаў толькі таму, што ніяк не выпадае пакідаць без духовай апекі нашых людзей, якія тут ёсць.

Нас разлучае аўстрыйска-нямецкая мяжа. Уяві, што нават нельга прыехаць да вас на колькі дзён. Пропуск у Нямеччыну тут дастаць можна. Але як жа вярнуцца назад? Пра зваротны пропуск няма й гутаркі. Пайсці на іншы шлях, як гэта шмат хто робіць, я не адважваюся.

Усё ж на пераезд я не пакідаю надзеяў. Думаю, што неўзабаве гэта зраблю, калі можна будзе там у вас прапісацца.

Усе вашы новыя выданні я чытаў. Не бачыў толькі часапісу «Шыпшына»[54]. Траплялі тыя выданні рознымі шляхамі ад вашых украінцаў да нашых, а з рук апошніх яны выпадкова траплялі і да мяне.

Добрая рэч — тыя часапісы, калі няма нічога лепшага. А няўжо нельга было б выдаваць там у вас тое-сёе ў друкарні? Чаму гэта ўкраінцам удаецца? Яны выдаюць не толькі газеты і часапісы, але і зборнікі вершаў і прозы. Маюць нават свае ўласныя друкарні. Каб было тут гэтулькі людзей, колькі ў вас, каб былі сродкі і агульная дапамога, можна было б тут сёе-тое выдаваць і ў друкарні.

Мы ўжо выдалі два нумары часапісу «Пагоня»[55]. Выдаецца цяпер трэці нумар. Выдаем газету «З беларускага жыцця»[56] (на рататары). Першы нумар часапісу атрымаўся смешным. Гімназістыя даўней, напэўна, лепш выдавалі. Надрукаваў я гэты нумар у 25-ці экзэмплярах на звычайнай пісальнай машынцы. Другі нумар памерам на 32 балонкі быў надрукаваны ўжо так, як і Юркаў часапіс. Але і ён не атрымаўся гэткім, як хацелася. Літары там-сям выйшлі невыразна. Спачатку, добра не валодаючы гэтай справай, я дастаў зусім дрэнныя матрыцы. Чорт іх ведаў, што яны дрэнныя! Самому ж даводзілася ўсё рабіць, і матрыцы набіваць спачатку я добра не ўмеў. Цяпер ужо навучыўся. Трэці нумар выйдзе з выразнымі літарамі. Газета «З беларускага жыцця» выходзіць з тэхнічнага боку беззаганна.

Цяжка ўсё гэта даецца, але нічога не зробіш. Машынкі няма. Выпрасіш — літараў нашых не хапае. Даводзіцца тыя літары, якіх няма, падстаўляць ад рукі. Ды і пісаць няма каму. Іншая справа — у вас. У вас — цэлая армія пісьменнікаў. З увагі на тое, што часапіс выдаецца адмыслова для таго, каб было што чытаць звычайным простым людзям, мне шмат «дапамагаюць» паважаныя класікі.

Часапіс «Новы шлях» у мяне ёсць. Цяпер я яго ні за якія грошы нікому не дам нават на колькі гадзінаў. Уладзімір Дудзіцкі таксама пакінуў недзе свой камплект, як і ты. А я пранёс яго праз такія перашкоды, якіх, напэўна, ніхто не перажываў. З Вены далей на захад я рухаўся пяшком. Ішоў селавымі дарогамі, бо на галоўных шляхах ужо былі тыя, ад каго я ўцякаў. Але і па селавых дарогах не было ходу. «Тыя» наступалі на пяты — я бег без духоў і памяці.

А заседзеўся я ў Вене, дарэчы сказаць, да самага апошняга толькі праз даверлівасць да латышоў (рыжскіх знаёмых). Яны рознымі спосабамі пераканалі мяне ў тым, што ў Вену прыйдуць амерыканцы. Некалі ў Рызе, седзячы спакойна ля небяспекі пад бокам, яны верылі ў прыход ангельцаў.

У найцяжэйшы мамэнт я нідзе не кінуў часапіса. Як жа ты мог яго пакінуць яшчэ ў Празе? А цяпер ты перасылаеш просьбу: «Перапішы і прышлі». Табе, напэўна, ведама, што паштовыя перасылкі з Аўстрыі ў Нямеччыну цяпер абмежаваныя. Як жа я перашлю твае артыкулы? Як жа я зраблю гэта самае «перапішы»? Хто ж перадрукуе, апрача мяне самога? А дзе ўзяць машынку, калі мне газету выдаць цяжка. Я пішу ў палове ліста, а за спіною стаіць чалавек, хочучы забраць машынку. А каб і была машынка, дык я не ручаюся, што можна было б перапісаць усе 23 артыкулы раней, як за тры месяцы, друкуючы такім тэмпам, як я.

Цяпер я збіраю грошы на куплю машынкі. Калі ўдасца гэта зрабіць, дык я тады тое-сёе перапішу і перашлю праз каго-небудзь. А ўсё астатняе перапішам тады, калі спаткаемся.

Артыкулы «Залаты век», «Беларуская мова ў гісторыі Беларусі» і «Жыве Беларусь» надрукую ў сваім часапісе «Пагоня».

Усякія меркаваныя намі выезды ад нас не залежаць. А як кранемся з месца — я заўсёды буду імкнуцца туды, дзе больш нашых людзей.

Цалкам падрыхтаваныя да друку мае зборнікі лірыкі «Сіла гневу» і «Вянкі». Першы — на 8 друкаваных аркушаў, другі — на 6 (такі ж памер, як і ў «Маіх песнях»). Галоўныя матывы зборніка «Сіла гневу» — Бацькаўшчына і народ, мінулае, сучаснае і будучае, знішчальная сіла вайны, неўміручасць чалавека — гаспадара зямлі, неўміручасць кры-

віцкага роду і Крыўі-Беларусі. У зборніку «Вянкі» — 38 вершаў пра каханне і маладосць, пра жанчыну-маці, ейную глыбокую любоў да дзіцяці і ейнае вялікае сэрца, тры вянкі санетаў пра неўміручасць красы і харaства, спаленая ў Рызе і адноўленая тут паэма «Домік у Менску», паэма «Сын». У абодва зборнікі ўвайшлі паводле тэматыкі і тыя раннія вершы, якія я ўлучаў у зборнік «Мае песні», але зняў пазней з прычыны недахопу месца (самі ведаеце — памер «Маіх песняў» быў абмежаваны). Пазней, калі буду жывы і ўдасца выдаць усе зборнікі, я аб'яднаю іх у адну вялікую кнігу пад назовам «Мае песні» з трыма часткамі: «Мае песні», «Сіла гневу» і «Вянкі». Можа, цяпер трохі смешна гаварыць пра будучыя планы, але калі жывеш якімі-небудзь меркаваннямі — тады лягчэй на сэрцы.

Трэба шчыра прызнацца, што пасля заканчэння вайны я ўвесь час працую, як чорны вол. Цяпер пішу празаічную аповесць «Пад нагамі гарыць зямля». Каб не жыў далёка ад сваіх, не напісаў бы таго, што напісаў. Я не маю ахвоты выдаваць зборнікі на ратататары. Ратататарнае выданне зніжае вартасць кніжкі. Не губляю надзеі на тое, што пашчасціць выдаць мае зборнікі і ў друкарні.

У мяне ўжо ёсць сын. Ягонае імя — Міхась. Хутка споўніцца два месяцы. Вядомая рэч, за здароўе новага чалавека ў беларускай сям'і выпілі нядрэнна. Справілі такія хрэсьбіны, што палова гасцей засталася там, дзе і піла, а другая палова папаўзла ракам дахаты. Потым цэлы тыдзень пахмяляліся…

У нашай гаспадарцы ёсць і кот. Называем яго Моська.

Уладзімір Дудзіцкі адрокся ад сваіх ранейшых перакананняў яшчэ пры капітуляцыі. Знайшоў цікавую «мадмуазель» і цяпер зрабіўся такім, што і не пазнаць. Дарэчы, ён узначальвае тут усіх нас.

З вядомых беларусаў ёсць тут і Аляксей Грыцук[57]. Ён шмат дапамагае ў выдавецкай справе.

Днямі паедуць ад нас хлопцы ў Нямеччыну. Тое-сёе з навінаў яны вам прывязуць.

Праз Мюнхенскі універсітэт УНРРА[58] можна дастаць пропуск у Аўстрыю. Хай хто-небудзь прыедзе сюды да нас на пару дзён.

*29 траўня 1946 г.*

Масей! Чытай гэты ліст. Ён напісаны і да цябе.

Уладзік! Нядаўна я гутарыў з адным хлопцам — братам М. Ганько[59]. Ён згадзіўся перапісаць твае артыкулы ад рукі. Калі яго наша табарнае начальства вызваліць ад чорнай працы, праз два месяцы ён перапіша 23 артыкулы, і я пастараюся іх табе параслаць.

Моцна цісну вашыя рукі. Прывітанні ўсім сябрам і знаёмым.

Гарачае прывітанне Юрку Віцьбічу.

З паважаннем — Алесь Салавей.

### У РЭДАКЦЫЮ ЧАСОПІСА «ШЫПШЫНА»

*25 студзеня 1947 года*

Глыбокапаважаны спадар рэдактар!

Я даведаўся аб забароне распаўсюджваць маю невялічкую паэмку «Звіняць званы святой Сафіі», прычынай чаго з'яўляецца прысвята паэмкі Юрку Віцьбічу. З увагі на гэта даю наступнае вытлумачэнне.

Аўтарам назову «Звіняць званы святой Сафіі» з'яўляецца Юрка Віцьбіч, што ведама кожнаму, хто цікавіцца беларускай прэсай. Гэты назоў запазычаны мною ў Юркі Віцьбіча. Прысвята з'яўляецца фактычна зазначаннем таго, у каго запазычаны назоў, і дадзена

на падставе пэўных правілаў у літаратуры. Каб я гэтага не зрабіў, гэта ўважалася б за кражу арыгінальнага назову, і Юрка Віцьбіч меў бы поўнае права ў пэўных абставінах абвінавачваць мяне праз суд за літаратурную кражу. Як літаратар, адпаведных законаў у літаратуры я абысці не мог.

Юрка Віцьбіч з'яўляецца чалавекам, які больш, чымся хто іншы, аддаў сілаў душы і крыві за беларускую справу. Юрка Віцьбіч належыць да тых, каму цудам пашчасціла застацца жывым, не апынуўшыся там, дзе апынуліся нашы найлепшыя пісьменнікі — носьбіты й краса беларускага мастацтва. Вельмі і вельмі памыляецца той, хто гэтым лацьваважыць. Палітыка мяне не абыходзіць (хоць Віцьбіч, думаецца мне, не горшы палітык за тых, хто прэтэндуе на палітыка), але ў мастацкай літаратуры, як мне ведама з апошняй прэсы, Юрка Віцьбіч да сянняшняга дня застаўся пры сваіх ранейшых пазіцыях. Адмаўляць сяння Юрку Віцьбіча як пісьменніка — гэта значыць рабіць пагром беларускай літаратуры на эміграцыі. Прысвяціць паэмку Юрку Віцьбічу як пісьменніку я меў поўнае права.

На творах Юркі Віцьбіча я выхоўваўся змалку. Яшчэ тады, калі я, казаў той, хадзіў пяшком пад стол, у нашай літаратуры было знішчана ўсё беларускае. Янка Купала і Якуб Колас, а з празаікаў Юрка Віцьбіч — вось у каго засталося мне спатыкаць хоць кроплю беларускасці ў той час, калі я стаў на ногі. За гэта я Юрку Віцьбічу шмат абавязаны. Мая рука ніколі не падымецца скрэсліць прозвішча таго, хто так шмат спрычыніўся да майго беларускага выхавання.

Ніякай цаной не пагаджаюся на тое, каб замазаць у паэмцы прысвяту Юрку Віцьбічу. Я не пайду насустрач метадам, ад якіх я ўцякаў і пры ўспаміне пра якія валасы становяцца дыбам і спакойна не спіцца. Як беларус, нашчадак слаўных крывічоў, і як беларускі пісьменнік, застаюся цвёрда ўпэўненым, што ні паэмкай «Звіняць званы святой Сафіі», ні прысвятай яе Юрку Віцьбічу я ні трошкі не пашкодзіў нашай агульнай справе. Калі хто думае пра гэта інакш — хай тады паэмка застаецца забароненай да распаўсюджання.

За зневажанне Юркі Віцьбіча як пісьменніка я нікому ніколі не дарую. Адсутнасць пэўнае павагі да нашых пісьменнікаў гаворыць аб адсутнасці адпаведнае культуры.

Зусім не здзіўлюся, калі за гэты ліст і на мяне хто-небудзь пачне вешаць сабакаў. Стаяў, стаю і буду стаяць на ідэйным беларускім шляху, а не на шляху прыватных амбіцыяў і інтарэсаў.

Алесь Салавей.

МАСЕЮ СЯДНЁВУ

*14 красавіка 1947 года*

Дружа мой!

Гневацца — не гневаюся. Але лістоў ад блізкіх людзей чакаю з нецярплівасцяй. Яны — адзінае, чым я цяпер жыву. Шкада, дружа, то ты вельмі скупы на словы. Раней ты, здаецца, не быў такім.

Даведаўся я, што дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў на чале з М. Сяднёвым вітала з'езд МУРу; М. Сяднёў выдаў сваю новую паэму «На край святла». Я да глыбіні душы ўзрадаваўся, даведаўшыся аб гэтым. А ты мне, дружа, — ні слова пра свае навіны.

Бачыў і чытаў рэцэнзіі на выдадзены нашымі суседзямі «Лексіс» Л. Зізанія[60]; рэцэнзенты ўважаюць беларускія словы за ўплыў галіцкага дыялекту на ўкраінскую мову ранейшых часоў… Чытаў у «Часе»[61] і «Пагоню» М. Багдановіча ў перакладзе Яра Славуціча[62], і «Сівою вярбою» Н. Арсенневай, і пераклад М. Танка, і «Царыцу» «маладога

паэты» М. Кавыля[63]. Чытаў таксама артыкул пра мабілізаванне дапамогі нашым «няшчасным», якія няздатныя самастойна арганізаваць сваё жыццё. Бачыў у змесце аднаго з новых украінскіх выданняў і назоў «Цень Янкі Купалы»[64]. Цешуся, дружа, тваімі поспехамі і тым, што ўсё ж нядрэнна рэпрэзентуешся перад суседзямі.

У тутэйшым часапісе «Літаўры»[65] (выдаецца ў друкарні) ёсць у перакладзе мае «Званы». У іншых, драбнейшых выданнях надрукавана шмат іншых рэчаў. Мяне асабіста гэта не вельмі цешыць. Балюча, што няма магчымасці друкавацца ў сваёй прэсе, ды яе, уласна кажучы, і няма. Частку з напісанага ў апошнія два гады я паслаў у вашы мясціны, але аб лёсе пасланага нічога не ведаю.

Збіраешся выдаць свае вершы ў друкарні? Вельмі добра было б, каб удалося. Я не маю жадання выдаваць на ратататары свае зборнікі. Уважаю за лепшае перапісваць іх ад рукі.

Каб я знаходзіўся ў іншых абставінах, — мог бы набыць невялічкую друкарню ў сваю ўласнасць. На друкаванне кнігаў невялікага фармату выстарчае маленькага «барабанчыка» — ручной друкарскай машынкі велічынёй з ратататар. Такія «барабанчыкі» валяюцца ў кожнай нямецкай друкарні на сметніку. Ёсць фірмы, якія могуць (зразумела, за грошы) і шрыфтоў нарабіць. Ад «барабанчыка» і ад пары кілаграмаў шрыфтоў пачынала сваю дзейнасць і ўкраінская друкарня ў Зальцбургу.

Дружа, пасылаю табе на добрую памяць верш, прысвечаны М. Сяднёву. Таксама пасылаю і вершы «Майму каханню» і «Так і сталася».

Пераклады з Т. Шаўчэнкі[66] і з Л. Палтавы[67] — для друку. Май на ўвазе, што ў перакладзе з Палтавы захаваныя ўсе рытмічныя асаблівасці першатвора, чаго, мне думаецца, мусіць прытрымлівацца кожны перакладчык.

Што з «Шыпшынай»? Ці выдаецца? Калі яна спыніла свой выхад, дык перашлі пераклады А. Адамовічу[68]. Адначасна перашлі (хоць раз выканай маю просьбу) і верш «Пачні з Гамера, ці пачні з Сакрата», каб ён не марнаваўся ў рукапісе, і, калі можна, вершы «Дваццаць тры» і «Frohliche Weihnachten»[69], якія я паслаў раней Ю. Віцьбічу.

Не забудзься адначасна перасцерагчы А. Адамовіча: няхай друкуе паводле арыгінала і ні да чаго не прыкладае свае рукі. У іншым выпадку няхай не друкуе зусім.

Нашы выданні, дарэчы, спынілі свой выхад.

Што да асабістага жыцця — не варта і пісаць.

Альберт Кадняк, як выявілася, не здолеў страціць чалавечай годнасці і памёр, бедны, ад паху сала з суседніх пакояў. На змену яму зноў прыйшла здань Алеся Салаўя.

Паэму «Дваццаць пяць», якую ўжо канчаў, кінуў у печ. Збіраюся пісаць нанова. Цяпер, мабыць, будзе не паэма, а вялікі верш.

Выехаць нікуды не давядзецца, бо ніхто мяне не возьме. А ў Аўстрыі застацца — аддаць сябе на заўчасную пагібель. Буду чакаць таго, што прынясе лёс.

Паслаў тры вершы Яру Славуцічу.

Так і прайшлі ў мінулым годзе дзесятыя ўгодкі тваёй літаратурнай дзейнасці — незаўважна і ў супакоі. Шкада. Я нават не прывітаў цябе, бо не меў летась з табой лучнасці.

Пішы даты ў лістах, не забывайся. Яшчэ адна навіна — лысею. Галю цяпер галаву — рыхтык Махатма Гандзі[70] або Хірогіто[71]… Прабіваецца першы зуб мудрасці.

Перашлі да друку А. Адамовічу яшчэ верш «Снежань». «Спі» не пасылай. Гэты верш можа быць у зборніку, але асобна друкаваць яго не варта. А я тым часам падрыхтую і пашлю А. Адамовічу іншыя вершы, калі атрымаю ад яго адказ. Дарэчы, перашлі мне ягоны адрас. Бачыў велікодную газету «Час» на 24-х балонках. Бязмежна захоплены поспехамі нашых суседзяў! І беларусы маглі б выдаць такую газету, каб мелі больш розуму.

Тым часам бывай здароў.

Цісну руку — Алесь Салавей.

МАСЕЮ СЯДНЁВУ

*27 красавіка 1947 года*

Дружа Масей!

Пасылаю табе два паасобнікі папраўкаў да зборніка «Мае песні». Адзін паасобнік няхай застаецца ў цябе, а другі ласкава прашу перадаць А. Адамовічу.

Атрымаў 1-ы нумар часапісу «Сакавік»[72]. Чытаў рэцэнзію на свае «Званы».

Цверджанне пра дэманстрацыю супроць Ю. Віцьбіча й часапісу «Звіняць званы святой Сафіі» з'яўляецца беспадстаўным і несур'ёзным, а таму было б лішнім адпаведна рэагаваць на яго. Рэцэнзент (ім, думаецца мне, ёсць А. Адамовіч) памыляецца, заяўляючы, што паэмка мае 11 актаваў. У ёй 11 строфаў на ўзор актавы (чатырохстопны ямб). Класічная актава ў нашай, як ва ўкраінскай і расейскай мовах, найлепш перадаецца пяцістопным ямбам з цэзурай на другой стапе. Нават Багдановічаву актаву «Як моцны рэактыў» трэба ўважаць за верш на ўзор актавы, напісаны шасцістопным ямбам.

Бай — не толькі міфічная істота, ужываная ў дзіцячым фальклоры. Баем называюць і апавядальніка казкаў, і музыку. Даць падрабязнае вытлумачэнне ў слоўніку я не меў змогі, бо не было месца.

Чаму ў часапісе друкуюць вершы строфамі ўмітушкі? Гэта выглядае па-дзіцячы, і калі хто-небудзь робіць так, дык не варта браць прыкладу.

Заўвага пра «несавецкасць» твораў А. Бялевіча[73] будзе падставай для ліквідацыі паэты. Пэўна ж, часапіс трапіць у рукі Бялевічавых «апекуноў». Гэта вялікая і непапраўная памылка, зробленая часапісам.

Не забудзься аддаць А. Адамовічу папраўкі. Неўзабаве перашлю пару дзесяткаў вершаў.

Цісну руку — Алесь Салавей.

МАСЕЮ СЯДНЁВУ

*4 жніўня 1947 года*

Дружа мой!

Хто там у вас распаўсюджвае сатырычныя вершы пра вучоных і пісьменнікаў, падпісаныя маім імем? Што за рудыменты некультурных звычак? Гэта не толькі некультурныя звычкі, гэта літаратурнае хуліганства, якое трэба прыраўняць да крыміналу. Я не ведаю, якія там вершы. Калі нават хто-небудзь прыхаваў колішнія мае жартоўныя вершы і цяпер выкарыстоўвае іх у сваіх брудных справах, дык гэта таксама злачынства, якое мяжуе з басяцтвам.

Я далёка ад усяго гэтага. Звяртаюся да цябе, як да сябра, ласкава прашу цябе — набі морду ганебным злачынцам ад майго імя.

Гэтым разам я парашыў даць табе магчымасць адпачыць ад маіх лістоў і адпісваю са спазненнем. Шчыра прызнацца, мне і не было аб чым пісаць. Зменаў у маім жыцці амаль не адбылося, калі не браць на ўвагу таго, што паменшаў ростам і больш прыгнуўся да зямлі.

Суседзі мне радзяць выязджаць у Венесуэлу або ў Чылі (толькі ў гэтыя краіны ды яшчэ ў Бразілію ёсць магчымасць ад нас выехаць). Мне кажуць, што ў тых краінах я выратую ад пагібелі і сябе, і сваю сям'ю. Мяне запэўняюць, што там я зараблю шмат грошай, неўзабаве змагу стаць собснікам, а гэта — добрае будучае для маіх дзяцей.

Мяне пераконваюць, што, прыкладам, Чылі — краіна цёплых водаў і я нідзе лепшага месца не знайду. І Алёшка зусім паважна радзіць мне выязджаць у Чылі. Ад усіх гэтых парадаў мяне пачынае браць ліха. Стварыўся такі цяжкі духовы стан, што я пачынаю сумнявацца — ці не стаў я вар'ятам? І малаток на працы ў майстроўні, і гул самахода на вуліцы, і кожны пабочны гук — усё крычыць мне ў вушы: «Не едзь! Нікога не слухай!» «Не едзь! Не едзь!» — штосьці гукае і ў глыбіні душы. Спатыкаешся з кім-небудзь: «Дабрыдзень!» — «Дай Божа здароўя!» — «Ну як, запісаліся да Венесуэлы? Не? Дрэнна робіце, хутчэй выязджайце адгэтуль…» Людзі маюць рацыю — у Аўстрыі жыць нельга. Але ж ці можна выязджаць з агню ды ў полымя з сям'ёю, з маімі поглядамі на жыццё, ад якіх нізавошта не адракуся?..

Апошняга тыдня штоночы паўзлі на мяне ў сне агністыя хіжыя змеі, з'ўляўся Алёшка ў даўгой белай сарочцы з касою ў руках. Я ўсхопваўся без памяці з ложка, хацеў уцякаць з пакоя, стукаўся галавой аб дзверы і прачынаўся. Калі спатыкаўся з Алёшкам удзень, мне думалася, што ў ім сядзіць нешта нячыстае.

Я пішу табе аб усім гэтым, добра ведаючы, што такую шчырасць заўсёды абгаварваюць і заўсёды з яе смяюцца. Цяпер у модзе іншая «шчырасць» — тая, што ўважае сябе за найшчаслівейшую, хоць грызуць яе вошы і гняце гора. І заўсёды ў модзе маска сляпога з дурной усмешкай (нядрэнная характарыстыка аптымізму). Гэта — аксіёма, гэта — праўда.

Вось такія ў мяне навіны… Усё ж тры тыдні таму, у нядзелю, я выбіраўся на агледзіны лёдавых пячораў — красы Аўстрыі, найпрыгажэйшых пячораў у свеце. Каб пабачыць іх, трэба было ўзбірацца на вышыню 1650 метраў. Я ўзабраўся, хоць цяжка пасля адхварэў. Захапленню майму не было канца… Летась бачыў колькі іншых прыгожых мясцінаў.

Пішы, дружа. Калі табе будзе вельмі цяжка адпісваць мне — не бойся спазніцца з адказам. Я не буду гневацца. Цвёрда пераканаўся, што я ў свеце — зусім адзін, і ўжо зміры́ўся з гэтым.

Бывай здароў. Моцна цісну тваю руку.

Заўсёды твой — Алесь Салавей.

МАСЕЮ СЯДНЁВУ

*24 верасня 1947 года*

Дарагі дружа Масей!

Мой падрыхтаваны да друку зборнік вершаў «Сіла гневу» якраз і становіць 96 балонак тэксту (усё горшае і непажаданае я адсеяў). Але, на жаль, я маю толькі адзін перапісаны ад рукі паасобнік зборніка (чарнавікі я спаліў)… Ты, зразумела, паінфармаваны аб цяперашнім маім палажэнні; дастаць пісальнае мышынкі на пракат не магу, а таму ад сяння пачынаю старанна перапісваць рукою ўвесь тэкст, каб паслаць табе для друку. Буду перапісваць так, каб рукапіс станавіў сабою люстэрка будучай кнігі. Яшчэ раз скарачацца вельмі не хочацца, а таму зборнік мае выглядаць так: калі набіраць тэкст корпусам, кніга будзе мець фармат «Маіх песняў» (прыблізна 15 на 21 см). Але з гэтага палажэння ёсць выхад: калі набіраць тэкст петытам, памер будзе станавіць кнігу малога фармату (прыблізна 12 на 16,5 см). Калі ж яшчэ зменшыць фармат, тады кніжка павінна дайсці да аб'ёму ў 112 балонак. І я буду вельмі ўдзячны, калі гэтыя мае планы будуць падтрыманыя. Умовы мае будуць зусім магчымыя: ад 1000 паасабнікаў я запатрабую толькі 100 — у лік ганарару.

Усё гэта пачынае мяне кідаць ва ўстрывожаную выдавецкую «трасавіцу» (ліхарадку): ці знойдзецца добры карэктар? ці будзе каму дагледзець? Я вялікі вораг усялякае абыякавасці ў выданні кніжак.

Малюнак вокладкі я прышлю сам. Малюнкаў да трох раздзелаў рабіць не буду — можна будзе абмежавацца і звычайнымі друкарскімі літарамі. Нават калі вокладка запатрабуе шмат клопату, можна не рабіць і клішэ, а проста друкарскім шрыфтам паслугавацца.

Значыцца, знаходзячыся ў цяперашнім сваім пекле, я буду старацца, каб да канца кастрычніка ўсё перапісаць. Зраблю ўсё магчымае, каб у першых чыслах лістапада ты атрымаў рукапіс зборніка.

А можа і сам пры своечасовым інфармаванні змагу прыйсці, каб зрабіць карэктуру. Чакаю падрабязнага адказу. Усё гэта — пэўная справа ці не?

А цяпер дзякуй і яшчэ раз дзякуй за ўвагу. Жадаю ўсім «усечасным» (мабыць, ты іх разумееш пад словам «зарубежнікі») многіх летаў за намер дапамагчы ў выданні кніжкі. Робяць добрую справу — вялікая падзяка ім за гэта, шкодзяць — палітыка, а яна мне ні ў галаве, ні ў іншым месцы.

У зборніку ў адным вершы будуць «крывічы» і «Крывіччына», дык ты дурням скажаш: для Салаўя гэта тое самае, што для грэкаў, напрыклад, — Элада.

А так хацелася б выдаць зборнік да ад’езду ў няведамы свет!

Пасылаю адначасна фатаграфію на добрую памяць. Напішы — ці атрымаў.

Можа, давядзецца перадрукаваць там, у вас, зборнік на машынцы? Тады, можа, лепш пасылаць часткамі? Дык першую (1/4) частку я змог бы паслаць праз тыдзень. А яшчэ праз тыдзень — другую і г. д. Напішы. Калі перадрукоўвацца будзе ў вас, пажадана захаваць пры перадруку «люстэрка», перагледзець старанна тэкст перад друкарняй, захаваць націскі, што будуць азначаны ў рукапісе. Ці будзе каму зрабіць усё гэта? Ці згодзішся, скажам, ты?

Я буду ставіць вымогу: без папраўкаў і зыначанняў. Ці згодзяцца на гэта выдаўцы?

Пад чыім кіраўніцтвам і наглядам будзе выдавацца кніжка? Калі пад тваім — мне вельмі прыемна.

Бывай!

Алесь Салавей.

МАСЕЮ СЯДНЁВУ

*16 кастрычніка 1947 года, Зальцбург*

Дарагі дружа!

Кніжку «У акіяне ночы»[74], часапісы «Звіняць званы святой Сафіі» і «Шыпшыну» атрымаў. Дзякую. Шкада, што не прыслаў ты ўсіх часапісаў, якія я прасіў. А цікава было б пабачыць у 4-м нумары «Шыпшыны» мой славуты ліст.

Чаму перакруцілі апошні радок у «Тэрцынах» М. Багдановіча? І трэба было вам аж другі раз надрукаваць мой вершатвор «У дзень нарадзінаў» — гэты непараўнальны ўзор бяздарнасці і графаманства!

Са зборнікам ідзе туга. Ім я моцна расчараваны. Пастараюся хутчэй паслаць, бо калі застанецца ў мяне — спалю, неадкладна спалю.

Сяння пасылаю частку тэксту. Неўзабаве будзе выслана і рэшта (пачатак і канец). Калі фармат кнігі будзе гэткі, як і «У акіяне ночы», дык няхай набіраюць такім жа шрыфтам — усё змесціцца. У маім рукапісе толькі адна васьмістрофная балон-

ка і дзве — сямістрофныя. Калі канец верша «У гэты дзень» (35 бал.) пасунуць на адну страфу ніжэй, дык тады ва ўсім зборніку будзе ўсяго тры сямістрофныя балонкі. Змест зойме 2 бал. (95-ю і 96-ю). У змесце не трэба рабіць разбіўкаў паміж радкамі.

У тых трох вершах, якія займаюць тры балонкі па 7 строфаў, няхай друкары зробяць на адзін пункт меншыя разбіўкі паміж радкамі і на два пункты — паміж страфамі, — тады напэўна ўсё змесціцца. Меншыя на пункт-два разбіўкі не будуць кідацца ў вочы. Ёсць два шасцістрофныя вершы з motto — хай і іх набіраюць з меншымі разбіўкамі.

У выпадку, калі ўвесь тэкст не ўвойдзе ў 96 балонак, можна зняць вершы «Вільня» (18 бал.), «Мая сталіца» (19 бал.), гэта дасць дзве балонкі. І яшчэ на ўсякі выпадак зазначу: пры кончай патрэбе можна зняць і вершы «Нябёсы ранкавым абмыліся дажджом» (62 бал.), «Каб сказалі» (75 бал.), «Толькі выгляне» (76 бал.), што дасць яшчэ чатыры балонкі.

У дадатак да мінулага ліста паведамляю аб яшчэ адной вымозе: без маёй згоды друкаваць у перыядычных выданнях вершы з пасланага рукапісу нельга.

Да зборніка ўвайшлі і тыя раннія вершы (бальшыня іх, зразумела, падгладжаная пры апошняй рэдакцыі), якія свайго часу ўваходзілі ў рукапіс «Маіх песняў», але пазней былі знятыя з прычыны абмежаванага аб'ёму зборніка. Частка ранніх вершаў, што таксама мела ўваходзіць у «Мае песні», залічана да майго трэцяга зборніка «Вянкі». У яго ўвойдуць і тры вянкі санетаў (1945 г.), і паэмы «Домік у Менску» і «Сын» (1946 г.). Усе гэтыя рэчы павінны яшчэ адлежацца трохі.

У асобным канверце пасылаю вокладку. На адным лісце (з аднаго й другога боку) — два малюнкі. Мне думаецца, малюнак з пажарам даваць не трэба — не падыходзіць па змесце; лепш, мабыць, надаецца малюнак з маланкай над зямной куляй. Калі вокладка пойдзе — на другой балонцы кнігі (пад тэкстам «Правы засцярожаныя») павінна быць: «Вокладка Г. Л.». Малюнак пасля выкарыстання пажадана вярнуць мне. Што да зацемкі «Правы засцярожаныя», то зрабі так, як сам уважаеш: можна даваць, а можна і не даваць. Што да зазначэння на першай балонцы: «1937–1947» — таксама. Даты пад вершамі мусяць быць захаваныя. І пажадана, каб яны ставіліся злева, а не справа, як у тваім зборніку.

У табары ў Каме — мая хворая маці. Прышлі спраўку аб гэтым ад табаровага лекара, пацверджаную дырэктарам табару (адміністратарам I. R. O.[75]). Змагу атрымаць пропуск на 48 гадзінаў у вашы мясціны. Іншым шляхам трапіць да вас цяпер вельмі небяспечна, асабліва сляпому, як я. Мая персаналія — у Юркі Віцьбіча.

З выездам у Аўстралію нічога, мабыць, не выйдзе. Магчыма, пашчасціць выехаць у ЗША. Не ведаю, дзе будзе лепш.

Пару часінаў таму атрымаў твой ліст. Шкада, сяння ўранні скіраваў хлопцаў на пошту з вокладкай. Мабыць, ужо паслалі… Атрымаў і другі паасобнік «У акіяне ночы» — дзякую і за яго.

Пачатку рукапісу (ад 1-ай да 33-яй бал.) тым часам не пасылаю, бо, як на ліха, пацякла столь і заліло мне тэкст.

Мне гонар: адзін мой сябра ніяк не можа забыцца маёй жонкі. Шкада, што цяпер яны адзін аднаму непатрэбныя… Ды гэта, зрэшты, — глупства.

Што чуваць пра «Сакавік»?

Моцна цісну тваю руку — Алесь Салавей.

МАСЕЮ СЯДНЁВУ

*26 кастрычніка 1947 года, Зальцбург*

Дружа!

Тыдзень таму я паслаў табе першую порцыю свайго зборніка (33–68 бал.). Сяння пасылаю другую порцыю — канец (69–96 бал.). Праз дні тры-чатыры вышлю рэшту (1–32 бал. — пачатак).

Можа, я не дагледзеў дзе-небудзь якой літары, дык папраў. «Зь» перад мяккімі «с, з, ц, к, х, п» ставіць не трэба, а перад іншымі мяккімі — трэба.

Здзіўляюся, як я змог адолець усё ў доме вар'ятаў і жаху?.. А незадаволенасць кнігай — найвялікшая. Калі пісаў, думалася — добра, цяпер — дрэнь.

Змест можна падаваць так, як і ў мяне (так падаюць і некаторыя венскія выданні), бо інакш не змесціцца на дзвюх балонках.

Твой зборнік «У акіяне ночы» дагледжаны больш-менш добра (праўда, часта спатыкаюцца памылкі з віны карэктара, і шмат якія балонкі крыва надрукаваны, а гэта — гультайства друкара-машыністага).

Думаю, што зборнік не ўзварушыць увагі нашых крытыкаў (дарэчы, іх і няма), але суседзі ўсыпалі б мне ў косці. Бальшыня з іх стаіць на няправільных, антымастацкіх пазіцыях. Бяруць прыклад з тых, што ўжо гніюць, з таго, што становіць сабою рудымент дэгенерацыі. І ў нас заўважаецца нахіл да гэных пазіцыяў. Шкада. Нам жа — яшчэ квітнець, як квітнелі некалі тыя, што цяпер дэгенеруюць. Гэта не спознены працэс развіцця, а ўхіленне ад заўчаснай пагібелі, праставанне па запраўднай мастацкай дарозе, якая заўсёды і ва ўсе эпохі была адзінай.

Наватарства ж — нядрэнная справа, але яна не павінна пераходзіць у гратэск.

А наагул я не жыву ўжо. Я паступова паміраю. Ізноў з суровых Альпаў насоўваецца холад, на апал няма надзеяў, святло бывае зрэдку, з харчамі яшчэ больш пагоршала. Часовае маё духовае заспакаенне трывала нядоўга; нервовае ўзбуджанне ізноў дайшло да такога стану, што аднаго дня адняло мне ногі, і я не змог хадзіць. Пра Венесуэлу думаю цяпер, як пра збаўленне, і не магу дараваць сабе тое, што ўлетку да яе не паехаў. Тое, што маеце вы, у параўнанні з нашымі ўмовамі — рай. Няхай людзі не наракаюць.

На працу нікуды не пайшоў, бо ўжо так выбіўся з сілаў, што не магу, абсалютна не магу нічога рабіць. За гэта пагражае выключэнне з табару, а па-за табарам — сімулянтам шляхі зачыненыя. Дарэчы, наш табар развязваецца, і неўзабаве павандруюць мае косці дзесьці на ўскраіну места.

А ў Венесуэлу больш не бяруць, намеры выехаць у іншыя мясціны рассыпаюцца, як пацукі па маёй кватэры. Іх — мільёны, нічым іх са стайні не выведзеш. Нікога з сям'і яны не чапаюць, толькі да аднаго мяне ўнадзіліся і сотнямі гайсаюць па мне ўначы. Відаць, мае косці салодкія. Няхай грызуць, праклятыя! Няхай насмерць загрызаюць! Улетку я ваяваў з імі. А цяпер застаўся пераможаным.

Каб жа адны пацукі, а то і іншай заразы — мільярды, і ў нэндзе яна бярэ верх над чалавекам.

І ўсё ж я шкадую гэтай стайні, б мы тут — у асобным катуху. А цяпер не абмінуць пакою на 18 дарослых і 20,5 дзяцей (можа, трошкі я і перабольшваю, але няшмат). Нават Алёшку (я ж не раўня яму) пачынае браць ліха. Ён, мабыць, паедзе ў Канаду — самотных бяруць куды хоцькі.

Як з перадрукам майго рукапісу?

Не лянуйся інфармаваць мяне пра зборнік.

Моцна цісну руку — Алесь Салавей.

АЛЯКСЕЮ ГРЫЦУКУ

*10 снежня 1948 года*

Даражэнькі Аляксей!

Дзесяць дзён таму паслаў табе ліст. Пазаўчора атрымаў твой. Нашы лісты размінуліся ў дарозе. Між іншага, твой ліст ішоў больш за паўмесяца. Над Еўропай і часткай Атлантычнага акіяна цяпер вельмі вялікія і густыя туманы, што перашкаджае нармальнай паветранай лучнасці еўрапейскага кантыненту з амерыканскім.

Калі твой ліст, пасланы больш за два месяцы таму, быў адказам на мае лісты, — значыцца, ён загінуў у дарозе. Зразумела, на пошце яго не падабралі — гэта здараецца вельмі рэдка. Хутчэй за ўсё, нехта падхапіў яго ў самім Глязэнбаху — у табары. Грошы найлепш пасылаць заказным лістом — ніколі не гінуць, і найлепш пасылаць у цёмных купертах, што не прасвечваюцца. Што да пакункаў — каб і наважваўся пасляць, дык хіба сала ці які-небудзь шмалец. У нас па-ранейшаму тыя самыя калорыі, што былі яшчэ і пры табе. І найлепш пасылаць невялічкім пакуначкам, што ідзе сюды праз Air mail[76], як і лісты (такія пакуначкі, здаецца, могуць важыць да 5 кілаграмаў).

Прыйшоў і на мяне дазвол што да ўезду ў Аргентыну, але на прозвішча Альфрэда Радзюка. Ёсць дазвол і на Уладзіміра Гуцьку. Гэта паводле спіскаў, што рабіліся яшчэ ў канцы 1945 года. Паводле тых спіскаў і Губэрты[77] атрымалі дазвол. На дазвол паводле пазнейшых спіскаў, як і паводле спіска В. Нікіфарава[78], можна чакаць не раней як праз год. Што ні кажы, Бразілія — мая адзіная надзея. З набраных увесну ў Чылі выехала толькі 15 %, ад рэшты гэтая краіна адмовілася. Адтуль надыходзяць самыя жахлівыя лісты. У ЗША прымаюцца цяпер адны жыды, і выязджаюць толькі яны. Штодня праходзіць праз Leerer Kaserne[79] не менш як 200. Вось табе й новы эміграцыйны закон! Прыедзе сяння Сруль з Польшчы, а заўтра ўжо мае візу ў ЗША. І дакументаў у яго не патрабуюць. А наш брат больш трох гадоў чакае і аплікацыі мае даўно, ды ў яго патрабуюць дакумент маральнасці за нямецкіх часоў, не лічачы ўжо безлічы іншых драбніцаў. А дзе ж возьмеш той дакумент маральнасці? Нават тыя, што ў часе вайны жылі ў самім Зальцбургу, не могуць дастаць. І такіх бесцырымонна адкідаюць. Словам, добра бачна, на каго разлічаныя гэныя 200 тысячаў…

А ў Канаду не выехала яшчэ ніводная сям'я, галава якой жыве там. Толькі адзінкам пашчасціла, і то рознымі шляхамі. Я добра зрабіў, што не разлучыўся з сям'ёй.

Кажуць, што з новага года Аўстралія адчыніць дзверы для нашага брата. Даў бы Бог! Аўстралія ў тысячу разоў лепш, чымся Бразілія.

А ў набітых біткам табарах старыя жыхары цяпер — меншыня, бальшыня — чэхі й вугорцы.

Як бачыш, палажэнне маё незавіднае. Няпэўнасць у заўтрашнім дні большая, чымся ў цябе. Таму нічым не магу цябе пацешыць.

Прывітанні ад Ганулькі[80], Міхася[81] й Зіны[82].

Моцна цісну руку тваю — Алесь Салавей.

АЛЯКСЕЮ ГРЫЦУКУ

*24 студзеня 1949 года*

Дарагі Аляксей!

Ліст твой атрымаў дзесяць дзён таму, але адразу не адпісваў, бо чакаў пасланую табой пасылку, якая вось-вось павінна была надысці. І яна надышла пазаўчора. Усё, што ты пасылаў, цалкам атрымана. Сардэчна дзякую табе, дарагі дружа, за тваю ўвагу да мяне й мае сям'і — усе мы атрыманаму пакунку вельмі рады.

У выніку даўгога блукання твайго апошняга, «непаслухмянага» ліста наша лучнасць ізноў крыху перарвалася. Сапраўды, мінула ўжо мала не два месяцы, як я апошні раз пісаў да цябе. Але за гэты час ніякіх цікавых навінаў і зменаў у маім жыцці не адбылося. Дый наагул, якія змены могуць адбыцца ў табарным «заседжаным» жыцці (ужо тры гады з добрым гакам), так дасканала ведамым табе? Адчуваю, што ўжо невылечна захварэў на тую знямелую хваробу, якой яшчэ ад 1945 года хварэе бальшыня людзей, што міжвольна вымушаны шукаць сабе нейкага месца-прыпынку ў свеце. Няма ратунку ад гэтай хваробы. Трэба жыць, а ў табары вечна жыць немагчыма. А што чакае пасля «выздараўлення»? Пэўна ж, не лепшае, што сустрэла й цябе. І тыя духовыя неспакой і болесць, што не адступаюць ад нас у месцы, дзе ўрэшце мусім спыніцца, мабыць застануцца з намі да дзён скону нашага. «Каб жа вярнуцца…» — штодня ўспамінаюцца твае словы ў лісце да Янкі Грыневіча. Але ж, адкінуўшы самападман, даводзіцца казаць самому сабе: гэтае светлае летуценне збудзецца, мабыць, тады, калі нашы бароды адрастуць да самых пятаў і калі дзецям маім у выніку непахісных законаў жыцця бацькаўшчынай будзе тое месца, у якім яны вырастуць і стануць на собскія ногі. Якім адданым немцам ні быў барон фон Энгельгарт[83], але ўсё роўна да самай смерці бацькаўшчынай для яго заставалася беларускае Наддзвінне, дзе ён нарадзіўся, узрос і дзе прайшла ягоная маладосць. Аб гэтым ён не раз сцвярджаў у самыя апошнія дні свайго жыцця. Або ўзяць мастака П. Мірановіча[84], які жыве цяпер у Глязэнбаху. Ён кажа: «Радзіма маіх бацькоў — мая радзіма, я кахаю яе, але нічога не хацеў бы, толькі каб вярнуцца ў маю любую Рыгу…»

Вялікага выбару на шляху да «выздараўлення» я не маю: гэтымі днямі запісаўся на выезд у Аўстралію. Гэтая краіна бярэ з Аўстрыі 30 000 перасяленцаў. Выехаць вельмі лёгка, праўда, не ўсім, як, прыкладам, палякам і расейцам, бо ў Аўстраліі «гасцююць» польскія і савецкія місіі, што да «апекі» над іхнымі грамадзянамі; латышамі, літоўцамі, эстонцамі і ўкраінцамі (дадам ад сябе — і беларусамі) «апекавацца» там не дазволена. Выеду і я, калі прыме мяне аўстралійскі консул (кажу «калі прыме», бо пра беларускую нацыю тутэйшая аўстралійская эміграцыйная місія нічога не ведае, пад тэрмінамі Bielorussie і White-Russian разумее белрасейцаў, на тэрмін Whiteruthenia кажа, што гэта тое самае, на брашуркі «Bielorussie» і «Whiteruthenia» не хоча й глядзець. Хай жа Абрамчыку[85] добра ікнецца ад прапагандаваных ім Bielorussiene і Bielorussian — калі адмаўляе фікцыю БССР, хай адначасна змагаецца і з пушчаным бальшавікамі ў свет тэрмінамі «bielorussisch», «bielorussienne», «byelorussian» і г. д.

На прыгаданыя кагадзе словы хацелася дапаўняць, напамінаць і даводзіць: не ўспомненых Абрамчыкам «адсталых джэнтльменаў», а ўсіх чысценька і ўсюды збіваюць з панталыку тыя «russisch», «russienne», «russian». Пэўна ж, як даводзіў дзядька Антон, было б найлепш: «Bieloruthenisch», «bieloruthenienne», « bieloruthenian»…

Чым жа яшчэ пацешыць цябе з «дыпіўскага» свету? Можа, палітыкай? Эмігранты ж без палітыкі жыць не могуць — ты гэта добра ведаеш. Спяшаюся паведаміць, што і мяне, як Ю. Віцьбіча, пачынаюць прывабліваць гэтак званыя зарубежнікі. Цяпер я сімпатызую ім больш, чымся «крывічам». Не падабаецца мне «крывіцкая» тактыка — вельмі ж адштурхоўвальная яна. Нашы «славутыя палітыкі», што жылі і ўзгадоўваліся ў «дэмакратычнай» Польшчы, думаюць больш таталітарнымі катэгорыямі, чымся былыя савецкія «палітрукі». Яны, «палітыкі», самі не заўважаюць гэтага. Яны навет думаюць, што яны — найвялікшыя ў свеце і самыя ідэальныя дэмакраты. Няхай сабе думаюць, але беларуса таталітарызмам больш не прывабяць. Ён пойдзе не толькі з Астроўскім[86], але і з чортам лысым, калі той, «перабудаваўшыся», пачне больш «дэмакратычна» віляць хвастом…

Ці даходзіць да цябе «Бацькаўшчына»? Ці чытаеш яе? Дзядзьку Антона знялі з рэдактарства за «незразумеласць» газеты «для масы, для народа». Пасадзілі на ягонае месца д-ра Ст. Ст.[87]. Спачатку доктар у ролі бабы Тэклі выліваў памыі на балонкі «Бацькаўшчыны», а цяперака зусім ужо задзірае спадніцу і паказвае адпаведнае месца…

І яшчэ спяшаюся паведаміць аб сваіх «поспехах» у нашым грамадскім жыцці: 1-шы «сусветны» з'езд беларускай эміграцыі параўноўваю са стварэннем магістрата ў савецкім сектары Берліна.

Не падай духам, дружа, трымайся!

Прывітанне ад усіх нас, моцна цісну руку — Алесь Салавей.

АЛЯКСЕЮ ГРЫЦУКУ

*1 сакавіка 1949 года*

Дарагі Аляксей!

Твой ліст я атрымаў 16 лютага. У гэты час якраз пачаў вырашацца мой лёс што да Аўстраліі. І я не адпісваў табе адразу, чакаў канчальнага вырашэння «аўстралійскай справы». У першых чыслах лютага я праходзіў камісію што да выезду на плантацыі цукровых буракоў у Канаду. Быў адкінуты. І «writer»[88] напісана ў паперы са скрынінгу[89], і пары зубоў не стае, і рукі «жаноцкія», і мазалёў няма на далонях, і невычарпальным быў мой адказ на пытанне, як трэба даіць карову. Цяперака з Канады прыехалі нейкія дурні — усё гэта бяруць пад увагу, стаўляюць «тавар» у шарэнгі, загадваюць маршыраваць; хто ідзе ўразвалку, як Мішка (можа, прыпамінаеш яго?), на таго кажуць: «All right»[90], хто ж ідзе лёгка і роўна, таго адкідаюць са словамі, што спартсменаў яны не патрабуюць. А вось што да ЗША, дык нядаўна праходзіў камісію нейкі малады доктар філасофіі — на ананімную аплікацыю ад аднае грамадскай арганізацыі. Консул спытаўся ў доктара, што той можа рабіць па-за сваім фахам, і доктар адказаў: «Магу быць шафёрам». «Шафёраў мы не патрабуем», — зазначыў консул. «Магу быць электраманцёрам». Консул пакрывіўся на гэта. «Магу быць крэсавальнікам — чертежніком». Консул яшчэ больш скрывіўся. «Я аматар боксу, магу быць баксёрам!» «All right! — узрадавана ўскрыкнуў консул, — мы патрабуем такіх людзей!» І ўзбуджана прыбіў штэмпель да візы.

Аўстраліец жа на маё writer сказаў: «That' s capital»[91] і спытаўся толькі, ці згодзен я выконваць розную фізічную працу, якая будзе адпавядаць маім сілам. Наагул жа хацеў мяне адкінуць, бо ў ягоных інструкцыях што да набору ДП у Аўстралію пра нашу нацыянальнасць няма ўпаміну. Ён згаджаўся, што гэткая нацыя існуе на свеце, у рэшце рэштаў паверыў брашурцы «Whiteruthenia»[92] і розным картам. Але прасіў зразумець, што ён не можа абмінуць дадзеных яму інструкцыяў… Выручыла, мабыць, цверджанне, што «balt» і «white» — адно і тое, і схіліла яго на думку залічыць мяне да балтаў… Словам, я прыняты да выезду і падпісаў кантракт (2 гады). Выеду, хутчэй за ўсё, у пачатку траўня. Спадзяюся яшчэ атрымаць ад цябе ліст са старога месца і ліст з новым адрасам.

Што да інтэлігенцыі, дык Аўстралія вельмі рада прымаць яе.

На месца перасяленскай хваробы прыйшла перадвыезная трасца-трасавіца (таксама і ад яе няма ратунку). Доля закідае Бог ведае куды — у дасконнае адзіноцтва, у паховіны таго, чым жыў і жыву, і толькі таму, што няма іншага выйсця.

Ты не зразумеў мяне ў маім апошнім лісце. Я гаварыў толькі аб сімпатыях, а не аб прыналежнасці або намеры прыналежваць. Таксама напісаў падрабязна аб тым, што міжвольна змушае да гэтых сімпатыяў.

У лісце да Я. Грыневіча Вольга Дуброўская[93] перасылае табе найшчырэйшае прывітанне. Таксама просіць, каб паведамілі яе аб тваім новым адрасе. Калі пытаюцца пра адрас, але нічога не пішуць на яго — у падобных выпадках я асабіста адношуся з недаверам да гэтага, тым больш Польшча — не амерыканская зона Аўстрыі.

Ледзь не забыўся напісаць табе, што разам з лістом атрымаў і два даляры. Сардэчна дзякую табе за гэта.

Што піша Барыс? Як там у Таронта будуецца Беларусь? Нішто так не адштурхоўвае мяне на эміграцыі, як наша радзімая «беларуская справа». «Наш долг — активно отстаивать в творческой работе принцип партийности литературы», — піша, падлізваючыся, Максім Танк у «Литературной газете». Не інакш пішуць і на эміграцыі нашы «крытыкі» тыпу Тамашчыка[94]. З падобным можна спаткацца не толькі ў выказваннях аб літаратуры, але і ў выказваннях аб «справе» (тут, зразумела, у першую чаргу, бо «справа» без партыі жыць не можа, як і партыя без «справы» — кажучы словамі «-чыкаў і К»). Прабач мне, калі ласка, часам з'яўляецца жаданне пакпіць з таго, што падносіцца ў нашай прэсе.

Прывітанне ад Міхаські, Ганускі й Зіны.

Цісну руку — Алесь Салавей.

МАСЕЮ СЯДНЁВУ

*6 сакавіка 1949 года*

Дарагі Масей!

Паведамляю, што я ўжо ў дарозе на Аўстралію, г. зн. прыняты да выезду. Мае надзеі перабрацца ў Нямеччыну яшчэ летась не здзейсніліся, а таму чакаць на нешта іншае, больш «звабліваe», няма дзе. Шляхі нашы, здаецца, разыходзяцца, і ніколі ўжо, мабыць, не пабачымся. Ад гэтага найбольшы цяжар на сэрцы. Усё іншае ўжо не даходзіць да яго. Бацькаўшчына — не за ейным парогам. Праўда, і тутака свецяць тыя ж зоры, што і над тым месцам, дзе даводзілася «шпурляць каменьчыкі ў месяц», і тутака тое ж сіняе неба. Але няма пад імі прытулку і нават трох аршынаў пад імі няма. Гэнае самае «няма» — нячыстая сіла, гоніць Бог ведае куды, пад іншае неба (а тут ужо й паэзія безнадзейна невылечнаму, хвораму на яе), пад «пурпуровых ветразяў узвівы»[95], гоніць туды, дзе «ад нязнаных водаў нязнаныя ўзыходзяць зоры…». А па-за гэтым, у рэшце рэштаў, якая розніца для бяздомнага чалавека — тысяча ці колькінаццаць тысячаў кіламетраў?

«Праходны двор паміж Масквою і Варшаваю»[96] гэткім і застанецца. Будуць унукі майго брата казаць «хорошо» заміж «добра» і будуць таптаць сцежкі-дарожкі ў неабдымных Сібірах. Ну, а мае ўнукі будуць казаць «all right» і пот праліваць у джунглях аўстралійскіх… «Какая разница, не всё ль равно?»

Перад ад'ездам рознае лезе ў галаву — і ўсур'ёз, і неўсур'ёз. Аднаго шчыра жадаў бы: каб не спаткацца больш са свалатой, што «дыцыдуе», са смуродам, што «тоже дицидирует», — каб яны ўсе падохлі! Буду імкнуцца туды, дзе менш людзей, дзе больш адзіноцтва, каб ніхто не перашкаджаў хоць у собскай душы будаваць маю Бацькаўшчыну — таксама з небам сваім, з зорамі сваімі, і жыць для яе, і ў рэшце рэштаў — цярпець для яе, таксама хай і памерці для яе. І яна будзе жыць разам з душой, у душы збудаваная.

Заўчора атрымаў ад Ю. Віцьбіча пасмяротнае выданне твораў Хв. Ільяшэвіча, а таксама «праграму» нейкае «партыі». Перадай ад мяне Ю. Віцьбічу шчырую падзяку, у першую чаргу — за творы Хв. Ільяшэвіча. Ці выдаецца далей «Беларускае слова»[97]? Апошні нумар, што я атрымаў, — 3 (4).

Цяперака ў мяне няма ніводнага паасобніка «Сілы гневу». Днямі павінен атрымаць рэшту, што пасылаецца мне праз Лондан. Як толькі атрымаю — пашлю зборнік для Леаніда Палтавы. Калі не паспею атрымаць, — напішу ў выдавецтва, каб яно само выслала на твой адрас.

Выеду або праз два-тры тыдні, або ў пачатку траўня.

Прывітанне Ю. Віцьбічу і ягонай сям'і.

Бывай!

Моцна цісну руку тваю, назаўсёды табе адданы — Алесь Салавей.

АЛЯКСЕЮ ГРЫЦУКУ

*20 сакавіка 1949 года*

Дарагі Аляксей!

Сяння атрымаў твой ліст з двума далярамі, за што сардэчна дзякую. Таксама ўсцешыла мяне й фатаграфія — і за яе дзякуй. Выглядаеш нядрэнна, але сам фон — глыбокі снег і лес — вельмі нагадвае катаргу, страту непаўторнае Белавежы. Я ніколі не быў у Белавежскай пушчы, але мне здаецца, што чую яе гоман, імкнуся да яе душой, мабыць, так, як і ты: я — ад бясконцага шляху ў Аўстралію, ты — з аснежаных лясоў Канады…

Спяшаюся адпісаць, каб ліст застаў цябе яшчэ ў Pine Postage[98]. Выеду ў канцы гэтага або ў пачатку наступнага месяца, словам, праз тыдзень-два. З далёкага свету буду пісаць табе на адрас Я. Пітушкі. Спадзяюся, што лучнасць нашая не перарвецца.

Аўстралія найбольш цікавіць мяне з паэтычнага боку, і толькі гэтым цешу самога сябе, зусім не верачы ў тое, што буду там чалавекам. Наагул, я не нарадзіўся для выбіцця ў людзі. Затое ад звычайных словаў А. Адамовіча — «новы свет, новае неба й зоры» — усцешыўся, як малое дзіця. Між іншага, Адамовіч таксама збіраецца выязджаць у Аўстралію, едуць туды Качан[99], Снежка, Кунцэвіч[100] і шмат іншых добрых хлопцаў з Нямеччыны. Сімпатычныя і самі аўстралійскія прадстаўнікі: глядзяць на нас як на людзей, а не як на жывёлу. Мяне, разам з іншым, цешыць і тое, што я не залежны ні ад якіх пэрмітаў і ўсялякіх іншых шмітаў і ад людзей, пры пасярэдніцтве якіх мог бы іх атрымаць. У Аўстраліі пры пяройсці лекарскіх агледзінаў правяраецца сіла кожнага новапрыбылага, слабейшых на цяжкія працы не пасылаюць. І наагул, там тэмп працы, паводле лістоў адтуль, — як мокрае гарыць. Там не такая інтэнсіўная праца, як у ЗША. Розумаў[101] кажа: «Мой девиз — мало работать, хорошо кушать». І я далучаюся да ягоных словаў, але далёкі шлях ад Бацькаўшчыны, хоць Бацькаўшчыну можна будаваць і ў собскай душы, наводзіць на сумныя думкі.

Крыху падвучыў ангельскую мову. На сяняшні дзень ведаю 1460 словаў (73 балонкі ў запісной кніжачцы — па 20 словаў на кожнай — усё гэта ведаю, вывучаў іх 80 дзён, пачынаючы ад 31 снежня, у аўтобусе, на службе, усюды). І граматыку крыху падвучыў. Цяперака тут, у Leerer Kaserne, ламлю язык з людзьмі, што гавораць па-ангельску. Нічога не выходзіць, але надзеі не трачу. У Аўстраліі, у ангельскім моўным акружэнні, нідзе не дзенуся. Найцяжэй вымавіць тое «the». Глухое «th» у слове «thick»[102] так-сяк выходзіць, а звонкае, прыкладам, у слове «that»[103] — ніяк мне не даецца. Або — «ng»… Так, заднюю частку языка я ставіў у палажэнне пры «к» і «г», кончык жа ягоны трымаў знізу, прапускаў паветра не праз рот, а праз нос — усё роўна нічога лепшага. Як «g» у віленчаніна, не выходзіць…

Айцец Віктар служыць цяпер у «русской церкви» ў Глязэнбаху. Круціць носам, са мной не жадае гаварыць. Ён таксама хацеў выехаць у Аўстралію, але лекар адкінуў яго з прычыны «хваробы на хваробу». Лекар, аднак, абяцаў прыняць у далейшым, як толькі мінецца тая «хвароба».

Усе выязджаюць. Хутка застануцца толькі Гэльбрун і Парш з аднымі вугорцамі.

Моцна цісну руку тваю. Прывітанне ад усіх нас — Алесь Салавей.

АЛЯКСЕЮ ГРЫЦУКУ

*24 лістапада 1949, Адэлаіда*

Дарагі дружа Аляксей!

Бяруся за гэты ліст са страхам перад табою: пэўна ж, ці раз ты лаяў мяне за адыйсце на «вечны супакой». 9 снежня споўніцца шэсць месяцаў майго жыцця ў Аўстраліі, а я яшчэ ні слова табе не напісаў. У Аўстрыі быў я ў бядзе (няшчасны ДП!), атрымліваў ад цябе дапамогу з Канады. У Аўстраліі ж «разбагацеў» («new australian»[104]) і замоўк навекі — сябры, ведама ж, толькі ў горы… Дзеля Бога, не падумай гэтак, як пішу. Прычына майго даўгога маўчання зусім не ў гэтым. (Прычыны, казаў той, заўсёды знойдуцца, таму абмяжуюся парай словаў: толькі апошнім часам агоўтаўся і магу што-небудзь пісаць.)

Працую пры аўстралійскім войску ў месце Adelaide (ад самага пачатку — з 30 чэрвеня). Adelaide is the capital of sauth Australia[105]. Праца мая вельмі лёгкая. Што менавіта раблю — я й сам не ведаю (у гэтым дачыненні мне, як гультаю, вельмі пашанцавала, навет шкадую, што пры войску няма овертаймаў[106] — у Аўстраліі толькі саракагадзінны рабочы тыдзень). Зарабляў напачатку 6 фунтаў 2 шыл. за тыдзень (ад вылічэнняў за ўтрыманне мяне й сям'і бадай нічога не заставалася; каб жыў разам з сям'ёй, то праядаў бы ўтрая менш і былі б больш сытымі). Ад 1 жніўня зарабляў 6 фунтаў 18 шыл. Ад 20 лістапада буду ўжо зарабляць 7 фунтаў 4 шыл. і 10 пенсаў на тыдзень. Напачатку мая сям'я жыла за 680 міляў ад мяне і знаходзілася ў найжахлівейшых умовах. Цяперака жыве бліжэй — за 26 міляў (меў ці мала клопату, пакуль яе туды перацягнуў). Бачуся з сям'ёй пераважна два-тры разы на месяц (ездзіць часцей — і заашчаджанняў маіх не выстарчыць). Сям'я жыве на ўсім гатовым (у сямейных табарах у Аўстраліі інакш жыць не дазваляецца), а таму й заробак мой ляціць, як у прадонне.

Напачатку я нічога не меў у Новым Свеце. Цяперака стаўся собснікам зямлі ў Адэлаідзе за 67 фунтаў (18 метраў ушыркі і каля 50-ці ўдоўжкі, правільней — 60 футаў на 150). За собскасць выплаціў ужо 13 фунтаў. Рэшту запазычанасці мушу пакрыць да 3 снежня 1950 года. Адзінае, што я магу цяпер з вялікай цяжкасцяй заашчадзіць, — гэта пакрыццё запазычанасці за зямлю. А гэная зямля — няўхільная патрэба. Як скончыцца кантракт, хоць будзе дзе паставіць шатро, каб сям'я не апынулася пад адкрытым небам.

Адэлаіда — самая найлепшая мясціна ў Аўстраліі паводле клімату. Нашыя беларусы, што ўжо канчаюць кантракт, маняцца перабрацца сюды. Мяне раней палохала «дзевяцімесячная» гарачыня ў Паўдзённай Аўстраліі, але ўжо жыву тут пяць месяцаў і гарачыні яшчэ не бачыў. Ужо вясна, навет канец вясны (са снежня пачынаецца лета), а ўдзень працую ў марынарцы. Ноччу ж — мерзну пад чатырма салдацкімі коўдрамі ў бараку. Улетку, апавядаюць, хоць і пячэ сонца, але ад прахалоднага ветру ў полі халаднавата.

Пішы мне, дарагі дружа, і не гневайся за маё маўчанне. Якія ў цябе навіны і наагул што ў цябе чуваць? Здаецца, вы пачынаеце выдаваць друкаваную газету ў Канадзе і збіраецеся будаваць Беларускі Дом? Віншую! У гэтым дачыненні ў Канадзе шмат лягчэй, чымся ў Аўстраліі.

Паведамі мне, калі ласка, адрас Міколы Ганька. Перадай найсардэчнае прывітанне Б. Аляксандраву[107]. Напішу яму неўзабаве. Прывітанне ўсім сябрам.

Цалуюць цябе Міхаська й Ганускa, моцна цісну руку тваю.

Твой сябра — Алесь Салавей.

АЛЯКСЕЮ ГРЫЦУКУ

*24 сакавіка 1952 года*

Дарагі Аляксей!

Вельмі рады твайму лісту, дзякую за добрую памяць.

Гады прамінулі — маеш рацыю, але «надежды наши не сбылись»[108]. Дзякаваць Богу, што яшчэ хоць лістамі можам сябе пацешыць.

Шмат зменаў у маім жыцці адбылося апошнім часам. Цікавага — мала, няўцешнага — «поўныя рэзгіны», як пісала, здаецца, Арсеннева… Крыху пісаў (дзякаваць Богу, яшчэ да Станкевічавага «натхнення» ў «Бацькаўшчыне»). Напісаў драму «Я хачу жыць», новыя раздзелы з аповесці «Пад нагамі гарыць зямля», пачатай яшчэ ў Зальцбургу; закончыў зборнік вершаў «Несмяротнасць» (актавы, санеты і александрыйскі верш). Гэта ўжо другі ненадрукаваны зборнік, бо маёй кнігі «Вянкі» так і не здолеў выдаць А. Адамовіч у Нямеччыне; ну і канчаю, здаецца, досыць вялікую паэму «Надзея», просіцца на пяро новая драма (напаўфантастычная) «На Захадзе навальніца», за галоўных герояў якое — ажно два прэзідэнты аднае неіснаванае дзяржавы.

А ў «рэзгінах»? Канец кантракту й выйсце з табару пад адчыненае неба змусілі былі мяне восем месяцаў таму падацца з вельмі прыхільнай паводле клімату Паўдзённай Аўстраліі ў сырую і парную Вікторыю (толькі тут можна было купіць крыху дрэва й дошак), збудаваць частку дому на паперы, а ў рэчаіснасці — сабачую будку і пасяліцца ў ёй. Па будцы ходзіць вецер і гасіць святло газніцы, і дождж заходзіць у «хату» ў «госці»: яшчэ не забітыя зашчыткі пад «страхою». Да нутранога абіцця будкі і да вады, можа, дараблюся ў наступным годзе, да ложкаў, сталоў і крэслаў — у пазанаступным (пагоня за далярамі, фунтамі і дамамі).

Жыву не ў асаблівай пашане сярод тутэйшага грамадзянства. Ты ж сам добра ведаеш, што неактыўнае адведванне нарадаў і сходаў, ухіленне ад жыцця грамадзянскіх арганізацыяў (розных «цоб-цобэ» ці Ц. О. Б. — Ц. А. Б. Э.), незахапляльны погляд на ролю і важнасць «справы» — гэта ўжо ледзь не здрада Бацькаўшчыне. Часта даводзіцца ўспамінаць цябе, адзінага, бадай, знанага мной дагэтуль грамадскага дзеяча — чалавека, перад якім можна было выказваць супрацьлежныя яму погляды, не псуючы пры гэтым сяброўскіх узаемадачыненняў.

Ці «адшылі» крыху дуракаватага Хм.[109] ад вашай прэсы? Калі б там «заварочваў» наш Ганько — варта было б пасылаць пад ягонае адміністратарства што-небудзь у кожны нумар. Можа, і друкаваў бы паводле старога знаёмства? Вось жа, асцерагаючыся паўторна «закаласіцца» ў «Калоссі», тым часам абмяжоўваюся «актуальным» паўвершам-паўэпіграмай.

«Дадаткі» да ліста адначасна пасылаюцца.

Якія ведамкі мелі вы што да мяне?

Прывітанне Барысу О. і М. Ганько.

Прывітанне табе ад мяне і мае сям’і (усе, казаў той, жывы і здаровы).

Моцна цісну руку тваю — Алесь Салавей.

АЛЯКСЕЮ ГРЫЦУКУ

*27 верасня 1952 года*

Даражэнькі Аляксей!

І гэтым разам сталася так, што не адразу адпісваю. Ветліва прашу прабачыць за гэта.

Аўтарскі паасобнік «Беларускага эмігранта»[110], высланы праз паветраную пошту, атрымаў. Шчыра дзякую. Вершы надрукаваныя старанна, але з апушчэннем «зы» не пагаджаюся. Пры неўсталяванасці правапісу пісьменнік мае большае права на напісанне гэтага, чымся рэдактар на выпраўленне.

Тваё здзіўленне што да напісанага мною крыху завялікае. Вось узяўся за паэму «Надзея», каб паслаць яе табе (уступ да яе ў «Бацькаўшчыне» скамечаны). Шмат чаго выкінулася і нямала дапісалася. З трох друкаваных аркушаў выйшла чатыры — і я зноў паклаў паэму на адлежванне. Тое самае чакае і рэшту напісанага (трынаццаць вершаў з «Несмяротнасці» выкінуў, а на іхняе месца, каб кніжка засталася кніжкаю, трэба напісаць іншыя).

Адзін друкаваны аркуш — 16 балонак. Ёсць, зразумела, аркушы і большыя, і меншыя — што да памеру балонкаў (лік жа 16 бал. у адным друкаваным аркушы застаецца незыначаным). Я разлічваю толькі на такі памер балонкі, як у зборніку «Сіла гневу». На гэткай балонцы месціцца 7 строфаў (паэма «Надзея» ў цяперашнім выглядзе мае 430 строфаў — гэта й зойме 62 балонкі плюс дзве балонкі на тытул). Друкаванне вершаў у газеце патрабуе менш паперы, чымся ў кніжцы (у кніжцы — больш пустога месца, чымся запоўненага). Уступных словаў у сваіх кніжках я не люблю. Найлепш надрукаваць паэму ў газеце (спадзяюся цяпер паслаць яе праз месяцы два-тры) — за набор заплоціць рэдакцыя, як за матэрыял для газеты. Гэты ж, ужо дармовы, набор можна будзе выкарыстаць і для кніжкі, і табе, як ейнаму выдаўцу, танней абышлося б. (Думаю, што надрукаванне двух-трох урыўкаў з паэмы ў «Бацькаўшчыне» не пашкодзіць гэтым планам.) А пазней, пасля паэмы, пабачылі б, ці ёсць сэнс выдаць яшчэ што-небудзь.

Верш «Астры» належыць пяру Алеся[111]. М. Багдановіч пераклаў яго ў беларускую мову.

Найпаўнейшае выданне, якое можаш дастаць на эміграцыі: Максім Багдановіч. Выбраныя творы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1946. Гэтую кніжку мае тут М. Нікан[112] (ягоны адрас ведае В. Жук-Грышкевіч[113]).

Шчырае прывітанне ад мяне і сям’і.

Алесь Салавей.

# ЗАЎВАГІ

[1] *Сяднёў Масей* (1913–2001) — беларускі паэт, празаік і перакладчык. Студэнтам Менскага педагагічнага інстытута (1936) быў арыштаваны і высланы ў лагер на Калыме. Праз чатыры гады прывезены на перагляд справы ў Менск. Падчас Другой сусветнай вайны працаваў у рэдакцыі газеты «Новая дарога» (Беласток). З 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў на радыё «Свабода», выкладаў у Індыянскім універсітэце (ЗША). У 1990-я гг. неаднаразова прыязджаў у Беларусь.

[2] *«Наша рэдакцыя…»* Маецца на ўвазе рэдакцыя беларускага часопіса «Новы шлях», які выходзіў у Рызе ў 1942–1944 гг.

[3] *Сядура Уладзімір* (літ. псеўданім *Глыбінны*; 1910–1997) — беларускі пісьменнік і журналіст, галоўны рэдактар «Новага шляху». З 1944 г. — на эміграцыі; жыў у ЗША, працаваў ва універсітэце Трой (Нью-Ёрк).

[4] *Шырокаў Пятро* (літ. псеўданім *Тодар Лебяда*; 1914–1970) — беларускі паэт і драматург. Падчас Другой сусветнай вайны жыў у Віцебску, рэдагаваў газету «Беларускае слова». У 1947 г. быў асуджаны савецкім ваенным трыбуналам на 25 гадоў няволі. Вызваліўся ў 1956 г.

[5] *Байран Джорж Гордан* (1788–1824) — англійскі паэт і драматург.

[6] *«Калі грымяць гарматы, дык музы маўчаць».* У арыгінале: *Inter arma silent Musae*. Выслоўе паходзіць ад выказвання Марка Юлія Цыцэрона: «*Inter anna silent leges» («Калі грыміць зброя, законы маўчаць»)*.

[7] Цытата з верша М. Багдановіча «Тэрцыны»: «*Ёсць чары у мінулым, старадаўным; / Прыемна нам сталеццяў пыл страхнуць, / Пажыць мінулым, — гэткім мудрым, слаўным*».

[8] *Багдановіч Максім* (1891–1917) — беларускі паэт, крытык і перакладчык. Моцна паўплываў на фармаванне паэтычнай натуры А. Салаўя.

[9] Цытата з апавядання М. Багдановіча «Апокрыф» (1913).

[10] «*Новая дарога*» — беларуская газета; выходзіла ў Беластоку пад рэдакцыяй Хв. Ільяшэвіча. За перыяд з 1942 да 1944 г. выйшла больш за сто нумароў.

[11] *«Маё гарачае прывітанне Янку Богдану».* У часопісе «Новы шлях» зрэдку друкаваліся вершы Янкі Богдана; асобу аўтара высветліць не ўдалося.

[12] *«Альбо для часопіса "Узвышша"»* Часопіс з такой назвай у 1944 г. меркавала выдаваць у Менску Беларускае культурнае згуртаванне. Паводле неўдакладненай інфармацыі, першы нумар паспеў выйсці з друку.

[13] Маецца на ўвазе зборнік «Мае песні», які выйшаў у менскім «Выдавецтве падручнікаў і літаратуры для моладзі» ў 1944 г.

[14] *Сівіца Ёзаф* — кіраўнік Школьнага інспектарата і «Выдавецтва падручнікаў і літаратуры для моладзі», якія дзейнічалі ў Менску падчас Другой сусветнай вайны.

[15] *Езавітаў Кастусь* (1893–1946) — беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, сакратар ваенных спраў у першым урадзе БНР (1918), генерал-маёр (1920). Узначальваў галоўную ваенную ўправу Беларускай Цэнтральнай Рады (1944). У 1945 г. арыштаваны савецкімі спецслужбамі ў Нямеччыне. Памёр пасля катаванняў у менскай турме.

[16] *«Крытык Дуброва» — Плашчынскі Ізыдар* (1908–1986), беларускі крытык і літаратуразнавец. Падчас вайны працаваў акторам у Менскім гарадскім тэатры. Эміграваў у 1944 г., жыў у ЗША пад імем Язэп Гуткоўскі. Брат паэта Язэпа Пушчы.

[17] *Крывічанін Лявон* (сапр. *Савёнак*; 1897–1974) — беларускі журналіст і пісьменнік. Падчас Другой сусветнай вайны жыў у Менску, друкаваўся ў «Беларускай газэце». Пасля вайны жыў у Нямеччыне і ЗША. Найбольш поўнае выданне твораў: «Беларусізацыя пад № …» (Нью-Ёрк, БІНіМ, 1998).

[18] «Беларуская газэта» выдавалася ў 1941–1944 гг. у Менску і распаўсюджвалася на тэрыторыі Генеральнай акругі Беларусь.

[19] *Дудзіцкі Уладзімір* (сапр. *Гуцька*; 1911—?) — беларускі паэт і культурны дзеяч. Падчас Другой сусветнай вайны працаваў у Менскай гарадской управе, узначальваў аддзел прапаганды Беларускай краёвай абароны. З 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Венесуэле, Нямеччыне, ЗША. У 1950-я гг. быў галоўным рэдактарам беларускай службы радыё «Свабода».

[20] *Віцьбіч Юрка* (сапр. *Шчарбакоў*; 1905–1975) — беларускі пісьменнік і грамадска-культурны дзеяч. Падчас вайны жыў у Менску, быў ініцыятарам аднаўлення літаб'яднання «Узвышша». У 1944 г. эміграваў. У Нямеччыне ўдзельнічаў у стварэнні літаб'яднання «Шыпшына», рэдагаваў праваслаўны часопіс «Зьвіняць званы старой Сафіі».

[21] *Беларускае культурнае згуртаванне* — культурна-асветная арганізацыя, якая ад 1944 г. дзейнічала пры Беларускай Цэнтральнай Радзе.

[22] *Цютчаў Фёдар Іванавіч* (1803–1873) — расійскі паэт і дзяржаўны дзеяч.

[23] *Арсеннева Наталля* (1903–1997) — беларуская паэтка. Выпускніца Віленскай беларускай гімназіі. У 1940–1941 гг. знаходзілася ў высылцы ў Казахстане. Пазней жыла ў Менску, працавала ў «Беларускай газэце». У 1944 г. пакінула Беларусь, жыла ў ЗША. Найбольш поўнае выданне: «Выбраныя творы» (2002, серыя «Беларускі кнігазбор).

[24] *Пушкін Аляксандр Сяргеевіч* (1799–1837) — расійскі паэт, празаік і драматург.

[25] *Лермантаў Міхаіл Юр'евіч* (1814–1841) — расійскі паэт і драматург.

[26] *«Славянские ручьи сольются в русском море…»* — цытата з верша А. Пушкіна «Клеветникам России» (1831).

[27] *«Не лукоморьями у дубов зелёных…»* — маецца на ўвазе пачатковы радок паэмы А. Пушкіна «Руслан и Людмила»: «*У Лукоморья дуб зелёный*».

[28] *Шылер Ёган Крыстоф Фрыдрых* (1759–1805) — нямецкі паэт, драматург, тэарэтык мастацтва.

[29] *Гётэ Ёган Вольфганг* (1749–1832) — нямецкі пісьменнік, мысляр, дзяржаўны дзеяч.

[30] *Мальер* (сапр. *Жан Баціст Паклен*; 1622–1673) — французскі драматург, актор і тэатральны дзеяч.

[31] *Фет Афанасій Афанасьевіч* (сапр. *Шэншын*; 1820–1892) — расійскі паэт.

[32] *Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч* (1893–1930) — расійскі паэт і драматург.

[33] «*В последнем вкусе туалетом / Заняв ваш любопытный взгляд…»* — цытата з рамана ў вершах А. Пушкіна «Яўгеній Анегін» (1832).

[34] *Галкоўскі Канстанцін* (1875–1963) — беларускі і літоўскі кампазітар і дырыжор. Народны артыст Літвы (1955). Пісаў музычныя творы на вершы Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка.

[35] «*Когда б вы знали, как ужасно / Томиться жаждою любви…»* — цытата з рамана ў вершах А. Пушкіна «Яўгеній Анегін» (1832).

[36] «*Край наш бедны, край наш родны, / Лес, балота ды пясок…»* — цытата з верша Я. Коласа «Наш родны край» (1906).

[37] *«Ах, ножки, ножки! Где вы ныне? / Где мнете нежные цветы?..»* — цытата з рамана ў вершах А. Пушкіна «Яўгеній Анегін» (1832).

[38] «*На берегу пустынных волн / Стоял он, дум великих полн…»* — цытата з паэмы А. Пушкіна «Медны коннік» (1833).

[39] *Дзямідаў Мікалай* (1888–1967) — беларускі грамадскі і вайсковы дзеяч. Адзін з арганізатараў Беларускага войска (1918), удзельнічаў у Палескім паходзе С. Булак-Балаховіча (1920). У міжваенны перыяд быў паслом Польскага Сойма ад Беластоцкай акругі. Падчас Другой сусветнай вайны настаў-

нічаў у Латгаліі. Эміграваў у 1944 г., жыў у ЗША. Працуючы ў рэдакцыі «Новага шляху» ў Рызе, А. Салавей жыў у кватэры М. Дзямідава.

[40] *Случанін Лявон* (сапр. *Шпакоўскі*; 1914–1995) — беларускі паэт. Выпускнік Менскага педінстытута. Быў рэпрэсаваны. Падчас вайны працаваў у рэдакцыі «Газэты Случчыны». У 1944 г. пакінуў радзіму, аднак быў арыштаваны савецкімі спецслужбамі, прывезены ў Беларусь і асуджаны. Пасля вызвалення жыў у Салігорску.

[41] *Ільяшэвіч Хведар* (1910–1948) — беларускі паэт, журналіст, грамадскі дзеяч. Выпускнік гістарычнага факультэта Віленскага універсітэта. Падчас Другой сусветнай вайны жыў у Беластоку, узначальваў тамтэйшы Беларускі камітэт, рэдагаваў газету «Новая дарога». З 1944 г. — на эміграцыі, жыў у Берліне, пасля — у лагеры Ватэнштэт. Загінуў у аўтамабільнай катастрофе. А. Салавей мог бачыць віленскія зборнікі Хв. Ільяшэвіча «Зорным шляхам» (1932) і «Захварбаваныя вершы» (1936).

[42] *«Друкарня Мамонічаў…»* Кніга Хв. Ільяшэвіча «Drukarnia domu Momoniczow w Wilne (1575–1622)» выйшла ў 1938 г.

[43] «*Калосьсе»* — беларускі літаратурна-навуковы часопіс. Выходзіў у Вільні ў 1935–1939 гг.

[44] *Танк Максім* (сапр. *Яўген Скурко*; 1912–1995) — беларускі пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі (1967–1990), член ЦК Камуністычнай партыі Беларусі (1966–1990), старшыня Вярхоўнага Савета БССР (1963–1971). Народны паэт Беларусі (1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Сталінскай (1948) і Ленінскай (1978) прэмій, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы (1966).

[45] *Машара Міхась* (1902–1976) — беларускі паэт, актывіст нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі.

[46] *Іверс Анатоль* (сапр. *Іван Міско*; 1912–1999) — беларускі паэт і ўдзельнік нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі.

[47] *Васілёк Міхась* (сапр. *Касцевіч*; 1905–1960) — беларускі паэт. Падчас Другой сусветнай вайны жыў на акупаванай тэрыторыі, падпольна ўдзельнічаў у антыфашысцкім руху.

[48] *Хмара Сяргей* (сапр. *Сіняк*; 1905–1992) — беларускі паэт, выдавец, грамадскі дзеяч. Падчас Другой сусветнай вайны рэдагаваў газету «Слонімскі кур'ер». Пакінуў Беларусь у 1944 г. Жыў у Канадзе, выдаваў газету «Беларускі голас» і часопіс «Баявая ўскалось».

[49] *Станкевіч Станіслаў* (1886–1964) — беларускі выдавец і паэт. З 1926 г. трымаў у Вільні ўласную кнігарню.

[50] *Лявон Бушмар* — герой аднайменнай аповесці Кузьмы Чорнага; тут у значэнні: адзінаасобнік.

[51] *Будзька Часлаў* (1913–1985) — беларускі грамадскі дзеяч і педагог. Выпускнік гуманістычнага факультэта Віленскага універсітэта. Падчас Другой сусветнай вайны жыў у Нямеччыне, пасля — у Вялікай Брытаніі і ЗША.

[52] «*Раніца»* — беларуская газета, выходзіла ў 1939–1945 гг. у Берліне.

[53] «*Такія дактары вымуць душу без пары*» — сатырычны верш К. Крапівы, напісаны ў 1923 г.

[54] «*Шыпшына*» — беларускі літаратурны часопіс; выдаваўся ў лагеры Міхельсдорф (1946–1948) пад рэдакцыяй Ю. Віцьбіча.

[55] «*Пагоня*» — беларускі літаратурна-мастацкі часопіс; выдаваўся ў Зальцбургу (1945–1946) рэдкалегіяй у складзе А. Грыцука, У. Дудзіцкага, А. Салаўя.

[56] «*З беларускага жыцця*» — газета, якую выдавалі беларускія эмігранты ў Зальцбургу (1946–1947).

[57] *Грыцук Аляксей* (1910–1976) — беларускі грамадскі дзеяч, педагог і літаратуразнавец. Выпускнік гістарычнага факультэта Варшаўскага універсітэта. Падчас Другой сусветнай вайны арганізоўваў

беларускія школы на Беласточчыне. З 1948 г. жыў у Канадзе, узначальваў Згуртаванне беларусаў Канады. Абараніў доктарскую дысертацыю па творчасці М. Багдановіча.

[58] *УНРРА* (*UNRRA — United Nations Relief and Rehabilitation Administration*) — Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па дапамозе і аднаўленні. Створаная ў 1943 г. у ЗША прадстаўнікамі 44 краінаў. Дапамагала пацярпелым падчас Другой сусветнай вайны.

[59] *Ганько Мікола* (1924–1999) — беларускі грамадскі дзеяч і публіцыст. Пасля вайны жыў у Зальцбургу, з 1948 г. — у Канадзе, дзе заснаваў і многія гады ўзначальваў Згуртаванне беларусаў. Брат старшыні Саюза беларускай моладзі Міхася Ганько.

[60] *Зізаній Лаўрэнцій* (?—1634) — беларускі асветнік, царкоўны дзеяч, мовавед і педагог. У 1596 г. выдаў у Вільні падручнік «Азбука з Лексісам», куды ўваходзіў старабеларускі слоўнік (1061 слова).

[61] «*Час*» — украінскі часопіс, які выдаваўся ў Зальцбургу.

[62] *Славуціч Яр* (1918—?) — украінскі паэт і выдавец. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Канадзе, перакладаў і выдаваў беларускую паэзію.

[63] *Кавыль Міхась* (сапр. *Язэп Лешчанка*; н. 1915) — беларускі паэт і выдавец. Служыў у Чырвонай Арміі, у 1942 г. трапіў у нямецкі палон. Падчас вайны працаваў у аддзеле прапаганды Генеральнага камісарыяту. З 1944 г. — на эміграцыі, цяпер жыве ў ЗША. Рэдагаваў літаратурна-публіцыстычны часопіс «Беларуская думка» (Саўт-Рывер).

[64] «*Цень Янкі Купалы*» — паэма Масея Сяднёва, датуецца 1947 г.

[65] «*Літаўры*» — украінскі літаратурны часопіс, выдаваўся ў Зальцбургу.

[66] *Шаўчэнка Тарас Рыгоравіч* (1814–1861) — украінскі паэт і мастак.

[67] *Палтава Леанід* (1921–1990) — украінскі паэт і перакладчык. Пасля Другой сусветнай вайны жыў на эміграцыі — у Вялікай Брытаніі і ЗША. Перакладаў беларускіх паэтаў М. Сяднёва, А. Салаўя, А. Вярцінскага.

[68] *Адамовіч Антон* (1909–1998) — беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. У 1930 г. быў арыштаваны НКУС і высланы ў Расію. Праз восем гадоў вярнуўся на радзіму, закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Падчас вайны працаваў у рэдакцыі «Беларускай газэты», у Беларускім навуковым таварыстве, рэферэнтам па справах друку пры Генеральным камісарыяце. У 1947 г. рэдагаваў часопіс «Сакавік», у выдавецтве якога пабачыў свет зборнік А. Салаўя «Сіла гневу».

[69] «*Frohliche Weihnachten*» (ням.) — «Вясёлых Калядаў», назва аднаго з вершаў А. Салаўя; датуецца 1944 г.

[70] *Махатма Гандзі* (сапр. *Махандас Карамчанд*; 1869–1948) — індыйскі грамадска-палітычны дзеяч і мысляр, адзін з лідэраў нацыянальна-вызвольнага руху. Прызваны ў народзе Махатмам, што азначае «вялікая душа».

[71] *Хірахіта* (1901–1989) — імператар Японіі ў 1926–1989 гг.

[72] «*Сакавік*» — часопіс, які выходзіў у лагеры Остэргофен (Нямеччына) пад рэдакцыяй Ант. Адамовіча.

[73] *Бялевіч Антон* (1914–1978) — беларускі паэт. Падчас Другой сусветнай вайны партызаніў. Жыў у Менску.

[74] «*У акіяне ночы*» — зборнік М. Сяднёва, выйшаў у 1947 г. у Мюнхене.

[75] *IRO (International Relief Organization)* — Міжнародная арганізацыя дапамогі бежанцам. Дзейнічала ў 1947–1950 гг. на тэрыторыі Нямеччыны і Аўстрыі.

[76] *Air mail* (англ.) — авіяпошта.

[77] *Губэрт Адольф* (1922–2006) — беларускі грамадскі дзеяч. У Зальцбургу ажаніўся з украінкай Раісай Плужнік. У 1948 г. сям'я Губэртаў выехала ў Аргенціну, у 1959-м перабралася ў ЗША.

[78] *Нікіфараў Віктар* — беларускі святар; жывучы ў лагеры для бежанцаў у Зальцбургу, перайшоў у юрысдыкцыю Расейскай Праваслаўнай Замежнай Царквы.

[79] *Leerer Kaserne* (ням.) — пустая казарма; маецца на ўвазе памяшканне, дзе працавала адборачная камісія.

[80] *Ганулька* — дачка А. Салаўя; нарадзілася ў 1947 г.

[81] *Міхась* — сын А. Салаўя; нарадзіўся ў 1946 г.

[82] *Кадняк Зінаіда* — жонка А. Салаўя.

[83] *Энгельгарт Яўген* (1899–1948) — нямецкі вайсковы дзеяч. Падчас Другой сусветнай вайны ўзначальваў Навагрудскае лясніцтва, службу аховы лесу Налібоцкай пушчы. Аўтар кнігі «Weissruthenian» (1943). Пераклаў на нямецкую мову творы Я. Купалы і М. Багдановіча.

[84] *Міранові́ч Пётра* (1902–1990) — беларускі мастак. Выпускнік Латвійскай акадэміі мастацтваў (1937). Падчас вайны займаўся развіццём беларускага школьніцтва ў Латгаліі. З 1944 г. — на эміграцыі, пазней жыў у ЗША.

[85] *Абрамчык Мікола* (1903–1970) — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1947–1970). Жыў у Францыі.

[86] *Астроўскі Радаслаў* (1887–1976) — беларускі палітычны і грамадскі дзеяч. У 1924–1936 гг. — дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Падчас Другой сусветнай вайны кіраўнік адміністрацыі Бранскай, Магілёўскай і Смаленскай акругаў, з 1943 г. — прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Пасля 1944 г. жыў у Нямеччыне, Аргентыне, Вялікай Брытаніі, ЗША.

[87] *Станкевіч Станіслаў* (1907–1980) — беларускі палітычны і грамадскі дзеяч. Выпускнік Віленскага універсітэта імя Стафана Баторыя. Падчас Другой сусветнай вайны — намеснік прэзідэнта БЦР у Баранавіцкай акрузе. З 1944 г. на эміграцыі. Пачаргова рэдагаваў газеты «Бацькаўшчына» і «Беларус», жыў у ЗША, узначальваў управу Беларуска-Амерыканскага Задзіночання.

[88] *Writer* (англ.) — пісьменнік.

[89] *Скрынінг* (ад англ. *Screening test*) — папярэдняе выпрабаванне.

[90] *All right* (англ.) — усё добра.

[91] *That's capital* (англ.) — гэта выдатна.

[92] *«Паверыў брашурцы "Whiteruthenia"»* Магчыма, маецца на ўвазе выд.: Whiteruthenia (Bielarussia): Outlines of Whiteruthenia and the Whiteruthenian National Moveneent (1947, Нямеччына).

[93] *Дуброўская Вольга* (у замужжы *Грыцук*; н. 1924) — беларуская грамадская дзяячка. З 1958 г. жыве ў Канадзе. Удава старшыні Згуртавання беларусаў Канады Аляксея Грыцука (1910–1976).

[94] *Тамашчык Уладзімір* (1900–1970) — беларускі грамадскі і рэлігійны дзеяч. Выпускнік агранамічнага факультэта Пражскага політэхнічнага інстытута. Падчас Другой сусветнай вайны працаваў намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Новая дарога» (Беласток). З 1944 г. на эміграцыі. У 1949 г. узведзены ў епіскапы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Жыў у ЗША, узначальваў Беларускі інстытут навукі і мастацтва. Загінуў пры нявысветленых абставінах.

[95] *Пітушка Язэп* (1913–1984) — беларускі грамадскі дзеяч. З 1946 г. жыў у Канадзе, тамсама ўзначальваў Беларускае нацыянальнае аб'яднанне, прадстаўляў у гэтай краіне Беларускую Цэнтральную Раду.

[96] «*Пурпуровых ветразяў узвівы*» — паэма У. Дубоўкі; датуецца 1928 г.

[97] «*Праходны двор паміж Масквою і Варшаваю…*» Маецца на ўвазе Беларусь.

[98] «*Беларускае слова*» — беларускі часопіс; выдаваўся ў лагеры Міхельсдорф (1948–1950).

[99] *Pine Postage* (англ.) — магчыма, паселішча ў Канадзе.

[100] *Качан Аркадзь* (1921–1982) — беларускі грамадскі дзеяч. Падчас вайны працаваў сакратаром Глыбоцкага суда, служыў у Беларускай самаахове. З 1950 г. жыў у Аўстраліі.

[101] *Кунцэвіч Анатоль* (1912—?) — беларускі грамадскі і рэлігійны дзеяч. Выпускнік тэалагічнага факультэта Варшаўскага універсітэта, быў высвечаны на святара. З 1949 г. жыў у Аўстраліі.

[102] *Розумаў Кастусь* — прыяцель А. Салаўя па Зальцбургу.

[103] *Thick* (англ.) — густы, поўны.

[104] *That* (англ.) — гэта.

[105] *New australian* (англ.) — новы аўстраліец.

[106] *Adelaide is the capital of sauth Australia* (англ.) — Адэлаіда, сталіца Паўднёвай Аўстраліі.

[107] *Овертайм* (ад англ. *Overtime*) — звыш часу.

[108] *Аляксандраў Барыс* (сапр. *Грыбінскі*; 1921–1979) — украінскі паэт.

[109] «*Надежды наши не сбылись…»* А. Салавей цытуе радок з папулярнай у тыя часы расійскай песні (словы Канстанціна Нікольскага): «*Надежды наши не сбылись / И мы не встретились случайно, / Надежды наши не сбылись, / И не надежны обещанья…»*.

[110] Відаць, маецца на ўвазе Сяргей Хмара.

[111] «*Беларускі эмігрант*» — беларуская газета; выдавалася ў Канадзе (1948–1951).

[112] *Олесь Аляксандр* (сапр. *Кандыба*; 1878–1944) — украінскі паэт.

[113] *Нікан Мікола* (1908–1999) — беларускі грамадскі дзеяч і педагог. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны быў арыштаваны НКУС і высланы ў Варкуту. Служыў у арміі генерала Андэрса (1942–1944). З 1952 г. жыў у Аўстраліі.

[114] *Жук-Грышкевіч Вінцэнт* (1903–1989) — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, навуковец. Старшыня Рады БНР (1970–1982), кіраўнік Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады. У Атаўскім універсітэце абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Лірыка Янкі Купалы».

*Прадмова, публікацыя і заўвагі Міхася СКОБЛЫ*

# НЕОКОНЧЕННАЯ ИСТОРИЯ ОДНОГО ПЛАГИАТА

Через два года исполнится 100 лет со дня рождения крупнейшего белорусского физика, академика АН Беларуси, доктора физико-математических наук, профессора Федора Ивановича Федорова. После его смерти прошло уже пятнадцать лет, однако, в отличие от многих других заслуженных людей нашей страны, его имя и в наше непростое время не оказалось забытым. Так, благодаря стараниям его многочисленных учеников, Белорусским государственным университетом в серии «Memoria et Gloria» был прекрасно издан посвященный ему специальный сборник[1].

В этом издании нашел отражение один из весьма необычных эпизодов не только творческой жизни самого Федорова, но и науки вообще[2]. Речь идет о чрезвычайно обширном плагиате ряда его трудов, совершенном в конце 1970 — начале 1980-х гг. американским профессором китайского происхождения Холлисом Ченом. Тем не менее практически все в нашей стране, кто напрямую не связан с теоретической физикой, остаются незнакомыми с этим шокирующим фактом, хотя по своим масштабам он превосходит все известные аналоги. Подобное явление выходит далеко за рамки узкоспециальных физических проблем и становится вопросом как научной, так и обычной человеческой этики. Поэтому оно, на наш взгляд, представляет интерес для широких кругов общественности, особенно с учетом того обстоятельства, что в данной статье будут приведены многие до настоящего времени не публиковавшиеся документы, отражающие позиции всех сторон конфликта.

В силу собственной глубокой порядочности Ф. Федоров несколько наивно полагал, что международное научное сообщество возмутится данной невероятной ситуацией и порок будет незамедлительно наказан. На деле же оказалось, что существует корпоративная солидарность, которая с чрезвычайно большим трудом допускает осуждение даже виновных представителей своего круга. Не менее обидно, что Федоров затратил исключительно много времени на эту титаническую работу, и остается только сожалеть о том, что еще могло бы быть осуществлено им в науке, будь это время использовано для творчества.

Помимо этого, есть еще одна — трагическая — сторона случившегося. Федор Иванович Федоров был человеком, органически не переносившим несправедливости. Конечно, не всегда с его точкой зрения в отношении той или иной ситуации можно было согласиться безоговорочно, но это уже иной вопрос. В данном случае главное, что в таких ситуациях он реагировал исключительно эмоционально и в течение длительного времени постоянно возвращался к затронувшему его событию. Поэтому у близко знавших его людей не вызывает сомнений, что вызванные плагиатом переживания значительно сократили жизнь выдающегося ученого.

Понимая, что подавляющему большинству читателей, не имеющих соответствующей подготовки, будет крайне сложно разобраться в сути идей и методов Федорова, мы

[1] Федор Иванович Федоров. К 95-летию со дня рождения. 2005, Минск: БГУ. 199 с.

[2] См.: Алексеева Т., Барковский Л. История очевидная и невероятная // Федор Иванович Федоров… С. 135–140.

постарались избегать чрезмерно детального их описания, равно как и использования специальной физической терминологии, хотя, разумеется, полностью обойтись без этого при рассмотрении столь специфических вопросов невозможно. Оригиналы или копии всех цитируемых или просто упоминаемых документов, включая письма, находятся в личном архиве Ф. И. Федорова. При воспроизведении последних ради краткости опущены обращения и подписи. Для того чтобы картина была максимально объективной, комментарии к документам будут носить исключительно справочный характер.

* * *

Федор Иванович Федоров родился 19 июня 1911 г. в деревне Турец Новогрудского уезда Гродненской губернии. Он был старшим сыном сельских учителей Ивана Михайловича Федорова и Варвары Федоровны Адамович. В том же году семья перебралась в Минск, где отец работал учителем истории и географии в различных школах, а с 1924 г. начал писать произведения для детей под хорошо известным каждому белорусу псевдонимом Янка Мавр.

Закончив в 1928 г. школу-девятилетку, Федоров поступил (хотя и не без проблем, вызванных его непролетарским происхождением) в Белорусский государственный университет на физико-математическое отделение педагогического факультета. Окончив его через три года, он по распределению направляется на работу в город Кричев Могилевской области, где преподает физику и математику в педагогическом техникуме и средней школе. Однако страстью всей жизни Ф. Федорова была наука, точнее, теоретическая физика. Поэтому в 1932 г. он стал аспирантом Физико-технического института Академии наук БССР, а еще через год его направили в аспирантуру Ленинградского университета, где он оказался учеником выдающегося физика-теоретика, впоследствии академика АН СССР Владимира Александровича Фока.

Про этот период очень точно написал один из учеников Федорова, академик НАН Беларуси Андрей Гончаренко: «Исключительная одаренность, работоспособность и редкая целеустремленность позволили ему за три года ликвидировать пробелы в специальных знаниях, овладеть новейшими идеями и методами теоретической физики и решить ряд сложных задач квантовой электродинамики. Под влиянием В. Фока сформировался творческий стиль Федора Ивановича, сочетающий широту рассматриваемых научных проблем, общность развиваемых им подходов к их решению и изящество математического описания»[3].

По окончании аспирантуры в сентябре 1936 г. Федоров успешно защитил диссертацию и возвратился в Минск, став первым в Беларуси выросшим здесь кандидатом физико-математических наук (то же самое, кстати, будет иметь место и в отношении докторской степени). В университете он получил должность доцента, через два года создал там кафедру теоретической физики и стал ее руководителем. Одновременно он работал научным сотрудником в Физико-техническом институте АН БССР.

В Минске и застала его война. Ушедший из города на восток пешком и только в сентябре добравшийся до Москвы, Ф. Федоров был направлен в город Киселевск Новосибирской области, где он в течение полутора лет работал завучем средней школы и преподавал физику и математику. В апреле 1943 г. он стал доцентом кафедры физики Московского авиационного технологического института, который в то время находился в Новосибирске. А спустя еще полгода был назначен деканом физико-математического факультета и заведующим кафедрой теоретической физики БГУ, восстановленного под Москвой на станции Сходня.

[3] Гончаренко А. М. Жизнь и деятельность Федора Ивановича Федорова // Федор Иванович Федоров… С. 5–11.

Вось што кажа пенсіянерка Таісія Пляшкова з Расонскага сяла Роўнае поле: «Зубоў няма… Бяжым усе насустрач… Ну, у мяне тады зубоў, вядома, таксама не было… А бабкі такія пажылыя. А ён гаворыць: “Ну, што вы, мае дарагія, без зубак усе?” Тут хтосьці плача… А ён — ага, — а тут… ну, што, гавораць, трыццаць кіламетраў пешкі ісці, а чарга на тры гады…

“Ну, нічога. Як-небудзь. Не то перажылі, а гэта перажывем”… Паехаў, калі ласка, праз… Колькі гэта часу?.. Даслаў брыгаду з Віцебска. Выцягнулі зубы, падрыхтавалі, прыехалі — паставілі… У мяне і да сёння зубы гэтыя… Быў бы ён, так гэтага не было бы ў нас»[22].

## У ЗАСЕНІ СЦЯГА

Некананічная Машэраўская ўсмешка трапіла нават на самыя афіцыйныя фатаграфіі.

На калектыўным фота, зробленым 8 сакавіка 1947 г. па завяршэнні XV Ленінскага камуністычнага саюза моладзі Беларусі, Машэраў у цэнтры здымку — усміхаецца. Правае брыво крыху прыўзнятае, што надае ўсмешцы лёгкае адценне іроніі. Усміхаецца і ягоны калега побач[23].

На архіўна-камсамольскіх фатаграфіях 1944–1946 гг.[24] у Пятра Машэрава хоць вусны і не ўсміхаюцца, вочы здзіўлена-шчырыя. Ён не пазіруе, не апранае сур’ёзнай маскі[25], але з цікавасцю глядзіць у прышлае, на чалавека, які побач — за кадрам. Першы сакратар Маладзечанскага абкама ЛКСМБ не знітаваны суцэльна з кананічна-каменнай партыйнай формай-партрэтам. Да таго ж на здымку 1945 г. Машэраў у нацыянальнай кашулі з арнаментам[26].

Фатаграфія 1945–1946 гг.[27] паказвае Машэрава ля пераходнага Сцяга ЦК УЛКСМ. Гэта мусіў быць вельмі сур’ёзны здымак. Канон сацыялістычнага рэалізму патрабуе[28], каб у кадры быў палітычны фэтыш (сцяг на фатаграфіі маецца). Фэтыш павінен перагукацца з нечым на адзенні героя (ордэн таксама ёсць, а вопратка ў Машэрава цёмная, з гальштукам). Але, найгалоўнейшае, твар мусіць быць натхнёна-манументальным, без іроніі і прыязнае чалавечнасці (звышчалавечасць і звышкласавасць запрашаюцца і вітаюцца). З гэтым на фота — бяда.

У Машэрава ізноў — прыўзнятае правае брыво, стрыманая ўсмешка і не тое каб стомленасць, а, хутчэй, лёгкі скепсіс да шчаслівай статуі ля Чырвонага Сцяга.

Нельга казаць, што Машэраў не шануе «пераходны Сцяг ЦК УЛКСМ». Але за ягонай спінай — жывыя сябры-камсамольцы. І яны цікавейшыя за мёртвую, хоць і ганаровую пунсовую тканіну.

Але ў познія 1940-я варта было быць вельмі абачлівым, пра што сведчыць і хроніка.

---

[22] «Пётр Міроныч». БДАКФФД, № 3289.

[23] БДАКФФД: 0–129670, г. Менск, 8 сакавіка 1947 г.

[24] БДАКФФД: 0–130825, 0–130827. Абодва здымкі зробленыя ў Менскай вобласці.

[25] Чалавек, які пазуе на афіцыйнае фатаграфіі, нагадвае чалавека перад люстэркам (паводле Бахціна) — з такой самай «драўлянасцю» і штучнасцю твару (Бахтин М. М. Человек у зеркала // Бахтин М. М. Собр. соч. Т. 5. М.: Русские словари, 1996. С. 71).

[26] БДАКФФД: 0–130827.

[27] Першы сакратар Маладзечанскага абкама ЛКСМБ П. М. Машэраў у пераходнага Сцяга ЦК УЛКСМ, г. Менск, 1945–1946 гг. Фота. БДАКФФД, 0–129654.

[28] Варта параўнаць гэты здымак з плакатамі, скульптурамі і фота канца 1940-х гг.

Машэрава яшчэ цяжка заўважыць у кадрах кіначасопіса «Савецкая Беларусь» за 1945 і 1947 гг.[29], калі праходзілі камсамольскія з'езды ды юбілеі, затое ў 1949 г. ён адразу з'яўляецца на вельмі небяспечнае цырымоніі.

«Слава вялікаму Сталіну!»

«Вялікаму Сталіну слава!» — на ўсе лады паўтарае экран[30].

Ілюмінацыя ў горадзе. Цемра. Залітая светам трыбуна палаца. Аграмадны белы бюст за спінамі выступоўцаў. Кветкі. Савецкая Беларусь адзначае 70-годдзе «правадыра ўсіх народаў».

«З велізарным уздымам абіраецца пачотны прэзідыум урачыстага пасяджэння ў саставе Палітбюро ЦК ВКП(б) і пачотным старшынёй вялікім Сталіным».

Пасля першага сакратара ЦК КП(б)Б т. Гусарава — на трыбуне стаханавец Дружэўскі і старшыня калгаса імя Молатава т. Бушэнка. Радасцю сустракаюць «пачотнага старшыню» вайскоўцы, мастакі, камсамольцы, хоць старшыня і прадстаўлены толькі бюстам і партрэтнымі копіямі: «Ад імені салдат, сержантаў і генералаў Беларускай Ваеннай Акругі правадыра і палкаводца вітае тав. Казлоў.

Сардэчнае прывітанне Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну ад работнікаў навукі, літаратуры і мастацтва перадаюць пісьменнікі Міхась Лынькоў і народная артыстка Саюза беларускай ССР Александроўская.

Гарачую здравіцу Совецкай моладзі абвяшчае сакратар ЦК комсамола Беларусі тав. Машэраў».

І адразу, без перапынку, самыя бадзёрыя віншавальнікі: «Юныя ленінцы — наша светлая будучыня. Іх любоў і падзяку дарагому бацьку і настаўніку перадае піонерка Наташа Скалабан. "Родны бацька, прыміце ад нас, беларускіх піонераў шчырае, гарачае прывітанне ў дзень вашага слаўнага 70-годдзя. Мы, совецкія дзеці, найшчаслівейшыя дзеці на зямлі. Мы расцём, акружаныя вашымі нястомнымі клопатамі, сагрэтыя вашай бацькоўскай вялікай ласкай. Добра і радасна жывецца нам таму, што ёсць на свеце вялікі Сталін. Вялікаму Сталіну слава! Слава! Слава!"»

Калгаснікі ў клубе за святочным сталом.

«Весяліліся людзі шчаслівай калгаснай сям'і!» — тлумачыць настроі хроніка.

Пляцоўка ў горадзе. Нягледзячы ні на што, малалюднасць. Танчаць, абняўшыся, дзве бязмужнія жанчыны.

Салют. Феерверк. Выхаплены пражэктарамі ганаровы вусаты твар над цёмнай зямлёю.

Як і што гаварыў «сакратар ЦК комсамола Беларусі тав. Машэраў», уплішчаны паміж мастакамі і «піонерамі», мы не дачулі. Рэжысёр хронікі — самы на той час манументальны беларускі творца Уладзімір Корш-Саблін[31] пакінуў словы толькі таварышу Гусараву (статус абавязвае) і галасістае піянерцы.

Але не прыходзіцца сумнявацца, што голас у Машэрава быў пастаўлены добра.

---

[29] Кіначасопіс «Совецкая Беларусь», № 5–6, 1945, нямы, «Беларусьфільм». Сюжэт «Гераічнаму Ленінскаму комсамолу Беларусі XXV год», рэжысёр В. Будзіловіч. БДАКФФД, № 167. Кіначасопіс «Совецкая Беларусь», № 7–8, 1947, «Беларусьфільм». Сюжэт «XV з'езд комсамола Беларусі», рэжысёр І. Вейнеровіч. БДАКФФД, № 13. Назвы падаюцца без зменаў, у тагачаснай арфаграфіі.

[30] Кіначасопіс «Совецкая Беларусь», № 37–38, снежань 1949 г., «Беларусьфільм». «Слава вялікаму Сталіну», рэжысёр В. Корш-Саблін. БДАКФФД, № 67. (Імя Корш-Сабліна — Уладзімір. У выходных звестках стужкі яно пададзена русіфікавана.)

[31] Аўтар стужак «У агні народжаная» (1929), «Першы ўзвод» (1933), экранізацыі «Хто смяецца апошнім» (1955), дылогіі «Першыя выпрабаванні» (1960–1961; паводле Я. Коласа «На ростанях»), гісторыка-рэвалюцыйных карцінаў «Масква — Генуя» (1964), «Крушэнне імперыі» (1970).

«Цяпер некаторыя гавораць, што Пётр Міронавіч адмыслова займаўся пастаноўкай голасу, наймаў сабе артыстаў, — абвяргае чуткі сястра Машэрава Вольга Міронаўна. — А я павінна сказаць, што Пётр Міронавіч заўсёды імкнуўся да гармоніі. Ён быў з дзяцінства акуратны, ахайны, падцягнуты. І пастаноўкай голасу ён займаўся ў 37-м годзе, калі прыехаў на вакацыі дахаты, і вось ён выйшаў у двор, каля кветніка і пачаў, як артыст прымаць позу і спяваць. І спяваў ён, спяваў. Але, галоўнае, было нам смешна, дзецям, як ён цягнуў спачатку: "а-а". І браў то вышэй, то ніжэй ноты. Ну, мы смяяліся — смяяліся. І тут ён заспяваў нармалёва. А потым раптам ужо голас у яго сеў. Ён гаворыць: "Маці, дай мне яйка прачысціць голас". Маці дала яму яйка. Ён выпіў яйка — голас зусім ахрып. Маці тады падыходзіць і гаворыць: "Дзеці, давайце я вам спяю". І як заспявала сваім высокім чыстым, прыгожым голасам…»[32].

Сям'ю Машэрава не абмінулі рэпрэсіі. Бацька, Мірон Васілевіч, напоўніцу спазнаў сталінскую ласку: быў арыштаваны ў 1937-м годзе і дадому ўжо не вярнуўся.

«Бацька Пятра Міронавіча працаваў у тыя часы калгаснікам, але з'яўляўся старшынём рэвізійнай камісіі, — гаворыць дырэктар саўгаса імя Пятра Машэрава Мікалай Цуран. — І вось калі праходзіла рэвізія ў калгасе, старажылы распавядалі, — у гэты час выявілася нястача ў кіраўніцтве калгасу, у кладаўшчыка, яшчэ ў каго. Ну, яму прапаноўвалі, явонаму бацьку, каб ён … усю гэтую справу схаваў. Ён не пагадзіўся. Ну, а ў тыя часы… калі я трошкі пасердаваў з кімсьці і напісаў кудысьці вышэй там ліст, што… чалавек… супраць савецкай улады, прыяджала машына… чорны крумкач зваўся, — у начны час забіралі, везлі. <…> Вось так здарылася і з бацькам Пятра Міронавіча Машэрава»[33].

Сын ведаў, што адбылося з айцом, і мог ацаніць, наколькі дыктатура да чалавека «прыязная». Так што пад Чырвоным Сцягам статуі з Машэрава не выходзіла, хоць ён з адпаведным натхненнем выконваў камуністычныя рытуалы.

Афіцыйныя мерапрыемствы савецкай улады не абавязкова патрабавалі суцэльнай сур'ёзнасці і несупыннае пільнасці. На святах моладзі падчас «адлігі» дапускаліся дзіўныя паслабленні.

У хроніцы за 1957 г. можна ўбачыць, як на фестывалі моладзі Брэстчыны, што праходзіў пад дэвізам «Працы — слава!», «удзельнікаў і гасцей фестываля віталі сакратар абкома камсамола Пуціна і сакратар абласнога камітэта партыі тав. Машэраў»[34]. Фестываль быў звычайны для бурлівых 1960-х гг. — з бутафорскімі будзёнаўцамі, памежнікамі, развясёлымі дэманстрантамі на аўтамашынах, дзяўчатамі ў нацыянальных касцюмах, фанфарыстамі і гратэскнымі шкоднікамі (парай, якая скача замежны танец[35]).

У навукова-папулярным фільме «Кукуруза ў БССР»[36] кампанія ў Машэрава больш прыстойная. На семінары «партыйных, камсамольскіх, савецкіх і сельскагаспадарчых працаўнікоў Брэсцкай вобласці… вывучаюць машыны па комплекснай механізацыі вырошчвання кукурузы». Хоць сакратар абкама Машэраў і выступаў, хроніка ягоных словаў ізноў не захавала. Для вечнасці пакінулі «народныя» прыпеўкі:

[32] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[33] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[34] Кіначасопіс «Совецкая Беларусь», «Беларусьфільм», № 18–19, чэрвень — ліпень 1957 г., у 2 частках. Сюжэт «Свята юнацтва», рэжысёр М. Гарбуноў. БДАКФФД, № 482. Ці з'яўляецца тав. Пуціна сваячкай расейскага прэм'ера Уладзіміра Пуціна, не вядома.

[35] Дыктар пазначыў: «Хто нам перашкаджае!»

[36] «Кукуруза в БССР», «Беларусьфільм», 1958, навукова-папулярны фільм у 2 частках. Аўтары сцэнара С. Цішкоў і П. Шамшур, рэжысёр П. Шамшур. На мантажных лістах памета: «Фільм для абмежаванага паказу». БДАКФФД, № 841.

На зямлі ўсяго Саюза,
Зазірні ў любы наш край,
Вырастае кукуруза,
Як густы высокі гай…
Пра значэнне кукурузы
Усе мы знаем, як закон:
Кукуруза — масла, сала,
Кукуруза — малако…

Стужка паведамляла, што Брэсцкая вобласць, кіраваная ў той час Машэравым, выйшла на першае месца «ў сацыялістычным спаборніцтве калгасаў Беларусі. <…> На плошчы 33,5 тысячы гектараў атрыманы ўраджай зялёнай масы з катахамі па 358 цэнтнераў з гектара і закладзена па 10 тон кукурузнага сіласу на карову».

«Якая цудоўная кукуруза вырасла ў Беларусі!» — здзіўляюцца веднікі сельскагаспадарчай выставы. Сапраўды, цуд!

Выйду ў поле, падзіўлюся,
Радасць льецца цераз край:
Урадзіла кукуруза —
Толькі з поля прыбірай.

На фатаграфіі, зробленай у студзені 1958 г., першы сакратар ЦК КПСС Хрушчоў, які адмыслова наведаў Менск, аддае дзяржаўную ўзнагароду першаму сакратару Брэсцкага АК КПБ П. М. Машэраву[37]. Вялікі Машэраў і маленькі Хрушчоў. Паціскаюць адзін аднаму рукі, але паміж імі — адчувальная дыстанцыя.

Фізічная дыстанцыя.

Здымкі Машэрава з высокімі слугамі Чырвонага Сцяга заўжды атрымліваліся з дыстанцыяй. Машэраў — і Сталін[38], Машэраў — і Хрушоў[39], Машэраў — і Брэжнеў[40].

## НАСТАЎНІК І ВУЧАНЬ

Якім нормам і каштоўным ведам маглі навучыць яго гэтыя людзі? І што ён сам мог даць няўрымсліваму Хрушчову і спарахнеламу Брэжневу (якім з розных прычынаў адукацыя была ўжо непатрэбная)?

Машэраў навучаў іншых — і вучыўся сам.

На фатаграфіі 1945 г. Машэраў, у той час першы сакратар Маладзечанскага абкама ЛКСМБ, — на ўстаноўчым кангрэсе Сусветнай Федэрацыі моладзі ў Лондане[41].

Машэраў — у цэнтры здымка, уважліва слухае. Людзі побач занатоўваюць; адзін прыставіў далонь да вуха, каб лепей чуць. На Машэравым спінжаку — ордэн. Але Лонданскі кангрэс — не цырымонія раздачы пашанаў.

---

[37] БДАКФФД, 0–133234.

[38] Кіначасопіс «Совецкая Беларусь», № 37–38, снежань 1949 г. І хай сабе Сталін толькі на партрэтах падчас юбілейнага святкавання — стрыманая дыстанцыя застаецца.

[39] БДАКФФД, 0–133234.

[40] Фота — БДАКФФД: 0–155243, 0–155247, 0–155249, 0–155251, 0–155252, 0–155253, 0–155256, 0–155257, 0–155258, 1–16338, 0–080511, 0–083145, 0–092611. Хроніка — БДАКФФД: № 1784, № 3289 (хоць тут не абышлося без традыцыйных брэжнеўскіх пацалункаў), № 3409.

[41] Першы сакратар Маладзечанскага абкама ЛКСМБ, Герой Савецкага Саюза Машэраў П. М. на ўстаноўчым кангрэсе Сусветнай Федэрацыі Дружбы моладзі ў г. Лондане, 1945. Фота. БДАКФФД, 0–129691. Беларуская Энцыклапедыя падае, што дакладней арганізацыя называецца Сусветная Федэрацыя Дэмакратычнай моладзі.

«Сусветная Федэрацыя Дэмакратычнай моладзі — міжнародная дэмакратычная арганізацыя, якая аб'ядноўвае моладзь розных палітычных поглядаў (але пераважна левасацыялістычнай і камуністычнай арыентацыі), рэлігійнай, расавай, нацыянальнай прыналежнасці і сацыяльнага становішча», — гаворыць даведнік[42].

«З часу заснавання Сусветная Федэрацыя <…> вядзе барацьбу за мір і правы моладзі, незалежнасць народаў, супраць праяў імперыялізму, глабалізму, неакаланіялізму, фашызму і расізму», — абвяшчаюцца мэты супольнасці[43].

Арганізацыя была заснаваная 10 лістапада 1945 г. на Сусветнай канферэнцыі моладзі ў Лондане. У другой палове 1980-х гг. яна аб'ядноўвала больш за 270 моладзевых арганізацый амаль з 100 краінаў свету. У 1990-я гг., колькасць сяброў федэрацыі і яе ўплыў рэзка скараціліся (хоць у 2001 г. федэрацыя яшчэ здолела арганізаваць Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў у Алжыры).

Але ў 1945 г. левы рух быў на пад'ёме. Нішто не абяцала ягонага покрышу. І прыхільнікі камунізму знаходзіліся ў капіталістычных краінах.

На кангрэсе Машэраў вучыцца. Вучыцца за мяжой — падчас кароткай паездкі.

А ў Беларусі ён сам настаўнічаў і меў сваіх вучняў[44]. І, калі меркаваць па ўспамінах вучняў, выкладаў Машэраў няблага.

Узгадвае Зінаіда Марозава, цяпер пенсіянерка: «Вучыў нас лепш не трэба — у яго ціха, муха праляціць. І вось ён раскажа — запомніш на ўсё жыццё. Вось. Дагэтуль памятаю, як навучыў нас закону Архімеда. У мяне ўнучкі дзве — абедзве скончылі дзесяць класаў. Адна з іх — інстытут. І вось я спытала іх: “Чы памятаеце вы закон Архімеда?” — “Памятаем”. — “І я памятаю”. Яны засмяяліся: “Ты што, баба, колькі гадоў прайшло! А ў якім ты класе была?” — “У сёмым”.

Ну вось, яны смяяліся. А я сказала, што раскажу вам, толькі не па-руску, а па-беларуску: “На апушчаную ў вадкасць цела дзейнічае сіла, роўная вадкасці, выцесненай і апушчанай у яе цела”. Во!»[45].

Але расонскі настаўнік вучыў не толькі ведам, але і жыццю. У 1941 г. выпускнікі разам з сваім класным кіраўніком сышлі ў падполле, а потым у лес.

Леў Валковіч, вучань Пятра Машэрава, кажа: «У атрадзе былі, з аднаго боку, вучні, а з другога — настаўнікі. Вучні не маглі, так сказаць… настаўнікі засталіся настаўнікамі — толькі ў новых умовах. Гэта была вайна. Але яны засталіся настаўнікамі нашымі, якім мы верылі, якія нас вучылі, як паступаць у гэтых цяжкіх умовах. Дарэчы, мы ўсё звалі не “таварыш камандзір”, а “Пётр Міронавіч”…»[46]

«Ён усё рабіў, каб перавыхаваць, перарабіць», — дадае пра бацьку Наталля Машэрава[47].

Валянцін Сазонкін, былы кіраўнік асабістай аховы першага сакратара ЦК, успамінае паваенны прыклад з жыцця Машэрава: «Машэраў не цярпеў хлусні і падману. Адзін выпадак. Паехаў ён у раён — яго цікавіў… эксперымент, што праводзіўся ў жывёлагадоўлі. Ён ведаў па зводцы, што тут праводзіцца. І вось у гэтай гаспадарцы сакратара райкама спытаў: “Ці праводзіцца гэты эксперымент?” Сакратар райкама сказаў, што так — праводзіцца. “Добра! Тады паедзем глядзець”. — “Ведаеце,

[42] Беларуская Энцыклапедыя: У 18 т. Т. 15. Мінск: БелЭн, 2002. С.288.

[43] Тамсама.

[44] Настаўнік Расонскай СШ П. М. Машэраў з выпускнікамі. Віцебская вобласць, 17.06.1941. Фота. БДАКФФД, 0–089047. Фатаграфія вельмі благой якасці.

[45] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[46] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[47] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

мы не паедзем. Зараз, пасля дажджоў, там лагчына залітая вадой". Ён яшчэ раз пытае: "Праводзіцца?" — "Праводзіцца". — "Не праедзем машынай — пойдзем пешкі".

Хутка здымае чаравікі, падкасаў свае штаны вышэй каленаў і — такі трэніраваны, ладны, высокі — папёр па гэтым лузе, як конь. Сакратар райкама быў значна ніжэйшы за яго і да таго з жывоцікам такім, — ледзь паспяваў за ім. Калі Машэраў ідзе, праваьваецца ледзь-ледзь да каленяў, так сакратар райкама ледзьве не садзіцца ў бруд. І бачыць, што далей адступаць няма куды. Гаворыць: "Пётр Міронавіч, далей няма сэнсу пэцкацца. Гэты эксперымент мы толькі збіраемся праводзіць у гэтай гаспадарцы". Машэраў звярнуўся да яго і гаворыць: "А я адразу ўцяміў ваш падман. Як вы сябе выпацкалі!.." — маючы на ўвазе і ў простым, і ў пераносным сэнсе»[48].

«Ён марыў, калі прыйдзе час, калі чалавек вырасце маральна, — успамінае дачка Наталля Машэрава. — І ён да гэтага часу рыхтаваўся. І рыхтаваў людзей»[49].

## АРЫСТАКРАТЫЧНАЯ ПОСТАЦЬ

На фатаграфіі 1955–1959 гг. першы сакратар Брэсцкага абкама КПБ Машэраў, які наведвае вёску, выглядае арыстакратам[50]. Элегантны капялюш, шалік, цёмнае паліто, годная постаць.

На іншым калгасным полі, Гомельскага раёна, Машэраў — у цёмных джэймс-бондаўскіх акулярах, рукі ў кішэнях, але ягоная гутарка з людзьмі, побач з спыненым камбайнам, — уважлівая і жывая[51].

Захаваўся здымак сярэдзіны 1950-х гг. — Машэраў крочыць па Краснай плошчы[52]. Рукі ізноў у кішэнях доўгага паліто, але гэта не замінае Машэраву выглядаць вельмі элегантна. Побач — тры зграбныя жанчыны.

Пётр Машэраў у сталіцы савецкай дзяржавы здаецца замежнікам-камуністам, які прыехаў гадаваць і выхоўваць, уважліва слухаць — і для кожнага быць сваім.

Але прыродны арыстакратызм не прыводзіў да пыхі, а ўвага да людзей — да панібрацтва.

Узгадвае Аляксандр Аксёнаў, з 1978 да 1983 г. старшыня Савета Міністраў БССР: «Машэраў быў найінтэлігентнейшым чалавекам. І гэта праўда — гэта яго адрознівала вельмі моцна ад іншых кіраўнікоў. Мне імпанавала яго дзіўная сціпласць, прастата і, я бы сказаў, даступнасць у кантактах з людзьмі. Ён, як магніт, прыцягваў да сабе людзей, натхняў іх да згуртавання, да паразумення. Машэраў ніколі не помсціў людзям. Для вялікага кіраўніка гэта ж не простая праблема. Калі мы гаворым пра кіраўніка і працаўніка невялікага маштабу і бачым, што ён помслівы, — гэта трагедыя для людзей. Таму што людзі не могуць адкрыцца, выказаць сябе, бо іх прыгнятае кіраўнік»[53].

Машэраў не прыгнятаў. А такт і павага да людзей былі ў яго патомныя. Бацька Мірон Васільевіч — «жаўнер Першай сусветнай вайны. Пісьменны — чатыры класы цар-

---

[48] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[49] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[50] Першы сакратар Брэсцкага АК КПБ П. М. Машэраў падчас наведвання калгаса «Світанак» («Заря») Брэсцкага р-на. Брэсцкая вобл., 1955–1959 гг. Фота. БДАКФФД, 0–130877.

[51] Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў падчас наведвання калгаса імя Урыцкага Гомельскага р-на, ліпень — жнівень 1974 г. Фота. БДАКФФД, 0–129666.

[52] Першы сакратар Брэсцкага АК КПБ на Краснай плошчы ў г. Маскве, сярэдзіна 1950-х гг. БДАКФФД, 0–130843.

[53] «Беларусь была его судьбой». БДАКФФД, № 3291.

коўна-прыходскай школы. Інтэлігент. Расказваюць, не было выпадку, каб падвысіў голас, вылаяўся непрыстойна. Не любіў прайдзісветаў і гультаёў»[54].

«У вёсцы Ширкі Сенненскага раёна Віцебскай вобласці, дзе нарадзіўся Пётр Міронавіч, іх сям'я жыла вельмі даўно. Былі не беднымі — у бацькі былі дужая гаспадарка, добрая хата. Жылі яны амаль як на хутары. Паміж іншым, у іх яшчэ да рэвалюцыі ў хаце мелася свая невялікая бібліятэка і — гэта і цяпер дзіўна — стаяла піяніна. Атрымліваецца, што яны належалі, як цяпер гавораць, да сельскай інтэлігенцыі…» — распавядае Наталля Машэрава[55].

Паводле сямейнай легенды, «у 1812-м, паранены французскі салдат пазнаёміўся з беларускай маладзіцай, яны пажаніліся, і ён увесь час зваў яе "мон шэр", па-беларуску гэта гучала "ман шэр"…»[56]. У даведцы 1935 г., якая захоўваецца ў сям'і Машэравых, іхняе прозвішча пішацца як «Машэра».

Андрэй Доўнар-Запольскі, абапіраючыся на звесткі перапісаў, знайшоў, што прапрадзед Пятра Машэрава па прозвішчы Машэра, сапраўды, быў французскім жаўнерам, які асеў пад Віцебскам, прыняў праваслаўе і ажаніўся з мясцовай сялянкай. У яго быў сын Ярома, найхутчэй, названы так у гонар бацькі — Жэрома.

Ярома меў дзяцей: Івана, Кузьму, Назара, Фёдара і Васіля. Васіль і стаўся бацькам Мірона Машэры і дзедам Пятра Машэрава[57].

У Лондане, на вуліцах Хельсінкі[58], у Нямеччыне[59] Машэраў выглядае сваім. «Побач з заходнімі лідэрамі Пётр Міронавіч глядзеўся арганічна і нязменна элегантна»[60].

Машэраў — і Іосіф Броз Ціта[61], Машэраў — і Ніксан[62], Машэраў — і Кастра[63].

«Высокая фігура ў доўгім плашчы, здавалася, сышла проста з кінаэкрана»[64].

Паліна Галанава, у 1930-я гг. малады зубны лекар, адылі жонка Пятра Машэрава, прыгадвае, як ён звабіў яе: «Ну, гэта, як у кіно: прыходзяць, і, пакуль сеанс не пачнецца, — ведаеце, там, раённы цэнтр, — усё сядзелі наўкола. І мне лекар адзін гаворыць: вось там стаяць… вось там той працуе. <…> А вось там два браты стаяць — Машэравы[65], ты можаш на іх і не глядзець, таму што яны ні да каго не заляцаюцца тут. Вось… Яны так хораша апранутыя былі — абодва ў шэрых гарнітурах, высокія, у капелюшах. Вось… Ну, я ўжо не глядзела ў той бок. А назаўтра ён прыйшоў да мяне на прыём. Ну, раз яны такія строгія, дык і я таксама — вельмі строгая. А потым ён мяне праводзіў, а потым запрасіў у кіно. Потым запрасіў пакатацца на лодцы. Ну, я, вядома, зрабіла ўчасанне. Ведаеце, сама. У нас тады ў цырульню не хадзілі.

---

[54] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[55] Довнар-Запольский А. У Машерова были французские корни? // Комсомольская правда в Беларуси. 21.02.2008.

[56] Тамсама.

[57] Тамсама.

[58] Фота — БДАКФФД, 0–129682, 1969 г.; 0–129679, сакавік 1973 г.

[59] Фота — БДАКФФД, 0–095313, 0–095314, 0–095315 — усе Карл-Маркс-Штат, 1967.10.03. БДАКФФД: 0–095317, Берлін, 1967 г. 10.02.

[60] Довнар-Запольский А. У Машерова были французские корни?

[61] Фота — БДАКФФД, 0–076882, 0–076883, 0–092571, 0–092578, 0–092579, 0–092580, 0–076884, 0–076888. Хроніка — БДАКФФД, № 1300.

[62] Фота — БДАКФФД, 0–161547, 0–161549. Хроніка — БДАКФФД, № 3290 («Признание»).

63 Хроніка — БДАКФФД, № 3290 («Признание»).

[64] Довнар-Запольский А. У Машерова были французские корни?

[65] Пётр Машэраў і ягоны старэйшы брат Павел.

І я стаю, чакаю яго. Не саджуся, таму што пакамячу сукенку. Гэта ж зараз вось не камячыцца. Хе-хе… Вось… Ну і думаю: пэўна, не прыйдзе. Потым я села, пасядзела. Ой! Паднялася — гляджу: ідзе. Ну вось ён папрасіў прабачэння. Ну вось мы і паехалі на лодцы… Вось такое першае наша знаёмства.

Мне нават не верылася, што вось чалавек такой, ведаеце, прыгожы такі, ладны, разумны. Я ужо ведала аб ім, што ён такой, гэта самае, аўтарытэтам вялікім карыстаецца, што ён як фізік вельмі добры, што яго вучні вельмі любяць. Ну гэта жа раённы цэнтр, як вёска, ведаеце. Вось… Вядома, ён мне вельмі спадабаўся»[66].

Але інтэлігентны Машэраў выклікаў прыязнасць не толькі ў сваёй жонкі і вучняў.

«Да гэтага часу — 66 год — даволі складаныя былі стасункі паміж Палітбюро і Кастра, — успамінае Валянцін Сазонкін. — Кубінцы ўхіляліся ад перамоў. І было вырашана, значыць, паслаць туды Машэрава, як партызана. Ускладаліся вялікія надзеі: два партызаны знойдуць агульную мову. Па прыездзе на Кубу Машэраў адразу сказаў Раулю Кастра, што наша галоўная мэта — гэта перамовы. Машэраў гэтай сустрэчы чакаў усе дзесяць дзён знаходжання на Кубе. Машэраў вельмі хваляваўся: прыехаць і дакласці, што яго не прынялі, для Машэрава, чалавека з найвышэйшай адказнасцю, — гэта ж ніяк не выпадае.

Ну, у апошні дзень знаходжання на Кубе раптам аб’яўляюць, сёння адбудзецца сустрэча — перамовы Машэрава з Кастра. Сустрэча гэтая працягвалася не меней за пяць гадзін. Прынесла… была вельмі плённай. І адразу яны завяршалі як сапраўдныя сябры. І дамовіліся аб наступных сустрэчах, дзе… дзе гэта будзе магчыма. І ў свой першы прыезд у Савецкі Саюз Фідэль Кастра папрасіў прадугледзець наведванне Менска. Як ён гаварыў: “Жадаю сустрэцца з маім сябрам Пятром Машэравым”…»[67].

## ДОТЫК

На фатаграфіі 1972 г.[68] Машэраў разам з паплечнікамі па партызанскай барацьбе.

Атмасфера здымка жывая: людзі толькі што гаманілі — іх папрасілі пазіраваць перад фотакарэспандэнтамі[69]. Некаторыя не разгубіліся і прынялі традыцыйную паставу для памятных здымкаў, некаторыя ўсміхаюцца, некаторыя спрабуюць разгледзець нешта паза межамі кадра.

Наперадзе — ветэран у светлым гарнітуры, які, відаць, засмуціўся ад святочнага тлуму. Машэраў падбадзёрвае свайго сябра, трымаючы яго за плечы. Першы сакратар нават не ў цэнтры кампазіцыі, галоўнае — ягоная ўвага іншаму чалавеку. Дотык падтрымкі — вельмі характэрны машэраўскі жэст.

Вось Машэраў дапамагае кубінцу на фестывалі ў Гаване[70], абдымае вядомую падпольшчыцу Марыю Осіпаву падчас святкавання 9 мая[71].

---

[66] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[67] «Признание». У Беларусі Машэраў паказваў Кастра Хатынь і Курган Славы. Калі спускаліся па схіле кургана, Кастра прапанаваў: «Мы пойдзем напрасткі. У гарах С’ера-Маэстра мы і не па такіх схілах хадзілі».

[68] Першы сакратар ЦК КПБ Машэраў П. М. сярод паплечнікаў па партызанскай барацьбе. Віцебская вобл., 1972. Фота. БДАКФФД, 0–106356.

[69] Журналістаў не відаць. Але, калі меркаваць па тым, як і куды глядзяць людзі, фатаграфавала адразу некалькі камераў.

[70] Знаходжанне першага сакратара ЦК КПБ П. М. Машэрава ў складзе савецкай дэлегацыі на Кубе падчас правядзення Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у г. Гаване. Куба, 1978 г. Фота. БДАКФФД, 0–130848.

[71] Першы сакратар ЦК КПБ Машэраў П. М., сакратар ЦК КПБ Аксёнаў А. Н., Герой Савецкага Саюза Осіпава М., заслужаны лекар БССР Шуба А. І. і іншыя ў дзень святкавання 30-годдзя Пе-

Машэраў — у афіцыйна-ганаровай варце ветэранаў і камуністаў падчас урачыстага адкрыцця мемарыялу ў Брэсцкай крэпасці[72].

Жанр прадугледжвае жорсткі манументальны канон, але і тут Машэраў імкнецца быць уважлівым і чалавечным. Ён падтрымлівае аднаго ветэрана, адклікаецца на зварот другога. Для Машэрава куды цікавейшыя людзі, а не статуі.

На фатаграфіі, зробленай у 1968 г. на Менскім станкабудаўнічым заводзе[73], бачна, што Машэраву лацьвей з людзьмі, а не з рэчамі. Машэраў размаўляе з рабочымі, яму лепей дакрануцца да чалавека, але замінае станок — на станку рукі Машэрава; і яму нязручна адчуваць метал, а не суразмоўцу. (Іншы харызматык ХХ ст., з супрацьлеглае барыкады, Адольф Гітлер, ненавідзеў дакранацца да людзей[74].)

Кінарэжысёр Элем Клімаў распавядае, як глядзеў з Машэравым фільм «Узыходжанне» Ларысы Шапіцькі[75], пастаўлены паводле аповесці Васіля Быкава «Сотнікаў».

«З Менска ў Дзяржкіно, да Ярмаша, старшыні Дзяржкіно, патэлефанаваў Машэраў з просьбай паспрыяць запуску фільма “Забіце Гітлера”[76]. Ярмаш і яшчэ ніхто не бачыў “Узыходжання”. І Ярмаш адразу сцяміў і гаворыць: “Пётр Міронавіч, вы, можа, паглядзіце фільм Ларысы Шапіцькі, зняты на вашым беларускім матэрыяле?” Ён гаворыць: “Калі ласка”.

Пачаўся прагляд, ён бачыць, што я палю і пачаў частаваць мяне нейкімі цудоўнымі амерыканскімі цыгарэтамі. Праходзіць дваццаць хвілінаў фільма, трыццаць. Ён ужо перастае мяне частаваць цыгарэтамі. Потым адключыўся, мяне забыў. І бліжэй да канца фільма раптам я адчуваю — ён узяў мяне за правую руку, сціснуў, і я адчуваю, што ён плача.

Скончыўся прагляд, і ён імгненна стаў гаварыць. Ашаламляе, як ён гаварыў. Настолькі горача, настолькі разумна, глыбока, дакладна ўспрыняў фільм.

А ў гэты час я бачу, як ля ўваходных дзвярэй у залю дзеячы вашага Дзяржкіно кудысьці бегаюць і вяртаюцца. Потым высветлілася: тэлефануюць у Маскву і дакладаюць, як ідзе абмеркаванне.

Менавіта ў той дзень і вырашыўся лёс гэтай карціны»[77].

## ДОТЫК І ВАЙНА

Машэрава закрануў людскі — і адвечны лёс, паказаны ва «Узыходжанні».

Не магла не закрануць быкаўская экзістэнцыйная праўда, сугучная ваеннаму лёсу самога Машэрава, калі смерць праходзіла блізка — і штораз выпрабоўвала чалавека на годнасць.

---

рамогі. Менск, 1975 г. Фота. ББДАКФФД, 0–108380. Марыя Осіпава арганізоўвала знішчэнне гаўляйтэра Беларусі Вільгельма Кубэ.

[72] Фота. БДАКФФД, 0–95270. Брэст, 1969 г.

[73] Фота. БДАКФФД, 0–129681.

[74] Эрых Фром паставіў Гітлеру дыягназ некрафіліі (гл.: Фромм Э. Анатомия человеческой деструктивности. М., 1994).

[75] Ларыса Шапіцька — рэжысёр і актрыса. Здымалася ў стужках «Паэма пра мора», «Таўрыя». Паставіла фільмы «Крылы» (1964), «Радзіма электрычнасці» (1967), «Ты і я» (1971). Падчас здымкаў карціны «Развітанне» (1982) загінула ў аўтакатастрофе (1979). Карціна «Узыходжанне» (1976, «Залаты мядзведзь» Берлінскага кінафэсту) — вяршыня творчасці Ларысы Шапіцькі. Жонка Элема Клімава.

[76] Першапачатковая назва фільма «Ідзі і глядзі» (1985, рэжысёр Элем Клімаў, сцэнар Алеся Адамовіча паводле «Хатынскай аповесці»).

[77] «Беларусь была его судьбой». БДАКФФД, № 3291. Карціны «Пётр Міроныч», «Пакліканне» і «Беларусь была ягоным лёсам» складаюць трылогію пра Машэрава.

«У 41-м годзе пасля роспуску знішчальнага батальёна Пётр Міронавіч вырашыў пайсці за лінію фронту, — расказвае Леў Валковіч. — Але ў гэты час быў узяты Невель. Там у акружэнні ён трапіў у палон. Іх пратрымалі некалькі дзён у лагеры, а потым пасадзілі ў эшалоны і адправілі праз Літву далей. І вось дзесьці на тэрыторыі Літвы ён здолеў выскачыць з эшалона»[78].

Аднойчы на вясковую хату, дзе спыніўся партызан Машэраў, наляцелі акупанты. «Гаспадары схавалі пад ложак, прыціснулі мяшкамі. Ляжыць пад ложкам — шчылінка ёсць. Немец — боты — проста ў метры ад яго. Назірае. У шчылінку бачыць, як маладая гаспадыня паводзіць сябе. Хавала хваляванне артыстычна. Сышлі немцы. Ён падумаў: тут далей знаходзіцца нельга. І з яго аповеду проста адчувалася: што ён не думаў у той момант пра сябе. Толькі пра сям'ю, якая хавала яго. Ледзь дачакаўся наступнага дня, узброіўшыся дручком і абапіраючыся на яго, сышоў у аддаленае месца»[79], — расказвае Валянцін Сазонкін, які быў побач з Машэравым 13 гадоў.

«Гэта чалавек — рыцар без страху і папроку. Здавалася па-хлапечы палезе туды, куды людзі хаджалыя не лезуць. Я яму: "Пётр Міронавіч, ну нельга…" А ён: "Ну, ты як стары дзед стаў — нельга ды нельга…"»[80].

Беніслаўскі мост на рацэ Дрысе, па якім ішлі на ўсход ваенныя эшалоны, добра ахоўваўся гарнізонам. Машэраў камандаваў штурмавой групай.

«Бой, вядома, быў страшны, — гаворыць Паліна Галанава, якая за Машэравым сышла ў лес і была партызанскім лекарам. — Вядома, страшны, таму што пачаў ужо ірвацца мост, паранілі Пятра Міронавіча. Ну, я, калі перавязала Пятра Міронавіча, ну, ён не сышоў. Ён не сышоў. І я не сышла. Мы разам, вось… Бой калі быў… Ну, і наогул, ён заўсёды імкнуўся быць наперадзе. Вы разумееце што?.. Ну, разведка павінна быць разведка. Там была вызначаная група. Але ён заўсёды ішоў з разведкай. Ён вельмі высокі, у скураным паліто, вельмі прыкметны. Ну, ён усё роўна не слухаў. Усё роўна ішоў наперадзе. Ён быў як мішэнь. Усё гаварылі яму, што не трэба ісці наперадзе яму такому… Вось… Але ў нас была такая дамоўленасць: тое, што я павінна быць у тым баі, дзе і Пётр Міронавіч. Я павінна была бачыць, што здарыцца… Ну вось, увогуле, прыняць смерць на месцы… Мне вельмі цяжка гаварыць… Хоць я яго смерць так і не ўбачыла»[81].

Вайна пашкадавала Машэрава, але забрала жыццё ў ягонай маці. Нацысты схапілі яе як закладніцу — і закатавалі.

«У панядзелак яе выклікалі на допыт — першую. І прывялі ў гэтую ж камеру, — расказала стваральнікам стужкі "Прызнанне" Тацяна Сіманенка, якая бачыла апошнія дні Дар'і Машэравай. І я падумала: або гэта памылка была, або, наадварот, яны жадалі паказаць, што вось якімі вернецеся ад нас. Вось так, значыць, яна была ўся збітая, уся ў сіняках. Суцэльная сіняя маса.

Гэта было страшна. І гаворыць: "Што ж яны мяне пытаюць пра Пятра? Ён жа з'ехаў ва Ушачы. Там жа партызанскі край. Можа, яго ўжо ў жывых няма? А яны мяне пытаюць аб ім". Потым гаворыць: "Немцы б'юць балюча, і доўга, і моцна". У якім сэнсе. "Але калі яны выб'юць… б'юць датуль, пакуль не выб'юць адно слова. Ну, а калі яны выб'юць адно слова, будуць біць датуль, пакуль не выб'юць другое. Выб'юць, выб'юць другое, будуць біць датуль, пакуль не выб'юць трэцяе, гэта значыць: трэба маўчаць"»[82].

---

78 «Признание». БДАКФФД, № 3290.

79 «Признание». БДАКФФД, № 3290.

80 «Признание». БДАКФФД, № 3290.

81 «Признание». БДАКФФД, № 3290.

82 «Признание». БДАКФФД, № 3290.

Досвіткам 16 верасня 1942 г. палонных звязалі дротам, вывелі з катоўні — і знішчылі на беразе возера.

«Калі Пятру Міронавічу было 60 гадоў і мы сустрэліся ўлетку з ім, — кажа сястра Машэрава Вольга Міронаўна, — ён вярнуўся з адпачынку. У яго настрой тады быў вельмі прыгнечаны. Ён нейкі быў засмучаны. Не ўсміхаўся, як звычайна, сядзеў такі журботны. Ён успомніў пра сваё дзяцінства.

І тады я гавару: "Пеця, ну вось скажы, як атрымалася, што маці загінула?" Ён замоўк, доўга маўчаў, а потым так павярнуў галаву, паглядзеў і гаворыць: "У гэтым мая віна". Ну, я ведала ўжо да гэтага — мне распавядала Паліна Андрэеўна, — што маці ён не ўзяў адразу… Калі ўжо атрад быў вялікі, ён не ўзяў, таму што іншых бацькоў не мог узяць.

<…> А брацц толькі маці, ён лічыў, што гэта ніяк нельга. Ну, з яго прынцыпамі гэта было немагчыма. Таму што іншыя былі бацькі, іншых партызанаў былі ў такой жа небяспецы, як і наша маці»[83].

Калі архітэктары Юрый Градаў і Леанід Левін працавалі над мемарыялам у Расонах загінулым партызанам, то ў праекце прадугледзелі асобны помнік Дар'і Машэравой. «Не трэба, — запярэчыў Пётр Міронавіч. — Яе прозвішча павінна быць у агульным пераліку загінулых»[84].

Немагчымасць выратаваць самага блізкага чалавека, пакутлівы боль, клопат пра іншых людзей…

Але ўсё болей гісторыі пра Машэрава набываюць характар легендаў, якія гуляюць па Беларусі.

«Я чуў такую гутарку: ішлі з задання, і партызан, значыць, сашморгаў нагу — да таго немагчыма ісці. Ён з каня злез, пасадзіў партызана. Ён ішоў, а партызан ехаў на кані. Было ж гэта?..»[85].

«І яшчэ пра Машэрава… Ён не патрапіў у сталовую, а прыйшоў пасля. І яму прыгатавалі лепшую страву. Дык ён, гавораць, там іх ледзь не кончыў: "Я павінен толькі тое есці, што радавы салдат есць"»[86].

Гісторыя з салдацкай ежай пацвярджаецца іншай крыніцай: «Клёцкі малочныя, клёцкі. <…> Кухарка, вельмі знала добра, што Пётр Міронавіч клёцкі малочныя не ясі, <дык> яму зварыла суп аўсяны. І ён шапку адзеў і пайшоў. Я кухарцы кажу, што, Фрося, Пётр Міронавіч не еў гэты самы суп. Чаму, кажа, можа, не салёны? Я кажу: ён нават не паеў, толькі памяшаў лыжкай — не тое, што партызанам і ўсё, праз 10 хвілін выклікае кухарку ў штаб і ўсё. — Яе адразу здымаюць з работы. <…> А кухарка гэтая была знаўца, болей не было такіх знаўцаў. Яна яшчэ да вайны канчала кулінарныя нештачкі. Яна была знаўца. І вось яе зняць з працы. Чаму не дала тое, што ўсім партызанам. Яна гаворыць, я ведаю, Пётр Міронавіч, што вы гэтае не ядзіце. Якая вашая справа, што я ем, што я не ем?! Тады адстаялі, толькі вымовай абышлася гэта жанчына, вымову далі ёй.

<…> Не, клёцкі ён нават не паеў, ні тыя клёцкі, ні гэты суп! Гэта ж дакладна было так. Калі вось і Еўфрасіння жыла, яна бы пацвердзіла, гэта ж дакладна было так»[87].

---

[83] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[84] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[85] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[86] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[87] «Наказ», «Беларусьфільм»,1987, дакументальны фільм у 6 частках. Аўтар сцэнара і рэжысёр Юры Лысятаў. БДАКФФД, № 2815.

## ДОТЫК І МОВА

1970-я гады. Машэраў з пісьменнікамі Іванам Шамякіным і Іванам Мележам[88].

Яны размаўляюць як блізкія сябры ці прынамсі як людзі, якія цудоўна разумеюць адзін аднаго.

Машэраў дакранаецца да Мележа, штосьці прыгадваючы.

Мележ засяроджана слухае, схіліўшы галаву. Шамякін у насцярожлівай задумлівасці сашчапіў рукі на грудзі. Магчыма, Машэраў гаворыць пра твор Мележа «Людзі на балоце», які чытаў і любіў, магчыма, адказвае на пытанні, якія пісьменнікам муляюць.

«Паважаныя таварышы! — гэта выступ Машэрава на пісьменніцкім з'ездзе. — Вось ужо другі дзень беларускія пісьменнікі вядуць вялікую і змястоўную размову аб зробленым за апошнія гады і аб тым, па якім напрамкам павінна развівацца наша літаратура, каб лепш служыць высакароднай справе будаўніцтва камунізма, выхаванню новага чалавека. Галоўная думка пісьменніцкага з'езда накіравана на тое, каб большым плёнам адказаць на рашэнні XXIV з'езда камуністычнай партыі Савецкага Саюза, каб літаратура ва ўсіх сваіх жанрах ішла ў нагу з нашым часам, з цудоўнымі справамі савецкага народа»[89].

Вядома, прыватная гутарка адрозніваецца ад публічнага выступу, дзе каноны надзвычай жорсткія і рэй вядзе рытуал адчужаных формаў. Машэраў, размаўляючы з Мележам і Шамякіным, узгадвае сваё, асабістае, пераконваючы — абапіраецца на ўласную эмацыйную памяць.

Машэраў супакойвае і падтрымлівае пісьменнікаў, тлумачыць, звяртаецца да мінулага і марыць пра прышлае.

Абавязковыя фразы з дзяржаўнай хронікі пра камуністычную партыю не павінны хаваць галоўнага. Калі першы чалавек рэспублікі *сам* выступае на пісьменніцкім з'ездзе — і *выступае на годнай беларускай мове* (сітуацыя неверагодная для дня сённяшняга), гэта гаворыць пра ягоную павагу да слова.

Зрэшты, мову Машэраў ведаў няблага і, калі меркаваць па ўспамінах вучняў, менавіта на ёй выкладаў фізіку[90].

«Беларуская Энцыклапедыя, яе першыя тамы выйшлі пры жыцці П. М. Машэрава. І ён надзвычай дапамог выдавецтву "Беларуская Энцыклапедыя" і вельмі ўважліва сачыў за тым, як гэтая праца вядзецца і якія вынікі, — падказвае Юры Смірноў, з 1971 да 1977 г. памочнік першага сакратара ЦК КПБ. — Або, напрыклад, Беларусь была першай рэспублікай у складзе Саюза ССР, якая распачала такую фундаментальную працу, як "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі".

Гэта была ініцыятыва нашай Акадэміі навук, і яна была падтрыманая П. М. Машэравым. Была нават адмысловая пастанова, прынятая бюро ЦК па гэтым пытанні»[91].

Дарэчы, кампазітарка Пахмутава ўзгадвае, што Машэраў сам фактычна стаўся суаўтарам новага помніка — мемарыяла ў Хатыні: «…Увасабленне: вось чатыры дрэўцы, прыгожыя чатыры дрэўцы. Тры дрэўцы, а чацвёрты — вечны агонь. Кожны чацвёрты загіблы. І… вы ведаеце, ён гаварыў пра гэта з такой любоўю, што я падумала з зайздрасцю: "Божа ты мой! Вось… Вось культура! Вось такія кіраўнікі!" Ён, як разумеецe, як

[88] Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў з народнымі пісьменнікамі БССР І. Шамякіным і І. Мележам, г. Менск, 1970-я гг. Фота. БДАКФФД, 0–119599.

[89] «Савецкая Беларусь», «Беларусьфільм», хранікальны кіначасопіс, № 5, май 1971 г. Сюжэт «Шосты з'езд пісьменнікаў Беларусі», рэжысёр Р. Ясінскі. БДАКФФД, № 1665.

[90] «Признание». Закон Архімеда былая вучаніца Машэрава памятала менавіта на беларускай мове.

[91] «Беларусь была его судьбой». БДАКФФД, № 3291.

вялікі рэжысёр. Толькі ён іх <мастакоў> так настроіў, што яны дашлі дахаты, не сышлі, наогул… вось, думалі… І знайшлі! Вось знайшлі такі вынахад, што, уяўляеце… І вось ён стаў нявольным суаўтарам…

Беларусь ён любіў болей за жыццё… Ён усё жыццё аддаў ёй» [92].

Мемарыял у Хатыні стаўся ўзорным помнікам савецкіх часоў.

Успаміны Смірнова дадаюць новыя фарбы ў партрэт Машэрава: «Вядома, Пётр Міронавіч — палітычны лідэр як кіраўнік рэспублікі. А зрэшты, гэта можна сказаць і пра шматлікіх беларускіх пісьменнікаў, быў сфармаваны на вялікай павазе да рускай культуры. З ім было цікава гутарыць. Ён шмат чытаў і шмат ведаў. Ён прачытаў Ключэўскага. Ён прачытаў Салаўёва.

Ён вельмі любіў Мележа, любіў Кандрата Крапіву. Любіў Быкава як пісьменніка, які адкрыў новы пласт у нашай літаратуры і падняў яе, так сказаць, на сусветны ўзровень. Чытаў ён з захапленнем, хоць і лічыў, што нейкія аднабаковасці ў яго ёсць.

Роўна, як ён лічыў, што нейкія аднабаковасці ёсць у трактоўцы шэрагу падзей у п’есах Андрэя Макаёнка.. Там былі спрэчныя такія рэчы, вельмі вострыя. І тым не менш Пётр Міронавіч даваў сваё “дабро”, хоць ідэолагі пярэчылі таму, каб гэтыя спектаклі Макаёнка ставіліся на беларускай сцэне»[93].

Пра стаўленне Машэрава да пісьменнікаў і пра спрэчкі расказаў беларускі паэт Генадзь Бураўкін: «У яго заўсёды была патрэба, духоўная патрэба з людзьмі быць. І тым болей, калі гэта людзі таленавітыя. Я вось ведаю, у яго былі выдатныя, чалавечыя, блізкія адносіны з Пятром Усцінавічам Броўкам, з Анатолем Анікейчыкам, з Андрэем Макаёнкам. Вось, напрыклад, калі Андрэй Ягоравіч прыносіў яму сваю новую п’есу, прачытаць… А Андрэй Ягоравіч заўсёды пісаў вострыя сатырычныя рэчы. І калі, так сказаць, ну не мог сваёй пасадай падтрымаць гэтую п’есу. Наколькі я знаю, яны спрачаліся і нават лаяліся часам, седзячы адзін на адзін, то ўсё-такі ў яго заўсёды хапала такту папрасіць Андрэя, што: “Ну, Андрэй, дарагі, ну пачакай трошачкі, не прыйшоў час для гэтай п’есы”. Але тое, што гэтая п’еса дальнавідная, добрая, ён заўсёды не забываў гэта сказаць»[94].

Машэраў на фатаграфіі, магчыма, і гаворыць падобную фразу — толькі Мележу. Альбо спрабуе растлумачыць сітуацыю, якая складаецца.

У той час працягвалася імклівая русіфікацыя[95], вёскі мізарнелі, а гарады сталі рускамоўнымі. Старыя дамы на Нямізе былі замененыя сучаснымі спарудамі, сакавітая беларуская культура губляла апору і голас, нягледзячы на прыязнасць першай асобы рэспублікі.

Але ад Машэрава ў краіне залежала не ўсё.

Успамінае Генадзь Бураўкін: «І вось аднойчы, калі мы гаварылі па нацыянальных пытаннях, я кажу: “Пётр Міроныч… ідзе русіфікацыя, не будзем жа хаваць таго, што ёсць на самай справе”. Ён сказаў: “Канешне, я гэта бачу. Канешне, знаю, але калі я, ты ж зразумей, калі я гэтыя пытанні падыму ў Маскве адкрыта або на вялікіх нейкіх форумах тут, то да мяне будуць прад’яўленыя з Масквы, з цэнтра, адпаведныя меры, адпаведныя рашэнні могуць нават быць. А ты, калі ласка, рабі гэта ўсё. Ты рабі і не сумнявайся, што я заўсёды цябе падтрымаю”»[96].

---

[92] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[93] «Беларусь была его судьбой». БДАКФФД, № 3291.

[94] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[95] Хоць не да такой ступені, як сёння.

[96] «Беларусь была его судьбой». БДАКФФД, № 3291.

## СПРАВЫ І СЛОВЫ

### З НЕБА НА ЗЯМЛЮ

У 1974 г. паводка спусташала Палессе. Былі затопленыя многія вёскі. Машэраў прыляцеў на верталёце да месца стыхійнай навалы[97].

Кадры з кіраўніком, які сышоў з нябёсаў, заўжды былі прапагандова-выйгрышнымі. У 1934 г. Лені Рыфеншталь паказала прылёт Гітлера ў Нюрнберг, як наведванне богам Зямлі (карціна «Трыумф волі»). Небажыхаром у белым кіцелі прадстаўлены і Сталін ў пафасна-іграваым фільме Міхаіла Чыяўрэлі «Падзенне Берліна» (1949 г.). Сучасная хроніка з прэм'ерамі, прэзідэнтамі, сакратарамі не адстае ад гэтай традыцыі (хоць і сарамліва маскуе яе тэлевізійнай «аб'ектыўнасцю»). Каралева спускаецца з трапа; «Вялікі Кіраўнік Кім Чэн Ір» ідзе па полі пасля пасадкі гелікоптэра; у аэрапорце адбылася сустрэча прэзідэнта Расеі.

Ва ўсіх выпадках героі кадра ёсць працягам нябеснай моцы, якая паслала іх (калі не сама гэтая моц!), — позірк наперад, энергічны рух; героі прыйшлі — і дзейнічаюць на зямлі (падпарадкоўваюць, абдымаюць, ахопліваюць ці, прынамсі, прадстаўляюць найвышэйшае).

Кадр з Машэравым правілы парушае. Машэраў нават не ў цэнтры, цэнтр кампазіцыі — старшыня калгаса Ралько, які распавядае пра катастрофу. Машэраў нахіліўся і ўважліва слухае. Рукі ў кішэнях доўгага паліто — ізноў! (Найхутчэй, гэта звыклы жэст Машэрава, калі ён кагосьці слухае ці пра нешта задумаўся. На мемарыяльнай дошцы, адлітай у ягоны гонар, зафіксаваная менавіта такая пастава.)

Здымак схоплівае гутарку, словы, увагу і дзейснае спачуванне. Людзі — не аб'екты волі, а асобы — да іх прыляцеў Машэраў.

«А навошта ён так напружана працаваў? А таму ж ён столькі працаваў, таму ж дзесяць хвілін для яго гэта была цэлая вечнасць! Ён на верталёце… пабудаваў у Драздах узлётную пляцоўку для верталёта, каб 40 хвілін не марнаваць на дарогу, таму што ў яго часу не было», ‒ кажа пра няўрымслівасць бацькі Наталля Машэрава[98].

Настаўніца-пенсіянерка Марозава з Двор-Чарапіно, што пад Расонамі, апавядае пра сваю сустрэчу з Машэравым (найхутчэй, гэта не год паводкі, 1974-ы, але стаўленне Машэрава да людзей такое самае ўважлівае): «Плюхнулся шрубалёт чырвонага колеру. Крылы вось так і павіслі. Але чамусьці спазніліся міліцыя і начальства, райкам. Мы шэрагам вось так пашыхтаваліся. Ён выйшаў з стадыёна і прывітаўся з кожным — хай дзіця, бабулька… А са сваімі знаёмымі — цалаваўся»[99].

Папросту з ўсімі. Іншыя сведчанні-ўспаміны.

— Вельмі просты, вельмі душэўны, вельмі, вельмі…

— Так…

— Вельмі душэўны, вельмі просты чалавек…

— Ён не тое што вышэй сябе робіць, ён проста без цырымоніі з людзьмі размаўляў, то прыедзе, з кожным павітаецца, там дзіця, не дзіця. З усімі павітаецца, так неяк і распытае кожнага[100].

---

[97] Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў, старшыня калгаса «Асняжыцкі» Пінскага р-на В. А. Ралько і асобы, якія суправаджаюць, у адным з раёнаў паводкі Брэсцкай вобласці, 1974 г. БДАКФФД, 0–119716.

[98] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[99] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[100] «Наказ». БДАКФФД, № 2815.

Успамінае дырэктар рэкламна-інфармацыйнага агенцтва Венядыкт Вярбега: «Гэта была ў яго ўнутраная высокая культура, высокі інтэлект. Ну, вы разумееце, калі стаіць група калгаснікаў, ён выходзіць з машыны, — стаяць там далей дзесьці кіраўнікі, — дык ён не ідзе туды да кіраўнікоў. Ён ідзе да калгаснікаў. З імі гутарыць, а тыя, кіраўнікі, чакаюць, і потым самі ідуць да калгаснікаў. І потым завязваецца гутарка. Вось гэта характэрная рыса ў яго была. Нават цікава было: ён неяк ехаў, ішла бабка, так ён пасадзіў да сабе ў машыну і павёз. Ну, знайдзіце такога кіраўніка, нават старшыню калгаса, які пасадзіў бы бабку і павёз»[101].

«Народнік», — папракаў незадаволены Брэжнеў Машэрава[102].

Але гэта было даспадобы людзям:

— Там пацалуе, цалаваў нават старую. Ой…

— Бегаюць, у машыну садзіць старую, а гэта там баіцца, каб там што не зрабілі, а ён гаворыць «Не трэба, я без вас абыдуся, вам няма чаго тут рабіць», — на міліцыю гаворыць.

— Уся вёска: і старыя і малыя збягаліся. Устрачалі яго, — пацвярджае старая.

— Хто як мог, мы бяжалі к яму, сустрачалі яго, — дадае ейная сяброўка.

— І ён заўжды гаварыў, што таварыш я вам, я вам вінен, я вам абавязаны, патаму што мы такі, такі кавалачак хлеба мы дзялілі папалам[103].

— Вось ён казаў, што ўсё жыццё я абавязаны раўнапольцам, усё жыццё… — сцвярджаюць жыхары Роўнага Поля, Расоншчына[104].

Незадоўга да смерці Машэраў ізноў прыляцеў у вёску на гелікоптэры.

«Ну, гэта ўвосень было, — кажа жыхарка Роўнага Поля Тацяна. — Гэта, можа, за месяц да згубы яго. Раённае начальства нас не пускала, не дазваляла. Так хлопцы першымі сустрэлі шрубалёт. А тады — уся вёска! І ён жа падыходзіць, з кожным за руку вітаецца. І ведае ўсіх. Такі вось цыбаты Коля быў. Ён гаворыць яму: “А ты ўсё расцеш?”»[105].

«Я быў у войску пяць гадоў Вялікай Айчыннай і ў Кітаі быў год — шэсць гадоў. Я такіх людзей не сустракаў, як ён. Каб прыехаў, адразу тут абдымае, цалуе — і ўсё…» (Мікалай Пляшкоў з Роўнага Поля)[106].

«А я, напрыклад, лічу, што і ў характары Пятра Міронавіча было многа нашага нацыянальнага характару. І гэтая мяккасць, і ўвага да людзей, і сціпласць нейкая…» (Генадзь Бураўкін, стужка «Прызнанне»)[107].

## НАВУКА ЗЯМЛІ

Лета 1977 г. Машэраў на Гомельшчыне, гутарыць з кіраўнікамі гаспадарак[108].

У цёмных акулярах, дапытліва слухае; вецер; позіркі людзей скіраваныя на Машэрава, але атмасфера нязмушана-дзелавая. На ўскрайку кадра чалавек развярнуўся да суседа, які просіць нешта ўдакладніць. Павароты целаў, жэсты суразмоўцаў Машэрава —

[101] «Пётр Міроныч». БДАКФФД, № 3289.

[102] «Пётр Міроныч». БДАКФФД, № 3289.

[103] «Наказ». БДАКФФД, № 2815.

[104] «Пётр Міроныч». БДАКФФД, № 3289.

[105] «Пётр Міроныч». БДАКФФД, № 3289.

[106] «Пётр Міроныч». БДАКФФД, № 3289.

[107] «Признание». БДАКФФД, № 3290.

[108] Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў гутарыць з кіраўнікамі гаспадарак Гомельскай вобласці, ліпень — жнівень 1977 г. Фота. БДАКФФД, 0–129667.

гэта не падтакванне вышэйшаму чыну, а сур’ёзная сумесная праца без аўтарытарнага падлізвання, але з павагай да кожнага.

І Машэраў ведае, пра што дапытваць, пра што спрачацца — і чаго дасягаць.

На другім плане — вялікае поле, дзесьці гуркоча трактар.

«Машэраў прыязджаў на тыдзень. І тыдзень займаўся раёнам. Ён касіў. Ён гаварыў: “Ну як ты тут адаптаваўся?” — успамінае старшыня калгаса Гарошка. — У апошні раз мы сустракаліся тут, у калгасе імя Горкага, на нашых неабсяжных балотах, дзе ён браў у рукі касу, — я наперадзе з касой, а ён ззаду. Але ўзрост, рост высокі — ён мяне наганяў. Як гаворыцца, на пяткі наступаў. Так я, каб схітраваць, устаў і пачаў гэтую касу вастрыць. “Што, аграном, пабаяўся, што я пяткі абрэжу табе?”»[109].

Былы настаўнік фізікі ведаў, як касіць траву. Але ведамі гэтымі не злоўжываў і выкарыстоўваў свае сялянскія навыкі ў асобных выхавальніцкіх мэтах[110].

Акцэнт быў на іншае. Добрае гаспадаранне патрабуе навукі — і ў рэспубліцы мусілі быць выхаваныя адукаваныя і адказныя кадры.

У архівах захавалася адно нуднавата-статыстычнае сведчанне. Але цікава, што ўспамінамі дзеліцца Рыгор Вячорка — бацька палітыка Вінцука Вячоркі. Ён займаў пасады ў Кампартыі, а з 1989 да 1994 г. быў першым намеснікам Дзяржэканомплана Рэспублікі Беларусь: «Беларусь разглядалася ўсімі як край балотаў, лясоў і практычна, калі разглядаць яе як рэспубліку зерневай гаспадаркі, ніхто і не думаў пра гэта. І вось калі Пётр Міронавіч паставіў задачу атрымліваць ураджайнасць у Беларусі па 25–30, да канца 1970-х да 32 цэнтнераў з гектара, тады многія палічылі, што Машэраў — фантазёр, што Машэраў высоўвае нічым не абгрунтаваныя задачы, якія не пад сілу вырашыць тут, у нашых беларускіх умовах. Але ўся справа ў тым, што Машэраў менавіта на аснове перадавога досведу і дадзеных навукі бачыў, што нам пад сілу развязанне такой задачы. Сапраўды, тут мы першым чынам павінны заняцца падвышэннем урадлівасці глебаў, падвышэннем ураджайнасці, потым кормавытворчасць, развіццё жывёлагадоўлі, як малочнай, так і мясной.

Машэраў бачыў, што трэба было адпаведна падрыхтаваць кадры, адразу псіхалагічна падвысіць прафесіяналізм усіх адмыслоўцаў, і калі кадры паступова адчулі, што так, сапраўды ім па плячы гэтыя вось складаныя, на першы погляд невыканальныя задачы, тады яны па-іншаму неяк сталі працаваць, па-іншаму сталі пачувацца, паводзіць сябе ў справе»[111].

«Да нас у Беларусь запрошаныя былі Пятром Міронавічам Машэравым навукоўцы з розных рэгіёнаў Савецкага Саюза, — працягвае Рыгор Вячорка. — І сапраўды, вельмі адгукнуліся на гэтую просьбу. У нас яны з’явіліся з Навасібірска, Ленінграда, Масквы, з іншых гарадоў. І потым ужо паўсталі цэлыя навуковыя школы з прыцягненнем нашых мясцовых кадраў, нашай мясцовай моладзі, якія самі сталі буйнымі навукоўцамі. І ўжо карані тут іх раслі, у Беларусі»[112].

«У першую чаргу ішла гутарка, каб інтэлектуальна развівалася наша грамадства і наша рэспубліка ў цэлым…. Тут жа пачалі будаваць завод “Транзістар”. Пасля завода

---

[109] «Пётр Міроныч». БДАКФФД, № 3289.

[110] Здаралася, што асабісты прыклад уключаўся ў прапагандовы канон. Хранікальны сюжэт: «Суботнік» кіначасопіса «Савецкая Беларусь», № 4, красавік 1973 г. БДАКФФД, № 1858. «Менскі аўтазавод. Разам з рабочымі 20-га будаўнічага ўпраўлення, якія ўзводзяць корпус механазборачнага цэха, у суботніку прынялі ўдзел работнікі ЦК Кампартыі Беларусі. Дзённае заданне — укласці сямсот кубаметраў бетону… было выканана датэрмінова». На заводзе Машэраў працаваў з партыйнымі паплечнікамі.

[111] «Беларусь была его судьбой». Гутарка перакладзена з рускай мовы.

[112] «Беларусь была его судьбой».

“Транзістар” пачалі будаваць завод “Міон” па вытворчасці інтэгральных схемаў. Гэта тут, у горадзе Менску. Пасля завод “Ізатрон” у Лідзе, “Цветатрон” у Брэсце, “Камертон” у Пінску. Нарэшце мы падышлі да таго, што пачалі выпускаць інтэгральныя схемы. <…> Я маю на ўвазе завод “Інтэграл”…» — расказвае пра падтрымку Машэрава першы дырэктар завода Пётр Гайдэнка[113].

У выніку імклівай навуковай мадэрнізацыі «ў 1978–1980 гг. і прыкладна да 1985 г. каларыйнасць сілкавання жыхароў Беларусі перавышала каларыйнасць сілкавання жыхароў ЗША»[114], а рэспубліка стала адной з самых сытых у Савецкім Саюзе.

Акадэмік Леанід Абалкін назваў здзейсненае «беларускім цудам. Пачаўся рывок на аснове падраздзелаў, якія скլаліся ў гады вайны. Партызанскія атрады, сфармаваныя сістэмай адносінаў, павагай, сістэмай сувязі і асабістых кантактаў, прыходзілі з лясоў, балотаў, ставілі намёты і пачыналі ствараць»[115].

Але самым галоўным у машэраўскім цудзе была павага і ўвага да чалавека, апора на чалавека і давер да яго. Ва ўмовах «развітага сацыялізму», які набліжаўся да фінальнага крызісу і занураўся ў легалізаваную двайную мараль, гэта было немагчымым выклікам.

Уладзімір Бядуля, старшыня калгаса «Савецкая Беларусь», прызнаецца: «Ну, з Пятром Міронавічам лёгка было спрачацца па любым пытанні, таму што ён уважліва ўмеў выслухваць лю-бо-га. І вы ведаеце, неяк улічваў меркаванне, калі можна так сказаць, калектыўнага розуму. Гэта адчувалася… да апошніх дзён жыцця»[116].

## ПОЗІРК У НЕБА

Успамінае сялянка Журбіла[117] з калгаса «Асняжыцкі»: «Заўсёды ён захапляўся нашымі пасевамі. Ён заўсёды ўстане, палічыць зерні. Каласы вельмі вялікія — па 96 зерняў нават было…»[118].

Захавалася фота — Машэраў у полі[119].

Для савецкай — таталітарнай — прапаганды кіраўнік сярод жыта — гэта архаічны і кананічны сюжэт. Гэта стары міф у новай абгортцы: бог спусціўся з нябёсаў і апладніў зямлю.

Сталін у жыце, Хрушчоў на палях, Мао Цзэ Дун над пасевамі.

Удзячная зямля дала ўраджай. Правадыр разглядае гэты ўраджай, расцірае зярняты, смакуе, абдымае каласы — уладарыць.

Машэраўскае фота зноў парушае канон.

Рукі Машэрава складзеныя на грудзях, замкнёныя — ён не жадае панаваць над зямлёй, ахопліваць, гвалтаваць, дакараць і прымушаць. Ён глядзіць, але зусім не так, як глядзіць захопнік на падуладную тэрыторыю. Позірк не зверху ўніз (ветлівы погляд гаспадара на слугаў), а ўверх, па-над полем, далёка-далёка, у неба — па-за ўсялякія межы.

Пачасту такі самы погляд у Машэрава, калі ён стаіць на трыбуне, — крыху ўверх, панад аўдыторыяй, удалечыню, туды.

---

113 «Беларусь была его судьбой».

114 «Беларусь была его судьбой». Сведчыць Мікалай Пракапенка, у 1975–1985 гг. дырэктар НДІ эканомікі і арганізацыі сельскай гаспадаркі БССР.

115 «Беларусь была его судьбой».

116 «Пётр Міроныч». БДАКФФД, № 3289.

117 Былая звеннявая паляводчага звяна, Герой Сацыялістычнай Працы.

118 «Пётр Міроныч». БДАКФФД, № 3289.

119 Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў на поле саўгаса «Асняжыцкі» Пінскага р-на Брэсцкай вобл., к.1960 — п.1970-х гг. Фота. БДАКФФД, 0–130824.

Вось Машэраў выступае на ўрачыстасці: Беларуская вайсковая акруга атрымала ордэн Чырвонага Сцяга[120]. Машэраў пад бюстам Леніна, глядзіць уверх і утрапёна гаворыць. На пярэднім плане — кветкі.

А вось юбілейнае паседжанне ЦК КПБ і Вярхоўнага Савета БССР, прысвечанае 50-годдзю БССР і КПБ[121]. Машэраў у натхненні, ягоны позірк скіраваны ўверх.

Машэраў на міжнароднай сустрэчы жанчын у Менску[122], Машэраў вітае чэхаславацкіх гасцей[123], Машэраў сустракаецца з выбаршчыкамі[124].

Позірк узнёслы, светлы, Машэраў углядаецца ў далечыню[125].

Каго і што ён там убачыў?

«Прыношу вам, дарагія таварышы, сардэчную падзяку за высокі давер, за тыя добрыя душэўныя словы, якія былі выказаныя на мой адрас. Усё гэта я цалкам адношу да слаўнай ленінскай партыі, якой усе мы абавязаныя сваімі поспехамі і здзяйсненнямі, высокім гонарам быць актыўнымі першапраходцамі новай *камуністычнай цывілізацыі…*»[126].

## НЯЎТУЛЬНАСЦЬ БЯЗЛЮДНАЙ ПРАСТОРЫ

На перакрыцці ракі Віліі — першы сакратар Пётр Машэраў, старшыня Савета Міністраў Ціхан Кісялёў і асобы, якія іх суправаджаюць[127].

Рукі Машэрава складзеныя ў абаронча-замкнёным жэсце, на вачах цёмныя акуляры.

Машэраў стаіць перад пустой прасторай, над якой неабходна панаваць, якую трэба скараць — і ў якой няма людзей, а ёсць аб’екты, падпарадкаваныя ўладарнай волі. Машэраву няўтульна, бо гэта не людзі, да якіх можна дакрануцца, якіх варта падтрымаць і якім можна дапамагчы.

Зусім інакш паводзілі б сябе класічныя таталітарныя правадыры. Кім Ір Сэн вызначае кірунак, Гітлер глядзіць у бінокль, Сталін любуецца новымі тэрыторыямі.

---

120 Фота. БДАКФФД, 0–110085. Менск, 1968 г.

121 Фота. БДАКФФД, 0–113006. Менск, 28 снежня 1968 г.

122 «Белорусская ССР — член ООН», «Беларусьфільм», дакументальная стужка ў 1 частцы, 1975. Рэжысёр Э. Гайдук, сцэнарыст Э. Скобелеў. БДАКФФД, № 2122.

123 Спецвыпуск «Вечна ў дружбе», «Беларусьфільм», хроніка ў 1 частцы, 1965. Рэжысёр С. Сплашноў. БДАКФФД, № 1479.

124 «Савецкая Беларусь», «Беларусьфільм», хранікальны кіначасопіс, № 6, чэрвень 1971 г. Сюжэт «Сустрэча выбаршчыкаў Ленінскай акругі сталіцы з кандыдатам у дэпутаты ў Вярхоўны Савет Беларусі, кандыдатам у члены Палітбюро ЦК КПСС, першым сакратаром ЦК КПБ Пятром Міронавічам Машэравым», рэжысёр А. Канеўскі. БДАКФФД, № 1666.

125 Фота — БДАКФФД, 0–161236, 0–90908, 0–111531, 0–130860.

126 «Савецкая Беларусь», «Беларусьфільм», хранікальны кіначасопіс, № 6, чэрвень 1971 г. Філосаф Валер Лебедзеў з лёгкай іроніяй апісаў прамоўніцкі стыль Машэрава: «Як Машэраў заўсёды выступаў! Прыемна паглядзець! Ён, гаворачы пра хуткае прышэсце ўсеагульнага шчасця, аж прыпадніімаўся на мысачкі ці ледзь не падскокваў, як быццам бачыў гэта камуністычнае светлае заўтра і распавядаў народу пра яго набліжэнне “па словах непасрэднага відавочцы”. Такіх, як ён, ідэалістаў тав. Сталін даўно перастраляў. Машэраў ацалеў толькі таму, што быў герой, партызан, дый партыйную кар’еру сур’ёзна пачаў толькі па смерці Сталіна» (Лебедев В. Мы — были! № 437, 07 авг. 2005 г. http://www.lebed.com/2005/art4273.htm).

127 Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў, старшыня СМ БССР Ц. Я. Кісялёў і асобы, якія іх суправаджаюць, на перакрыцці р. Вілія. Менская вобл., 8 верасня 1973 г. Фота калекцыянера П. Наватарава. БДАКФФД, I-10946.

Жэст Машэрава ахоўна-адстаронены, па абавязку ён вымушаны «прымаць справаздачу», але ўладарна-ўказальны жэст, які скарае мёртвую матэрыю, зусім не ягоны.

Замкнёна-стрыманы жэст у Машэрава і ў берлінскім Трэптаў-парку падчас ускладання кветак савецкаму жаўнеру-герою[128]. Партыйная дэлегацыя спускаецца па прыступках. Машэраў апусціў рукі, сашчапіў іх, глядзіць уніз. Ён ці стомлены, ці яму няўтульна. Гэта чужая зямля і чужыя — хоць і пашаноўныя — статуі.

Машэраў цалкам знітаваны з канонам партыйна-савецкай фатаграфіі на ўскладанні вянкоў ды кветак, на ўрачыстых мітынгах[129], у кампаніі з салютоўнымі піянерамі ля Кургана Славы[130].

Нават у родных Расонах ён вымушаны граць ролю афіцыйнае статуі[131], хоць гэта куды жывей за папярэднія здымкі.

Машэраў абавязаны не выходзіць за межы камуністычнай ідэалогіі. Таму дакарае нацыяналістаў з Акадэміі навук[132] ды ганьбіць філосафа Сцёпіна з Політэхнічнага інстытута за «сталыя антысавецкія погляды». Праўда, Машэраў сам верыў у камунізм свята, а чалавека не імкнуўся знішчаць.

Але ў 1980-я гг. савецкі камунізм паміраў.

«Я памятаю, прыходзіў з працы — цямнейшы за хмару. Прыходзіў, адразу ішоў наверх, у свой кабінет, потым спускаўся ўніз у гасцёўню. Там былі такія шкляныя дзверы зачыненыя. Мы з Кацяй[133] зазіралі — калі можна ўвайсці», — узгадвае ўнучка Машэрава Лена[134].

«Вы ведаеце, калі нешта гінула… вось… гарэў завод, вы ведаеце, на ім твару не было, — успамінае жонка Машэрава Паліна Андрэеўна. — Засмучаўся. І вельмі засмучаўся, калі… вось ён… калі яго людзі падводзілі. Вельмі засмучаўся, таму што ён давяраў вельмі людзям. Разумееце, давяраў цалкам. І думаў, што яны робяць так, як трэба. А потым ён памыляўся. І засмучаўся» [135].

«І ён зноў давяраў, таму што з дзесяці адзін падводзіў, — удакладняе дачка Наталля. — Ён не толькі ведаў і бачыў…»[136].

У 1960-я гг. беларускія партызаны на чале з Машэравым прыйшлі да ўлады[137]. Але становішча партызанскай групоўкі насамрэч было хісткім. Майкл Урбан вылучае

---

128 Фота. БДАКФФД, 0–095316. Берлін, 1967.10.04.

129 Фота — БДАКФФД, 0–10969, 0–10911, 0–130856, 0–122895, 0–154387, 0–129655, 0–10968, 0–10967. На трыбуне XXVIII з’езда КПБ: І-6823.

130 Фота — БДАКФФД, 0–140194.

131 Фота — БДАКФФД, 0–97698.

132 «У 1973 г. была забаронена падрыхтаваная Акадэміяй навук канферэнцыя па этнагенезе беларусаў, а яе арганізатары атрымалі вымовы. Наступнае вясны першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў на партыйным пленуме ў Менску абвінаваціў групу навукоўцаў, у тым ліку М. Прашковіча, С. Міско, А. Каўруса, М. Чарняўскага, В. Рабкевіча і П. Дзядзюлю, у нацыяналістычным характары іх канцэпцый. Сяброў “гуртка Прашковіча” павыганялі з працы» (Запруднік Я. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. Мінск: ВЦ «Бацькаўшчына», 1996. С.125).

133 Унучка П. М. Машэрава.

134 «Признание». БДАКФФД, № 3290.

135 «Признание». БДАКФФД, № 3290.

136 «Признание». БДАКФФД, № 3290.

137 Партызанская групоўка прыйшла да ўлады таксама ў Паўночнай Карэі. І хоць Карэя абрала вельмі адмысловы шлях развіцця, падабенства паміж Карэяй і Беларуссю куды большае, чым нам хацелася б.

ў савецкай беларускай наменклатуры 1960–1980-х гг. некалькі фракцый: партызанскую групоўку, менскую гарадскую прамысловую групу (найвядомейшыя — Слюнькоў, Таразевіч) і фракцыю «брэжнеўскіх кліентаў» (Кісялёў, Дземянцей)[138].

Менавіта дзве апошнія групы адразу і занялі найвышэйшыя пасады па смерці Машэрава.

Але і сярод партызанаў Машэраў усё болей пачуваўся самотным.

«Ён гаварыў, — кажа Наталля Машэрава, — чаму не разумеюць партызаны, чаму шматлікія людзі не разумеюць, што я шукаю маладых. Не таму, што я не паважаю тых, з кім прайшоў, з кім працаваў. Яны не будуць гатовыя да будучыні. А будучыня запатрабуе зусім іншага ўзроўню мыслення. І маральнага, і інтэлектуальнага, і прафесійнага. Трэба быць нашмат больш гнуткім. Ну, часы ідуць цяжкія, цяжкія. Ён жа ведаў, што дзеецца ў партыі. Ён жа ведаў, на чым трымаецца гэтая сістэма. А ён быў філосаф, навуковец. Вы што думаеце, ён не прагназаваў? Ён неяк адзін раз сказаў: “Што ж вы тут займаецеся, мне вось, крытыкуеце там дробязь у краме — чагосьці няма… Вы не ведаеце і сотай долі, мільённай, што я ведаю. Вы шчаслівыя людзі. Жывяце, не ведаючы…” Так гаварыў…»[139].

## ПРЫВАТНЫ ЧАЛАВЕК У ДРАЗДАХ

Наш век наогул вельмі тлумны,
Мы з гэтым звыкліся даўно:
Футбол, і бокс, і джаз бяздумны,
І п’янкі з сэксам заадно.

Але такога крыку-гвалту,
Што цэлы дзень хістаў той дом,
Дзе не сабраў касцей гаўляйтар, —
Не чулі ў Мінску шмат гадоў.

Спачатку ціха паміж люду
Размовы-чуткі папаўзлі,
Што пад сады-гароды будуць
Даваць па лапіку зямлі.

Пасля, як заклік да атакі,
Як звон магутны вечавы,
Пранёсся кліч: «На сход, пісакі!
На сход, пісакі, хто жывы!»…[140]

Карнавальна-гратэскавая паэма Францішка Ведзьмака-Лысагорскага, падпольна (!) выдадзеная ў 1975 г., прысвечаная актуальнай тэме дачных мітрэнгаў. Героі «Сказу пра Лысую гару» — забытыя і вядомыя пісьменнікі — плятуць інтрыгі, каб вымантачыць суседскае гаўно, збіраюць каравякі і прапануюць гадаваць хрэн замест кніжак.

---

138 Урбан М. Альгебра савецкай улады. Цыркуляцыя эліт у Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы (1966–1986) // ARCHE. 2008. № 3 (66).

139 «Признание». БДАКФФД, № 3290.

140 Вядзьмак-Лысагорскі Францішак. Сказ пра Лысую гару. http://presidium.bas-net.by/skaz_pra_lysuyu_garu.htm

Дачная ліхаманка ахапіла Беларусь. Людзі ўцякалі з гарадоў — на гароды, у нядзелю і святы корпаліся ў зямлі, вырошчвалі на сваіх сотках бульбачку, памідоры і агуркі.

Дачнікам быў і Машэраў.

На фатаграфіі 1963 г. ён яшчэ нязграбна-афіцыйны, у адпрасаваным светлым гарнітуры, стаіць і ўсміхаецца ля дачы старшыні Савета Міністраў БССР Ціхана Кісялёва[141].

Затое на здымку 1970-х гг. Машэраў — ужо сапраўдны дачнік[142]. Удалечыні — сціплыя хаткі. Машэраў на сваім драздоўскім лецішчы — у зручнай, амаль спартовай вопратцы, на галаве мяккі барэт. У такім адзенні добра збіраць ягады і грыбы, палоць гарод і лавіць рыбу.

З пэўнасцю можна сказаць, што драздоўскаму дачніку не было патрэбы падгадоўваць агуркі і памідоры, капаць бульбу ды збіраць угнаенні. І ўжо тым болей не варта было турбавацца за ўпотайкі пашыраную тэрыторыю ці залішнюю вышыню дома (галаўны боль дачнікаў, закатаваных дробнымі прыдзіркамі).

Але Машэраў з задавальненнем падпісаўся б пад кожным радком Ніла Сымонавіча Гілевіча (а менавіта ён хаваўся пад маскай Ведзьмака-Лысагорскага):

Літаратуру і мастацтва,
Што ўзносяць сэрцы да вышынь,
Тысячаногі спрут мяшчанства
У петлях хоча задушыць.

А я ў камуны сімвал веру,
Якому век не змізарнець,
І тому спруту-ненажэру
Я аб’явіў вайну на смерць…[143]

Лецішча і ўсё звязанае з ім — гэта прыватнае, не вартае публічнага паказу і публічнага жыцця[144].

Захаваліся дзве фатаграфіі Машэрава вельмі благой якасці. На іх кіраўнік рэспублікі катаецца на лыжах. Ён у спартовым касцюме, побач няма нікога[145]. Няма апантаных заўзятараў, світы чыноўнікаў і няма спартоўцаў, запрошаных у якасці спарынг-партнёраў.

Фатаграфіі паразмываныя і падрапаныя — гэта занадта асабістае. Для ўзору і пакланення лыжны шпацыр не прызначаны.

---

141 Другі сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў, Я. С. Мазурава, Герой Савецкага Саюза І. І. Кашынскі і намеснік старшыні СМ БССР І. Ф. Клімаў на лецішчы старшыні СМ БССР Ц. Я. Кісялёва ў вёсцы Дразды. Менская вобласць, 1963 г. Фота. БДАКФФД, 0–130973.

142 Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў на лецішчы ў вёсцы Дразды Менскага р-на, 1970-я гг. Фота. БДАКФФД, 0–130846.

143 Вядзьмак-Лысагорскі Францішак. Сказ пра Лысую гару. http://presidium.bas-net.by/skaz_pra_lysuyu_garu.htm З дадатка да паэмы «Другое і апошняе папярэджанне падробшчыкам». У канчатковай аўтарскай рэдакцыі, выдадзенай у 2003 г. ужо пад імем Ніла Гілевіча, гэтых радкоў няма. http://io.ua/s3829.

144 А эканоміка з агуркамі, бульбай і памідорамі — частка публічнай дзейнасці.

145 Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў на лыжным шпацыры, Менск, к.1970-х гг. Фота. БДАКФФД, 0–130823.

## НЯСКРАДЗЕНАЕ СВЯТА

1974 год. Машэраў разам з народам святкуе вызваленне Беларусі[146].

Усмешка на вуснах, вочы радасныя, у руках кветкі, Машэраў адкрыты для сардэчных абдымкаў — цягнецца да людзей, і людзі да яго цягнуцца. Гэта ягоная перамога і ягонае свята, якое не скрасці і не падрабіць. Якое ён аплаціў уласнай крывёю.

Ёсць шмат здымкаў Машэрава 9 мая — 1975 г.[147], 1972 г.[148], 1974 г.[149].

Але гэты здымак «Мінскай праўды» — з святочным Машэравым, які запрашае да радасці і ідзе да людзей, — стаўся асновай для рэкламнага плаката БРСМ[150] канца 1990-х гг. Там запрашэнне, радасць і перамога Машэрава знітаваныя з арганізацыяй, якая непахісна аддадзеная прэзідэнту і гарантуе зніжкі на дыскатэкі.

Неўзабаве ўзгадкі пра былога кіраўніка зніклі, а праспект Машэрава быў пераназваны ў праспект Пераможцаў.

Засталіся ўспаміны Юрыя Смірнова: «Ён чалавек быў такі, палітычны дзеяч, які, можа, лепей за іншых ўсведамляў, як важна і неабходна павышаць колькасць дабра ў нашым грамадстве. <…> Ён быў чалавек духу, чалавек, які спрабаваў прыўнесці ў любую, нават самую зямную справу, звязаную, напрыклад, з кіраўніцтвам эканомікай, нейкі маральны, чалавечы, духоўны пачатак»[151].

Але парадаксальным чынам настальгія па сытым 1970-м, вырваным у камуністычнай сістэмы «фантазёрам» і «ідэалістам» Машэравым, паслужыла апорай беларускаму рэтрасталінізму.

## У ПРАДЧУВАННІ КАТАСТРОФЫ

Май 1978 г. быў дажджлівы. Вада мачыла валасы, лілася за каўнер[152]. Парасоны не вельмі дапамагалі.

Але людзей на свяце ставала. Дзве дзяўчыны падаравалі Машэраву кветкі. Віншавальніцы хітравата ўсміхаюцца — Машэраў неяк стомлена-здзіўлены і не вельмі зграбны.

«Пётр Міронавіч любіў кветкі. Расказваюць, у дзень шасцідзесяцігоддзя[153] яму падарылі шмат кветак — ведалі, што багатых падарункаў не прыме. І тады ён сказаў, любуючыся кветкамі: “Я ведаю цяпер, як мяне будуць хаваць…” Сказаў, нібы прадчуваючы сваю згубу»[154].

---

[146] Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў вітае і віншуе гасцей і жыхароў г. Менска з 30-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 1974 г. Рэдакцыя газеты «Мінская праўда», фота В. Марцыёнка. БДАКФФД, 0–106778.

[147] Напрыклад, БДАКФФД, 0–100045, 0–154400.

[148] Напрыклад, БДАКФФД, 0–117898.

[149] Напрыклад, БДАКФФД, 0–154389, 0–154390, 0–154391, 0–154392.

[150] На пачатку Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ) называўся Беларускім патрыятычным саюзам моладзі (БПСМ), што ягонае сутнасці не мяняе.

[151] «Беларусь была его судьбой». БДАКФФД, № 3291.

[152] Першы сакратар ЦК КПБ Машэраў падчас святкавання Дня Перамогі, г. Менск, 1978 г. Фота калекцыянера Бандарыка Н. Н. БДАКФФД, 0–155341 Б.

[153] А гэта менавіта 1978 год.

[154] «Пётр Міроныч». БДАКФФД, № 3289.

«4 кастрычніка 1980 г. Пётр Міронавіч Машэраў, прыехаўшы на працу, адразу ж запрасіў да сабе мяне, — гаворыць Уладзімір Вялічка, у 1980 г. памочнік першага сакратара ЦК КПБ. — Гадзіны паказвалі 9.30 раніцы. Ён, як заўсёды, вельмі шчыра і цёпла сустрэў мяне. Падняўся з-за стала, выйшаў насустрач, абняў. Мы селі ля акенца, пачалася гутарка з нагоды яго надыходнага выступу ў аб'яднанні "Гарызонт". Гэтае прадпрыемства тады ліхаманіла. Яно выпускала вельмі дрэнныя тэлевізары. І Пётр Міронавічназіраў за гэтым буйным прадпрыемствам, не мог абыякава да гэтага ставіцца. Ён вельмі цяпло праводзіў мяне, быў у добрым гуморы і сказаў: "Гэта нешта не па мне, што ўжо цэлы тыдзень не быў сярод людзей. Таму я жадаю паехаць паглядзець, як прыбіраюць бульбу, як расце жыта"»[155].

«У той дзень я падняўся ў прыёмную Пятра Міронавіча Машэрава, і ён, гляджу, выйшаў з свайго кабінета, — сведчыць Віктар Лівенцаў, з 1978 да 1986 г. кіраўнік справамі ЦК КПБ. — Гаворыць: "Выклічце мне машыну". Сакратар Святлана гаворыць, што, можа быць, не трэба сёння ехаць, вы шмат працавалі, праводзілі Паліну Андрэеўну.

— Не, я паеду.

Далучыўся Крукоў Віктар Якаўлевіч, потым і я. Пачалі ўгаворваць, каб ён не з'язджаў, а паехаў адпачыць ад працы.

— Не, не, не. Я толькі на нейкую гадзінку і вярнуся зноў сюды.

Яго проста, як цягнула на гэтую паездку. І хто б ні пярэчыў яму, і хто б ні раіў зрабіць па-іншаму, ён быў настроены абавязкова з'ехаць у Смалявічы.

Вы ведаеце, гэта лёс…»[156].

У кастрычніку 1980-га ішоў ды ішоў дождж.

Анямелі ля труны родныя[157], у ганаровай варце застылі касманаўты[158], пашыхтаваўся пахавальны картэж[159].

І натоўпы на вуліцах.

«Вы ведаеце, ішоў дождж — мітынг на могілках, але столькі людзей і столькі слёзаў я ніколі не бачыў,» — здзіўляўся Уладзімір Бядуля[160].

Віктар Дашук зняў карціну «Развітанне» пра пахаванне Машэрава. Калі фільм убачылі ў Англіі, то сказалі: «У нас так хавалі Чэрчыля».

А ў кастрычніку 1980-га беларусы хавалі Машэрава.

Кадры з Машэравым усё радзей з'яўляюцца на экранах, хоць і фільмы ёсць, і хроніка маецца. Для адных Машэраў занадта беларускі, для другіх — занадта камуністычны, савецкі. І тое, і другое даўно прысабечанае і падзеленае.

Што немагчыма прысабечыць — дык гэта непадробную чалавечнасць.

Але і яна, калі пануе культ тэлеўбачанага, пакрысе забываецца.

---

155 «Беларусь была его судьбой». БДАКФФД, № 3291.

156 «Беларусь была его судьбой». БДАКФФД, № 3291.

157 Фота. БДАКФФД, 0–116272.

158 Фота. БДАКФФД, 0–116273 Церашкова, Клімук, Кавалёнак ля труны Машэрава.

159 Фота. БДАФФД, С1–132, С1–134, С1–135, С1–136, С1–137, С1–141.

160 «Пётр Міроныч». БДАКФФД, № 3289.

## ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

«Пётр Міронавіч жыў зусім недалёка ад месца сваёй працы. Насупраць лечкамісіі.

Ісці яму да ЦК КПБ было нейкіх 10 хвілінаў. Але ён выходзіў за гадзіну да пачатку свайго працоўнага дня і павольна ішоў па вул. Чырвонаармейскай. І простыя жыхары Менска віталіся з ім, а іншы раз спыняліся для гутаркі па нейкіх пытаннях. Ён уважліва выслухоўваў і альбо занатоўваў сабе, альбо казаў суразмоўцу, да каго яму звярнуцца па дапамогу.

Мой бацька, калі працаваў на заводзе імя Кірава, штодня ад Цэнтральнага пляца ўздоўж вул. Чырвонаармейскай ішоў на завод і некалькі разоў сустракаў Пятра Міронавіча на вуліцы, калі той ішоў на працу або дахаты.

Аднойчы, калі было чарговае святкаванне Дня Перамогі, Пётр Міронавіч праходзіў праз шэрагі ветэранаў (тады іх было куды болей) і раптам з сардэчнымі абдымкамі падышоў да старога ў вайсковым пінжаку і старасвецкіх штанах-галіфэ. Атрымалася, што гэты стары разам з Пятром Машэравым ваяваў у партызанскім атрадзе, і Пётр Міронавіч адразу пазнаў свайго баявога таварыша сярод ветэранаў і сам падышоў да яго, каб павітаць і абняць яго, пацікавіцца жыццём-быццём, здароўем і іншым. Бедны стары нават праслязіўся, усхваляваны ўвагай і памяццю пра свае заслугі перад Бацькаўшчынай.

Гэта мне распавядалі мае бацькі, на вачах якіх адбыўся гэты выпадак»[161].

*Андрэй РАСІНСКІ*

[161] Лучанок Алена. Пост у сецевай супольнасці http://community.livejournal.com/minsk1067/106706.html ад 09.03.2008.

# КАК Я НЕ СТАЛ АВТОРОМ ФИЛЬМА ОБ ИВАНЕ МЕЛЕЖЕ
## История одной фотографии

В конце 1960 — начале 1970-х гг. я не то чтобы слишком активно, но сотрудничал с объединением документальных фильмов «Летапіс» на «Беларусьфильме». Не скажу, что уж очень был увлечен документальным кино, которое, кстати, тогда переживало своеобразный расцвет. Документальное кино в ту пору было в известной степени попыткой правдивого, во всяком случае нестандартного отражения жизни, попыткой, идущей от хрущевской «оттепели» и двадцатого съезда партии, еще питавшей надежды части интеллигенции на возможность социализма с человеческим лицом. О популярности этого жанра у зрителя говорила и передача «Документальный экран» на всесоюзном телевидении, которую вел знаменитый поэт Роберт Рождественский.

На объединении «Летапіс» толклось немало литераторов, движимых не только любовью к документальному кино, но и вполне материальными соображениями. Здесь хорошо платили. Сценарий одночастного фильма (10 минут) стоил не менее пятисот рублей, что при средней зарплате по стране в сто двадцать рублей было весьма неплохим заработком. Были умельцы, постоянно строгавшие там сценарии, и проникнуть в эту среду было не просто. Но нельзя сказать, чтобы дверь была наглухо закрыта для несвоих. Заявки на интересные сценарии достаточно доброжелательно рассматривались и принимались.

В 1970 г. режиссер Муза Заслонова, дочь легендарного подпольщика, сняла по моему сценарию фильм «Селькор». В основе сюжета был проходивший в Минске в 1925 г. судебный процесс над гонителями молоденького деревенского активиста Григория Лапицкого. Дело получило всесоюзную огласку, на процесс приехала из Москвы сама Лариса Рейснер (послужила Всеволоду Вишневскому прообразом Комиссара в «Оптимистической трагедии», была женой Федора Раскольникова, того самого матроса-большевика, что пошел в 1930-х гг. против Сталина и заплатил за это жизнью). Она писала об этом суде. В отделе рукописей Ленинской библиотеки (ныне Государственная библиотека Российской Федерации) мне удалось отыскать рабочие записи знаменитой журналистки, которые она вела во время судебных заседаний, и несколько писем к ней Гриши Лапицкого. По существовавшей тогда традиции документальные фильмы демонстрировались в специально предназначенном для того кинотеатре «Новости дня» (теперь там филиал Купаловского театра), куда мы с женой и несколькими друзьями и направились на просмотр «Селькора». Не могу утверждать, что зал был переполнен и что как автор я испытал «чувство глубокого удовлетворения». Но так или иначе дебют в кино состоялся… Были даже одобрительные отклики в прессе.

Потом я еще подавал разные заявки, что-то принималось, что-то отвергалось… Привлекла меня к сотрудничеству и редакция заказных фильмов. Была и такая на «Беларусьфильме». Организации могли заказать и оплатить нужный им документальный, учебный или научно-популярный фильм. Сразу после армии я около года работал в редакции экономики на телевидении. Не знаю, что там из подготовленных мною передач подошло кинoредакторам, но мне предложили написать сценарий двухчастного фильма, заказанного очень почтенной организацией «Белсельхозтехника». Это был весьма

серьезный заработок для человека, женатого на студентке мединститута и имевшего двухлетнего сына. Ну и поехал я с представителем этой самой «Белсельхозтехники» (получив благословение от ее тогдашнего шефа Л. И. Хитруна) по колхозам изучать проблемы механизации животноводческих ферм. Пахучие, надо сказать, оказались проблемы. Выручали устраиваемые местным начальством обеды с соответствующим возлиянием. Но дело двигалось. Я вполне освоил, что и куда поступает от коров и свиней по лоткам и другим сложным новаторским системам. Сценарий был довольно быстро написан, деньги я получил немалые. А вот что там было с фильмом, когда и как сняли его — не знаю.

Потом в моих киноделах образовался простой. Какие-то заявки не шли, какие-то долго рассматривались. И вдруг осенило… Был 1972 год. Ивану Павловичу Мележу дали Ленинскую премию за «Полесскую хронику» (романы «Люди на болоте» и «Дыхание грозы»). Было совершенно ясно, что заявку на фильм о знаменитом белорусском писателе, лауреате Ленинской премии не то что не отвергнут, но примут как почетную и актуальную необходимость.

Я перечитал романы, припомнил трехсерийный телефильм «Люди на болоте» режиссера Александра Гутковича, сходил на спектакль в Купаловский театр, продумал некоторые сценарные ходы и быстро сочинил заявку, которая, как и ожидалось, была принята. И вот уже в качестве автора, с которым заключен договор, звоню герою будущего фильма. К тому времени я не только подвизался в кино, но и выступал как критик и литературовед в «Немане», «Полымі», «Маладосці», «Літаратуры і мастацтве» и потому полагал, что имя мое знакомо Ивану Павловичу. И все-таки звонил не без некоторой робости: мало ли что? Знаменитый писатель, член Всемирного Совета Мира, депутат Верховного Совета БССР, заместитель председателя правления Союза писателей Беларуси, председатель Белорусского отделения общества «СССР — Франция»…

Мележ согласился встретиться со мной чуть ли не на второй или третий день. Перед походом в известный дом на улице Янки Купалы, что напротив Свислочи и парка Горького, я подготовил какие-то вопросы. К сожалению, записи, сделанные во время встреч с писателем, как и сам сценарий, не уцелели. Но в памяти остались благожелательность и деликатность Ивана Павловича. Ему было немного за пятьдесят, но выглядел он постарше. Мне показалось, что был утомлен работой, от которой вынужден оторваться из-за моего прихода.

Помнится, что меня главным образом интересовали непосредственные причины замысла «Людей на болоте». Было понятно, почему прошедший войну, раненый на ней молодой писатель начал с военной прозы, почему его, увлеченного Львом Толстым, потянуло на эпику в романе «Минское направление» (не раз переписывавшемся, но так и не ставшим заметным творческим достижением), почему он обратился к образам молодой городской интеллигенции во второй половине 1950-х гг. (пьеса «Пока мы молоды»). Обращение же к белорусской деревне, полесской глубинке рубежа 1920–1930-х гг. выглядело для меня не совсем закономерным, не очень понятным разворотом в прошлое.

Иван Павлович не спеша, подбирая слова, говорил о том, что, хотя и видел коллективизацию подростком, многое из того переломного, драматичного времени осталось в памяти, в душе. Но только в начале 1960-х гг., на волне либеральных веяний, связанных с хрущевской «оттепелью», почувствовал он необходимость обратиться к той поре. Меня интересовало, жив ли кто-нибудь из односельчан писателя, послуживших прообразами для романа. Ведь это будет несомненная удача для будущего фильма, если удастся встретиться с людьми, в биографиях которых отразились черты Василя Дятла, Ганны, Апейки, свести их, что называется, в кадре вместе с автором романа. Кажется, что именно насчет последнего, сельского активиста Апейки, Мележ ответил утверди-

тельно. Было как будто обещано и знакомство с этим человеком во время, как предполагалось по сценарию, поездки вместе с писателем на его родину, в деревню Глинище, что недалеко от Речицы.

Я рассказывал о возможных ходах и поворотах в сценарии, которые, к сожалению, ограничены тем обстоятельством, что фильм запланирован одночастный (10 минут). Здесь Иван Павлович заметно напрягся и спросил: а почему, собственно, под фильм о нем выделена одна часть, бывают ли фильмы побольше по времени и, вообще, какая традиция здесь существует. В том смысле, под кого (какую тему) и сколько дают. Я сказал, что тут дело обстоит по-разному, бывают фильмы в двух частях и больше, но, как правило, дают одну. Мележ заметил, что, по его мнению, мало что можно сказать в одной части. Я поспешил согласиться с Иваном Павловичем, но оговорился, что тут далеко не все зависит от сценариста. Не буду утверждать наверняка, что Мележ звонил на студию и добивался двухчастного фильма о себе. Но каким-то образом этот вопрос решился, и договор со мной перезаключили на две части. Я, естественно, не возражал.

Когда я рассказал об этой истории критику Варлену Бечику, с которым был близок в то время, Варлен усмехнулся и сказал что-то вроде того, что вот если бы Мележу позвонили, скажем, из ЦК Компартии Белоруссии и сказали, что тех, кто пройдет во главе какого-то официального шествия, будут снимать в кино, то Иван Павлович был бы в первых рядах. Может быть, у Варлена было какое-то свое знание о честолюбии Мележа…

Кажется, во время работы над сценарием (а может, несколько ранее) в «Новом мире» появилась статья Алеся Адамовича о творчестве Мележа. Что-то я знал об их дружеских отношениях и потому подумал, что вот хорошо было бы, если бы в фильме Адамович поделился своими соображениями о Мележе-художнике. И я ввел наиболее понравившиеся мне куски из статьи в сценарий, предполагая, что их в той или иной интерпретации произнесет сам Адамович. Не помню, говорил ли я об этом Алесю Михайловичу, с которым был знаком к этому времени. Скорее всего, у меня не возникало сомнений, что Адамович согласится на участие в фильме.

Не помню точно, два или три раза я еще приходил на квартиру к Мележу, чтобы что-то уточнить, расспросить о чем-то, посоветоваться. Когда в очередной раз позвонил и попросил о встрече, Иван Павлович сказал, что уезжает на дачу и пригласил приехать туда же. Отправился я куда-то через Ждановичи к берегу Минского моря вместе со своим давним приятелем Юрой Солодовым (он умер два года назад) на его «Запорожце». В дачном поселке мы немного побродили в поисках мележевской дачи, пока за какой-то изгородью я не увидел знакомое лицо Петра Устиновича Бровки. Петр Устинович, которого я хорошо знал со времени работы в издательстве Белорусской Советской Энциклопедии, очень охотно и энергично указал дорогу к даче Мележа, оказавшейся рядом. Кажется, поблизости, буквально через забор, была и дача Шамякина. Когда уже во время разговора на даче я спросил Мележа о соседе, он как-то неопределенно хмыкнул и махнул рукой. Позже кто-то из литераторов сказал мне, что знаменитые прозаики и дачные соседи не общаются. Что тому виной — не знаю. Может быть, слава одного стала затмевать славу другого?

Иван Павлович вышел к нам по-домашнему — в шлепанцах, накинутом на плечи пиджаке. Пригласил в дом, но погода была замечательная — сухо, тепло, кажется, стоял август, и мы устроились на лавке у дома. Здесь нас и снял захвативший с собой фотоаппарат Юра Солодов. На фото видно, что в руках у меня книжка. Это я захватил в подарок Мележу свою недавно вышедшую книжку о Чехове. В ту встречу на даче я читал Ивану Павловичу почти готовый сценарий. Не помню его замечаний или пожеланий… Запомнилось: он был добр, приветлив, угощал яблоками.

Пришла пора сдавать сценарий. Как водится, после сдачи текста было назначено обсуждение: участвовали члены сценарной коллегии, редакторы, режиссеры. Я добросовестно записывал замечания. Назначался срок предоставления доработанного сценария. Сценарий дважды обсуждался, а я все никак не мог понять, чего же хотят мои критики. Было много общих слов, но почти ничего конкретного. На втором обсуждении у кого-то из выступавших прозвучало: «А при чем тут Адамович? И вообще, это фильм об Адамовиче или о Мележе?» Эта реплика многое разъяснила. Конечно, критик и литературовед, преподававший в Московском университете и изгнанный оттуда за отказ подписать «коллективку», осуждающую Синявского и Даниеля, писатель, не пользовавшийся симпатией партийного руководства Беларуси, Алесь Адамович не должен был присутствовать в фильме о лауреате Ленинской премии.

Согласно существовавшей процедуре, если автор и в третий раз предоставлял неудовлетворительный сценарий, с ним расторгался договор. И поскольку Адамович остался в моем сценарии, договор, естественно, был расторгнут. Но полученный аванс (25 процентов предусмотренного договором гонорара) не возвращался, и это было определенным утешением для авторов отвергнутых сценариев.

Не помню, чтобы я что-то рассказывал об этом Ивану Павловичу. Не говорил ни специально, ни во время каких-то случайных встреч, ни спустя несколько лет в Коктебеле, где, кстати, вечерами он прогуливался по набережной вместе с Адамовичем, а я раз или два сопровождал их во время этих прогулок. Да, странно выглядит, но вот действительно не помнится, чтобы я обсуждал с Мележем причины, по которым был отвергнут сценарий. Впрочем, окончательно за память не ручаюсь…

А потом до меня дошло, что фильм о Мележе все-таки был снят. Правда, после его смерти. Сценарий поручили кому-то из белорусских писателей. Кажется, Рыгору Бородулину. Я даже видел этот фильм по телевидению. Адамовича там не было.

Но вот что врезалось в память навсегда. Последняя встреча с Мележем. Лето 1975 или 1976 г. Я выскочил из кинотеатра «Победа» под сильнейшим впечатлением от фильма Тарковского «Зеркало». Хотелось с кем-то поделиться, неистово хотелось говорить. На углу Комсомольской и проспекта, у книжного магазина, встречаю Ивана Павловича и начинаю излагать ему свои впечатления. Иван Павлович слушает, но только спустя какое-то время я замечаю, какое у него нездоровое и отрешенное лицо. Он слушает, кивает головой, но мыслями где-то далеко. Я не знал, что он был смертельно болен и, может быть, догадывался о своей болезни. Мележ умер на пятьдесят шестом году…

Когда я изредка беру в руки снимки той давней нашей встречи на даче под Минском, где ему 51, а мне 31 год, думаю о том, что не сумел расспросить Ивана Павловича о чем-то важном, существенном не только для него, но и для меня.

*Семен БУКЧИН*

# РОД ЯКОВА КРУГЕРА

Яков Кругер родился 14 мая 1869 г. в Минске в многодетной семье бедного ремесленника Мордуха Хаимовича Кругера и его жены Роды. Кроме него, в семье было еще пять сыновей.

Любовь к рисованию появилась у мальчика с малых лет, но у родителей не было возможности учить сына. Жили очень бедно. Мальчика отдали работать в богатый дом «мальчиком на побегушках». Каждую свободную минуту Яков рисовал. Ему повезло с хозяевами: оценив художественные способности мальчика, они определили его учиться в ремесленное училище,

В четырнадцать лет он сделал очень удачный портрет писателя Тургенева. Работу увидел директор Минской гимназии и, обратив внимание на талантливого мальчика, добился отправки его на средства благотворительного фонда в Киевскую художественную школу Н. И. Мурашко.

В школе Яков Кругер проявил себя способным учеником, неоднократно получал награды и премии за прекрасные работы. Одновременно он посещал общеобразовательные курсы.

В 1886 г. Кругер с отличием окончил художественную школу и поехал в Петербург, поступать в Академию художеств. Однако чиновники, руководившие Академией художеств, не разрешили принять еврея Кругера в академию, сославшись на отсутствие у него права на жительство в Петербурге. Он был вынужден вернуться в Минск.

Спустя некоторое время Яков Кругер уехал в Варшаву, где работал под руководством профессора Л. Горовица. В 1888 г. молодой художник перебрался в Париж, чтобы учиться живописи в академии Жюльена. Занимался он по классу Бенжамена Констана.

Яков много работал, писал картины и путешествовал по европейским странам, изучая произведения великих мастеров искусства прошлого. Побывал в Лондоне, Берлине, Брюсселе. Неоднократно демонстрировал свои полотна на Парижских выставках.

В Россию Яков Кругер вернулся в 1895 г. уже сложившимся художником. Но ему казалось недостаточным полученное образование. Молодой живописец снова пытается поступить в Петербургскую Академию художеств.

По рассказам самого Якова, в Академию он был принят при активном содействии Ильи Репина: «Я познакомился со знаменитым русским художником Репиным, и только благодаря его стараниям был принят в Академию художеств», — писал художник в одной из газет в связи с открытием его персональной выставки.

Учился он по классу Владимира Маковского. В 1900 г. учеба в академии была закончена. Дипломная работа — картина «На суд профессора» — была выполнена в жанре бытовой живописи тех лет и получила высокую оценку. Репродукция картины была напечатана в журнале «Нива» за 1901 г.

На полотне старый, убеленный сединами профессор внимательно слушает игру мальчика-скрипача. Рядом сидят родители мальчика и с трепетом ждут решающего слова профессора. В картине тонко показаны переживания родителей и поглощенность в музыку самого маленького музыканта. Позднее эту картину приобрел Художественный музей города Пензы.

Получив звание художника, Кругер сразу вернулся в родной Минск, где прожил до конца своих дней. Много лет спустя в одном из интервью он сказал: «Я художник Минска».

Яков Маркович хорошо помнил, как тяжело было ему получить художественное образование, и поставил перед собой цель — открыть в Минске рисовальную школу.

Начиная с 1904 г. он вел деятельную переписку с Петербургской Академией художеств об открытии в Минске курсов рисования. Разрешение было получено только в 1906 г. Был утвержден академией и устав школы, составленный Кругером. Первыми учениками стали учителя рисования и талантливая молодежь, часть которой пришла из деревни. Часть учеников, не менее 6 человек, обучались бесплатно.

Школа разместилась в трех комнатах двухэтажного каменного дома. Была хорошо обставлена и освещена. «В лице художника Кругера школа имеет опытного и преданного делу руководителя», — такое заключение дала комиссия городской думы в 1911 г.

Педагогической деятельности Кругер отдал много сил. Он преподавал в различных учебных заведениях до последних дней жизни, стараясь передать ученикам все то разнообразие техники живописи, которым владел сам. Многие из учеников Якова Мордуховича стали известными художниками. Среди них следует назвать Г. Фиментовского, В. Руцая, И. Ахремчика, И. Мильчина, скульптора З. Азгура… Учился живописи у Якова Кругера и большой поклонник искусства академик Я. Френкель.

Еще в 1890-х гг. определился круг творческих интересов живописца. Помимо бытовой жанровой живописи он с увлечением работал над портретами. В эти годы им был создан ряд портретов представителей интеллигенции Минска, автопортреты, портреты детей. К лучшим работам можно отнести портрет минского скрипача Жуховицкого (1887), близкого друга и почитателя художника. С большой симпатией создал он облик этого общительного и добродушного человека. В том же эмоциональном ключе спокойного повествования выполнены «Автопортрет», «Мужской портрет», «Девочка в красном»…

В Минске Яков Мордухович объединил художников в товарищество, целью которого было помогать начинающим художникам и оказывать особо нуждающимся материальную помощь. После революции 1905 г. наступили годы реакции, которые наложили отпечаток на его творчество.

Вспоминая о том времени, Яков Мордухович писал: «Как художник я работал в те мрачные годы неплодотворно: угнетала обстановка полицейского произвола».

Попытки работать над темами глубокого, политического содержания терпели неудачу. Так, например, написанная им картина «Погром» (1906), отразившая жуткую действительность того времени, была уничтожена жандармами. В эти годы Яков Кругер создает бытовые жанровые полотна из жизни простого народа. Эту жизнь он повседневно наблюдал и хорошо знал. Об этих картинах сохранились лишь отклики прессы.

Во время Первой мировой войны семья Кругеров была вынуждена уехать из Минска. Они переезжают в Казань, где остаются на многие годы. Там глава семьи занимался в основном преподавательской работой.

В 1921 г. живописец возвращается в Минск и активно включается в художественную жизнь новой Беларуси. Он пишет портреты и делает зарисовки по заданиям музеев и газет. По направлению редакции газеты «Октябрь» едет в сельхозкоммуну «Новая жизнь», где создает целый цикл работ из жизни трудящихся. В 1927 г. Яков Мордухович пишет картину «Школа беспризорных», беря за основу подлинный материал из жизни беспризорных Семково-Городка. Доброжелательность наблюдательного художника и его талант придают этой картине ценность исторического документа.

В 1930-х гг. художник увлекся техникой пастели. В этой технике выполнены картины «Портрет жены», «Портрет дочери», «Портрет внучки» и многие другие. К сожалению, из них сохранился только «Портрет внучки», который впервые воспроизводится

в этом альманахе. Кругер написал целый ряд портретов писателей, ученых, политических и общественных деятелей: Якуба Коласа, Янки Купалы, Максима Горького, Соломона Михоэлса и других.

Хочу особо отметить портреты Якуба Коласа и Янки Купалы. Они написаны с натуры. Янка Купала изображен около окна, встречающим зарю. Когда картина уже была написана, Якову Марковичу рассказали, что кто-то из поклонников поэта, часто бывая у него, обычно оставлял на окне свежую розу. Это произвело на художника большое впечатление. Он решил дописать розу. Эти два портрета интересны не только их художественной ценностью, но и интересной судьбой.

Оба портрета были представлены на персональной художественной выставке, открытой в Минске в 1939 г., в честь 70-летия художника. На ней были собраны 63 картины из музеев и частных коллекций. В этом же 1939 г. за «плодотворную работу в области живописи, за активную педагогическую деятельность и воспитание кадров художников, за активное участие в общественной жизни страны» Якову Кругеру было присвоено звание заслуженного деятеля искусств БССР.

В 1940 г. художник умер, жена переехала к детям. Жила сначала у дочери в Москве и вместе с ней во время Великой Отечественной войны была в эвакуации в городе Уфе. После окончания войны переехала к сыну в Ленинград, там и умерла.

Когда началась война, Минск был захвачен гитлеровцами, и вывезти картины с персональной выставки Якова Кругера не успели — и они попала в руки гитлеровцев. Судьба их неизвестна. Но два портрета все же вернулись на родину.

Рассказывают, что один солдат-белорус случайно нашел в одном из подвалов небольшого немецкого городка сверток полотен, а когда развернул его, узнал знакомые лица любимых поэтов Янки Купалы и Якуба Коласа. Он положил портреты в свой вещевой мешок. После окончания войны солдат вернулся в Минск и отдал картины в музей. Портреты были сильно попорчены, но реставраторы восстановили их. Сейчас эти портреты выставлены в Литературном музее Янки Купалы. В других музеях Минска экспонируется всего около 15 сохранившихся работ художника.

У Якова Мордуховича и его жены Фрумы-Златы Лейзеровны было двое детей — Марк и Софья.

Марк Яковлевич родился в 1905 г. Жил в Ленинграде. В 1934 г. закончил Ленинградский институт точной механики и оптики. Работал начальником ОКБ и заместителем главного конструктора завода «Прогресс», а после создания ЛОМО работал там начальником СКБ 17–17. Был одним из ведущих конструкторов оптических прицелов. Написал несколько книг-учебников по этой теме. Преподавал. Награжден орденами Красной Звезды, «Знак Почета», Трудового Красного Знамени и другими. В свободное время Марк Яковлевич писал картины. Из жизни ушел в 1978 г., оставив двоих детей — Якова и Людмилу.

Яков Маркович (1933–1978), внук художника, пошел по стопам отца. В 1957 г. окончил с отличием тот же Институт точной механики и оптики. Работал в ЛОМО и Пулковской обсерватории. Был соавтором некоторых книг отца. Тоже рисовал и, к сожалению, тоже рано ушел из жизни. Сын его, Александр, с матерью уехал в Америку, где и живет теперь.

Людмила Марковна (р. в 1939 г.) окончила физико-математический факультет Ленинградского государственного педагогического института им. А. И. Герцена. Живет в Санкт-Петербурге. Преподавала математику в Ленинградском физико-математическом колледже. Почетный работник среднего специального образования России. В настоящее время — на заслуженном отдыхе.

Дочь художника — Софья Яковлевна (1902–1950) жила в Москве. Работала машинисткой. Во время Великой Отечественной войны с матерью и дочкой Мариной (это

